Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



**10** (68)

Кастрычнік.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы 70×108/16. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

АТ 04753. Здадзена ў набор 1.IX. 58 г. Падпісана да друку 3.X.58 г. Заказ 502.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.



# ПОМНІ, ДРУЖА ЛЮБІМЫ

Прысвячаецца гераічнай савецкай моладзі

**Словы М. ШУШКЕВІЧА** **Музыка Ю. СЕМЯНЯКІ**

**(Песня для дуэту з ф-на)**

Помні, дружа любімы,
Дзе б з табой ні былі мы,
Нашы сінія далі,
Нашы нівы, сады,
Нашы шумныя вёсны,
Сцежкі раніцай роснай,
Па якіх мы ступалі
У наш век малады.

Ні вятры, ні завеі
Жар душы не развеюць.
Нашы светлыя мары
Мы ў жыцці пранясём.
Камсамольская слава
Нам належыць па праву,
Будзь заўсёды, таварыш,
З маладым аганьком.

Свет будуючы новы,
Мы на подзвіг гатовы,
Мы ў хадзе не прыстанем
І на працы любой.
Помні, дружа любімы,
Калі скажа Радзіма —
На любое заданне
Мы гатовы з табой. } 2 разы.

Ноты да песні „Помні, дружа любімы“...

Мерна

# Год да ста расці вам без старасці!

## Заўсёды наперад

Ленінскаму Камуністычнаму Саюзу Моладзі ў дзень слаўнага юбілею пасылаю свае сардэчныя шчырыя віншаванні. Я бясконца рады бачыць ажыццяўленне ў нашы дні лепшых спадзяванняў і імкненняў моладзі першай чвэрткі дваццатага стагоддзя, да якой належаў я. Мне, як работніку навукі, прыемна бачыць імкненне нашай моладзі да ўсяго новага, да навукі, да работы над пакуль яшчэ не вырашанымі навуковымі праблемамі і тэхнічнымі задачамі. Імкненне ўперад — гэта вельмі высокая якасць. Яно вельмі каштоўнае, калі спалучаецца са стойкасцю, здольнасцю да спакойнага аналізу, заснаванага на ведах і вопыце. Вам — будучым даследчыкам, рабочым, інжынерам, тэхнікам, работнікам літаратуры і мастацтва належыць будучыня. Каштоўнасць укладу, унесенага кожным з вас, будзе аднолькава вялікая і значная, незалежна ад галіны вашай карыснай дзейнасці. Праца даследчыка, шахцёра, інжынера, радавога калгасніка, мастака або рабочага-будаўніка павінна быць аднолькава жаданай для кожнага з нас.

Жадаю вам, дарагія сябры, шчаслівага творчага шляху да светлай будучыні — камунізма.

**В. КУПРЭВІЧ,**
**прэзідэнт Акадэміі навук БССР.**

## Быць будаўнікамі камунізма!

Камсамол заўсёды быў для мяне ўвасабленнем магутнай сілы і маладой энергіі, накіраванай на здзяйсненне вялікіх спраў нашага народа. Энергія наогул уласціва маладосці, але толькі ў нашым сацыялістычным грамадстве маладая энергія, узброеная ведамі, натхнёная вялікімі ідэямі марксізма-ленінізма, знаходзіць разумнае накіраванне і становіцца магутнай сілай, якая сапраўды здольна горы перавярнуць.

Узгадаваны Камуністычнай партыяй, Ленінскі камсамол з'яўляецца перадавым атрадам савецкай моладзі, выдатнай школай яе камуністычнага выхавання. На долю савецкай моладзі выпала вялікае шчасце і гонар — быць будаўнікамі камунізма, таго самага справядлівага і дасканалага грамадскага ладу, аб якім на працягу стагоддзяў марылі

лепшыя прадстаўнікі чалавецтва. Ніколі яшчэ перад моладдзю не паўставала такая грандыёзная, такая высакародная, такая рамантычная мэта. Глыбокае веданне законаў, па якіх рухаецца наперад чалавечае грамадства, сотні мільёнаў працоўных рук, непахісная воля і гатоўнасць да пераадолення ўсіх цяжкасцей і нягод патрэбны для дасягнення гэтай мэты. Савецкая моладзь на чале з Ленінскім камсамолам даказала, што яна варта гэтай велічнай мэты. З імем Камсамола звязана шмат вялікіх спраў нашага народа, пачынаючы з франтоў грамадзянскай вайны і канчаючы асваеннем цаліны. Шматлікія геранчныя подзвігі маладых савецкіх патрыётаў упісаны залатымі літарамі ў летапіс змагання нашага народа за пабудову камунізма, за абарону свабоды і незалежнасці нашай краіны.

Сягоння, калі ўся наша краіна адзначае слаўны саракагадовы юбілей Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі, я з радасцю за нашу савецкую моладзь, за яе шчаслівую долю шлю гарачае павіншаванне дарагому юбіляру. Жадаю яму і надалей так жа моцна трымаць у маладых дужых руках вялікі сцяг Леніна, які вядзе нас да Камунізма.

**Кандрат КРАПІВА,**
**народны пісьменнік БССР.**

## Маладыя сябры, камсамолія!

Рад павіншаваць вас са слаўным юбілеем! Ганаруся магчымасцю перадаць свае найлепшыя пажаданні многім тысячам маладых ленінцаў, якія плячо у плячо з людзьмі старэйшага пакалення самааддана будуюць камуністычную будучыню. Шчасце савецкага чалавека — у неабмежаваных магчымасцях творчай працы. Камсамольцы могуць і абавязаны выкарыстаць права на бессмяротны подзвіг: стварыць шчаслівае жыццё будучым пакаленням.

Абставіны дазваляюць мне азірнуцца і на свае сорак апошніх год. Я шчаслівы пражытым: усе сорак год прайшлі ў імкненні зрабіць кожны дзень як мага лепшым. І я не помню дня, калі б разам з намі, можна сказаць старымі, не было моладзі. У мінулым я вайсковы чалавек, зараз — працаўнік сельскай гаспадаркі. І ў ваенным страі і ў страі грамадзянскім я ведаў многіх юнакоў і дзяўчат, якія падавалі самыя лепшыя прыклады таго, як трэба жыць.

Вось і цяпер, калі наш калгас набраўся моцы і развіваецца ўжо не з году ў год, а з дня ў дзень, наша моладзь паказвае сябе на ўсіх участках работы. Юбілей ВЛКСМ яна сустракае з гонарам. Разам з усім калектывам нашай арцелі маладыя калгаснікі, і перш за ўсё камсамольцы, дамагаюцца таго, каб да канца года, да слаўнай даты саракагоддзя нашай рэспублікі, прысці з яшчэ большымі поспехамі, каб на кожныя 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў у калгасе было: па 25 дойных кароў, 550—600 цэнтнераў малака, 105 цэнтнераў мяса. Каб гадавы грашовы прыбытак калгаса складаў 17—18 мільёнаў рублёў, а непадзельны фонд узрос бы да 30 мільёнаў рублёў.

Мы хочам вызваліць калгаснікаў ад многіх клопатаў. Па прыкладу гарадоў мы будуем вялікую сталовую, увялі штодзённую выдачу калгаснікам малака, па 3 літры на працадзень бясплатна, і праводзім рад іншых мерапрыемстваў.

Вось якімі канкрэтнымі справамі занята сёння камсамолія калгаса «Рассвет». Удзячная яе праца, якая з'яўляецца часткай агульных магутных спраў пакалення маладых ленінцаў.

Камсамолец, які закасаў рукавы і не баіцца ніякой працы, — вось узор для ўсёй моладзі. Будуць праходзіць гады, наступяць новыя юбілеі, а ў памяці людзей назаўсёды захаваюцца светлыя справы, што зрабілі камсамольцы ў нашу эпоху.

Жадаю камсамоліі бязмежных поспехаў.

**К. П. АРЛОЎСКІ,**
**старшыня калгаса «Рассвет»**
**Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці,**
**Герой Савецкага Саюза**
**і Герой Сацыялістычнай Працы.**



## Дарагім сябрам

Слаўная саракавая гадавіна Ленінскага камсамола — гэта перш за ўсё сонечнае свята юнацтва, свята маладосці нашай краіны. Але і мы, прадстаўнікі старэйшага пакалення, людзі, якія ўжо даўно выйшлі з камсамольскага ўзросту, з вялікай радасцю адзначаем юбілей камсамола. І гэта зразумела: лёс кожнага з нас непарыўна звязаны з камсамолам. Ён нас вучыў і выхоўваў, песціў і гартаваў. Ён памагаў нам знаходзіць сваю сцежку ў жыцці. Мне, як старому будаўніку, асабліва прыемна віншаваць у гэтыя святочныя дні маіх юных сяброў-камсамольцаў, бо кожны камсамолец — гэта будаўнік: малады будаўнік камунізма.

Жадаю вам вялікіх працоўных перамог і вялікага шчасця ў жыцці, таварышы камсамольцы. Хай заўсёды маладымі будуць вашы сэрцы, хай заўсёды нястомнымі будуць вашы рукі!

**Д. Г. БУЛАХАЎ,**
**Герой Сацыялістычнай Працы,**
**брыгадзір каменшчыкаў УНР-11**
**будаўнічага трэста № 4 у Мінску.**

**Тамара ДЗМІТРЫЕВА,**
**сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# ДАРОГАЙ БАРАЦЬБЫ, НАТХНЁНАЙ ПРАЦЫ І ВУЧОБЫ

За сорак гадоў свайго існавання Камсамол прайшоў вялікі і слаўны шлях, вырасціў і выхаваў мільёны маладых савецкіх патрыётаў, актыўных будаўнікоў камунізма. Ён загартаваўся і вырас у магутную многамільённую армію, якая з'яўляецца верным памочнікам, надзейным рэзервам Камуністычнай партыі.

Яшчэ ў першы перыяд сваёй дзейнасці партыя бальшавікоў ставіла пытанне аб рабоце сярод рабочай і сялянскай моладзі. Уладзімір Ільіч Ленін заклікаў бальшавікоў смялей уцягваць моладзь у рэвалюцыйную барацьбу, выхоўваць з яе новыя кадры рэвалюцыянераў.

«Мы партыя будучага, — пісаў ён, — а будучае належыць моладзі. — Мы партыя наватараў, а за наватарамі заўсёды ахвотна ідзе моладзь. Мы партыя самаадданай барацьбы са старым гнілллём, а на самаадданую барацьбу заўсёды першай пойдзе моладзь».

Рэвалюцыйныя ідэі знаходзілі гарачую падтрымку ў асяроддзі моладзі, якая пакутавала ад цяжкай эксплуатацыі. Чатыры пятых ад усіх дзяцей і падросткаў не мелі магчымасці вучыцца. На іх долю прыпадала знясільная праца на фабрыцы капіталіста або на полі пана ці кулака. Разам з бацькамі і старэйшымі братамі моладзь змагалася супраць царызма ў гады першай рускай рэвалюцыі, у лютаўскія дні 1917 года і ў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Першыя рэвалюцыйныя маладзёжныя арганізацыі з'явіліся ў Расіі яшчэ да Кастрычніка. Імі кіравалі бальшавікі. Партыя бальшавікоў накіравала для работы сярод моладзі сваіх лепшых сыноў. Стварэннем рэвалюцыйных маладзёжных арганізацый непасрэдна займаліся такія відныя партыйныя дзеячы, як Н. К. Крупская, Я. М. Свярдлоў, А. І. Мікаян, А. Ф. Мяснікоў і другія. Бальшавікі згуртоўвалі і накіроўвалі моладзь на барацьбу з контррэвалюцыйнымі маладзёжнымі арганізацыямі, якія спрабавала стварыць імперыялістычная буржуазія, а таксама белагвардзейцы розных масцей.

Камуністычная партыя дапамагла рэвалюцыйным маладзёжным арганізацыям знайсці правільны шлях: павесці за сабой працоўную моладзь, ізаляваць апартуністычныя і буржуазныя арганізацыі.



Пасля Кастрычніка маладзёжны рух у нашай краіне ўступіў у новую стадыю свайго развіцця. Палітычная актыўнасць моладзі горада і вёскі расла. Павялічвалася колькасць саюзаў моладзі. Яны з'явіліся ў вёсцы, на ўскраінах Расіі. Узнікала неабходнасць арганізацыйнага аб'яднання сацыялістычных саюзаў моладзі ва ўсерасійскім маштабе. Гэтую задачу выканала Камуністычная партыя.

Летам 1918 года ЦК РКП(б) стварыў аргбюро па скліканню з'езда саюзаў рабочай і сельскай моладзі. 29 кастрычніка 1918 года ў Маскве адкрыўся І Усерасійскі з'езд саюзаў моладзі, на ім прысутнічала 176 дэлегатаў. З'езд прыняў рашэнне аб аб'яднанні сацыялістычных саюзаў рабочай і сельскай моладзі ў Расійскі Камуністычны Саюз Моладзі і зацвердзіў асноўныя палажэнні праграмы і статута.

Так быў створаны Камсамол — масавая арганізацыя савецкай моладзі, верны памочнік і рэзерв Камуністычнай партыі.

У Беларусі першая арганізацыя камсамола была створана ў Віцебску. Яшчэ ў пачатку 1918 года бальшавікі арганізавалі для рабочай моладзі горада камуністычны культурна-асветны гурток. Спачатку ён налічваў толькі 10 членаў. Але гурток разгарнуў вялікую работу па ідэйнаму выхаванню працоўнай моладзі. Члены гуртка праводзілі гутаркі, арганізоўвалі сходы, мітынгі, выкрывалі здрадніцтва меньшавікоў і бундаўцаў. Неўзабаве гурток быў перайменаваны ў Камуністычны Саюз Моладзі. Першыя віцебскія камсамольцы адкрылі ў горадзе клуб, дзе чыталі лекцыі, праводзілі вечары, стварылі разнастайныя гурткі.

У кастрычніку — снежні 1918 года камсамольскія арганізацыі былі створаны ў Мінску, Магілёве, Бабруйску, Мазыры і яшчэ шмат у якіх гарадах Беларусі.

Школу камуністычнага выхавання і бальшавіцкай загартоўкі першыя беларускія камсамольцы праходзілі ў барацьбе з нямецкімі акупантамі, якія захапілі да таго часу значную частку тэрыторыі нашай рэспублікі. У Мінскай, Магілёўскай, Віленскай губернях у 1918 годзе дзейнічалі дзесяткі партызанскіх атрадаў, у якіх было нямала моладзі. Толькі ў двух партызанскіх атрадах, якія арганізавалі пад Мінскам два маладыя чыгуначнікі — Бортнік і Лішай, ваявала супраць акупантаў каля 500 чалавек.

Партызаны нападалі на эшалоны, разбіралі шляхі, раззбройвалі нямецкія атрады, вялі прапагандысцкую работу сярод насельніцтва.

Пасля выгнання нямецкіх захопнікаў члены камсамольскіх ячэек пайшлі на работу ў камбеды, дапамагалі харчатрадам нарыхтоўваць хлеб, змагаліся з кулацтвам і спекуляцыяй, са зброяй у руках выступалі супраць бандыцкіх і анархісцкіх груп.

Лепшых прадстаўнікоў камсамольцы і моладзь пасылалі ў рады Чырвонай Арміі. Маладыя беларусы разам з моладдзю іншых рэспублік на франтах грамадзянскай вайны абаранялі савецкую ўладу ад белагвардзейцаў і іншаземных інтэрвентаў. Імёны многіх з іх сталі вядомы ўсяму савецкаму народу. Выдатным камандзірам, героем грамадзянскай вайны быў ураджэнец Віцебскай губерні Уладзімір Азін. Імя Азіна носіць цяпер адзін з раёнаў і вуліца горада Іжэўска, МТС і трыццаць калгасаў Удмуртыі.

Першы Усебеларускі з'езд камсамола, які адбыўся 25—27 верасня 1920 года, завяршыў арганізацыйнае афармленне камсамола Беларусі, створанага Камуністычнай партыяй у агні грамадзянскай вайны.

...Закончылася грамадзянская вайна. Інтэрвенты і ўнутраная контррэвалюцыя былі разгромлены. Маладая краіна Саветаў прыступіла да аднаўлення разбуранай у часе вайны народнай гаспадаркі.

Гэта быў суровы, цяжкі час. У руінах ляжалі многія фабрыкі і заводы. Не дыміліся домны. Затопленыя шахты бяздзейнічалі. Прадукцыя прамысловасці за час вайны скарацілася ў сем разоў. У два разы менш прадукцыі давала сельская гаспадарка.

Цяпер перад камсамолам, як і перад усёй краінай, асноўным становіцца гаспадарчы фронт. Адбываецца III з'езд Камсамола. На ім з прамовай выступае вялікі Ленін. У гістарычнай прамове У. І. Ленін гранічна чотка вызначыў задачы камсамола, указаў, што толькі ў працы разам з рабочымі і сялянамі можна выхаваць актыўных будаўнікоў камуністычнага грамадства. Прамова У. І. Леніна з'явілася баявой праграмай дзейнасці камсамола.

Выконваючы ўказанні У. І. Леніна, ва ўсіх кутках нашай краіны савецкая моладзь актыўна ўключылася ў барацьбу за аднаўленне народнай гаспадаркі. З юнацкім запалам пайшлі камсамольцы ў цэхі мёртвых заводаў і фабрык, каб удыхнуць у іх жыццё.

Не пакладаючы рук, працуе ў гэтыя дні беларуская моладзь. Вясной 1921 года беларускія камсамольцы збіраюцца на свой другі з'езд. З'езд заклікае моладзь рэспублікі да актыўнага ўдзелу ў аднаўленні прамысловасці і транспарту. На прадпрыемствах рэспублікі ствараюцца ўдарныя групы камсамольскіх ячэек для барацьбы за павышэнне прадукцыйнасці працы. Праводзяцца суботнікі, у якіх камсамольцы прымаюць самы актыўны ўдзел.

Прыкметна вырастае ўплыў камсамола на сельскую моладзь. З 1924 па 1926 год у вёсках рэспублікі было створана 619 сельскіх камсамольскіх ячэек. У камсамол уступіла 16 тысяч вясковых хлопцаў і дзяўчат. У 1926 годзе трэць старшынь і сакратароў сельсаветаў з'яўлялася камсамольцамі. Гэта быў адказ беларускага камсамола на ўказанне партыі аб пашырэнні сувязей з сельскай моладдзю і ўмацаванні органаў савецкай улады на вёсцы.

Партыя даверыла камсамолу кіраўніцтва дзіцячым рухам. У 1923—1924 гадах камсамольцы Беларусі арганізоўваюць першыя піянерскія атрады. Спачатку яны паяўляюцца ў Мінску і вельмі хутка заваёўваюць прызнанне дзяцей. У маі 1924 года ў Мінску было 243 піянеры. А ў 1926 годзе колькасць піянераў у рэспубліцы дасягае 53 тысячы.

У снежні 1925 года ў Маскве адбыўся XIV з'езд партыі. Ён выпрацаваў курс на індустрыялізацыю краіны. Праз тры месяцы сёмы з'езд ВЛКСМ прыняў да няўхільнага выканання рашэнні XIV з'езда партыі і запатрабаваў ад кожнага камсамольца стаць актыўным будаўніком сацыялізма.

У нашай рэспубліцы, як і ва ўсёй краіне, індустрыялізацыя вялася высокімі тэмпамі. Ужо ў 1930 годзе ў нас працавала 509 прадпрыемстваў. За тры—чатыры гады былі пабудаваны Аршанскі ільнокамбінат, Магілёўская фабрыка штучнага валакна, пачалося будаўніцтва Гомельскага завода сельскагаспадарчага машынабудавання, БелДРЭСа, Віцебскай фабрыкі «КІМ» і многіх іншых прадпрыемстваў. Камсамольцы актыўна ўдзельнічалі ў будаўнічых работах.

Партыя вырашала складаную задачу падрыхтоўкі вопытных кадраў для прамысловасці. Камсамольскія арганізацыі ўзялі пад кантроль фабрычна-заводскія вучылішчы. Тысячы юнакоў і дзяўчат былі пасланы па пуцёўках камсамола ў гэтыя вучылішчы. На важнейшых новабудоўлях рэспублікі — БелДРЭСе, Гомсельмашы, фабрыцы «КІМ», шклозаводзе імя Сталіна, шаўковай фабрыцы большая палова рабочых была камсамольскага ўзросту, каля паловы з іх з'яўляліся камсамольцамі. За тры гады, пачынаючы з 1926 года, для прамысловасці рэспублікі з ліку камсамольцаў і моладзі было падрыхтавана 25 тысяч рабочых.

Ажыццяўленне грандыёзных планаў першай пяцігодкі запатрабавала ад камсамола праяўлення высокай арганізаванасці, ініцыятывы і смеласці. Дзесяткі тысяч камсамольцаў паехалі на Урал, у Сібір, на Далёкі Усход, каб там сваімі рукамі будаваць шахты і заводы, гарады і чыгункі. На ўсіх буйнейшых новабудоўлях першай пяцігодкі разам з рускімі, украінцамі і прадстаўнікамі іншых народаў СССР працавалі маладыя беларусы. Яны паказвалі прыклады самаадданай працы. На іх раўнялася астатняя моладзь. Тры чвэрці рабочых-камсамольцаў сарака чатырох прадпрыемстваў рэспублікі былі ў 1931 годзе ўдарнікамі.

І на вёсцы камсамол знаходзіўся ў перадавых радах барацьбітоў за сацыялізм. Кіруючыся рашэннямі XV з'езда партыі, восьмы з'езд ВЛКСМ запісаў у сваіх рашэннях, што кожная сельская ячэйка, кожны камсамолец павінны стаць застрэльшчыкамі калгаснага будаўніцтва.

Камсамол Беларусі прыняў актыўны ўдзел у калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Паход за калектывізацыю пачалі талачынскія камсамольцы. Сабраўшыся ў студзені 1929 года на першы раённы злёт камсамольскіх ячэек, яны прынялі зварот да ўсіх камсамольцаў рэспублікі.

«Кожная ячэйка — арганізатар калгаса, кожны камсамолец — калгаснік!» — гэты заклік зваротy стаў баявым лозунгам.

У гэтым жа годзе камсамольскімі ячэйкамі ў рэспубліцы быў створан 191 калгас. Члены ВЛКСМ уступалі ў калгас у ліку першых.

Калектывізацыя праходзіла ў абстаноўцы жорсткай барацьбы з кулацтвам. За вызваленне сялянства ад кулацкага прыгнёту не адзін камсамолец заплаціў сваім жыццём. У 1932 годзе кулакі забілі сакратара Тураўскага райкома камсамола Завалкова, які рашуча змагаўся за новае жыццё на вёсцы.

Але ні кулацкія абрэзы, ні іншыя цяжкасці сацыялістычнага пераўтварэння вёскі не маглі зламаць камсамольцаў, натхнёных партыяй на барацьбу за сацыялізм.

У працы і змаганні рос і мужнеў камсамол. За гады першых пяцігодак ён выхаваў многа наватараў вытворчасці, сапраўдных герояў працы. Напярэдадні вайны 66 камсамольцаў былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза, 466 — з'яўляліся ўдзельнікамі сельскагаспадарчай выстаўкі.

Напярэдадні Айчыннай вайны камсамол Беларусі налічваў у сваіх радах 260 тысяч членаў. Яны вялі за сабой моладзь на барацьбу за перамогу камунізма. Ленінскі камсамол дапамог Камуністычнай партыі выхаваць мільёны палымяных патрыётаў Радзімы, гатовых да самаадданай барацьбы за яе чэсць, свабоду і незалежнасць. І калі гітлераўцы напалі на нашу краіну, увесь камсамол, уся савецкая моладзь па першаму закліку партыі ўзнялася на абарону Радзімы. На франтах і ў партызанскіх атрадах мільёны камсамольцаў самааддана змагаліся з ворагам. Сем тысяч Герояў Савецкага Саюза даў Радзіме камсамол за гады Вялікай Айчыннай вайны. Імёны камсамольцаў Аляксандра Матросава, Зоі Касмадзем'янскай, Алега Кашавога і многіх другіх маладых патрыётаў сталі сімвалам чэсці, доблесці і геройства.

У першай шарэнзе барацьбітоў з фашызмам ішоў і камсамол Беларусі. Ужо ў першыя дні вайны ЦК ЛКСМ Беларусі прыняў пастанову, у якой гаварылася: «Лічыць камсамол Беларусі мабілізаваным на Айчынную вайну супраць банды фашысцкіх гітлераўскіх варвараў...»

Баявымі справамі адгукнулася моладзь на гэтую пастанову. У рады Чырвонай Арміі ўступілі дзесяткі тысяч камсамольцаў і моладзі. Беларускія камсамольцы паказвалі на франтах узоры доблесці і геройства. Хто не ведае імён снайпера Феадосія Смалячкова, пехацінца Пятра Купрыянава, якія аддалі сваё маладое жыццё за чэсць і незалежнасць Радзімы.

З першых дзён вайны Кампартыя Беларусі разгарнула вялікую работу па пашырэнню партызанскага руху супраць фашысцкіх за-

хопнікаў. Камсамольцы і тут упісалі нямала яркіх старонак. Яны ішлі на самыя рызыкоўныя аперацыі, мужна выконвалі іх, вялі вялікую агітацыйную работу.

Сваімі гераічнымі справамі ўсёй Беларусі сталі вядомы партызанскія камсамольска-маладзёжныя брыгады імя Леніна, імя Ленінскага камсамола, «Буравеснік», імя Кірава, «Камсамолец», імя ВЛКСМ і 28 камсамольска-маладзёжных атрадаў, якія бязлітасна гramілі фашысцкіх захопнікаў. 53 780 камсамольцаў і камсамолак змагаліся супраць азвярэлага ворага ў партызанскіх атрадах. Дваццаці чатыром з іх прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Пад кіраўніцтвам партыі на акупіраванай тэрыторыі былі створаны і дзейнічалі падпольныя абкомы, гаркомы, райкомы камсамола. Падпольныя камсамольскія арганізацыі дзейнічалі ў кожным горадзе, у кожным раённым цэнтры Беларусі.

Гераічнымі справамі праявіла сябе падпольная камсамольская арганізацыя, якая дзейнічала на ст. Обаль Віцебскай вобласці. За мужнасць і гераізм, праяўленыя ў барацьбе супроць фашысцкіх захопнікаў у перыяд Вялікай Айчыннай вайны Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прысвоіў званне Героя Савецкага Саюза кіраўніку гэтай арганізацыі Е. С. Зяньковай. Члену арганізацыі З. М. Партновай званне Героя прысвоена пасмяротна. Пятнаццаць членаў арганізацыі ўзнагароджаны ордэнамі Савецкага Саюза.

Самаадданую барацьбу з ворагам вялі маладыя падпольшчыкі Жлобіна. Не праходзіла ночы, каб не грымелі выбухі ў акупіраваным горадзе. І не дзіўна. Тут дзейнічала 20 падпольных камсамольскіх арганізацый. Яны знішчылі 52 паравозы, узарвалі механічны цэх дэпо, электрастанцыю і многа іншых аб'ектаў.

Самаадданую барацьбу з фашыстамі вялі падпольныя маладзёжныя арганізацыі ў Мінску, Гомелі, Скідзелі і многіх іншых гарадах і мястэчках рэспублікі.

У баях з акупантамі камсамол Беларусі яшчэ больш вырас і ўзмужнеў. За мужнасць, самаадданасць і гераізм, праяўленыя камсамольцамі і моладдзю Беларусі ў радах Савецкай Арміі і партызанскіх атрадах у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

Вялікая Айчынная вайна закончылася сусветна-гістарычнай перамогай савецкага народа. Камуністычная партыя павяла савецкі народ на выкананне гігантскіх задач аднаўлення і развіцця народнай гаспадаркі краіны. І зноў, як і ў гады баёў, першым памочнікам партыі стаў камсамол.

У гады чацвёртай пяцігодкі камсамол выступіў ініцыятарам спаборніцтва за датэрміновае выкананне кожным маладым рабочым свайго пяцігадовага задання. Сто тысяч юнакоў і дзяўчат выканалі пяцігадовыя нормы ўжо да 1948 года. Больш двух мільёнаў маладых рабочых выканалі пяцігодку за чатыры гады.

Як і ў гады першых пяцігодак, камсамол шэфстваваў над буйнейшымі будоўлямі краіны. Тысячы пасланцоў камсамола аднаўлялі шахты Данбаса, Днепрагэс, завод «Запарожсталь», а таксама 15 старэйшых рускіх гарадоў, разбураных фашыстамі. На аднаўленні іх было адпрацавана 25 мільёнаў чалавека-гадзін.

Руінамі гарадоў і вёсак дымілася беларуская зямля пасля выгнання фашыстаў. Камсамольцы горача ўзяліся за аднаўленне. Толькі ў 1946 годзе каля 30 тысяч камсамольцаў пайшлі на будоўлі рэспублікі. Камсамол узяў шэфства над будаўніцтвам Мінскага аўтамабільнага і трактарнага заводаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што абодва гэтыя заводы былі ўзведзены рукамі моладзі.

Яшчэ шырэй разгарнулася спаборніцтва сярод моладзі ў гады пятай пяцігодкі. За датэрміновае выкананне спаборнічала 15 тысяч камсамольска-маладзёжных брыгад, змен і ўчасткаў. 10 тысяч



камсамольцаў за пяць год выканалі па дзве і больш пяцігадовых нормы.

Беларуская моладзь горача падтрымлівае ўсе мерапрыемствы партыі па крутому ўздыму сельскай гаспадаркі. Калі Камуністычная партыя звярнулася да моладзі з заклікам асвоіць цалінныя і залежныя землі, юнакі і дзяўчаты Беларусі, як і ўся савецкая моладзь, горача адгукнуліся на гэты заклік. У стэпы Казахстана і Алтая выехала звыш 20 тысяч маладых беларусаў.

Новую хвалю палітычнага і працоўнага ўздыму выклікалі ў моладзі рашэнні XX з'езда КПСС. Рашэнні з'езда дапамаглі камсамольскім арганізацыям рэспублікі яшчэ лепш пабудаваць работу па выхаванню моладзі. Камітэты камсамола бліжэй сталі да моладзі, пачалі рашуча змагацца супраць канцылярска-бюракратычных метадаў, удзяляючы больш увагі арганізатарскай і палітычнай рабоце.

Вялікай падзеяй у жыцці савецкай моладзі з'явіўся XIII з'езд ВЛКСМ. Камсамол прышоў да свайго з'езда яшчэ больш маналітным і згуртаваным вакол Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і яе Ленінскага Цэнтральнага Камітэта.

З'езд абавязаў камсамольскія арганізацыі прамысловасці, транспарту і будоўляў яшчэ глыбей унікаць у дзейнасць прадпрыемстваў, больш актыўна змагацца за павышэнне прадукцыйнасці працы, за вышукванне і выкарыстанне ўнутраных рэзерваў вытворчасці, лепш клапаціцца аб культурна-бытавых умовах маладых рабочых.

Камсамольскія арганізацыі калгасаў і саўгасаў, указаў з'езд, абавязаны яшчэ вышэй узняць сцяг сацыялістычнага спаборніцтва за павелічэнне вытворчасці зерня, бавоўны, ільну, цукровых буракоў, бульбы, гародніны і садавіны, за павышэнне ўраджайнасці ўсіх сельскагаспадарчых культур, за ўздым культуры земляробства, за тое, каб ў бліжэйшыя гады дагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці мяса, малака і масла на душу насельніцтва.

З'езд намеціў канкрэтныя шляхі палепшання работы камсамольскіх арганізацый школ і ВНУ.

На XIII з'ездзе ВЛКСМ з прамовай выступіў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў. Прывітанне з'езду ад ЦК КПСС, прамова М. С. Хрушчова, рэзалюцыя з'езда — гэта вялікая і натхняючая праграма дзейнасці камсамольскіх арганізацый, усіх юнакоў і дзяўчат.

Дзве вялікія даты — 40-годдзе ВЛКСМ і 40-годдзе БССР — моладзь рэспублікі сустракае новымі поспехамі. На прадпрыемствах, транспарце, будоўлях рэспублікі працуюць тысячы маладзёжных брыгад, змен і ўчасткаў. Камсамольскія арганізацыі падводзяць вынікі іх спаборніцтва за эканомію сыравіны, матэрыялаў і інструменту, за выпуск звышпланавай прадукцыі, уручаюць пераможцам пераходныя Чырвоныя Сцягі і вымпелы.

Маладыя рабочыя прамысловасці, транспарту і будоўляў рэспублікі ўнеслі ўжо ва Усесаюзную камсамольскую скарбонку звыш 300 мільёнаў рублёў.

Многа робяць у справе барацьбы за эканомію і беражлівасць маладыя рацыяналізатары і вынаходцы. Штогод праводзіцца рэспубліканскі злёт маладых рацыяналізатараў і вынаходцаў. Лепшыя з іх узнагароджваюцца Ганаровымі граматамі ЦК ВЛКСМ, ЦК ЛКСМБ, прэміруюцца каштоўнымі падарункамі.

Камсамол Беларусі ўзяў шэфства над ударнымі камсамольскімі будоўлямі — Полацкім нафтаперапрацоўчым заводам, Старобінскім калійным камбінатам і Бярозаўскай ДРЭС.

Следуючы ўказанням партыі, камсамольскія арганізацыі сталі глыбей уваходзіць у вытворчую дзейнасць калгасаў і саўгасаў.

Заклік партыі — у бліжэйшыя гады дагнаць ЗША па вытворчасці мяса, малака і масла на душу насельніцтва — сустрэў гарачую

падтрымку сярод моладзі нашай рэспублікі. За параўнаўча невялікі тэрмін колькасць камсамольцаў, якія працуюць у жывёлагадоўлі, павялічылася амаль у 4 разы. Цяпер на жывёлагадоўчых фермах працуе каля 30 тысяч камсамольцаў і звыш 15 тысяч моладзі. У 1958—1959 гадах вырашана накіраваць на працу ў жывёлагадоўлю яшчэ 15—20 тысяч юнакоў і дзяўчат.

Для пераможцаў у спаборніцтве раённых і пярвічных камсамольскіх арганізацый ЦК ЛКСМ Беларусі і Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР устанавілі пераходныя Чырвоныя Сцягі. ЦК ЛКСМБ устанавіў нагрудны значок «Лепшаму маладому жывёлаводу». Сталі традыцыйнымі раённыя і абласныя злёты, а ў калгасах і саўгасах — вечары маладых жывёлаводаў.

У рэспубліцы вырасла нямала маладых перадавікоў сельскай гаспадаркі. Многія з іх узнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза, а камсамолкі Аляксандра Сакун і Марыя Занеўская ўдастоены высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы.

Камсамольскія арганізацыі рэспублікі актыўна ўключыліся ў спаборніцтва за высокія ўраджаі кукурузы. Выступаючы на рэспубліканскай нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі Беларусі, М. С. Хрушчоў сказаў: «У вырошчванні кукурузы вялікі ўклад можа ўнесці камсамол, наша моладзь. Трэба мабілізаваць сілы камсамола і моладзі на вывучэнне перадавога вопыту вырошчвання кукурузы, арганізаваць маладзёжныя звенні. Камсамол у гэтай справе многае робіць. Але ён можа зрабіць яшчэ больш». Гэтыя словы былі прыняты моладдзю нашай рэспублікі як баявая праграма да дзеяння.

У гэтым годзе ў вырошчванні кукурузы на калгасных палях спаборнічалі 17 тысяч маладых калгаснікаў.

Павышэнню актыўнасці камсамольцаў у гаспадарчых справах садзейнічала значнае ажыўленне палітыка-выхаваўчай работы сярод моладзі. Паявілася шмат новых цікавых форм і метадаў.

Вялікай папулярнасцю ў нашай рэспубліцы карыстаецца маладзёжная «эстафета культуры», у час яе правядзення камсамольцы і моладзь упарадкоўваюць клубы, закладаюць новыя паркі, скверы, наладжваюць канцэрты мастацкай самадзейнасці.

Зроблена, безумоўна, многа. Але ж далёка не ўсё. У рабоце камсамольскіх арганізацый яшчэ шмат недахопаў. Жывая арганізатарская работа сярод моладзі дзе-ні-дзе яшчэ падмяняецца агульнымі размовамі, у практыцы работы некаторых камітэтаў камсамола не выкаранены элементы фармалізму, казёншчыны.

Нядаўна адбыўся пленум ЦК КП Беларусі, які абмеркаваў пытанне паляпшэння выхаваўчай работы сярод моладзі рэспублікі. Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі ўказаў канкрэтныя шляхі павышэння працоўнай і палітычнай актыўнасці моладзі.

Камсамол — дзецішча Камуністычнай партыі. У кіраўніцтве партыі — крыніца сілы камсамола, залог яго поспехаў. Увесь шлях ВЛКСМ—гэта шлях вернага служэння Камуністычнай партыі, самаадданай барацьбы за яе ідэалы. Савецкая моладзь, камсамол у нашы дні, як ніколі, цесна згуртаваны вакол Камуністычнай партыі і яе Ленінскага Цэнтральнага Камітэта. Пастанова Пленума ЦК КПСС аб скліканні нечарговага XXI з'езда партыі выклікала сярод савецкай моладзі новы прыліў творчых сіл і энергіі. Юнакі і дзяўчаты нашай краіны рыхтуюцца дастойна сустрэць гэту знамянальную падзею.

Пад кіраўніцтвам партыі, свята захоўваючы і памнажаючы баявыя традыцыі ВЛКСМ, камсамол Беларусі, як і ўвесь шматмільённы камсамол Савецкага Саюза, упэўнена ідзе да новых поспехаў у камуністычным выхаванні моладзі, у мабілізацыі яе сіл на актыўны ўдзел у камуністычным руху.

**Пятрусь БРОЎКА**

## КАМСАМОЛЬСКІЯ СЭРЦЫ




Камсамол, маладосць,
Шлях юнацкі, узлётны,
Скрозь дарогі твае —
Ні канца ім, ні краю,
Хіба сорак табе,
А мне болей паўсотні,
Ты ж такі малады,
Я старэць не жадаю.

Што я стаў пераросткам,
Не вынось мне вымовы,
Можаш ты, можаш ты
Мне паверыць, здаецца,
Я кажу, як даўней
У ячэйцы вясковай,
Што я й сёння юнак,
Камсамолец па сэрцу.

Камсамол, я твой друг,
Выхаванец і вучань,
У кагортах тваіх
Хай не быў я героем,
Я ішоў праз гады,
Як праз горныя кручы,
Дзе б ні быў у шляхах,
Быў заўсёды з табою!

Помню першыя дні,
Што жыццё ўскаланулі,
Успаміны пра іх
Так мне дарагі, любы —
Ружы цвет, як сцяжок
На кужэльнай кашулі,
І прыпнуты казыр
Над узвіхраным чубам.

Можа хто нам і слаў
У дарогу праклёны,
Свет стары ў непакоі
Вылупліваў бельмы,
Мы ішлі — адляталі
Нашчэнт забабоны,
І кулацкі абрэз
Не палохаў нас вельмі.

Колькі спраў ні было
Баявых, надзвычайных,
Даставала на ўсё
Камсамольскага гарту,
Штурмавалі як след
Навуковыя тайны,
Хоць не ў ранніх гадах
Мы сядалі за парту.

І ўставалі з гадоў
Слаўных дзён камунары
Гадавалі ў грудзях
Непахіснасць, адвагу,
У жаданы прастор
Светлых думак і мараў
Заклікаў камсамол,
Вёў пад ленінскім сцягам.

Нам здавалася, век
Будзем мы маладымі,
Што ніколі з табой
Не зазнаем разлукі.
Ды праходзяць гады,
Ўсё мяняецца з імі, —
Камсамольскі значок
У сыноў і ва ўнукаў.

Праўда ленінскіх слоў,
Мазалі на далонях,
Нібы ў сталі бруску,
Ім пасобілі зліцца,
І стаіць іх сям'я
Супроць буры сягоння,
Дружным подзвігам іх
Можам мы ганарыцца!

Іх нямала у нас
У свой край улюбёных,
Маладых, баявых,
Маладых, працавітых, —
Пад сцягамі палкоў
Іх гукаюць імёны,
Ў даль стагоддзяў яны
Паглядаюць з граніту.



Ім граніцы няма.
Ўсё павінна скарыцца,
Іх жаданню ў грудзях
Неспакойна і цесна —
Дзе плаціны ўстаюць,
Дзе прастор каласіцца,
Скрозь бадзёра гучыць
Камсамольская песня.

Камсамол! У цябе
Неабсяжныя планы,
Свет штораз прад табой
Раскрываецца болей —
Хочаш Месяц штурмуй,
Пралятай акіяны,
Ад імкненняў тваіх
Не адстанем ніколі.

Хоць адбілі гады
Нас пячаццю сівою,
Не зважай, бо яшчэ
Добра ўмеем змагацца —
Бачыш, пульс малады,
Сэрца ў нас маладое,
Дык лічы, што заўжды
Мы ў шарэнгах юнацтва!

Еўдакія ЛОСЬ

## ПЕСНЯ ПРА ЗІНУ ТУСНАЛОБАВУ



Ранены ў грудзі баец малады,
Просіць ратунку, глыточак вады:

Дзе ты, ці блізка,
Сястрыца мая?..
Вынесі, родная,
Ранены я...

Зіна паўзе пад агнём да байца.
Гулкаму бою не чутна канца.

Зіна, вынось
Ды ратуйся сама:
Лютая ў полі
Ваенным зіма!..

Лезе пяхота варожая, б'е,—
Раніла куля самую яе...

Зіна, сястра,
Дарагая мая,
Вельмі балючая
Рана твая!

Сонца заслала сівая імгла;
Мучылі ворагі, каб не жыла...

Над непрытомнай —
Салдаты-браты:
Зіна, сястрыца,
Ці выжывеш ты?

Не парадзелі герояў рады,—
Выжыла Зіна, герой малады!

«Цяжка без ног,
Дамагуся, пайду!
Цяжка без рук,
Але працу знайду!..»

Помсціць байцоў павяла за сабой —
Імя дзявочае клікала ў бой!

Славіць народ
Гераіню сваю,
Мужную Зіну,
Сястрыцу маю...

Мікалай ЛАПУСТА

# НА КАШАРЫ ГАРЫЦЬ АГЕНЬЧЫК

### Апавяданне

Мал. Л. Дубара.

## I

Кароў на кашару выгналі позняй вясной. На балотах адцвітала лотаць, а дрэвы ўжо некалькі дзён стаялі ў зялёным убранні. Позні выган жывёлы на пашу стары пастух Цімох, які пасвіў другі статак, растлумачыў так:

— Кемлівы ў нас старшыня Іван Змітравіч. Чаму? Бо людзей шкадуе. Холадна ранняй вясной, вады ў балотах многа. Зноў жа і кароўкі ў крыўдзе не застаюцца — клешч прайшоў. А ён, брат, з зімы — злючы крывасмок. А зараз глядзі, рай божы вакол...

— Расказвай, дзядзька, пра Хіміны куры, — не сцярпеў Грышка. — Сюды, у гэты рай, твайго б Змітравіча хвалёнага, пашвэндацць бы па балоце...

— Эх ты, аварыя выпадковая. Мазгі ў цябе многа, ды не ўся яна кумекае... Слухай сюды, што я табе казаць буду...

— Ведаеш што, дзядзька, заварочвай сваіх шалудзівых, ды на трэцяй хуткасці адсюль. Траву таптаць на маім загоне не дазволю,— і Грышка, падабраўшы доўгую пугу, так лоўка хлёснуў ёю ў паветры, што Цімохавы каровы спуджана кінуліся ўбок.

Стары Цімох апамятаўся, калі Грышка адышоў на добрую сотню крокаў.

— Грышка!— паклікаў ён.—Дай махоркі крыху, капшук на кашары забыў.

— Пацерпіш, да вечара нядоўга засталося,— адказаў той, не спыняючыся.

«Ну, і злосны ж хлапец»,— падумаў Цімох, ідучы адварочваць свой статак.

Грышка пабрыў праз балота, сігаючы з купіны на купіну, дзе пасвіўся яго статак. Чорна-рабыя каровы прагна скублі траву.

«Вось яна, остфрызія, — нявесела паглядзеў на іх Грышка. — Ці думаў ты, Рыгор Максімавіч, ліхі армейскі шафёр, паўгода назад, што будзеш камандаваць чатырохногім войскам».

Хацелася на кім-небудзь спагнаць злосць за няўдалы паварот лёсу, за сваю дапушчаную памылку. На палянцы пад асінай сядзеў падпасак Васілёк, пятнаццацігадовы хлапец, сын удавы Лукер'і. Высалапіўшы язык, ён майстраваў з ясеневай кары трубу і так захапіўся работай, што не заўважыў, калі падышоў Грышка.

— Як кароў глядзіш, свістун салапаты?!. — накінуўся ён на Васілька.

— Што ты кажаш? — быццам недачуў яго Васілёк.

— Кароў як глядзіш, кажу? — аж закрычаў Грышка.

— Які цябе авадзень укусіў? — спакойна прамовіў Васілёк і, падняўшыся, адышоў ад асіны.— Вось скажу Насці, як ты бурчыш... Яна табе гонар саб'е,— без крыўды пагразіў Васілёк, і яго рабаціннне расплылося ва ўсмешцы.

— Маўчы, яйцо рабое! — злосна крыкнуў Грышка.

«Эх, Насця, Насця, што толькі я цярплю праз цябе»,— супакоіўшыся, падумаў Грышка і зноў пачаў перабіраць у памяці падзеі апошніх дзён.

Яшчэ тры месяцы назад, едучы дадому, Грышка ўяўляў сабе, што ўладзіцца на працу — зусім простая штука. Захацеў — працуй шафёрам, не спадабаецца машына — ідзі ў кузню. Іншых работ ён не прызнаваў. Інакш і не магло быць — Грышка ў арміі служыў у аўтарамонтнай майстэрні, быў добрым шафёрам. Ён быў упэўнены, што Насця, якой пісаў частыя лісты, спаткае яго прыветліва.

А выйшла зусім празаічна. Насця сустрэла ветліва, але цеплыні ў яе позірку ён не адчуў. Бываючы з ім на вясковых вечарынках, яна неўпапад адказвала яму на пытанні, заўсёды кагосьці шукала ў натоўпе вачыма. А нярэдка проста насміхалася.

— Не сапі носам,— шыпела яна,— людзі пачуюць...

— Мы ж адны,— спрабаваў апраўдацца Грышка.

Насця закідала назад галаву і доўга рагатала, паўтараючы: «Ой, не магу!»

Грышка глядзеў на яе насмешлівыя вочы, крыху кірпаты нос і залаты зуб, які відneўся з прыадкрытых вуснаў, і хацеў крычаць ад крыўды.

Нарагатаўшыся, Насця мірна гаварыла:

— У мяне таксама нос залажыла — учора ногі падмачыла.

У Грышкі знікала крыўда.

Не зусім добра склалася ў яго і з работай. Старшыня калгаса Іван Змітравіч Бараш, калі Грышка паказаў яму свае дакументы, холадна адказаў:

— У нас ёсць больш вопытны шафёр. Данілу Канцавога ведаеш? Дык вось ён ужо дзесяць год шафёрам працуе. Яму і дадзім новую машыну, калі атрымаем.





— Дзякую, — нахмурыўся Грышка.— Пайду ў раён, на прамкамбінат. Да пабачэння!

— Пачакай, хлапец, зайдзі праз тыдзень, што-небудзь прыдумаем.

Старшыні не хацелася адпускаць з калгаса маладога, дужага хлопца. Ведаў ён і тое, што Даніла нікуды не пойдзе з калгаса, калі нават і не будзе працаваць шафёрам, ён — сямейны, моцна прывязаны да вёскі. А Грышка — вольны птах, куды захоча, туды і паляціць. Таму, калі атрымалі новую машыну, Іван Змітравіч выклікаў Грышку.

— Афармляй дакументы! Толькі беражы машыну як сваё вока, а то ў мяне характар круты...

І хто б падумаў, што такое можа здарыцца! Месяцы праз два вазіў Грышка мінеральныя ўгнаенні. Праязджаючы ля канцылярыі, ён заўважыў Насцю. Яна размаўляла з кінамеханікам і рагатала, весела закідаючы галаву. Грышка так заглядзеўся на іх, што забыў аб усім на свеце. Апамятаўся ён, калі яго кінула на руль і спынілася машына. Грышка зразумеў: здарылася непапраўная бяда. Зазяваўся. Машына пераехала калёсы, якія нехта пакінуў пасярод двара.

З канцылярыі прыбег старшыня. Ён штосьці крычаў, але Грышка не чуў — так яго ўразіла аварыя.

Насця паказвала кінамеханіку пальцам на Грышку і аж прысядала ад рогату.

— Даездзіўся,— дакорліва сказаў у заключэнне Іван Змітравіч і, як здалося Грышку, задаволена пагладзіў свае віхры.

— А што тут асаблівага, ну калёсы паламаў,— паспрабаваў апраўдацца Грышка.

— Табе толькі на бугаі калгасным ездзіць.

— Магу і на бугаі,— заўпарціўся Грышка.

— Не справішся.
— Спраўлюся.
— А кароў пасвіць змог бы?
— Не горш за іншых!
— Тады па руках, браток! Упартых людзей я люблю.

Грышка паглядзеў на павесялеўшага старшыню і, радуючыся таму, што справа набыла не такі, як ён чакаў, паварот, ляснуў па шурпатай далоні Івана Змітравіча.

— Прыходзь заўтра на ферму,— сказаў старшыня і хлопнуў Грышку па плячы.— Малайчына!

Толькі праз некалькі мінут Грышка здагадаўся, што ён даў маху. Хацеў дагнаць старшыню, адмовіцца, але і тут упартасць узяла верх. «Блазнюком назаве»,— заключыў пра сябе Грышка.

«Так лёгка абдурыў мяне,— успамінаў Грышка заўчарашнюю размову са старшынёй.— Ну, трымайся. Я дакажу і тут, чаго я варты».

З задумення Грышку вывеў бугай, той самы бугай, праз якога ён стаў пастухом. Ён стаяў воддаль і цікаваў на Грышку. Вочы яго былі лютыя. На ілбе паміж кароткіх рог завілася ў віхры шэрсць.

«Віхры такія ж, як у старшыні»,— заключыў Грышка, і ім апанавала жаданне спагнаць злосць на бугаі. Ён падышоў на некалькі крокаў і, расправіўшы пугу, сцёбнуў бугая. Канец пугі наматаўся на рог. Бугай дзіка матнуў галавой і кінуўся на Грышку. Той ледзь паспеў узлязець на асіну. Бугай упёрся галавой у дрэва і пачаў трэсці яго.

Хто ведае, чым бы гэта закончылася, каб не падаспеў Васілёк.

— Арол, Арол, — ласкава паклікаў ён бугая. І той азірнуўся на падпаска. Васілёк смела падышоў да бугая, пачухаў яму шыю і лагодна адвёў убок.

— Злазь, Грыша. Не бойся ўжо... Арол не кране...
— Аб гэтым нікому ні гу-гу,— папярэдзіў Грышка Васілька.
— Насці раскажу, які ты герой,— пажартаваў той.
— Ну, ну! — пагразіў Грышка.

## II

Соладка спіцца на світанні. Грышка чуў, як Цімох званіў у рэйку, будзячы людзей на кашары. Але, глянуўшы ў акно,— на двары яшчэ цёмна,— перавярнуўся на другі бок і зноў заснуў.

— Уставай, кавалер, дзяўчаты даўно дояць кароў, а ты дрыхнеш,— кратаючы Грышку за плячо, весела гаварыў стары Цімох.

Грышка неахвотна падняўся з нар, працёр кулаком вочы і злосна паглядзеў на Цімоха.

— Прашу не камандаваць. Начальства мы з табой аднолькавае.
— Дык снядапак жа чакае... Эх, і суп Параска зварыла!.. Рай божы,— прыцмокваючы языком, гаварыў стары.

Невялікія домікі з аполкаў стаялі між бярэзніку над возерам. У двух з іх жылі даяркі, а ў трэцім — пастухі. Дзяўчаты ўпрыгожылі домікі кляновымі галінкамі, пасыпалі дарожкі жоўтым пяском. Побач з домікамі стаялі рагалі для бітонаў. Крыху воддаль, на беразе возера, невялічкая дашчатая павець, пакрытая толлю — сталовая і кухня.



Пшонны суп з малаком прышоўся Грышку да спадобы.

— Наліце, цётачка, яшчэ талерку,— папрасіў Грышка.
— Налью, сыночак, сілкуйся на здароўечка.

Параска паставіла талерку на стол, села насупраць і сумна паглядзела на Грышку.

— Чаго так, цётка, глядзіцё на мяне?
— На майго Івана падобны ты, Грышка, такія ж вочы і валасы.

Грышка нічога не адказаў, каб не расхваляваць пажылую жанчыну: яна сумавала па сыну, які загінуў на фронце.

— Такі ж прыгожы быў, як і ты.
— Адкуль вы ўзялі, што я прыгожы? — пачырванеў Грышка.
— Бачу, як некаторыя нашы дзяўчаты на цябе паглядаюць.— І, памаўчаўшы, дадала: — Няласкавы ты трошкі. Ласкі ў цябе мала.

Грышка зноў пачырванеў і запытаў:

— А ці ўсе дзяўчаты ласку любяць?
— Усе, сынок, як адна.
— Няпраўда, цётка, ёсць такія, што на ласку грубасцю адказваюць, кпяць.
— Табе відней, сынок, — уздыхнула Параска. — Бяжы ўжо да кашары, Васілёк каровак выганяе.

Даяркі зносілі бітоны, весела смяяліся. Тоненькая дзяўчына, з вялікімі чорнымі вачыма і ільнянымі косамі, якія выбіваліся з-пад касынкі, дапамагала Васільку выганяць з кашары кароў. Грышка некалькі разоў бачыў гэтую дзяўчыну на вячорках у клубе. Яна жыла на пасёлку і звалася Ганкай. Бываючы ў клубе, Ганка заўсёды была непрыкметнай, стаяла за спіной сяброўак.

Аднойчы Насця паказала яму на Ганку і дадала:

— Вось бы мне такія вочы — усе хлопцы мае былі б.

Грышка не знайшоў нічога асаблівага ў Ганчыных вачах. Толькі здзівіўся такой неадпаведнасці — вочы і бровы чорныя, а валасы ільняныя. Так рэдка бывае.

Выгнаўшы кароў з агарожы, Ганка падышла да Грышкі.

— Панаглядайце за той вунь каровай з адбітым рогам. Ёй штосьці нездаровіцца,— папрасіла яна.

— Можа ёй грэлку да боку прыкласці? — насмешліва запытаўся Грышка.

— У балота гнаць не трэба. Вада яшчэ халодная. Прастудзіцца яна,— ціха і сур'ёзна гаварыла Ганка.— Ды і вы апранулі б ватоўку, сцюдзёна раніцай.

«Глядзі, якая дарадчыца знайшлася», — здзівіўся Грышка і паглядзеў на Ганку.

Дзяўчына нібы не зразумела яго насмешкі, крута павярнулася і пабегла да домікаў.

У абед, калі пастухі зaгналі ў кашару кароў, з калгаса прышла аўтамашына з парожнімі бітонамі. На ёй прыехалі калгасны радыст, Насця і той кінамеханік, якога Грышка бачыў ля калгаснай канцылярыі. Кінамеханік быў у саламяным капелюшы, у хромавых ботах з нізка закасанымі халявамі.

Насця з дзяўчатамі прыбівала ў доміках плакаты, радыст устанаўліваў прыёмнік «Радзіма», а кінамеханік, цыбаты, як бусел, хадзіў па двары і лічыў людзей.

— Малавата, шаснаццаць чалавек. Гэта ўсе? — звярнуўся ён да Грышкі.

— Чаму ўсе, можам дадаць,— сур'ёзна адказаў Грышка.— Штук пяцьдзесят я магу дабавіць, на чале з «Арлом». Ён любіць глядзець фільмы і асабліва на сельскагаспадарчую тэму.

— Якога «Арла»? — перапытаў кінамеханік.

— Вунь стаіць на прывязі, рагаты.

Кінамеханік недаўменна пацісн уў плячыма і фанабэрыста паклыпаў у домік. Адтуль пачулася: «Ой, не магу», і на парозе з'явілася Насця. Агледзеўшы Грышку, яна прыжмурыла вочы і задзірыста прывіталася:

— Дзень добры рагатаму пастуху!

— Бухгалтарскаму пацуку маё шанаванне! — такім жа тонам адказаў Грышка.

Насця прыкусіла губу, паморшчылася. Ніколі Грышка так гарэзліва не адказваў ёй. Але, зрабіўшы вясёлы выгляд, яна сама прадаўжала насміхацца:

— Як адчуваюць сябе чорна-рабыя?

Тым часам Грышка агледзеў Насцю з ног да галавы. Яна пабывала ўжо ў раённага цырульніка і зусім змянілася. Косы былі каротка падстрыжаны і ўскудлачаны завіўкай, на пазногцях чырвоным макам цвіў манікюр. Такой жа яркай фарбай былі падведзены губы. Ад такіх нечаканых змен Грышка таксама паморшчыўся і спакойна адказаў на запытанне:

— Дзякую, добра. Выліналі ўсе, аж блішчаць зараз.

— Бачыла, прыгожыя каровы, ды толькі пастух ім не адпавядае з выгляду.

— За пастуха не варта хвалявацца. А каровы сапраўды прыгажэй за некаторых красунь. І яшчэ папрыгажэюць. Вось куплю на авансавыя грошы квяцістых істужак, банцікі на хвасты ім папрывязваю, капыты чырвонай фарбай падвяду, губы...

— Дурань! — не сцярпела Насця і, павярнуўшыся, пабегла ў домік.

Не бачылі ні Грышка, ні Насця, як у час гэтай іх размовы за імі з-пад павеці кухні сачылі вялікія чорныя вочы. Бялявая Ганка, мыючы посуд, старалася пачуць кожнае слова Грышкі і Насці і радавалася разладу, які так нечакана наступіў паміж імі.

Грышка не быў на кашары, калі паехалі дадому кінамеханік і Насця. Ён пайшоў на возера і крыху паляжаў у цяньку пад рабінай. Васілёк пасля расказваў:

— А ўтрэскалася твая Насця ў таго дылду, так і круціцца каля яго.

— Ты не ведаеш, як завуць яго? — запытаў Грышка.

— Міша Здрок.

— Здрок! Цікавае прозвішча. Летам ад яго аднафамільцаў нашым каровам спакою не будзе.

Грышку так спадабалася гэтае прозвішча, што ён пачаў падбіраць калючую мянушку Насці. «Пры першай жа сустрэчы так і скажу ёй: «Дзень добры, Здрачыха, як жыве-пажывае твой Здрок?»

Настрой у Грышкі яўна палепшыўся. Ён радаваўся таму, што так лоўка адпомсціў Насці за яе кпіны. Грышка пачаў расказваць Васільку розныя гісторыі з армейскага жыцця.



Вечар выдаўся цёплы. Загулі першыя камары. Падаіўшы кароў, даяркі сабраліся на бераг возера. Васілёк расклаў касцёр, і дзяўчаты, усеўшыся вакол яго, заспявалі песню.

Каму даводзілася майскім вечарам слухаць песні вясковых дзяўчат, той ніколі не забудзе іх чароўнага харавства. Вакол цішыня. І вось недзе чуецца дзявочая песня. Спачатку яна звініць, як маленькі ручаёк, а калі далучаюцца другія галасы, яна будзіць усё наваколле. Дзявочыя сэрцы прагнуць ціхай, душэўнай мелодыі пра каханне ды пра любага...

Запявала Ганка, а ўсе дружна падхоплівалі песню. Не было тут ні дырыжора, ні гармоніка, а песня лілася зладжана, роўна. З усіх галасоў ярчэй усіх вылучаўся Ганчын. Ён ліўся мякка, шчыра, з самай глыбіні душы.

Грышка сядзеў на парозе доміка і сумаваў па вясковых вячорках, па Насці. Але харавство песні напоўніла і яго сэрца пяшчотай.

— Слухаеш? — запытаўся стары Цімох і, не атрымаўшы адказу, дадаў: — Хороша пяюць, рай божы слухаць. А Ганка, што за дзяўчо, як той салавей! І да работы, і да спеваў здатная.

Грышка нічога не адказаў, падняўся і пайшоў.

III

Непрыкметна за працай і клопатамі праходзілі дні на кашары. Грышка і Васілёк пасябравалі. Памяркоўны характар Васілька прышоўся да спадобы яго старэйшаму таварышу. Стары Цімох сыпаў маладым хлопцам парады, нібы з прыгаршчаў. Спачатку Грышка адносіўся да іх недаверліва, а пазнаўшы душэўную прастату, сумленне і вялікі вопыт гэтага чалавека, нярэдка сам звяртаўся да яго.

Каровы Грышкавага статку прыбавілі малака. Але Грышка гэтым не ганарыўся. Ён ведаў, што заслуга яго тут малая,— каровы ў яго пародзістыя, а ў Цімоха — мясцовыя.

Грышка ўжо некалькі разоў на выхадны дзень ездзіў дадому. Бываючы на вячорках, ён стараўся памірыцца з Насцяй. Іншы раз яму здавалася, што мір адноўлен. Насця была ўважлівай да яго і рагатала, калі ён папракаў яе Здрокам. Нарагатаўшыся і паўтарыўшы некалькі разоў: «Ой, не магу», яна звычайна гаварыла:

— Няўжо ты думаеш, што прамяняю цябе на гэтага цыбастага бусла?

Другі ж раз, не паспее Грышка прывітацца, як яна ўжо з кпінамі:

— Балотам пахнеш ты, махоркай.

Многае перадумаў Грышка пра Насцю, пра іх адносіны, ходзячы доўгімі летнімі днямі за статкам. Пад канец ён стаў заўважаць, што ранейшага запалу ў сэрцы няма. Быццам страціў яго ў полі. Пачынала верх браць разважлівасць. «Ці свет клінам сышоўся на Насці?» — усё часцей трывожыла думка.

Наступілі спякотныя летнія дні, з сляпнямі і аваднямі. Каровы ў абед па некалькі гадзін знаходзіліся на кашары або, залезшы ў возера, песціліся ў вадзе. Паабедаўшы, Грышка забіраўся ў гушчар вербалозу і якую гадзіну адпачываў. Гэта вяртала сілы. Клаўся ён звы-

чайна на траву і адразу засынаў, ніколькі не турбуючыся пра сваё здароўе. І, вядома, вельмі здзівіўся, калі аднойчы, прачнуўшыся, агледзеў пад галавой сваю ватоўку.

— Ты падлажыў? — запытаў ён у Васілька.

— Не. Я хадзіў уюноў таптухай лавіць,— адказаў Васілёк.

— Цікава, хто б гэта мог?.. — думаў Грышка. — Параска раніцай дадому паехала. Відаць, хтосьці з дзяўчат. А хто ж гэта?

Грышка зайшоў у домік да дзяўчат.

Вера і Надзя разглядалі часопіс «Сельскагаспадарчая вытворчасць», а Ганка, нізка схіліўшыся над невялікім столікам, вышывала.

— Што новае там пішацца? — запытаўся Грышка і паглядзеў на Ганку.

Дзяўчына пачырванела і яшчэ ніжэй апусціла галаву над вышываннем.

Надзя павярнулася да Грышкі і, паказваючы пальцам на здымак, прамовіла:

— Жывых пастухоў хутка адменяць, а ўвядуць электрычных. Застанешся ты без работы.

— Не турбуйся, я электратэхніку здаваў,— адказаў Грышка і пачаў пільна разглядаць Ганчына рукадзелле.— Пеўнік прыгожы атрымаўся. Цікава, для каго такі пасаг рыхтуеш?

Ганка зусім засаромелася.

Адказала за яе Вера:

— Вядома, не для цябе. Ты пільнуй ужо адну, а то адаб'е кінамеханік. Што тады будзе?

— А вось што: з богам, як кажуць, калі чалавек знайшоўся,— адказаў Грышка і, памаўчаўшы крыху, дадаў: — Баба з калёс — каню лягчэй.

Назаўтра ў абед да кашары прымчала калгасная «Пабеда». З яе выскачыў кірпаты, шустры хлапец і валіўся старшыня калгаса Іван Змітравіч. Нягледзячы на спякоту, старшыня апрануў шарсцяную гімнасцёрку, на якой у два рады рознымі колерамі паблісквалі ордэнскія планкі.

У кірпатага, які адразу адрэкамендаваўся фотакарэспандэнтам, на доўгім рамяні вісеў фотаапарат. Ён насіўся, як апараны, па кашары, некалькі разоў прыстаўляў да вачэй фотаапарат. Набегаўшыся, падышоў да старшыні:

— Каторы з іх? — запытаў ён, паказваючы на Грышку і Васілька.

— Старэйшы,— адказаў старшыня.

Фотакарэспандэнт энергічна падхапіў Грышку пад руку і падвёў да «Арла», які стаяў на прывязі пад бярозай.

— Адвяжыце, вазьміце рукой за шыю. Так, так. Спакойна.

Пстрыкнуў затвор. А праз хвіліну карэспандэнт ужо ўвіваўся пад павеццю, дзе даяркі злівалі малако. Не паспеў Грышка як след агледзецца: для чаго, уласна кажучы, яго сфатаграфавалі разам з бугаём, як мітуслівы карэспандэнт імчаў да «Пабеды», а яшчэ праз мінуту машына схавалася за алешнікам.

Газеты прыйшлі праз тыдзень. Перадаючы іх на кашару, Насця даслала малакавозам адначасова і маленькую запіску для Грышкі. У ёй было некалькі слоў: «Віншую! Ты пачаў выбівацца ў людзі».





А ў дзяўчат толькі і было гаворкі пра здымкі ў газеце.

— Паглядзі, Грыша, ты проста арлом выглядаеш! Закахацца можна,— працягваючы газету, прамовіла Вера.

Грышка, быццам нехаця, узяў газету, разгарнуў яе. Злева ўверсе быў змешчан Ганчын партрэт, крыху ніжэй — Грышка з бугаём, а ўнізе — група дзяўчат на парозе доміка. Над здымкам і тэкстам вялікімі літарамі загаловак: «Перадавыя жывёлаводы калгаса «Зара».

Грышка перачытаў і міжвольна зноў паглядзеў на Ганчын партрэт. Вялікія чорныя вочы свяціліся нейкім унутраным святлом, такім спакойным і чыстым, што Грышку аж хораша стала на душы.

Невядома чаму яму раптам захацелася пабачыць Ганку, глянуць ёй у вочы, параўнаць, ці такія яны, як на партрэце. Ён прайшоўся ля домікаў, зазірнуў на кухню, але Ганкі нідзе не было. Тады Грышка рашыў пайсці да возера, у дубняк — там пад калінай у вольны час нярэдка збіраліся дзяўчаты. Ганка сядзела на пні, вязала на ручніку карункі і штосьці ўпаўголаса напявала.

Грышка прысеў на зямлю побач, злавіў нітку і, падцягваючы яе да сябе, прамовіў:

— Усё вышываеш, усё мярэжыш... Для каго?

Бялявыя шчокі Ганкі ўмомант пачырванелі. Яна яшчэ ніжэй апусціла галаву.

— Чаго ты маўчыш? — зноў запытаўся Грышка і сэрцам адчуў пяшчотнасць да гэтай сціплай дзяўчыны.

Ганка падняла галаву і, не тоячы радасці, даверліва паглядзела на Грышку. Рукі ў яе злёгку дрыжалі. Яна прыкметна хвалявалася. Але праз хвіліну Ганка пераадолела хваляванне і ціха адказала:

— Ёсць адзін такі...

Смелы адказ здзівіў Грышку. Да гэтага ён думаў, што Ганка занадта сарамлівая. Грышка падсеў бліжэй і настойліва запытаў:

— Хто ён?

— Нават роднай маці не скажу,— адказала Ганка і заклапочана пачала падлічваць на карунцы вочкі.

Не пытаючы дазволу, Грышка ўзяў з кален Ганкі ручнік, устаў і весела сказаў:

— Пабачым, якія ў цябе пеўнікі атрымаліся.

Дзяўчына са здзіўленнем зірнула на Грышку, потым раптам перапалохалася і з сумам у голасе папрасіла:

— Аддайце ручнік, прашу вас, аддайце.

Грышка, як кот, лёгка адскочыў убок і разгарнуў вязанне. З ручніка штосьці ўпала на зямлю. То быў яго здымак, выразаны з газеты.

Са здымка Грышка перавёў позірк на Ганку. Вялікія вочы яе былі поўны слёз. Праз хвіліну дзяўчына закрыла твар рукамі і пабегла да кашары.

— Ганка, вазьмі ручнік,— крыкнуў ён услед. Але дзяўчына нават не аглянулася. Хутка яе лёгкая постаць скрылася ў прыазёрным лазняку.

Новае, нейкае цёплае пачуццё хваляй нахлынула на Грышку. Ён радаваўся гэтаму пачуццю, стараўся яго ўзважыць, ацаніць. Беражліва загарнуўшы ручнік у газету, Грышка паклікаў Васілька, які сядзеў на беразе і вудай лавіў рыбу.

— Аднясі вось гэта Ганцы. Перадай так, каб ніхто не бачыў.

Васілёк паправіў вуды, паглядзеў на Грышку, прысвіснуў:

— Клюнула, значыць. Бач ты, лоўка!

Грышка весела штурхануў Васілька пад бок і паваліўся на ракітавы корч.

## IV

Неспакойна спаў Грышка ў тую ноч. Да гэтага ён многа перадумаў. Выпадак са здымкам прывёў да многіх здагадак, якім ён раней не надаваў асаблівага значэння. Грышка ўспамінаў выпадковыя сустрэчы з Ганкай на кашары, унікаў у сэнс слоў, сказаных ёю раней. Прышоў на памяць і выпадак, калі яму хтосьці падклаў пад галаву ватоўку. «Яна,— здагадваўся Грышка.— А ці зрабіла б гэта Насця? — пытаў ён сябе і тут жа адказваў: — Не, яна б не зрабіла».

Перад раніцай яму прысніўся страшны сон. Купаючыся ў возеры, ён заблытаўся ў ціне і пачаў тапіцца.

Прачнуўся Грышка ад моцнага штуршка ў бок, так і не дагледзеўшы сон. Разбудзіў яго Васілёк. Падпасак усміхаўся:

— Ну і крычаў ты «ратуйце»! Я думаў, што цябе нехта рэжа.



Выганяючы статак з кашары, Грышка падышоў да Ганкі.

— Я цябе сніў сёння, Ганка,— сказаў ён ціха дзяўчыне.

— І я цябе... вас часта бачу ў сне.

— Прыходзь вечарам за возера пад каліну,— папрасіў нясмела Грышка.

Ганка нічога не адказала. Ён толькі заўважыў, як уздрыганулі ў яе густыя, як хвойнічак вейкі ды радасна бліснулі вочы.

«Прыдзе, абавязкова прыдзе»,— заключыў Грышка, даганяючы статак.

Але спаткацца пад калінай ім не давялося. Перад вечарам надышла навальніца. Вецер шалёна гайсаў па лесе, халодны дождж з градам балюча сцябаў па твары. Грышка і Васілёк ледзь сабралі кароў у гурт, каб гнаць на кашару. На выгане перад домікамі Грышка пералічыў кароў. Як ён ні прыглядаўся, у статку не было каровы з адбітым рогам, той самай, якая ў пачатку вясны хварэла.

Паклікаўшы Васілька, ён загадаў яму:

— Ты тут ужо заганяй сам жывёлу, а я пайду шукаць Ганчыну карову. Можа затрымаюся.

У непагадзь ноч настае рана. Не паспеў Грышка адысціся, як густая цемра ахутала ўсё наваколле. Ліў дождж, скуголіў вецер. Грышка абышоў усе палянкі, усе ператокі на балотах. На цагельным заводзе ў Навінках у дванаццаць гадзін прагуў гудок, а Грышка ўсё шукаў карову. У цемры ён некалькі разоў спатыкаўся, падаў, пазбіваў да крыві аб пні ногі. Нарэшце, зразумеў, што заблудзіўся.

Балюча было на душы. «Што скажуць даяркі, Ганка, калі не будзе каровы? Стары Цімох цяпер праходу не дасць»,— нявесела думаў Грышка. Выбраўшы высокае дрэва, ён рашыў узлезці на яго. Можа там, на кашары, яшчэ не спяць і ў доміках будзе свяціцца.

Сапраўда, адтуль Грышка заўважыў агеньчык. Ён то паяўляўся, то знікаў. І гарэў агеньчык зусім у процілеглым баку, дзе, як думаў Грышка, не магло і быць кашары. Але ён рашыў пайсці на яго. І хутка заўважыў знаёмую сасну. Адсюль было не больш кіламетра да кашары.

Каровы не лажыліся — усюды было мокра. Грышка зайшоў у загарадзь, прайшоўся па стойлах. Карова з адбітым рогам стаяла на месцы. Стомленасць як рукой зняло. Тут толькі Грышка разгледзеў, што ў доміках цёмна, а агеньчык гарэў у ліхтары, які нехта падвесіў на высокай вярбе.

Калі хлапец падыходзіў да домікаў, з аднаго з іх выйшла дзяўчына.

— Ты, Ганка? Дзе карова была?

— У Займінцы пад дубам.

— Гэта ты ліхтар на вярбу павесіла?

Ганка маўчала. Грышка ступіў крок наперад, абняў дзяўчыну, прытуліў да грудзей. Кофтачка была на ёй мокрая, і злёгку дрыжалі плечы. А на вярбе пагойдваўся ліхтар, выхопліваючы з цемры то павець, то домікі даярак, то бярозу, якая пад дажджом трапятала лісцем. Маланкі раз-по-раз паласавалі неба, але па ўсім было відаць: непагадзь вось-вось скончыцца.

**Уладзіслаў НЯДЗВЕДСКІ**

# ХАЙ ПУСТУЮЦЬ ПАДНОЖКІ

**Паэма**



Мы сядзелі ўтрох на разбітым паўстанку
І чакалі на фронт, на Берлін эшалона...
Цягнікоў не было у патрэбным напрамку,
Толькі вецер свістаў у руінах шалёна.
У халодным кутку ля разбітае касы
Апынуліся мы, нібы ў цёмным падвале.
За паўдня нам адтуль нават выйсці ні разу
Не дазволіў Бражок — валацуга бывалы.
— Хто такія? Адкуль? — нам ён робіць экзамен.
— Ах, на фронт! — ля ўваходу садзіцца на цэглу, —
— Шантрапа, вы туды не даедзеце самі,
Бо, напэўна, ад мамак учора вы збеглі.
Ды і што разумееце вы у трафеях,
У пярсцёнках, гадзінніках і бранзалетах?
Ад пагляду яго дзікай прагнасцю вее,
А прыязнасці першай не бачна і следу.
Твар шчаціннем зарос, стаў ашчэраным нейкім.
— Я вас жыць навучу на шырокую ногу!
Я вам не сакратар, не Кірыла Барэйка,
Што захоча ў дзятдом паказаць вам дарогу.
Не, Бражок не такі! Я не буду за парту,
За парваны буквар прымушаць вас засесці,
Бо такая навука — ні капейкі не варта,
Ды і хлопцам у час наш у школе не месца.
Вас бы сёння адсюль я павёз за сабою,
Ды патрэбна мне тут затрымацца часова.
Выняў компас, муштук з далікатнай разьбою
І назад гэта ўсё па кішэнях рассоваў,
На чыгунку павёў насцярожана вокам
І праз дзірку ў сцяне выткнуў твару палову:
— Шантрапа, вы адсюль не адходзьце далёка,
А то вас, як зайцоў, тут хто-небудзь паловіць.



* * *



Хоць і май і вясна, а як вечар настане —
Пачынае круціць холад з нас абаранкі...
І на могілкі, што разрасліся кустамі,
Перайшлі начаваць мы учора з паўстанка.
Метры ў два вышынёю каменную глыбу
Нейкі пан свайму продку успёр на магілу,
Па-над глыбай — капліца схілілася грыбам,
Нас ад ветру сырога яна засланіла.
Мабыць, злосны стары пад плітой мармуровай
Павярнуўся б на бок, каб на момант убачыў,
Што пад помнік яго палажыўшы галовы
Спяць хлапцы ў лахманах сном трывожным дзіцячым...
Спіць і трызніць у сне аб смаленшчыне Жора,
Свішча носам кірпатым з-пад Гомеля Янка,
Басаногіх герояў, іх ссадзілі учора
З эшалона ваеннага тут на паўстанку.
Я ж у вёсцы сваёй, у згарэўшым Загор'і,
Раздабыў сухароў і табакі з паўмеха,
На чыгунцы знайшоў тут сяброў сабе ўчора
І таксама рашыў, што на фронт мушу ехаць.

* * *



Так, нам трэба на фронт, што грыміць пад Берлінам,
Бо мы чулі, што Гітлера скора там зловяць,
І салдатаў сваіх папрасіць мы павінны,
Каб сказаць на судзе нам дазволілі слова.
Каб жывым у агні яго нашы спалілі
Так, як *бацьку фашысты спалілі у Жоры*,
Каб жывога яго закапалі ў магіле
Так, як маці маю закапалі ў Загор'і.
Каб на слуп тэлефонны павесілі ката
І ўтапілі ў рацэ род ягоны варожы
Так, як карнікі ў Янкі павесілі брата
І сям'ю яго ўсю ўтапілі у Сожы.
Так, нам трэба на фронт. Мы гатовы па шпалах
Несці ў сэрцах дзіцячых нянавісць святую.
Хутка раніца ўжо. Я стаю з самапалам,
Сон сваіх сябрукоў і паўстанак вартую.
Нібы ў дроце калючым, у галінах шыпшыны,
Абудзіўшыся, цвыркнула птушка лясная.
Ад капліцы адбіўся той голас птушыны
І растаў... Цішыня. Я драмлю. Засынаю.

* * *



Ціхай раніцай майскай сніцца сон вартавому:
Будзіць маці мяне, каб папіў сырадою.
Бацька ноччу прышоў з партызанаў дадому,
Мне казыча шчаку ён сваёй барадою:
— Уставай, па грыбы пойдзем, Віця, сягоння:
Я нагледзеў у лесе грыбныя мясціны!
Палажыў галаву бацьку я на далоні
І нікуды не хочацца з хаты ісці мне.
— Ну, прачніся!— ён просіць і за плечы рукамі
Ён мяне падымае з пасцелі лагодна.
Я расплюшчваю вочы: не падушка, а камень
Зацвярдзеў у мяне пад шчакою халоднай.
І не пахне навокал мяне сырадоем.
А прамокшай травою, сырой, пажаўцелай.
І не бацька казыча шчаку барадою —
Гэта холад пускае мурашкі па целу.
Сон прапаў. Ды ўсё ж, хтосьці дужы, як бацька,
Падымае мяне і стаўляе на ногі.
Ён высокі, без шапкі, у шынелі салдацкім,
Дзве пралескі ў пятліцы, нібы ў маладога.
Падае маю зброю, што пад ногі упала,
А ў самога ў вачах радасць, нібы ў малога:
— Салютуй, вартавы, са свайго самапала:
Сёння радасны дзень, сёння дзень Перамогі!
Нас, як даўніх сяброў, што сустрэчы чакалі,
Аглядае, узрушаны, шчыры, вясёлы:
— Не шкада, што на фронт вы адсюль не папалі,
Не ў акопах сядзець, а сядзець вам у школе!
Праз гадзіну ў райцэнтр мы спяшалі па рэйках,
У паветры звінелі вясны адгалоскі.
Вёў насустрач жыццю нас Кірыла Барэйка —
Сакратар камсамольскі.

* * *



Дом, як іншыя ўсе, ёсць і вокны і дзверы,
Нехта нават прыбіў на парозе падкову.
Даў райком камсамола тут Кірылу кватэру,
Нас пажыць у сябе ён пакінуў часова.
Мы згадзіліся: што ж, пажывем нейкі месяц,
Падрасцем, адпачнем, дачакаемся лета,
А тады на цягнік і на новае месца...
Мы не кажам, вядома, Кірылу аб гэтым.
Нас усіх ён падстрыг, змазаў газай галовы,
Хоць пры гэтым і лаяўся ціха часамі.



Цэлы дзень пад кацёл мы падкладвалі дровы,
Кіпяцілі адзенне і мыліся самі.
А як вечар прышоў і вячэру мы з'елі,
Нас траіх палажыў ён на ложку уласным.
Мы ахвотна ляглі, бо казаць не хацелі,
Што за год першы раз мы пад коўдру залазім.
Раніцою прабег па падлозе, па сценах
Сонца ранішні промень, тугі і прыгожы.
Мы старое сваё апранаем адзенне,
Ды ніяк распазнаць яго доўга не можам.
На штанах і кашулях нейчай дбалай рукою
Зацыраваны дзюркі, нават гузікі ўшыты.
Мы глядзім на Кірылу: што за цуда такое
І хто гэта зрабіў, нам хутчэй адкажы ты?
— Хлопцы, гэта не я,— ён разводзіць рукамі,—
Я насіў да сястры вашу вопратку ноччу.
Гэта Вера...
— Чаму ж не жыве яна з вамі?—
Зноў цікавасць сваю задаволіць мы хочам.
— А чаму? Я і сам гэта ўсё рад бы ведаць,
Цэлы год ад яе я адказу чакаю...—
Схамянуўся ён раптам, — давайце лепш снедаць. —
Чай гарачы у шклянкі усім налівае.

* * *



Дзіўны наш гаспадар!
Пазванілі з райкома,
Строгім стаў яго твар,
Ён збіраецца з дому.
Хоць заціхла вайна,
Сонца мірна ўзыходзіць, —
Ён з цямна да цямна,
Як салдат у паходзе,
З-за стала ўстаючы,
Нас паглядам ён змерыў
І дае нам ключы
Ад уласнай кватэры.
Нам па сшытку дае,
Па алоўку у рукі:
— Трэба, хлопцы мае,
Брацца вам за навуку!
Спраў такі паварот!
Зноў настрой невясёлы:
Мы спяшалі на фронт,
А тут, на табе — ў школу!
Снілі мы, што ў баю
Б'ем фашыстаў з вінтоўкі,
А тут сшыткі даюць

І даюць нам алоўкі.
Толькі дзецца нам дзе?
Не ісці ж да паўстанку?
За Кірылам ідзем
Мы да школьнага ганку.
Павярнуў пяты клас
У здзіўленні галовы,
Сустракаючы нас,
Аднакласнікаў новых.

* * *



Да канца адсядзелі мы ў школе урокі,
Не хацелі ўцякаць і падводзіць Кірылу.
А дадому прышлі — Жора вытрас махоркі,
Цэлы сшытак ўтрох за паўдня раскурылі.
Рукавамі з вачэй выціраючы слёзы,
Мы сядзім за сталом і дымім самасадам.
Як ісці нам далей па жыццёвай дарозе?—
Па пытанню такому праводзім нараду.
Жора кажа, што ён сам ужо не маленькі
І калі паглядзець нашай справе у корань,
Дык падацца адсюль трэба нам да Смаленска,
Там на рынках «малінай» сябе мы пракормім.
Янка хоча у Гомель, бліжэй да радзімы,
З параходамі плаваць ён хоча па Сожу.
Я паеду за ім. Тут не буду адзін я.
Толькі ехаць адсюль мы сягоння не можам.
Мы не можам пакінуць пустую кватэру
І паціху ўцячы, як нязваныя госці.
Дзе нам ведаць было, што сягоння даверыў
Не ключы сакратар нам, а большае штосьці.

* * *



Вось і вечар, і ноч. Зноўку ранак вясновы,
Каля школы званок заліваецца срэбрам.
Першы ўрок па раскладу — нямецкая мова.
Мова ворагаў нашых — яна нам не трэба!
І калі зачыніла настаўніца дзверы,
*Падышла да стала і хацела садзіцца,*
Жора ў столь запусціў самалётам з паперы:
— Хэндэ хох, фрау Бэрта! Капут ужо фрыцам!
У настаўніцы шчокі, як мел пабялелі,
У настаўніцы голас халодны і роўны:
— Вы, *напэўна,* пайсці пагуляць захацелі,
Дык з урока я вас не пушчу усяроўна.
Лепш давайце не будзем спрачацца дарма тут,



І мяне зваць не Бэрта, а Вера Пятроўна...
У кутку самапал грымнуў, нібы гармата,
Крык страшэнны узняўся ў класе раптоўна.

* * *



Завуч вусы круціў. Прыгавор свой не скора
Аб'явіў ён прыціхшаму пятаму класу:
Заўтра з бацькам павінен прысці ў школу Жора,
А не прыдзе, дык выключан будзе адразу.
Цэлы вечар сядзеў наш герой невясёлы,
А пасля паглядзеў ён на нас і смяецца:
— Калі нельга без бацькі з'яўляцца у школу,
Дык паедзем яго пашукаем па свеце!
Што ён кажа! Раты мы тут з Янкам адкрылі,
Бо нядобра у нас неяк справы выходзяць,
І пра сённяшні ўрок мы раскажам Кірылу,
Пойдзе ў школу і завуча ён улагодзіць...
— Паспрабуй раскажы,— Жора зноўку пярэчыць,—
Нам Кірыла не бацька, не брат, не знаёмы.
І ён можа аддаць нас за гэткія рэчы
У міліцыю ці у дзіцячы прыёмнік.
Гаварыў жа Бражок, што Кірыла аднойчы
Ледзь яго не упёк у «вясёлае» месца...
Лепш давайце маўчаць, калі самі не хочам
Мы за кратамі хлеба з вадою паесці.
— Што ж, магчыма, і так, можа праўду сказаў ты, —
Мы на Жору глядзім, павярнуўшы галовы.
— Едзем, хлопцы, адсюль, едзем раніцай заўтра...
Надышоў, зацямніў вокны вечар вясновы.

* * *



Дзіўны наш гаспадар! Ён дамоў апаўночы
Ледзь дабраўся прамокшы з далёкае вёскі.
Нас на ногі падняў: «Можа есці хто хоча?
Сёння выдаў райком мне паёк камсамольскі».
Дзіўны наш гаспадар! Лусты свежага хлеба,
Пяць драбкоў свайго цукру раздзяляе пароўну:
— Падрастайце хутчэй, бо ў жыцці нам патрэбна
Многа спраў завяршыць, здзейсніць мараў цудоўных...
Дзіўны наш гаспадар! Ён і Янку, і Жору,
І мяне час ад часу называе Сямёнам,
Нібы з роўнымі, з намі заўсёды гаворыць,
Дык чаму ж забывае ён нашы імёны?

* * *



Трэці ранак заглянуў у нашу кватэру
З промнем сонца празрыстым і веццем зялёным.
На стале ад Кірылы — нам аркуш паперы:
Цэлы дзень сакратар будзе зноў на раёне.
Можа гэта і лепш, што няма яго дома.
Мы паклалі ключы за вушак ля парога,
Бо мы едзем адсюль. А куды? Невядома.
Трэба грошай крыху раздабыць на дарогу.
Трэба ўбачыць Бражка. Ён адразу падкажа,
Што рабіць нам далей і куды нам падацца.
Пад нагамі пахлюпвае чорная каша,
Холад хоча да самага сэрца дабрацца.
Па мястэчку вядзе Жора нас за сабою
У той бок, дзе кішыць муравейнікам рынак.
Дзядзька соллю гандлюе. Падыходзім гурбою.
Жора знак падае — значыць, тут і прыпынак.
Бачыць столькі рублёў не прышлося яшчэ мне,
Мабыць соль прадае тоўсты дзядзька не з гора.
Жора грошы цягнуць будзе ў дзядзькі з кішэні,
А калі той убачыць, мы ўшчыкнем тады Жору.
Жора будзе цягнуць! Кроў у нас халадзее.
Мы ад страху памрэм. Ну, чаго ён марудзіць?..
Я кагосьці ўшчыкнуў, нехта крыкнуў: «Зладзеі!»
Хтосьці злосны піхнуў кулаком мяне ў грудзі.

* * *



Зноў утрох мы сядзім у пакойчыку вузкім.
Толькі гэты пакой — не купэ, не кватэра.
Жора кажа, што трапілі мы у «кутузку».
Каравульны са зброяй ахоўвае дзверы.
На вячэру падаў ён нам хлеба са шмальцам,
На тапчане паставіў з гарбатаю чайнік:
«Ноч прыдзецца сядзець вам яшчэ, падшывальцы:
На раён па трывозе выбыў сёння начальнік».
Мы ўжо суткі сядзім. Зноў з гарбатаю чайнік
Ужо іншы дзяжурны нам назаўтра прыносіць.
Вось і поўдзень настаў. Мы сядзім на тапчане,
А на вуліцы трубы жалобна галосяць.
Тут жа фронта няма... Значыць, нехта загінуў,
А магчыма, памёр, хто даўно ўжо быў хворы...
Мы не можам сядзець, мы дазнацца павінны.
Ці вярнуўся Кірыла дадому учора.



* * *



Па чарзе кулакамі мы ў дзверы грукочам,
У чаканні ідзе за гадзінай гадзіна,
Ды ніхто зняць замок за дзвярыма не хоча.
Зноў, прыціхшы, утрох на тапчане сядзім мы.
А калі наступіў адвячорак вясновы,
Да дзвярэй падышоў учарашні дзяжурны.
...Мы стаім ля стала ў кабінеце Кастрова,
Перад намі сядзіць нерухома ён, хмурны.
Пад вачамі мяшкі, зверху шэрыя вейкі,
Сіні кіцель на ім, а на кіцелі ордэн.
— Дзе вы дзелі ключы ад кватэры Барэйкі?—
У начальніка голас прыглушаны, цвёрды.
Нібы камень з плячэй — ад пытання такога.
Першым з нас набіраецца храбрасці Янка:
— Мы паклалі ключы за вушак ля парога,
Як выходзілі з дому учора уранку.
У Кастрова пагляд пацямнеў на хвіліну,
Край стала ён сціскае шырокай далоняй:
— Ад бандыцкае кулі Барэйка загінуў,
Мы без вас яго тут пахавалі сягоння.
Паплыла і прапала на момант падлога...
«На раён па трывозе...» Сёння плакалі трубы.
Нам здавалася, зараз падкосяцца ногі,
Ледзь прыкметна дрыжаць у начальніка губы:
— Ён мой даўнішні друг. Мне пра вас гаварыў ён,
Я забойцу злавіў. Трэба з ім разлічыцца...
Нас Кірыла прасіў... Мы дзятдом тут адкрыем.
Заўтра, хлопцы, у школу... Ідзіце вучыцца.

* * *



Дзе нам ведаць было, што ў мясцовасці гэтай,
Дзе калісьці былі хутары ды палоскі,
За знішчэнне старога, аджыўшага свету,
Днём і ноччу змагаўся важак камсамольскі.
Што між соцень сяброў, хто з душою адкрытай
На сівых папялішчах яго сустракае,
Паліцэйскі Бражок, той бандыт недабіты,
У лясах прыдарожных Кірылу чакае.
Дзе нам ведаць было, што ляжыць у магіле
Паміж пінскіх лясоў, у глыбінным раёне.
Адабраны вайной брат малодшы Кірылаў,
Брат, падобны, да нас, брат, што зваўся Сямёнам.
Дзе нам ведаць было, што заняты ў райкоме,
У калгасах нялёгкаю справай заняты,
Думаў ён, сакратар, аб чужых і бяздомных,
Хлапчуках, што падобны да меншага брата.

Дзе нам ведаць было, што у час той суровы
Думаў ён, каб мы больш у жыцці не пятлялі...
Мы ж яму пра урок не сказалі ні слова
І ад ласкі ягонае ўчора ўцякалі!..
Дзе нам ведаць было, што за нашыя сэрцы
Ён уласнае сэрца падставіў пад кулі,
Хоць падумаць не мог перад самаю смерцю,
Ці на правільны шлях мы ў жыцці павярнулі.

* * *



Свежы жоўты пясок. Кветкі пад абеліскам.
Слёз апошніх сваіх не сціраем мы з твараў.
Тут не бацька, не брат, тут з усіх самы блізкі —
Сакратар пахаваны, наш харошы таварыш...
Калі нас ён сустрэў, мы былі хлапчукамі.
Над магілай яго мы дарослымі сталі.
Абуджаюць прасцяг паравозы гудкамі,
Клічуць нас за сабой у нязнаныя далі.
Ды імчаць ім без нас, хай пустуюць падножкі,
Хай вагоны бягуць міма вербаў пахілых.
Мы не чулі, як нехта чацвёрты дарожкай
Падышоў і таксама стаіць над магілай.
Пад хусцінкаю плечы ўздрыгваюць часта,
Нібы камень нябачны на іх навярнулі...
О, як многа мы ўсе зразумелі у час той,
Калі ўвочы настаўніцы нашай зірнулі!
Першых кветак пучок у далоні дзявочай,
З гора твар пабялеў, нібы мел усяроўна...
«Я насіў да сястры вашу вопратку ноччу...»
Вы прабачце за ўсё, наша Вера Пятроўна.

Іван **НАУМЕНКА**

# МОЙ СЯБАР ПЯТРУСЬ

## Апавяданне

### I

Мал. Ф. Бараноўскага.

У мяне быў сябар, Пятрусь Цімашэнка, самы лепшы сябар, якога можна займець толькі ў гады юнацтва, калі сэрца адкрыта насцеж усяму прыгожаму і цудоўнаму, што ёсць на зямлі.

Успамінаю нашу ціхую школу, наш дзевяты клас. Школа, атуленая навіссю старых клёнаў і бяроз, стаяла на самым ускрайку мястэчка. Паблізу была кузня, у ёй працаваў стары каваль Вавіла. За доўгія гады, праведзеныя ў школе, мы дасканала вывучылі і характар Вавілы, і нават прыёмы яго кавальскага майстэрства. Стары каваль ніколі не біў сваім молатам па жалезе болей сямі раз. Седзячы ў класе на ўроках і зачуўшы гукі, якія несліся з кузні, мы лічылі ўдары і ніколі не памыляліся. Мы ўжо ведалі, што пасля сёмага ўзмаху молата Вавіла або кідае кавалак жалеза ў горан, або, прыхінуўшыся да сцяны старой, згорбленай кузні, адпачывае... Далей за школай, калі мінуць засыпаны жоўтапёсам і зарослы горкім палыном пустыр, былі могілкі. На вялікім перапынку мы бегалі туды дурэць. На могілках раслі разложыстыя хвоі і заўсёды панавала ўрачыстая цішыня. Гэтую цішыню парушалі мы, ніколькі не турбуючыся, што трывожым вечны спакой сваіх продкаў. У тыя далёкія школьныя часы ніхто з нас яшчэ не думаў аб смерці.

Школьныя гады... Можна забыць многае ў жыцці — сустрэчы і расставанні, гора і радасць, дружбу і здраду. Але ніколі не забудзеш свайго першага і апошняга школьных гадоў. Прыходзіш ты ў школу малым, жаўтаротым вараннём і пакідаеш яе чалавекам, які ўжо шмат чаго ведае і яшчэ болей — хоча. Той год нашага навучання ў дзевятым класе быў апошнім школьным годам.

Старэйшыя класы, ад сёмага да дзесятага, займаліся ў той год у другую змену. У восем гадзін вечара заняткіканчаліся і пачыналася, уласна кажучы, самае цікавае. Наша школа лічылася ўзорнай, і ўсе мы — і настаўнікі і вучні — высока трымалі яе прэстыж. Вечарамі разгортвалі сваю чыннасць шматлікія гурткі, рэдкалегіі і сходы. Клас стараўся перад класам навыперадкі. Сценгазетамі была завешана ўся сцяна ў доўгім, вечарамі паўзмрочным калідоры. Спрачаліся гурткоўцы, рэпетыраваліся новыя п'есы, праводзіліся сходы — гэтым быў запоўнен амаль кожны школьны вечар.



Успамінаю незабыўныя вечары ў нашым клубе. Клубам законна ганарылася школа. Дзеля таго каб мець такое цудоўнае памяшканне, прыйшлося ахвяраваць двума сумежнымі класамі. Разабралі сцяну, якая падзяляла класы, і атрымаўся цудоўны клуб, які рэдка калі пуставаў па вечарах. Я ўжо казаў, што наша школа была ўзорнай, а гэта да многага абавязвала. Мы не прапускалі ніводнай каляндарнай даты, не адзначыўшы яе сходам, дакладам, дыспутам і вельмі часта — паказам мастацкай самадзейнасці. Калі я сёння ўспамінаю школу, у маіх вачах паўстае вобраз майго сябра Петруся. Ён быў тады маім богам і маім сумленнем, і — не буду таіцца — я часамі быў закаханы ў яго, як можна быць закаханым у самую цудоўную дзяўчыну. У гэтым рухавым, невысокім і не надта дужым на выгляд хлопцы таілася нейкая магутная энергія. Пятрусь быў нашым нязменным дакладчыкам, арганізатарам, застрэльшчыкам. Яго хапала на ўсё: на тое, каб выступіць у дыспуце, сыграць галоўную ролю ў аднаактоўцы, уцягнуць у асавіяхімаўскі гурток новых членаў. Ён сёння мог зрабіць самае шырокае паведамленне аб сінтэзе штучнага бялка, а назаўтра прачытаць даклад аб матывах рэвалюцыі ў паэзіі Блока. Ён быў вельмі здольны, Пятрусь Цімашэнка, і, безумоўна, ведаў аб гэтым сам. У той час і настаўнікі, і мы, яго сябры, прарочылі Петрусю вялікую будучыню.



Нас было чацвёра дружбакоў, як у рамане французскага пісьменніка Дзюма пра мушкецёраў. Петруся мы называлі Атосам. Яго праніклівы розум даваў поўную падставу для такога прозвішча. Рослы і добры характарам, Грыша Паяльнік быў адзінадушна прызнаны Партосам. Ён зусім не займаўся фізкультурай, але быў намнога дужэйшы за кожнага з нас. Мікола Забалоцкі і я па чарзе называліся то д'Артаньянам, то Арамісам. Што датычыць мяне, то я не валодаў ні бясстрашшам і адвагай д'Артаньяна, ні хітрасцю Араміса. Найбольш хітрым з нашай чацвёркі быў, вядома, Мікола Забалоцкі. Ён заўсёды трымаўся крыху на водшыбе і, акрамя нас, меў яшчэ многа сяброў.

Называлі мы сябе мушкецёрамі, калі вучыліся ў шостым класе, а калі былі вучнямі дзевятага, то ўжо злёгку пакеплівалі са свайго былога мушкецёрства. Вернымі Петрусю засталіся Грыша Паяльнік і я. Мы давалі адзін другому ўсе рэдкія кнігі, якія хто-небудзь з нас даставаў, не мелі адзін перад другім ніякіх сакрэтаў. Мікола Забалоцкі хоць і не рваў з намі сяброўства, але часта гуляў у хованкі. Ён мог цішком ад нас прачытаць якую-небудзь кнігу і прызнацца аб гэтым праз месяц, мог па цэлым тыдні не прыходзіць да Петруся. Яшчэ ў дзевятым класе Мікола пачаў увіхацца за дзяўчатамі. Вучыўся ён горш за кожнага з нас, але на заляцанні быў вельмі дасціпны. З яго жартаў смяяліся нават тыя дзяўчаты, якіх мы лічылі вельмі разумнымі і гордымі. Міколу мы за вочы асуджалі і пасмейваліся з яго заляцанняў.

Калі гаварыць пра нас, чатырох, то ніхто, акрамя Петруся, не можа быць сапраўдным героем гэтага апавядання. Мы ўтраіх не мелі нават палавіны тых якасцей, якімі валодаў наш сябар, і, мабыць, па гэтай прычыне мы так моцна цягнуліся да яго.

Успамінаючы тыя далёкія дні, я часта думаю пра майго сябра, як пра чалавека. Якія сілы бушавалі ў яго сэрцы, якой пуцяводнай зоркай кіраваўся ён у жыцці? Мне цяжка адказаць цяпер на гэта, ніколькі не паграшыўшы супраць праўды. У адным толькі я пераконан цалкам і поўнасцю: Пятрусь не быў верхаглядам, хвальком або выскачкай. Прырода ў збытку адпусціла яму энергіі і здольнасцей, а гэта, узятае разам, як нельга лепш пасавалася да нашага шумлівага школьнага жыцця. Пятрусь быў нашым школьным кумірам, і быў ён ім па праву...

На першамайскай і кастрычніцкай дэманстрацыях Пятрусь нёс сцяг нашай дзесяцігодкі, ад імя вучняў ён выступаў з трыбуны перад усім мястэчкам. Там, на трыбуне, ён стаяў побач з сакратаром райкома, старшынёй райвыканкома і дырэктарам шпаларэзнага завода. Петруся ніколькі не палохала, што на яго глядзяць сотні цікаўных, дапытлівых вачэй. Сябар смела трымаў сваю звонкую прамову і заўжды ва ўзнагароду атрымліваў самыя дружныя апладысменты. Ні Грыша Паяльнік, ні я, ні тым болей Мікола Забалоцкі такога б ніколі не змаглі...

І яшчэ адна маленькая дэталь, без якой партрэт Петруся, здаецца, будзе не поўны. У нашым мястэчку было тры бібліятэкі, і мой сябар запісаўся ў кожную з іх. Ён многа чытаў, нават вельмі многа. Проста цяжка было ўявіць, калі ён паспявае рыхтавацца да ўрокаў, шматлікіх дакладаў, дыспутаў і адначасова столькі чытаць. Пятрусь вёў падрабязны канспект прачытаных кніг. Я не раз трымаў гэты канспект у руках — таўшчэзны самаробны сшытак у цвёрдай вокладцы. У ім, калі не памыляюся, было запісана пяцьсот ці шэсцьсот назваў розных кніг. Не ведаю

чаму, але гэты канспект мне не падабаўся. Хачу быць шчырым: я не зайздросціў Петрусю, хоць сам прачытаў значна менш за яго. Мой таварыш запісваў у свой тоўсты сшытак кароткі змест кожнай кнігі, падкрэсліваючы чырвонай рыскай самае галоўнае. Вось гэтае падкрэсліванне мне, мабыць, і не падабалася. Сам я не вельмі памятаў герояў з тых кніг, якія даводзілася прачытаць, забываў іншы раз нават прозвішча аўтара. Але з кожнай добрай кнігі мне нешта запаміналася. І тое, што я памятаў, іншы раз нават цяжка было выказаць словамі — гэта было толькі пачуццё, якое валодала мной у час чытання кнігі. Пра свае ж пачуцці Пятрусь ніколі не пісаў у тоўстым сшытку з цвёрдымі кардоннымі вокладкамі.

Мы, Петрусёвы сябры, амаль штодня бывалі ў доме Цімашэнкаў. Іхняя хата стаяла недалёка ад маёй: звычайная сялянская хата, пабудаваная ўжо ў савецкі час, таму прасторная і прыветлівая. За Петрусёвым агародам пачыналася сенажаць, а далей сасновы бор — самае любімае месца нашага дзяцінства. У лес мы хадзілі па ягады і па грыбы. Калі яшчэ не было грыбоў, часта наведвалі бор проста так — ганялі вавёрак і кідаліся сасновымі шышкамі.

Петрусёў бацька працаваў у калгасе старшым конюхам, і жылі Цімашэнкі добра, нягледзячы на тое, што ў іх была вялікая сям'я і едакоў хапала. Як цяпер бачу Ігната Дзянісавіча, Петрусёвага бацьку. Ён быў дужы і рослы і меў надзвычай вясёлы нораў. Стары Цімашэнка вельмі ганарыўся сваім Петрусём.

— У каго ён пайшоў, проста розуму не дабяру, — гаварыў ён пра сына. — Здаецца, у нашай радні нікога такога галавастага не было. Можа хіба ў дзядзьку Кузьму ўдаўся: той яшчэ за царом выбіўся ў валасныя пісары. Башкавіты быў чалавек.

Пра царскага пісара дзядзьку Кузьму Пятрусь слухаць не хацеў і заўсёды перабіваў бацькаву гаворку.

Мы любілі хадзіць да Цімашэнкаў. У іх хаце заўсёды панаваў вясёлы тлум, і сумаваць там не прыходзілася. Пятрусь сапраўды быў выключэннем у сям'і. Ён ведаў адно: кнігу і свае грамадскія абавязкі, якіх у яго было вельмі многа.

Чамусьці ўспамінаецца адзін выпадак. Неяк вечарам у нядзельны зімовы дзень мы з Грышам сядзелі ў Петрусёвай хаце і гулялі ў шашкі. Пятрусь, абклаўшыся газетамі і часопісамі, пісаў даклад: меціўся нейкі чарговы дыспут. У хату раптам зайшоў Ігнат Дзянісавіч і ў нерашучасці спыніўся перад сталом.

— Параконку я захваціў, ледзь упрасіў старшыню,— нейкім вінаватым голасам сказаў ён. — Можа б ты трохі падсабіў, Пеця. Сена ж выйшла зусім, карова сцены грызе.

Ехаць па сена Пятрусь згадзіўся. Але ён захапіў з сабой і кнігу.

— Навошта яна табе?— здзівіўся бацька.

— Буду чытаць па дарозе. Заўтра ж дыспут...

Калі гаварыць праўду, то я крыху зайздросціў Петрусю: бацька не толькі любіў яго, а і паважаў. Вечарамі на лавачцы перад Петрусёвай хатай часта збіраліся мужчыны, і Ігнат Дзянісавіч расказваў пра сына на людзях. Вочы яго ззялі пры гэтым непаддзельным бацькоўскім гонарам. Стары каваль Вавіла, які жыў паблізу ад нас і дзеці якога даўно паразляталіся з роднага гнязда, пераадольваючы зацяты кашаль, у такія хвіліны гаварыў:



— Дзеці дзецьмі і застануцца, у іх свая дарога. За іх душой хварэеш, корміш, а як падрастуць, то бацька болей не трэба. Напіша ліст, і за тое дзякуй. Цяперашнія дзеці на бацькоў не глядзяць, і такога жыцця, як было наша, не хочуць...

Петрусёў бацька не згаджаўся са старым Вавілам. Ён менавіта тым і ганарыўся, што яго Пятрусь не падобны на яго самога. Не раз даводзілася чуць, як, жартуючы, вызначаў ён жыццёвую дарогу сваіх дзяцей.

— Алёшу я перадам сваю пугу і лейцы,— падміргваючы, гаварыў Ігнат Дзянісавіч.— Да навукі ён не вельмі здатны, але конюху лішняя навука і не патрэбна. Ведай сабе «тпру» ды «но», і хопіць...

— Я на шафёра навучуся, — заяўляў пакрыўджаны Алёша. — Вашых коней хутка зусім не будзе, адны машыны застануцца...

— У шафёры цябе не прымуць,—падколваў меншага сына бацька.— Каб шафёрам стаць, трэба хоць сямігодку скончыць. А ты хіба яе скончыш? У трэцім класе два гады сядзеў, у чацвёртым зноў другагоднік. Да сівых валос можа і скончыш сем класаў. Пятрусь толькі на тры гады старэй за цябе, а ўжо, бачыш, у дзевятым...

Пакрыўджаны Алёша, шморгаючы носам, адыходзіў убок. Ён не раз меў такія праборкі ад бацькі, але яго поспехі ў вучобе ад гэтага не паляпшаліся. У тым, што шафёру трэба абавязкова скончыць сем класаў, меншы Петрусёў брат, відаць, моцна сумняваўся і пагэтаму на навуку асабліва не налягаў.

Янку і Стасі, якія разам хадзілі ў другі клас і сваіх сімпатый да будучых прафесій яшчэ цалкам не выявілі, Ігнат Дзянісавіч таксама прадугледзеў жыццёвы занятак.

— Янка ў мяне будзе садоўнікам,— атэставаў трэцяга сына Ігнат Дзянісавіч. — Ён вельмі любіць яблыкі. Праўда, ён іх цяпер пакуль што крадзе, але як вырасце, то красці перастане і будзе есці свае. Праўда, Янка?

Белагаловы Янка, якога аднойчы злавіў у сваім садзе каваль Вавіла, ад такой характарыстыкі ледзь не плакаў. Той выпадак, калі хлопец залез у сад старога каваля, можна было даўно забыць: тады ж Янка яшчэ зусім не хадзіў у школу. Але бацька аб гэтым не забываў...

Стасі Ігнат Дзянісавіч прарочыў быць настаўніцай, і дзяўчынка аж чырванела ад задавальнення. Яна, паміж іншым, вучылася ў адным класе з Янкам і заўсёды дакладвала бацьку аб усіх выбрыках брата.

Пяцігадовая Ліда наконт будучай прафесіі наводзіла спраўкі сама. Перавальваючыся на сваіх ножках, якія былі выгнуты, як абады, яна падыходзіла да бацькі, узлазіла яму на калені і пыталася:

— А кім я буду, тата?

— Цябе я аддам замуж, донька,— гаварыў бацька, цалуючы дачку.— Будзеш глядзець нас з маці, калі мы састарымся...

— Я хацу за Сялгея.

— Можна і за Сяргея, ён кавалер хвацкі...

Сяргея, сына цімашэнкавых суседзяў, часцей за ўсё можна было бачыць у канаве ля хаты, дзе ён разам з Лідай ляпіў з зямлі аладкі і бліны. Характар у гэтага хлопца быў, відаць, памяркоўны, бо ён ні разу не падняў рукі на Ліду, нягледзячы на сваю мужчынскую перавагу. Быў,

праўда, у хлопца адзін хіб: ён дужа не любіў сваёй ніжняй адзежыны і выбягаў у летнія дні на вуліцу ў адной доўгай сарочцы.

Гаворка пра будучыя жыццёвыя дарогі літомцаў Ігната Дзянісавіча звычайна канчалася на Петрусю. Яго шанавалі ў сям'і не толькі бацька і маці, але і меншыя Петрусёвы браты і сёстры. Ён ішоў нейкім сваім адменным шляхам, упарта адстойваючы сваю незалежнасць ад розных будзённых спраў. З гэтым усе прымірыліся, бо Пятрусь не быў гультаём. Ён ні разу за ўсе гады вучобы не прынёс у дзённіку не тое што двойкі, а нават звычайнай тройкі і сваім аўтарытэтам проста абяззбройваў меншых шкаляроў, для якіх суцэльныя пяцёркі былі нейкім недасяжным ідэалам. Петруся і ў сям'і лічылі героем. Стася, шчаслівая ад таго, што бацька наканаваў ёй быць настаўніцай, пыталася:

— А наш Пятрусь кім будзе, тата?

— Наш Пятрусь будзе там,— і Ігнат Дзянісавіч уздымаў палец угору, паказваючы гэтым самым, што яго сын дасягне нейкіх незвычайных жыццёвых вышынь.

Ён ганарыўся Петрусём, гэты просты, працавіты чалавек, які еў хлеб з сваіх мазольных рук і які жадаў сваім дзецям лепшай будучыні...

Быў у сям'і Цімашэнкаў яшчэ адзін чалавек, пра якога ніколі не ўспаміналі, калі ішла няхай сабе паўжартаўлівая гаворка пра тое, хто кім будзе. У вузкім прамежку паміж грубкай і сцяной стаяла плеценая калыска. У ёй, не ўстаючы ад нараджэння, ляжала самая меншая дачка — трохгадовая Сцёпа. У Сцёпы былі ясныя, як нябесны блакіт, вочы, надзвычай прыгожы твар і непамерна вялікая, недзіцячая галава. Дзіцё нарадзілася з хваробай, якую ніхто не мог вылечыць...

Перабіраючы ў памяці ўсё, што мела хоць якое-небудзь дачыненне да майго сябра, не магу не расказаць пра адзін выпадак з тых далёкіх, авеяных подыхам ранняга юнацтва дзён. У камсамол мы ўступілі яшчэ ў восьмым класе, а калі ўжо былі ў дзевятым, райком камсамола даваў нам іншы раз даручэнні не толькі па школьнай лініі. Памятаю, той апошняй перадваеннай зімой нас паслалі наладзіць выпуск насценгазеты ў нашым калгасе. У брыгаду, накіраваную на помач калгаснаму актыву, уваходзілі два дзесяцікласнікі і мы з Петрусём. Старшым у брыгадзе быў Пятрусь. Газету мы выпусцілі добрую: з малюнкамі, карыкатурамі і нават вершамі. Мы пастараліся паказаць дасягненні калгаса, не абмінулі недахопаў. Пятрусь жорстка раскрытыкаваў парадкі з выкарыстаннем цяглавай сілы. Ён не паглядзеў на тое, што старшым конюхам працаваў яго бацька. У той заметцы, якую Пятрусь напісаў сам, Ігнату Цімашэнку папала бадай болей, чым каму-небудзь другому...

Ігнат Дзянісавіч пасля гэтага доўга жартаваў:

— І гэта называецца сын, — гаварыў ён, стараючыся надаць свайму голасу суровасць. — З роднага бацькі пры ўсім народзе зняў штаны і адсцябаў. Во, які цяпер свет пайшоў. Чакай ад дзяцей дабра.

Пры гэтым вочы Петрусёвага бацькі ззялі непадддзельным гонарам і захапленнем. Усё-такі толькі ў яго аднаго быў такі адметны, такі разумны і смелы сын...

## II

Той чэрвеньскі дзень запаў мне ў памяць на ўсё жыццё. Я і сёння памятаю яго да малюткіх дробязей. Ён быў сонечны, ціхі, лагодны, гэты звычайны чэрвеньскі дзень. Зранку на кірмаш, які заўсёды бываў у нашым мястэчку па нядзелях, цягнуліся падводы з навакольных калгасаў. Вішчэлі на вазах звязаныя парсюкі, гергеталі гусі. З сенажаці несла церпкім водарам скіданага ў акопы мурагу. З каміноў хат, не спяшаючыся, падымаліся шызаватыя дымкі і нябачна раставалі ў сінім, бязвоблачным небе.



Заняткі ў нас скончыліся. Мы былі пераведзены ўжо ў дзесяты клас, і ад гэтага на душы было і радасна і трывожна. Вучыцца заставалася адзін толькі год. А там — бывай родная школа, зялёная мястэчковая вуліца, цёплая бацькоўская хата! Новы, невядомы свет, у які нам трэба было ступіць, вабіў сваімі таямнічымі неакрэсленымі далямі і сваімі неразгаданымі радасцямі. Вабіў і трошкі палохаў. Як сустрэне гарадское, інстытуцкае жыццё нас, простых мястэчковых хлопцаў?

Пятрусь ужо зрабіў свой выбар. Ён збіраўся паступаць толькі ва ўніверсітэт, на гістарычны факультэт. Ён любіў разважаць філасофскімі катэгорыямі, тасуючы цэлыя стагоддзі і эпохі, нібы спрытны ігрок калоду карт. Я адчуваў, што Пятрусь абраў свой шлях правільна. Яго натура не мірылася з дробязным, звычайным, будзённым, ён заўсёды разважаў так, нібы ад яго аднаго залежаў будучы лёс усяго чалавецтва.

Грыша Паяльнік наважыў падавацца ў політэхнічны інстытут. Яго нахіл да тэхнікі праявіўся цалкам. Маўклівы па натуры, ён мог цэлы дзень корпацца ў механізме гадзінніка або перакладваць з месца на месца розныя гаечкі і вінцікі. Мікола Забалоцкі хітрыў і ніколі не гаварыў, куды ён думае прабівацца.

Мае сімпатыі да будучай прафесіі яшчэ цалкам не акрэсліліся. Іншы раз мне хацелася вывучыцца на ляснічага, садзіць сосны і бярозы, слухаць спеў звонкіх лясных птушак. На другі дзень я ўжо аддаваў перавагу вандроўнаму занятку геолагаў, і яны мне здаваліся самымі значнымі людзьмі на зямлі. Гэтая супярэчнасць нараджала ў душы пякельны неспакой, таму я ніколі нікому не прызнаваўся ў сваіх намерах адносна будучай вучобы.

У той памятны дзень мы пайшлі з Петрусём на кірмаш. Чаму іменна на кірмаш, пра гэта я не магу сказаць пэўна нават сёння. Купляць мы нічога не збіраліся, парсюкі, кадкі, гліняныя гаршкі, якімі гандлявалі там у нядзельны дзень, нас зусім не цікавілі. Проста, мабыць, хацелася пацерціся між людзей, паслухаць пявучую вясковую гаворку, ад якой мы пачалі ўжо парадкам адвыкаць за дзевяць гадоў навучання ў школе. Пасля мы збіраліся наведаць Грышу Паяльніка, які жыў ля станцыі.

На кірмашы мы спыніліся ля лерніка. Сляпы стары круціў ручку свайго немудрашчага інструмента і пад аднастайны акампанемент леры нечакана звонкім, маладым голасам спяваў старадаўнюю песню. Памятаю, што гэтая песня была зусім не сумнай. Вакол старца сабраўся натоўп. У музыкаву шапку з цвёрдым мікалаеўскім казырком расчуленыя кабеты раз-по-раз кідалі медзякі і грыўні, нейкі вайсковец асцярожна паклаў, нагнуўшыся, скамечаную ў потных руках пяцёрку, а сляпы ў расхрыстанай шэрай світцы, не зважаючы на гэтыя шчодрыя дары, круціў ручку сваёй леры і спяваў на дзіва прыгожым голасам...

І раптам шматгалосы кірмаш анямеў. З рэпрадуктара, падвешанага на высокім слупе, які стаяў пасярэдзіне пыльнай кірмашовай плошчы, пачуліся нязвычныя сваёй суровасцю і важкасцю словы. Не ўсе яшчэ дайшлі да сэнсу гэтых слоў, але агульны гіпноз за якія-небудзь лічаныя хвіліны ахапіў усю шырокую кірмашовую плошчу. І толькі цягучыя гукі

леры і звонкі голас сляпога музыкі яшчэ некалькі імгненняў панавалі над прыціхшым натоўпам. Але хутка і яны сціхлі.

А з рэпрадуктара на галовы людзей падалі важкія, нібы каменні, словы...

Мы з Петрусём стаялі поруч і, затаіўшы дыханне, слухалі радыё. У маёй галаве не было ніякіх думак. Толькі недзе ў глыбіні душы нарастала трывожнае, неасвядомленае пачуццё. Твар майго сябра быў засяроджаны і суровы. Здавалася, што ў гэтую хвіліну ён рашае нейкую цяжкую задачу. Голасна, з надрывам залемантавала жанчына, на другім канцы кірмаша адгукнулася другая, і натоўп заварушыўся. Я бачыў, як малады лейтэнант раптам пачаў абмацваць нагрудныя кішэні і, выцягнуўшы з правай нейкую паперку, локцямі расштурхаў натоўп і подбегам пашыбаваў па вуліцы.

— Вайна, — сказаў мне Пятрусь. — Цяпер фашызм будзе знішчан. Пайшлі ў райком...

— Можа зойдзем па Грышу, — прапанаваў я.

— Некалі, — адмовіўся Пятрусь. — Ды ён, такое цялё, пакуль усё абдумае...

Людзі разыходзіліся з кірмаша. Мужчын вялі пад рукі жанчыны, якія плакалі і, здаецца, хацелі замарудзіць крок. На самым ускрайку кірмашовай плошчы, там, дзе расставілі свой тавар ганчары, мы ўбачылі нешта незвычайнае. Малады, высокі ганчар, які толькі што прадаваў гаршкі, макітры і гладышыкі, выцягнуўшы з воза аглоблю, малаціў ёю сваю гліняную прадукцыю.

Нехта смяяўся, нехта пляскаў будучаму воіну ў далоні...

Пятрусь быў цяпер ва ўзбуджаным, прыўзнятым настроі. Ён маляваў мне карціны вайсковых аперацый, выказваў смелыя стратэгічныя прагнозы, і я толькі дзівіўся: адкуль ён усё гэта ведае?

У райкоме камсамола стаяў шматгалосы тлум. Невялічкі пакой райкома быў шчыльна забіты моладдзю.

— Без панікі, таварышы! — крычаў сакратар, нядаўні брыгадзір трактарнай брыгады з медалем «За працоўную доблесць» на лацкане пінжака. — Ніякіх дырэктыў пакуль што няма. Значкісты ППХА — у райсавет Асавіяхіма, там арганізоўваюцца супрацьхімічныя дружыны...

Зазваніў тэлефон, і сакратар падняў трубку.

— Ваенкамат просіць дзесяць чалавек пісаць і разносіць позвы, — сказаў ён і, заўважыўшы Петруся, загадаў: — Цімашэнка, набірай каманду! Пад тваю асабістую адказнасць...

У сваю каманду Пятрусь, вядома, залічыў і мяне. Мы, пастроіўшыся па два, рушылі ў ваенкамат. Мы ішлі гордыя і рашучыя, бо выконвалі, па сутнасці, вайсковае заданне. Па дарозе Пятрусь мне шапнуў:

— Можа ўпросім ваенкома, каб запісаў добраахвотнікамі. Скажам, што нам па семнаццаць гадоў.

Але ні ўпрошваць ваенкома, ні нават выпісваць позвы нам не прышлося. За сталамі ваенкамата ўжо сядзелі другія людзі і пісалі гэтыя самыя позвы. Нам загадалі пачакаць, і мы можа цэлую гадзіну ляжалі ў садку на мураве, наглядаючы, як імкліва напаўняецца ваенкаматаўскі двор тымі, хто прышоў на прызыў.



— У самой Германіі падымецца рабочы клас, — разважаў Пятрусь. — Хіба ж нямецкія рабочыя пойдуць ваяваць супраць нашых рабочых? Ніколі не пойдуць. Там жа, у Германіі, нарадзіліся Маркс і Энгельс...

Пятрусь гаварыў хораша і складна. Я шчыра ганарыўся перад хлопцамі, якія ляжалі разам з намі ў садку, што ў мяне такі разумны і баявы сябар. Водбліск Петрусёвага розуму і дасціпнасці клаўся і на мяне, бо хлопцы ведалі, што Цімашэнка са мной дружыць.

Мне на ўсё жыццё запомніўся той ваенкаматаўскі садок. Мірна і ціха шасцелі лісцем старыя яблыні, на якіх паявілася ўжо завязь, у траве бесклапотна скакалі конікі, па-звычайнаму ціўкалі кашлатыя вераб'і, а недзе там ля Брэста ішла вайна. Яе подых адчуўся з першага дня і тут, у нашым мястэчку. На плошчы перад райвыканкомам грымеў рэпрадуктар: па радыё перадавалі маршы і ваенныя песні. Сюды, на ваенкаматаўскі двор, валам валілі людзі з куфэркамі, з торбамі за плячыма. Захліпаўся гармонік, і, заглушаючы яго далікатны голас, надрываліся ў песнях прызыўнікі. Мне іх песні не здаліся вясёлымі. І можа таму, пасля першых гадзін узбуджэння, на душы ў мяне стала трывожна і маркотна. Я прачытаў многа кніг пра розныя войны, і мне падабалася ўсё, што там пісалася. Але, мабыць, чытаў я гэтыя кнігі з затоенай надзеяй, што на маім вяку войнаў не будзе...

Пад вечар ужо нізенькі маёр паклікаў нас у адзін з ваенкаматаўскіх кабінетаў і, спытаўшыся, хто з якой вуліцы, выдаў пад распіску па стусу позваў. У Петрусёвым пачку была позва яго бацьку.

Майму бацьку не трэба было ісці на вайну, ён не належаў ужо да прызыўнога ўзросту, і я назаўтра падаўся да Петруся, каб правесці на фронт яго бацьку. Там я ўбачыў малюнак, пра які цяжка расказаць. Цімашэнкава сям'я плакала, не плакалі толькі Пятрусь і маці. Ігнат Дзянісавіч ужо сабраўся, напакаваная торба ляжала на табурэтцы, але ў яго, відаць, не ставала сілы развітацца з сям'ёю.

Белагаловая Ліда цёрлася аб бацькавы калені і, відаць, зусім не думаючы пра развітанне, нешта канючыла сваім тонкім дзіцячым галаском. Трынаццацігадовы Алёша глытаў буйныя, як ў бабра, слёзы, а Янка і Стася лемантавалі на ўвесь голас. Сцёпа плакала таксама. Яе плеценую калыску выцягнулі з-за печкі, і, абклаўшы падушкамі, пасадзілі між імі дзяўчынку, каб яна бачыла бацьку. На вялікую, недзіцячую галаву Сцёпы, у яе затуманеныя слязьмі вочы цяжка было глядзець.

Пятрусь трымаўся мужна, выраз яго твару быў суровы і нават злосны. А маці моўчкі прышывала гузік на сарочцы Ігната Дзянісавіча. Яна, мабыць, выплакала свае слёзы за ноч, і вочы яе былі сухія і страшныя... Я памятаю, як страшна, па-жаночаму, загаласіў Ігнат Дзянісавіч, адрываючы ад сябе Янку, Стасю і Ліду, як кінулася яму на шыю Петрусёва маці, як Пятрусь, не вытрымаўшы, выскачыў з хаты... Нібы цяпер, бачу Петрусёвага бацьку на станцыі, дзе ён, ужо спакойны і разважлівы, развітваўся са старэйшым сынам, які адзін з усёй сям'і праводзіў яго.

— Глядзі дзяцей і маці, сынок, — сказаў Ігнат Дзянісавіч, пацалаваўшы Петруся. — Перарвалася твая вучоба, але вайна, можа, доўга не працягнецца. Ты старэйшы, на цябе ўвесь клопат ляжа...

На станцыю падагналі эшалон, раздалася зычная каманда садзіцца па вагонах.

аселі і пачарнелі гурбы снегу ля аселіц, па-над ракой, яшчэ закутай у тоўсты лёд, запушылася вярба, заспявалі сініцы-лазараўкі, пераскокваючы з галінкі на галінку, яны звінелі весела і галасіста:

— Пілі-клінь. Плінь-клінь. Пілі-пілі, клінь-клінь.

А сонейка з кожным днём прыгравала ўсё мацней і мацней, падоўгу затрымліваючыся на небасхіле. На высокіх пагорках, якія паспелі вызваліцца ад зімовага палону, ужо з'явіліся чорныя, як вугаль, шапкі. Птушкам было холадна. З раніцы яны грэліся на чорных праталінах, шукаючы штосьці ў пажоўклай мінулагодняй траве. Толькі апоўдні, калі паветра рабілася зусім цёплым, яны ляцелі аглядаць свае старыя хаткі, што былі пакінуты ўвосень.

Першым прыкмеціў шпакоў Тарас Красантовіч. Ён меў незвычайную схільнасць да птушак, але з усяго птаства больш за ўсё любіў шпакоў. Калі будаўнікі яго брыгады прыселі перакурыць, ён узяў некалькі дошчачак і пачаў нешта вычэрчваць на іх чырвоным алоўкам. На адным з іх намаляваў колца і ўзяўся долатам выбіраць дзірачку. Будаўнікі здагадаліся: шпакоўніца!

— Яна,— пацвердзіў Тарас.— Шпакам новую хату пастаўлю.

Да шпакоўніцы ён прыбіў жардзінку і павесіў яе на таполі. Дамок адразу прывабіў шпакоў. Паскакаўшы па ружаватых галінках, яны бясстрашна, з гаспадарчай руплівасцю ўзяліся аглядаць сваю кватэру. Тарас, закінуўшы галаву, з цікавасцю сачыў за птушыным клопатам. За гэтым заняткам яго і застаў Пятрусь Крыніца. Голасна прывітаўся.

— Ш-шшш! — паказаў Тарас на таполю.— Спалохаеш!

На новай шпакоўніцы сядзеў шпак — чорны, бліскучы. Ён пазганяў усіх сваіх прыяцеляў, з якімі толькі што аглядаў дамок, і цяпер распраўляў дзюбай крылы, трохі змятыя ў сварцы. Скончыўшы гэты занятак, шпак нахіліў галаву, паглядзеў на людзей і шчоўкнуў некалькі разоў, быццам вопытны музыка правяраў свой інструмент. Спробай той ён застаўся, відаць, задаволены і заспяваў, засвістаў на ўвесь голас, прыгожа выцягваючыся на тонкіх чырвоных лапках. Чорная птушка блішчэла на сонейку і кідала ў неабсяжны блакітны прасцяг цудоўную песню вясны.

Тарас усміхнуўся, пахваліў спевака і звярнуўся да Крыніцы, што стаяў і таксама глядзеў на таполю:

— Добра, што прышоў. Хадзем, інтэлігенцыя, пакажу, што працоўны народ робіць.

— Якая я табе інтэлігенцыя,— хмура адмахнуўся ад яго Крыніца.— Казаў прыду — вось і прышоў. Параіцца хачу...

Такое абяцанне Пятрусь даў раней, калі Тарас завітаў да яго ў госці. Яны сядзелі тады ўдваіх. Нэля пайшла да маці. Гаворка перакінулася на асабістыя справы, і Крыніца, размаўляючы з Тарасам, упершыню падумаў, што недзе ён зрабіў памылку, але якую і дзе — не ведаў.

Жыццё паварочвалася да яго сваім суровым бокам. Грошы, што ён прывёз пасля шпіталю, амаль усе былі зрасходаваны. У канцы зімы ён некаторы час працаваў кантралёрам у гарадскім клубе, але гэтую працу прышлося кінуць: Нэлі не падабалася, што яе муж стаіць пры дзвярах. Жончыны словы ў гэтай справе рашаючага значэння не мелі. Петрусю самому не падабалася тая праца. А за што ўзяцца цяпер? Да спадобы была лясная справа, якой займаўся да вайны бацька, але як прыстаць да яе? Адукацыі няма, спецыяльнасці няма. Трэба вучыцца. Сярэднюю школу да вайны ён не скончыў. Пайсці ў вячэрнюю? А далей? Не, трэба



ад вучобы пакуль што адмовіцца. Трэба працаваць, каб былі грошы. Ён жа муж, а скора будзе бацька. Зусім скора...

— Вось што,— рашуча сказаў Тарас, які назіраў за змрочнымі ценямі, што праплывалі па твары Петруся.— Давай разам падумаем, што табе рабіць. Прыходзь да мяне, параімся. Абяцаеш, што прыдзеш?

І вось сёння, пасля размовы ў гаркоме партыі, куды яго нечакана паклікалі, Пятрусь прышоў да Тараса на будоўлю.

Яны ішлі ўсцяж рыштаванняў, і Тарас паказваў рукой то ў адзін бок, то ў другі.

— Бачыш, як разгарнуліся! Летась са сваімі хлопцамі драўляныя дамы стаўляў, а цяпер — трохпавярховыя. Ды і машын на адной нашай будоўлі болей, чым тады было ва ўсім горадзе... А толькі ж год прайшоў!.. Ну, дык што табе ў гаркоме сказалі?

— Гаворка была простая,— адказаў Крыніца.— Пыталіся, ці не пайшоў бы я працаваць у зеленгас. Я кажу, што я ж не спецыяліст па гэтай справе. «Яно то так,— кажуць,— але дзе ж нам узяць тых спецыялістаў? Вось папрацуеш, а потым вучыцца пашлем, і будзе ў нас спецыяліст».

— Дык ты ж, канешне, згадзіўся?

— Не яшчэ... Прасіў крыху пачакаць. Падумаю...

— А чаго думаць? Калі хочаш праўду ведаць, дык і ў мяне з імі была гаворка пра тое ж самае...

— І гэта ведаю.

— А калі ведаеш, дык чаго цягнеш? — ніколькі не збянтэжыўся Тарас.— Будзеш сады закладваць, паркі. Па плану рэканструкцыі горада трэба пасадзіць пятнаццаць тысяч дрэў! Будаваць горад — не толькі цэглу класці...

Лагодная ўсмешка засвяцілася на Петрусёвым твары. «Слаўны ты чалавек, Тарас. Думаеш, што цяжка зразумець, чаму так заўзята падтрымліваеш прапанову гаркома? Клапоцішся пра маё здароўе, маўляў, там мне будзе лягчэй... Ну, што ж, дзякуй табе...»

А Тарас між тым працягваў:

— Твой жыццёвы шлях я так уяўляю: папрацуеш у зеленгасе, абвыкнешся, а потым — у інстытут. Па лясной справе!

— Але ж і летуценнік ты, Тарас!..

Тарас пакінуў вясёлую кпіну Крыніцы без увагі. Яго гаворка плыла роўна і спакойна. Так гаворыць чалавек, калі тое, пра што ідзе размова, прадумана ім і ёсць яго перакананне.

— Глядзі, што ў нас атрымліваецца. Скончыў чалавек дзесяцігодку — і хутчэй імкнецца паступіць у інстытут. Цягне яго туды ці не — усёроўна; маўляў, усе так робяць. Дык гэта ж добра, калі чалавеку падабаецца яго будучая работа. А калі не? Тады ён дыплом у кішэню і лынды б'е. На мой погляд, не так трэба рабіць. Будоўля, завод, калгас— вось хто павінен пасылаць у інстытут. Добра працуеш, калектыў табе верыць — калі ласка, бяры рэкамендацыю і едзь, вучыся. Пабачыш, некалі так і будзе.

Яны гаварылі і спрачаліся доўга. Потым Пятрусь, дачакаўшыся канца рабочага дня, правёў Тараса аж да самай Дзвіны. Парома ўжо не было — цераз раку быў пабудаваны часовы мост на пантонах. На беразе ляжалі непрыбраныя пасля будаўніцтва дошкі, бярвенне.

Тарас з Петрусём спыніліся ля маста.

— Глядзі, Пятрусь... Бачыш — Дзвіна. Голыя берагі. А мы ж насадзім тут дрэвы, зробім прыгожыя паркі. Таполі, клёны... І яблынь насадзім. А што? Наш чалавек павінен жыць прыгожа. Вясной дрэвы зацвітуць, рака разліецца шырока-шырока... Хораша! І людзі будуць прыходзіць сюды адпачываць...

Задуменна і павольна плыла ўнізе Дзвіна. Маленькія хвалі, пазалочаныя сонцам, набягалі на берагі, разбіваліся ў прыбярэжных каменнях, і вада, сцякаючы з іх, ціха цурчэла і плёскалася. Здавалася, што рака, здзіўлена цмокаючы, прыслухоўвалася да таго, пра што гаварылі гэтыя два летуценнікі, за плячыма якіх ляжаў разбураны, у руінах і папялішчах горад.

Пятрусь вяртаўся дахаты на змярканні. На папялішчах, над комінамі, складзенымі з абгарэлай цэглы ці састаўленымі са старых вёдзер без донцаў, узнімаліся тонкія струменьчыкі дыму: шмат людзей жыло яшчэ ў зямлянках і сутарэннях, і звычайна ў такі час яны палілі ў печах, таксама складзеных з чорных, закопчаных цаглін.

Ля зямлянкі, пабудаванай на рагу вуліцы, Пятрусь убачыў жанчыну. Побач з ёю быў маленькі белагаловы хлопчык. Жанчына абгароджвала пабітай цэглай танклявы клёнік, відаць, нядаўна пасаджаны.

— Сад гадуем?

— Які тут сад, — жанчына з худым тварам узняла на Крыніцу стомленыя вочы: — Клёнік на папялішчы знайшла. Няхай гадуецца. Усё ж дрэва...

Пятрусь спагадліва пагладзіў бялявую галоўку хлопчыка. Той спалохана зірнуў на яго і аберуч учапіўся за матчыну спадніцу.

Пятрусь зноў пакрочыў па вуліцы. І як толькі ён адышоўся ад зямлянкі, дзе жанчына з хлапчуком саджала маленькае дрэўца, рашыў цвёрда і канчаткова тое, чаго не мог рашыць увесь дзень: ісці працаваць у зеленгас.

З такім перакананнем, ад якога адразу зрабілася спакойна на душы, ён увайшоў у пакой. Нэля ўжо спала. Ён запаліў святло, захінуўшы лямпу газетай. Нэля спала, як дзяўчынка, падагнуўшы калені і склаўшы абедзве рукі пад правую шчаку. Хацеў пабудзіць яе, каб спытацца пра вячэру, але пашкадаваў: няхай спіць.

У ягонай душы ўвесь апошні час змагаліся два чалавекі: адзін кахаў і імкнуўся быць вясёлым, другі — гэта было тады, калі Крыніца заставаўся сам-на-сам,— сумаваў, пакутаваў ад таго, што жонка працуе, а ён нічога не робіць. Прыгадаў, як злавалася Нэля, калі ён пайшоў працаваць кантралёрам у клуб. Канешне, ёй было сорамна за яго перад сваімі сяброўкамі і знаёмымі: муж — такі здаровы мужчына — стаіць пры дзвярах і сморгае кантрольныя істужкі білетаў. Маці, праўда, нічога не казала. З вясны яна ўвогуле неяк адыйшлася ад іх — часта ездзіла на вёску да сваякоў. І цяпер паехала туды дапамагчы садзіць бульбу. Прыедзе — узрадуецца. Ды і чаму не парадавацца: праца не благая. Можна будзе і вучыцца адначасова.

Пятрусь сцягнуў з плеч гімнасцёрку, асцярожна скінуў боты і пайшоў на кухню мыцца. Плёскаў вадой у твар, націраў грудзі. Нават пачаў ціхенька насвістваць. Нэля прачнулася і, нічога не гаворачы, сачыла за тым, як ён уваходзіў у пакой, як расціраў ручніком схуднелае цела і глядзеўся ў люстэрка.



— Ты не знаходзіш, што гэта не вельмі далікатна для жанатага чалавека прыходзіць дадому ў такі час?

— Прабач, гэта я цябе разбудзіў...

Ён не адчуў іроніі ў Нэліных словах, прысеў ускрай ложка, пацалаваў яе і пачаў гаварыць усхвалявана і радасна пра тое, што думаў: як, урэшце, знойдзены цвёрды кірунак у жыцці. Цяпер ён ведае, чаму сумавала яго сэрца, чаго нехапала яму ў жыцці. Заўтра ён пойдзе ў зеленгас, заўтра, каб не спазніцца, ён адашле заяву ў лясны тэхнікум. Ён будзе працаваць, вучыцца. О, гэта будзе цудоўна! А што? Можа ён выведзе які новы гатунак?..

Ён гладзіў плечы Нэлі, разагрэтыя сном. Ад іх бруілася пяшчотная цеплыня, якая хвалявала яго, надавала марам смеласць і ўзнёсласць. Вось ён выведзе новы гатунак і дасць яму назву — Нэлін. Можа гэта будзе яблыня, можа груша, а можа проста дрэва. Не, лепш яблыня. Яблыкі будуць вялікія і смачныя, і кожны, пакаштаваўшы, скажа: «Які цудоўны гатунак!» Пятрусь уявіў сабе такі малюнак і моцна абняў жонку. Не, ён не будзе адкладваць. Заўтра ж — у зеленгас...

Нэля санліва пазяхнула:

— Пойдзе капацца ў зямлі ды яшчэ і радуецца...

— Дык што ж, як у зямлі... Дрэвы ж не растуць у паветры!

Пятрусь адчуў, што гаворыць ён гэта ўжо без натхнення, словы быццам бы і тыя, але ж яны ўжо без агню, без заўзятасці. «Нэля не ўхваліла мой намер. А можа я не так зразумеў?»

— Між іншым, кім ты туды пойдзеш? Брыгадзірам? А які ў брыгадзіра аклад? — пазяхаючы, запыталася Нэля і, даведаўшыся, што брыгадзір паркавай гаспадаркі атрымлівае пяцьсот рублёў, незадаволена працягнула: — Франтавіку ўжо добрай работы даць не могуць... Няхай бы хоць у якое кіно дырэктарам...

На століку, што стаяў пры ложку, Пятрусь убачыў зялёны кардонны карабок. Нэля заўважыла яго позірк, усміхнулася:

— Гэта вучні мне падаравалі... Сабралі грошы і...

— Навошта ж ты ўзяла? — перабіў Пятрусь.— Я ж табе казаў, што гэта нядобра...

— Ведала, іншага ты не скажаш!

Яна павярнулася тварам да сцяны і нацягнула коўдру на самы падбародак, быццам даючы зразумець, што на гэты конт яна выказалася да канца. Потым дадала яшчэ, не паварочваючы галавы:

— Вячэрай. Там у шафе паглядзі. Мне ўставаць цяжка...

— Не хвалюйся. Сам знайду. Ты ляжы!

Ён пацалаваў яе і пайшоў на кухню. Выцягнуў з печы чайнік, наліў шклянку астыўшага чаю і пачаў запіваць ім чэрствы хлеб. Зрабілася крыўдна, і сам не ведаў, за што. «Чаму ёй не падабаецца зеленгас? Гаворыць пра кіно, пра дырэктарства. А мяне туды на вяроўцы не зацягнеш. Кіно ёй падабаецца, а зеленгас — не. Чаму?..»

І раптам думкі яго пайшлі зусім у другім кірунку. Яны былі да смешнага простыя і прымусілі яго адкінуць падазроную недаверлівасць да жонкі. «Вось чалавек! Захацеў, каб яна радавалася з маіх невядома якіх планаў. Калі яшчэ тое будзе, а ёй не сёння-заўтра ў бальніцу. Эх, сапраўды нейкі я дзіўны...»

Гэтыя думкі канчаткова прымірылі яго з Нэляй і прымусілі забыцца на тое, як холадна сустрэла яна ягоную радасць.

## 15

Нэля нарадзіла сына ў сераду ўвечары. Увесь той дзень Пятрусь прасядзеў у прыёмным пакоі. Яго ўжо добра ведалі сёстры, ветліва раілі ісці дахаты і не хваляваццa. Ён выходзіў, павольна абходзіў кругом будынка і зноў вяртаўся, садзіўся і чакаў. У канцы дня вартаўнік — сівы мужчына з чырвоным тварам, сярдзіта сказаў:

— Ноччу тут быць забаронена...

Пятрусь паспрабаваў упрошваць яго, але той быў няўмольны.

Да позняй ночы Пятрусь блукаў па гораду. Схадзіў на замчышча і пасядзеў там крыху. Потым доўга стаяў ля свайго дома, глядзеў, як крочаць па вуліцы запозненыя прахожыя. У вокнах дамоў яшчэ свяціліся агні, было відно, як ходзяць па пакоях людзі, нешта робяць. І толькі ён адзін не ведаў, што яму рабіць. «Можа схадзіць да цёшчы? Нешта яе ўдзень не было ў бальніцы...»

Ён хутка дабраўся да вулачкі, дзе стаяла Марфіна хата. Дзверы былі зачынены, у вокнах не відаць было святла. Ён пастукаў у шыбу. Шкло адгукнулася глуха і доўга, нібыта звінела. Пастукаў яшчэ. Зарыпелі дзверы ў сенцах, прачыніліся, і Сцяпанаў голас глухавата прагучаў у цемры:

— Пятро? Габлюй сюды!

Крыніца ўвайшоў у хату і адразу ж адчуў, што Сцяпанавы рукі ляглі яму на плечы. Сцяпан гаварыў, дыхаючы яму проста ў твар, і здавалася, што ягоныя словы нацёрты цыбуляй.

— Віншую, от. Тэкля зараз прыбягала: Нэлька сына нарадзіла. Так што зараз мы з табой... Пачакай, пляшку знайду. Куды ж гэта яна паставіла?

Крыніца кінуўся да Сцяпана, адчуваючы невядомую раней ласкавасць да гэтага чалавека, і хацеў пацалаваць яго. Сцяпан закрактаў:

— Што ты, як баба! Пачакай, мы па-мужчынску адзначым...

Ён захінуў запалку далонямі і пайшоў да шафы. Маленькае дрыготкае полымя асвятляла яго бялізну і рабіла падобным на белы прывід.

— Ну, то я пабег, — спахапіўся Пятрусь і ўжо з парога ўдакладніў: — У бальніцу...

Сцяпан выбег амаль услед за ім на ганак, гукнуў:

— Пачакай! Во, трымай... За новага чалавека. Можа ён лепшы будзе за нас!

Крыніца выпіў, падзякаваў і наважыўся бегчы, але Сцяпан схапіў яго за руку і сказаў, ставячы бутэльку на ганак:

— Хто ж так ходзіць да парадзіхі! Хадзем хоць кветак нарвем...

Ён залез на сярэдзіну клумбы і поркаўся ў цемры. Нешта трашчэла пад яго нагамі, а голас быў вясёлы і трохі злосны:

— Мая мне галаву за іх сарве. Але ж... Па такому выпадку сцярплю, бо новы чалавек усё ж! Во, трымай! Тут і матузок нейкі ёсць!..

Кветкі былі вільготныя ад расы і халодныя. Толькі ў прыёмным пакоі, куды Пятрусь прыбег праз паўгадзіны, ён убачыў, што кветкі блакітныя, падобныя на лясныя ландышы. Сцяпан пазрэзваў іх нажом разам з доўгім зялёным лісцем.

Марфа таксама была тут. Яна ўважліва прыгледзелася да матузка, якім былі перавязаны кветкі, і войкнула:

— Дзе ты іх узяў?



— Да вас заходзіў. Сцяпан даў.

— Сця-паан! — Марфа ўспляснула рукамі.— Гэта ж ён усе пазрэзваў, нягоднік! — І ўчуўшы пах гарэлкі, працадзіла скрозь зубы. — І пілі? Нэля тут пакутуе, а яны гарэлку жлукцяць! І-іі, бессаромнікі!

На іх глядзела медсястра, і Петрусю было сапраўды сорамна. Ён пашкадаваў, што прызнаўся, дзе ўзяў кветкі. Але тут жа забыўся і пра кветкі і пра сваю няёмкасць. Іншае, дасюль яшчэ не знаёмае пачуццё напаўняла ўсю яго істоту — пачуццё бацькоўства.

## 16

У тэхнікум Пятрусь Крыніца не паступіў. Ён атрымаў ад дырэкцыі ліст, у якім паведамлялася, што яго дакументы былі дасланы з вялікім спазненнем. Пятрусь паклаў канверт у кішэню і выйшаў з канцылярыі зеленгаса ў калідор.

Ён уявіў сабе, як непрыемна ўразіць гэтая вестка Нэлю, і расхваляваўся.

У калідоры было шумліва—атрымоўвалі зарплату. Ён таксама падышоў да акенца. Касір — маленькі, хударлявы чалавек у непамерна вялікіх акулярах — падсунуў яму аркуш паперы і Пятрусь распісаўся. Глянуўшы на яго подпіс, касір аж за галаву хапіўся:

— Ай-яй-яй! Што ж вы нарабілі?..

— А што? — стрымана запытаўся Пятрусь.

Касір пажаваў губамі.

— Ды вы ж мне ведамасць сапсавалі. За дырэктара распісаліся...

Пятрусь пачырванеў. Крыху здрыганулася рука, калі ўзяў другі раз ведамасць. Подпіс атрымаўся няроўны і дужа закручасты.

Вышаўшы з канторы, ён спыніўся на ганку, думаючы пра ліст, што прышоў з тэхнікума. «Што ж цяпер рабіць?» — не давала спакою думка.

Да горада ціха і непрыкметна падкрадаўся вечар. Тапалі на вуліцы пацямнелі, і толькі лясы, што стаялі на даляглядзе, былі асветлены апошнімі праменнямі заходзячага сонца. «Трэба выбрацца з Нэляй туды ў нядзелю. У лесе прыгожа цяпер...»

На ганак выйшаў Сцяпан Мурзавецкі, паглядзеў на Петруся, прыплюшчыў вочы:

— Нешта ты дужа сумны сёння. З Нэлькай пасварыўся?

— Не, што вы! Мы не сварымся!

— А калі і пасварыліся — не зважай. Перамелецца... Пойдзем лепш па чарцы возьмем, на ўсё ліха забудзешся... Ды не бойся, жанчыны ведаць не будуць!..

— А можа не трэба?

— Табе што, чырвонца ў дзень палучкі шкада? Дык я заплачу... Мне з табою пагаварыць трэба...

З цесцем у Петруся склаліся нейкія дзіўныя адносіны. Пасля вяселля Нэлін вотчым толькі два разы заходзіў да іх. У зеленгасе яны сустракаліся, размаўлялі, але сапраўднай блізкасці не было: Сцяпан трымаўся, як чужы, нават падсмейваўся часам. Але цяпер ён здаўся Петрусю шчырым чалавекам.

— Тады хадзем да нас. Пасядзім. І чарка знойдзецца, — запрасіў ён цесця.

— От дзівак! — Сцяпанаў твар аж скрывіўся ад нецярплівасці.— Ды я не хачу, каб жанчыны назалялі...

Крыніца, насуперак жаданню, згадзіўся, баючыся, што цесць можа палічыць яго за скнару. Яны доўга шукалі, дзе можна было б выпіць. У зеленгасаўскай сталоўцы гарэлкі не было, а ў закусачных у той вечар панабівалася шмат людзей. Прыйшлося ісці ў рэстаран.

Пятрусь стаміўся за дзень. Ад чаркі гарэлкі ён адразу сп'янеў. Выпіць па другой адмовіўся.

— Не, досыць. Вы нешта меліся мне гаварыць?

— Ты ж спяшаешся, а гаворка ў мяне доўгая. Другім разам... Ідзі дахаты...

Пятрусь пайшоў адзін. Па дарозе яму раптам успомнілася, што яшчэ зранку ён дамовіўся пайсці з Нэляй сёння ўвечары ў кіно. Зірнуў на гадзіннік — было ўжо позна.

Нэля сустрэла яго строгім позіркам і кароткім пытаннем:

— Ну?!

— Трэба ж было... З тваім бацькам загаварыўся. Даруй, у кіно заўтра пойдзем, калі хочаш...

— Я ведала! — бровы Нэлі задрыжэлі і пухлыя губы надзьмуліся:— У-ууй, гарэлкай нясе!

І зноў коратка і злосна:

— Пілі?

— Кажу ж табе: з бацькам гаварылі. Ну, па чарцы і ўзялі. Ён нешта гаварыць мне збіраўся.

— Збіраўся, ды не сабраўся. Сцяпана я ведаю...

Яна хуценька апранула паліто і, гледзячы некуды ўбок, сказала:

— Да маці. Даведаюся, з якім ты Сцяпанам п'еш...

Петрусю захацелася пабегчы ўслед за Нэляй, давесці ёй, што яна дарэмна злуецца і што ён зусім не хацеў піць... Але на вуліцы думкі пайшлі ў другім напрамку. «Не паверыць...»

І ён вярнуўся ў пакой.

## 17

Восенню Нэля перайшла працаваць у новую школу — там патрэбен быў выкладчык біялогіі. Двухпавярховы школьны гмах быў адбудаваны нанава пасля вайны.

Настаўніцкі калектыў школы — пераважна маладыя спецыялісты, якія паканчалі інстытуты ў апошнія гады — быў вялікі, але сапраўдных сяброў у ім Нэля сабе не знайшла. Знешне, праўда, гэта ніяк не праяўлялася: з ёю ахвотна віталіся, вялі гаворку аб школьных справах, поспехах вучняў, але ніхто не дзяліўся сваімі асабістымі справамі. Ёй, мабыць, не давяралі. Нэля адчувала гэта і старалася рабіць выгляд, што не мае патрэбы ў блізкім сяброўстве, трымалася з усімі падкрэслена ганарліва. Але гэта яшчэ больш аддаляла ад яе людзей.

Біялогія, якую яна выкладала, ёй не падабалася. Калі Нэля скончыла школу, у яе не было пэўнай думкі аб сваёй будучыні. Маці параіла ёй паступіць на біялагічны факультэт, дзе не было конкурсу. Нэля так і зрабіла. Правучыўшыся два гады, яна адчула, што будучая прафесія ёй зусім не падабаецца. Але змяніць што-небудзь у сваім лёсе яна не адважылася.



Першы час самастойная праца неяк вабіла: прыемна было бачыць цікаўныя позіркі дзяцей і адчуваць сябе дарослай. Потым гэтае пачуццё прытупілася, навізна прапала, і яна тлумачыла ўрокі так, быццам выконвала сумны і непрыемны абавязак. У новай школе і парадкі былі новыя: па біялогіі вучням даваліся хатнія пісьмовыя заданні. Праверка гэтых сшыткаў асабліва надакучала Нэлі. Трэба было ўважліва чытаць іх, выпраўляць памылкі, якіх вучні рабілі шмат. Звычайна, несучы са школы стусы вучнёўскіх сшыткаў, Нэля загадзя сумавала, прадбачачы некалькі вечароў маруднай і надакучлівай працы. Прышоўшы дахаты, яна ўсяляк адцягвала той момант, калі трэба было садзіцца да стала і браць у рукі аловак.

Сёння вялікі стус вучнёўскіх сшыткаў злаваў Нэлю больш, чым калі. На дварэ ліў дождж. Пятрусь абяцаў раней прысці з работы і недзе затрымаўся. І ў дадатак да ўсяго, кантрольную работу вучні напісалі слаба: яна ставіла пакуль што толькі дрэнныя адзнакі. Размашыста выводзячы чарговую двойку, яна на палове лічбы зламала аловак. Сярдзіта адкінуўшы яго ўбок, Нэля нервова закрочыла па пакоі.

Думала пра мужа. Не, нічога благога пра яго не скажаш. Ён умее быць уважлівым, ягонае каханне робіцца ўсё мацнейшым. Але адзываючыся на мужаву пяшчотнасць, яна ў апошні час пачала прыкмячаць, што нечым незадаволена, што нешта трывожыць яе. Мары жыць у вялікім горадзе не спраўдзіліся. Пятрусь адмовіўся паехаць з Прыдзвінска.

Прышоўшы дахаты, Пятрусь звычайна крыху адпачываў і адразу ж браўся за падручнікі — рыхтаваўся да здачы экстэрнам за дзесяцігодку. А Нэлі не сядзелася ў хаце, карцела куды-небудзь пайсці, пагуляць, паглядзець на людзей. Аднойчы яна прапанавала пайсці ў гарадскі клуб, дзе былі танцы. Ён засмяяўся:

— Ну, які з мяне танцор! Ты ж ведаеш, мяне і раней туды не цягнула...

— А мне сумна. Мы і так нікуды не ходзім. Сядзім, як тыя пацукі.

— А я з табой не сумую,— ён абняў яе і моцна пацалаваў.— Мы ж з табой бацькі ўжо. І апроч цябе ды Алескі мне ніхто не трэба... Вось здам экзамены, паступлю ў інстытут...

У поспех мужа Нэля верыла слаба. Усё гэта—і экстэрн, і інстытут— было далёка, за межамі сённяшняга дня. Яна разумела, які цяжкі шлях узяўся прайсці Пятрусь, і ў душы патрохі смяялася з яго наіўнай веры. А побач з гэтым ёй было шкада, што страчана бесклапотнае і вясёлае жыццё. «Дзеля чаго? Каб гібець у цесным пакойчыку і чакаць, пакуль муж скончыць інстытут? Гэта ж пройдуць лепшыя гады...»

Цяпер, калі ўсе нязначныя дробязі сабраліся ў адно, яна зусім нечакана для сябе адкрыла, што ў іх крыецца прычына той незадаволенасці, якую яна ў сабе заўважыла. «Проста я стамілася ўжо ад гэтага жыцця, ад гэтых гаспадарчых клопатаў і нястач. Таго нехапае, гэтага. Адно прыдбаеш, другі клопат заводзіцца...»

Праўда, маці па-ранейшаму працавала ў краме і шмат чаго можна было ўзяць без картак. І Нэля брала. Але Пятрусь даведаўся і забараніў рабіць гэта. «Такая ўжо сумленнасць! Каму яна патрэбна? Праўду казала мама, не трэба было з замужжам спяшацца. Лепш было пачакаць, пакуль уладкуецца жыццё...»

Падумаўшы пра гэта, Нэля падлічыла, што даўно не была ў маці, і рашыла схадзіць да яе. «Заадно і яго дапяку. Няхай не позніцца, калі абяцаў...»

Дастаючы з шафы стракаты плашч, яна выцягнула тоўсты скрутак, разгарнула паперу, і блакітны шоўк мякка зашамацеў у яе руках. Яна прыкладала яго да грудзей, зазірнула ў люстэрка. «Цудоўная сукенка атрымаецца».

З-за гэтага шоўку яна пасварылася з Петрусём і два дні не размаўляла. І шоўк, і каверкот на мужчынскі касцюм Марфа дастала праз сваіх знаёмых на базе. Увечары, калі Пятрусь прышоў з работы, Нэля паклала тканіну на стол, маючы намер зрабіць мужу прыемнае. Ён памяў у пальцах каверкот.

— З густам у нас робяць... Па ордэру атрымала?

— А як жа! Возьмеш па ордэру!.. Гэта мама пастаралася, з базы...

Ён кінуў тканіну на стол і другі раз за іх сумеснае жыццё закрычаў на яе:

— Усё з базы ды з базы! Ведаю, як гэта робіцца. А я хачу жыць сумленна. Чуеш, сумленна! Колькі разоў гаворана: не бяры нічога адтуль!

— Чаго ты крычыш? Ты хочаш сказаць, што мая маці крадзе? А я сама грошы плаціла, сама!

Ён паспакайнеў, узяў Нэлю за руку і сказаў, стрымліваючы сябе:

— Зразумей толькі: я не хацеў цябе пакрыўдзіць. А з базы нічога браць не трэба. Бяруць адтуль, я ведаю... Па-рознаму махлююць. А мы будзем жыць сумленна. Хутка ўсё будзе і без картак, і без ордэраў. А пакуль няма — пацярпець трэба. Пашыю я касцюм, а той жа Тарас у мяне спытаецца: дзе ты яго ўзяў? Брыдка хлусіць будзе, а праўду не скажаш. Ты, вось што, заўтра занясі ўсё гэта маці, няхай яна аддасць назад на базу. Добра? Ну, вось, бачыш!..

Нэля аднесла каверкот і сказала маці, што ён не спадабаўся Петрусю. Шоўк жа пакінула сабе і цішком дамовілася аддаць шыць знаёмаму майстру. Як на тое ліха, кравец захварэў і справа адклалася. «Можа ён ужо выздаравеў? Трэба занесці, бо як убачыць зноў Пятрусь гэты шоўк...»

Скрозь адчыненыя дзверы было чуваць, як на кухні Сцепаніда гушкае малога Алеську. Нэля павярнулася спіной да дзвярэй, згарнула шоўк і закруціла яго ў газету.

Марфа ўзрадавалася прыходу дачкі і кінулася ёй насустрач.

— Дачушка мая... Але ж і схудне-е-ела! Ці ж кормяць яны цябе там?.. Вось добра, што прышла: у нас госці. Хадзем пасядзім.

— Не, мама, не хочацца. Я параіцца прышла...

Марфа слухала дачку з жывой зацікаўленасцю, часта перапыняла, войкала, здзіўлялася. Нэля шчыра, без хітрыкаў расказала маці пра незадаволенасць працай, пра нелады ў сям'і. Яна не скардзілася, а проста гаварыла пра тое, што яе трывожыла.

Марфа прапускала міма вушэй усё, што датычылася Нэлінай работы ў школе. Але ніводнага слоўца, ніводнай дробязі, якая датычылася яе адносін з мужам, яна не прапусціла. «О-ооо! Я ж ведала, што яно так і будзе, дык не паслухала матку»,— час-ад-часу ўстаўляла яна свае слова. А калі Нэля ўсё выгаварыла, яна пачала добра вядомую Нэлі гаворку аб тым, што ёй патрэбен муж адукаваны, а не гэтакая прастэча, як Пятрусь. Ён усё пра нешта марыць, а прыдбаць што ў хату не ўмее. У яго там нейкія непрыемнасці на рабоце. Ведама ж, суе свой нос, куды не трэба, а начальства гэтага не любіць. Добра ж, калі ўсё добра будзе, а калі зволяць? На сваю шыю зноў яго пасадзіць? Досыць, пасядзеў, калі не працаваў!.. Нэля зрабіла памылку, што пайшла за яго замуж, але маці дапаможа гэтую памылку выправіць. А хто ж другі пра дачку паклапоціцца? І падагуліла разважанні так:



— Што ні кажы, а кідаць яго трэба!

— Як гэта кідаць?!

— Проста! Як усе робяць.

— Мамачка! — спалохана сказала Нэля.— Я ж проста так паскардзілася, што мне цяжка. А Пятрусь мяне кахае...

— На словах! — сказала, як адсекла, Марфа.— Скажы, які ж гэта ён муж, калі не можа жонцы нават сукенку справіць... Глядзі,— яна паказвала пальцам на кофтачку, на сукенку, што былі апрануты на Нэлі, і ўедліва пыталася:

— Хто гэта табе справіў? Ён? А гэты капрон? А туфлікі? Усё я хрыбтом сваім. Але нашто ж я ўсё гэта кажу? Ці ж ты слухаеш мяне? Усёроўна ж матка благая...

Марфа пляснула далонямі, заківала галавой, лемантуючы, быццам перад ёй было не менш, як два нябожчыкі.

— Ай-яй-яй! Людцы, родныя! Ды што ж гэта робіцца! Жонка сукенку новую хоча мець, а муж забараняе! Абадранкай хадзі, жоначка!.. Пятнаццаць гадоў вучылася!.. Я табе кажу: кідай. Чаго ты прыліпла да яго?

Нэля заплакала.

— Мама, што ты гаворыш! Алеську без бацькі пакінуць?

— Ты таксама без бацькі вырасла. Дрэнна табе было? Нашто той бацька. Мала мужчын ёсць? Абы грошы былі...

Убачыўшы, як уздрыгваюць Нэліны плечы, Марфа адчула на момант, што ёй шкада дачку, але тут жа схамянулася. «Нічога, няхай паплача, другі раз разумнейшай будзе, матку паслухае. А таму ашуканцу я яшчэ пакажу...»

Марфа была вельмі злосная на свайго зяця: ён ашукаў усе яе спадзяванні. Прайшлі адны выбары, прайшлі другія, а Петруся Крыніцу ніхто дэпутатам не абраў. Яна лічыла, што Пятрусь яе абхітраваў.

— А я гляджу, чаму гэта мне ўсё сны нядобрыя сняцца, — хаваючы ад дачкі бляск вачэй, гаварыла Марфа.— Нікому на свеце не веру, а снам веру... Снілася мне, што дачку нараджу, — ты нарадзілася. Сніла вялікія грошы — знайшла... Па каханню цяпер толькі дурні жэняцца. Ды яно, калі сказаць праўду, ніякага кахання на свеце няма. Інтарэс ёсць! Я табе такога чалавека знайду! Толькі скажы.

Шырокі твар Марфы расплыўся, губы салодка прыцмокнулі.

— А ўчора мне што снілася! Быццам ты стаіш на высокай гары, а да цябе чалавек ідзе — прыгожы такі. Спыніўся ён гэта ля цябе, а да яго машына такая бліскучая: фыр-р-ррр!.. І ракаў бачыла чырвоных. Гэта да шчасця праз слёзы...

І дадала ўжо строга:

— Не плач, не надрывай сэрца. Цяпер свет такі: разумныя людзі ўсе так жывуць... Перабірайся да мяне. Адсюль і ў школу бліжэй...

Нэля нічога не адказвала. Плечы яе, па якіх рассыпаліся каштанавыя валасы, калаціліся ад прыглушанага плачу.

Дзверы нечакана адчыніліся, і ў пакой увайшоў Фурс. Ён быў без пінжака, у белай кашулі, пры гальштуку. Здзівіўся:

— Не ведаў, што вы тут!.. Вы так папрыгажэлі!..

Марфа позіркам загадала яму выйсці і паабяцала:

— Мы зараз прыдзем! — І калі Фурс выйшаў з пакоя, дадала:—Далікатны, сволач гэтая. Без нажа зарэжа. І ўсміхаецца яшчэ...

Седзячы за сталом, дзе было шмат незнаёмых людзей, Нэля адчувала, што ад сэрца яе патроху адыходзіць туга. «Што ж, жыццё ёсць жыццё. Я там плакала, а тут, у суседнім пакоі, за сцяной, людзі весяліліся, радаваліся. Чаму я такая нешчаслівая?»

Прыгадала размовы Петруся пра экзамены і адчула, што ў сэрцы закіпае злосць. Гэта ж лепшыя гады пройдуць!..

Па прасторнаму пакою насіліся п'яныя пары — танцавалі нейкую вар'яцкую польку. Хрыпата надрываўся патэфон. Фурс падышоў, запрасіў на танец. Яна танцавала з ім, забыўшыся на ўсё — на свае думкі, на Петруся, на Алеську — і была амаль п'яная, хоць нічога і не піла.

## 18

Стоячы ля акна, Сцепаніда ўглядалася ў вечаровыя змрокі. Моцны вецер, што круціў цэлы дзень, амаль сціх, і галіны старой таполі за акном ляніва гойдаліся, быццам стомлены чалавек махаў рукамі на недарэчную прапанову: «Адчапіцеся, адчапіцеся...» Ружавела неба, і стрэхі дамоў на фоне гэтай ружовасці былі чорныя, акрэсленыя выразна і чотка.

Па вуліцы прайшла жанчына, і Сцепаніда шчыльней прыціснулася да акна: «Мусіць, Нэля ідзе...»

Прыглядзеўшыся ўважлівей, Сцепаніда ўбачыла, што прыняла незнаёмую жанчыну за нявестку, і чамусьці ўзрадавалася гэтаму. У апошні час адносіны паміж ёю і нявесткай страцілі ранейшую сардэчнасць і цеплыню. Неяк нядаўна, ужо ўвечары, яна стаяла ў чарзе — па картках давалі крупы. З маленькіх дзвярэй, што вялі ў складское памяшканне, выйшла Марфа з незнаёмай жанчынай. Прыціскаючы да сябе ёмкі скрутак, Марфа казала той жанчыне, відаць, ужо заканчваючы гаворку:

— А ў маёй жа таксама няўдалы замуж. Ён інвалід... І цяжка беднай. Прыбяжы дахаты, усё зрабі па гаспадарцы, памый, звары... І яшчэ ён на яе шыі сядзіць...

У гэты момант чарга прасунулася наперад, Сцепаніду выціснулі з кутка далёка ад таго месца, дзе стаяла Марфа, і што яна казала далей — Сцепаніда ўжо не чула...

Марфа прыходзіла потым некалькі разоў: усё такая ж ласкавая, ліслівая. Сцепаніда хацела выказаць свацці ўсё ў вочы, ды стрымалася, перасіліла сябе. Але з таго вечара яна перастала верыць салодкім словам Марфы. І адносіны з нявесткай сталі іншымі. Сцепаніда заўважыла халаднаватасць з яе боку, і з болем у сэрцы адчувала, як знікае блізкасць паміж імі. Яна ўзваліла ўсю хатнюю працу на свае плечы, рабіла ўсё так, як хацелася нявестцы: бегала па крамах, варыла абед, перанесла свой ложак на кухню, а потым і зусім да суседкі — жанчыны мяккага і ветлівага сэрца, з якой пасябравала з першага дня жыцця ў гэтым доме. Яна ішла на ўсялякія ўступкі.



«Самі разбяруцца, што да чаго. Каханне ніколі не ідзе роўна ды гладзенька. Чаго мне паміж імі станавіцца ды розуму вучыць...»

І цяпер, занятая такімі думкамі, яна не заўважыла, як прышоў Пятрусь. Пачула знаёмы бразгат клямкі і спахапілася. «Гэта ж яны ўжо. А ў мяне і вячэра не гатовая...»

Пятрусь прышоў разам з жонкай. Твар у Нэлі быў злосны, незадаволены.

Сцепаніда заспяшалася на кухню, і калі прышла адтуль, абое ўжо былі вясёлыя. Сцепаніду ўзрадавала гэта, яна заўжды радавалася, калі бачыла іх у згодзе.

— Ну вось, мама, будзем вячэраць ды яшчэ раз памяркуем, — сказаў басавіта Пятрусь, мыючы руку, — дапаможаш жонку пераканаць. А можа і на яе баку праўда, ліха ж яго ведае...

Вячэралі. Гаварылі пра новую працу Петруся. Сцепаніда думала, але сваіх думак не выказвала, каб чым-небудзь не парушыць гэтую часовую згоду.

— Паслухайце, мама, што ён кажа! — Нэля трымала лыжку ў руках і сачыла за тым, як Сцепаніда кроіць хлеб. — Яму прапанавалі пасаду інжынера ў зеленгасе. А я кажу, што гэта не ягоная справа. Тут патрэбны...

Яна сербанула крупніку. Ён здаўся ёй нясмачным і дужа гарачым. Адсунула талерку і ўжо гаварыла толькі мужу, стукаючы лыжкай па стале:

— ... Патрэбны веды, адукацыя, а ты ж сярэднюю школу яшчэ не скончыў... Ты думаеш, што фронт табе ўсё заменіць?..

— Не, не заменіць. Але хабар браць не дасць!

Пятрусь наўмысна падкрэсліў апошняе. Перад святам Нэля зноў прынесла падарунак ад вучняў — вазу з блакітнага шкла. Яны доўга тады спрачаліся. Пятрусь лічыў і даводзіў, што браць у вучняў можна такі падарунак, які яны зрабілі сваімі рукамі. Гэта — памяць і знак павагі. А збіраць па некалькі рублёў, насядаючы на тых, хто не хоча ці не можа даць грошы, купляць нейкую рэч і дарыць яе — нядобра, гэта як бы хабар. Да згоды ў той спрэчцы яны не прышлі. Цяпер жонка ўпікнула яго за неадукаванасць, і ён знарок пакрыўдзіў яе: раззлаваўся.

Нэля кінула лыжку і пачырванела.

— А хто бярэ хабар? Ну, хто?!

— Ціха, ціха, не злуйся,— Пятрусь адчуваў вінаватасць і паспрабаваў супакоіць жонку. — У тваіх словах шмат праўды, і трэба памеркаваць... Таму і раюся з вамі...

Ён надоўга змоўк, сёрбаў крупнік, цяжка водзячы сківіцамі, і думаў. Павячэраўшы, пасядзеў яшчэ воддаль ад стала, трымаючы запалку ў роце і задуменна пакусваючы яе.

За маленькім столікам, пры печцы, стрымана гаварылі жанчыны. Пятрусь пачаў услухоўвацца ў іх гаворку.

— Няхай твая праўда, Нэлечка, — сказала маці, выціраючы талеркі. — Толькі на мой розум так: абы каму там гэтае справы не даручаць. Нехта ж, мусіць, добра падумаў, перш чым прапанаваць Петрусю. Ды яно можа не так ужо і цяжка там... А мужык твой разумны. Пацягне!..

Нэля сядзела збоку, глядзела, як свякруха складвае выцертыя

талеркі. Злосць, зачэпленая словамі мужа, усё яшчэ не праходзіла: трэба было спагнаць яе, і яна патроху рабіла гэта.

— Ну, які ён інжынер!.. Трэба было вучыць яго. Мая мама на гэта ніколі не шкадавала грошай...

— Сорам табе, дачушка... Што ты гаворыш! Ён жа без бацькі застаўся, таму і школу скончыць не мог. А потым — вайна...

— Толькі што скажаш — папракаюць. Што гэта за жыццё такое! — Нэля пачала церці вочы і ўсхліпнула. — Не магу я больш! Не магу! І не заступіцца ніхто... А я што, благога яму жадаю?..

Пятрусь зморшчыўся, быццам глынуў нешта горкае. Было непрыемна, што жонка папракае маці, а тая абараняе яго зусім не так, як гэтага хацелася б яму. Ён ускочыў, стукнуў з усяе моцы кулаком па стале:

— Досыць! Сам вырашу ўсё! Без вашай дапамогі... Па-людску ў вас ніколі не бывае!..

Са Сцепанідзіных рук выслізнула талерка і разбілася на кавалачкі...

Ноччу, прытуліўшыся шчакой да гарачага жончынага пляча і слухаючы яе санлівы голас, Пятрусь адчуваў ніякаватасць ад таго, што так пагарачыўся ў час вячэры. «Праклятая нявытрыманасць. І калі я навучуся трымаць сябе ў руках? Крычаў, злаваў! Сорамна. Адзін жончын папрок — і ўжо закіпеў. Няможна так мужчыне!..»

— Паслухаю цябе — праўда твая, — Нэля варухнулася, і яго галава ўпала на падушку. — Прыду да свае мамы — таксама праўду чую. Але там я адчуваю сябе куды лягчэй... Вось што, Пятрусь, нам трэба перайсці жыць да маёй мамы...

— Падумаем...

— Не, дарагі мой, тут думаць няма чаго. Калі ты кахаеш, то пойдзеш са мной, куды я захачу.

— Ну, добра, добра. Можа калі і пойдзем!

Сонна цікаў гадзіннік, дзелячы цемру ночы на роўныя, маленькія кавалкі. Шкло ў акне паціху трымцела ад ветру. Нэля паклала руку на галаву Петрусю; яго сэрца памякчэла і шчыра адгукнулася на пяшчоту.

Пятрусь хутка забыўся на тую гаворку, што была ўначы. А яна ўзнікла зноў праз тры дні і пайшла зусім у іншым напрамку.

Быў суботні вечар. Сеўшы за падручнік геаметрыі, Пятрусь трохі пачытаў, а потым непрыкметна задрамаў. Прачнуўся ён ад жаночых галасоў, якія даносіліся з кухні.

— А я вам што, служанка? — Нэля, відаць, сказала гэта смеючыся. — Дакуль гэта будзе? Памый, вынесі, дровы прынясі. Можа, скажаце, каб я яшчэ вашу свінню карміла?

— Што ты, дачушка! Можа першы раз і прашу. Бачыш жа, няўпраўка... Бялізны ж во колькі!..

— Няхай Пятрусь выносіць, а то распанеў... Няма чаго... Я ў школе цэлы дзень працавала.

— Не чапай яго, толькі ж за кніжку ўзяўся... — голас Сцепаніды задрыжаў. — Ніколі не казала табе, а зараз скажу: нельга так. Ты ж жонка яму, няўжо не бачыш, што ён ледзь ногі цягае? Удзень на рабоце, увечары — школа...





Пятрусь адчыніў дзверы на кухню, сказаў, не беручы пад абарону нікога:

— Зноў грымоты на ўсю хату... Ну, чаго вы не падзеліце?

Нэля ў светлым плацці стаяла ля стала і смактала цукерку. Твар яе быў ружовы ад хвалявання, а вочы блішчэлі халодна і злосна. З рук маці — худых і таксама ружовых ад гарачай вады — сцякала мыльная пена. Белыя наздраватыя лёгкія капяжы падалі на падлогу ля босых ног. Пятрусь успомніў, што абяцаў маці купіць туфлі і не купіў, бо Нэля пашыла сабе новае плацце. Яму стала сорамна, ён пачырванеў.

— Ну, што тут у вас? Вядро? Давайце яго сюды. Толькі вы, мама, не крычыце на яе...

Пятрусь вынес вядро і зноў узяўся за падручнік. За спіной пачуліся жончыны крокі. Ён агледзеўся. Нэля выцягвала з шафы свае сукенкі і складала іх у чамадан.

— Ты куды гэта збіраешся?

— Дахаты! З тваёй маці я жыць не магу!..

— Нэля, ты гэта сур'ёзна?

— Я ўсё жыццё была сур'ёзнай. Памыі цягаць — не мая справа. Давай збірайся. Дапаможаш...

Ён не зразумеў тады, што справа зусім не ў вядры, якое трэба было вынесці. Ён прыходзіў дахаты і бачыў чыста прыбраны пакой. Ён не стаяў у чарзе за хлебам, крупамі і не ведаў, хто робіць усё гэта. Утульнасць у хаце, добры абед, радасць у сэрцы — усё гэта звязвалася з жонкай, і ён мог даравацъ ёй усё. Каханне рабіла яго сляпым. І цяпер Нэліны словы так збянтэжылі яго, што калі ў пакой увайшла маці, ён змог толькі сказаць:

— Паслухай, мама! Нэля хоча пайсці ад нас!

— Ваша справа. Вам жыць, вам і рашаць.

І паглядаючы на тое, як завіхаецца Нэля ля чамадана, сказала яшчэ:

— Крыўдна мне за вас. І сорамна. Разберацеся некалі, дык зразумееце мяне...

Нэля падштурхнула Петруся плячом і сказала ціха, каб не чула Сцепаніда:

— Хадзем, хадзем! Не стой!

Яму цяжка было крануцца з месца. Ён адчуваў нейкую незразумелую пустэчу ў сэрцы і ўсё яшчэ не мог паверыць у тое, што ў яго жыцці адбылося нешта страшнае і непрыгожае.

19

Пятрусь Крыніца любіў лес. Калі ён бачыў гонкія дрэвы, што прыгожа выносілі ў неба магутныя верхавіны, незразумелае хваляванне апаноўвала ўсю яго істоту. Ён не ведаў, калі прачнулася ў ім гэтая замілаванасць да прыроды: у дзіцячыя гады, калі бацька вадзіў яго па барах, паказваючы, дзе растуць суніцы і грыбы, ці мо' пазней, у партызанскія дні, калі даводзілася змераць шмат лясных пуцявін.

Цяпер Пятрусь стаяў ля маладых асінак, што палымнелі вогненнымі фарбамі. Дзень выдаўся пагодны і не па-восеньску цёплы. Неба было чыстае і сіняе. Празрыстае паветра мела такі выразны колер, які вельмі нагадваў падсіненую ваду ў начоўках; неба, здавалася, наблізілася да зямлі, каб здзівіць людзей сваёй сінявою.

На блеклай пажоўклай траве не прасохла яшчэ адтаяўшая намаразь. На ёй ляжалі апаўшыя ранкам лісты клёнаў, яны былі рудаватыя, падобныя на маленькія хлебчыкі, якія нядаўна выцягнулі з печы. Сумавалі на прылессі бярозы; насцярожаныя, задуменныя, яны скідалі сваё залацістае лісце. Сарвецца зверху лісцінка і не адразу ападзе на зямлю; спачатку прыхіліцца бокам да суседкі, быццам просячы дапамагчы затрымацца на дрэве; а тая сама баіцца, каб не зляцець, і штурхае сваю сяброўку да другой лісцінкі; абедзве не ўтрымаюцца, паляцяць уніз, і вось ужо густы бліскучы дождж цярушыцца долу. Галінкі ўздрыгваюць, нібы саромячыся сваёй чарнаты, раней схаванай у прыгожым адзенні.

Бліскучай чырванню набрынялі рабіны. На голых галінах ляшчэўніку, які раней ад усіх паскідаў счарнелае лісце, віселі пукатыя шэрыя завушніцы.

Тыдні са тры таму назад Пятрусь знайшоў гектары са два сеянага лесу — таполяў і клёнаў. Там-сям пракідаліся ліпкі. За вайну дрэвы выраслі, закупчасціліся. Сёння ўранку Пятрусь прыехаў сюды прасачыць за адпраўкай саджанцаў у горад. Дрэвы вазілі зеленгасаўская і яшчэ некалькі машын розных гарадскіх устаноў.

Ля выкапаных саджанцаў завіхаўся Ціхон Ластаўка — каранасты, моцны мужчына, з тварам, крыху пабітым рабаціннем. На ім быў зеленавата-шэры фрэнчык, падпяразаны шырокім рамянём, і такога ж колеру штаны. Гэта быў чалавек, горача ўлюбёны ў сваю працу. Гэтым ён і падабаўся Крыніцы. Сяброўства іх умацавалася яшчэ больш за той дзень, калі яны ўдвух шукалі ў лесе патрэбную дзялянку.

Акінуўшы яшчэ раз позіркам восеньскі лес, Крыніца пайшоў да машыны, шкадуючы, што трэба пакінуць гэтае хараство. Стоячы ля машыны, ён паклікаў Ластаўку:

— Ціхон Станіслававіч, я паеду гэтай машынай у горад. Кіруйце тут адпраўкай...



Раптам ён заўважыў, што замест таполяў і клёнаў на машыну пакладзены маладыя бярозкі. Здзіўлена падняў бровы:

— А гэта што? Вы ведаеце, што павінны адпраўляць?

— Тут такая справа, — Ластаўка нерашуча патупаў на месцы. — Прычапілася ўчора дачка: прывязі ёй бярозак. Гаворыць, што яны, — атрад піянерскі, ці што, — надумаліся пасадзіць у нядзельнік сваю піянерскую алею. Ну, і каб там бярозы былі... Я паабяцаў, а вам сказаць забыўся...

— Ну, што ж, — адразу памякчэў Крыніца. — Дзеці добра прыдумалі. Дзе яны там працуюць?

— У самым цэнтры парку...

Праязджаючы па вуліцах горада, Крыніца заўважыў, што нядзельнік быў як ніколі масавы. Сотні людзей завіхаліся на папялішчах, разбіралі паваленыя сцены спаленых будынкаў, грузілі на машыны патрушчаную цэглу і смецце. На ўцалелых сценах будынкаў палымнелі словы: «Мы ўзнімем з руінаў цябе, наш родны горад!»

На цэнтральнай плошчы горада грукаталі бульдозеры. Паміж дзвюх вуліц быў пустыр — папялішча былога квартала, ад якога нічога не засталося. Гэтае папялішча ператваралася ў цэнтральны гарадскі парк. Па абодва бакі яго планаваліся вуліцы, якія, выходзячыся, утваралі вялікую плошчу.

Два магутных бульдозеры раўнавалі папялішчы. Жыхары рыдлёўкамі дапамагалі машынам. Гул натоўпу губляўся ў гуле матораў: сталёвыя волаты ішлі адзін услед за другім. Шырокія бліскучыя нажы зрэзвалі ўсё, што траплялася на шляху, і сунулі перад сабой горы зямлі і пабітай цэглы.

Шафёр, стукаючы рукой па чорнай баранцы, зморшчыўся і пачаў пільней углядацца наперад:

— Дзе ж тут Ціхонава гвардыя?..

На сярэдзіне плошчы Крыніца ўбачыў дзяцей з чырвонымі піянерскімі гальштукамі. Ён высунуў галаву з акна кабіны і паказаў шафёру ў той бок.

— Кіруйце да іх!

Піянеры ўбачылі машыну і загаманілі ўсе адразу:

— Дрэвы вязуць! Бярозы, бярозы!

Машыну разгрузілі ўмомант, і Крыніца адаслаў шафёра назад, сказаўшы:

— Перадайце Ластаўцы, няхай ён глядзіць там...

Насустрач Крыніцы хуткімі крокамі ішоў Радаценка — дырэктар школы, у якой працавала Нэля. Гэта быў высокі, шырокі ў плячах чалавек, хударлявы з твару. Гаварыў ён ціха і павольна, але ў кожным слове гучала заўзятасць, і гэта прымушала слухаць яго ўважліва, з цікавасцю. Пятрусь часта сустракаўся з ім, калі заходзіў у школу па Нэлю. У апошні час яны доўга не бачыліся, бо Нэля не хацела, каб Пятрусь заходзіў па яе: хіба яна маленькая?..

Радаценка прывітаўся з Крыніцай і весела загаварыў:

— Бачыце, усю школу прывёў! Сакратар гаркома з архітэктарам былі тут. Наша ідэя ўхвалена. І ведаеце, што сказаў сакратар архітэктару? Ён сказаў: вось з каго трэба браць прыклад: з нашых піянераў!.. А бярозкі вы прывезлі? О-ооо! Тады пойдзем...

І калі ішлі ўжо, Радаценка, нібыта між іншым, спытаў:



Камсамольцы і моладзь калгаса імя Сталіна Брэсцкага раёна з'яўляюцца нястомнымі будаўнікамі. Яны пабудавалі сабе клуб, а зараз узводзяць новыя будынкі фермаў.

На здымку—камсамолец Аляксандр Страчук бетаніруе апоры свінарніка.

Фота А. Дзітлава.



На Спартакіядзе ДТСААФ па ваенна-прыкладных відах, якая была прысвечана 40-годдзю ВЛКСМ і БССР, спартсмен аўтамотаклуба Вячаслаў Кудзін выканаў адно са складаных практыкаванняў на матацыкле.

Фота А. Дзітлава.



Подзвіг краснадонцаў вядомы цяпер усяму свету. Маладыя камсамольцы-падпольшчыкі ў суровыя гады Айчыннай вайны гераічна змагаліся супраць акупантаў. Яны загінулі, але справы іх бессмяротныя.

Малады мастак В. Задарожны напісаў карціну «Яны бессмяротныя». На ёй адлюстраваны апошнія хвіліны жыцця падпольшчыкаў. Але колькі аптымізму, веры ў перамогу сацыялізма відаць у мужных тварах краснадонцаў! Такія людзі памерці не могуць!..



«Мы выраслі ў полымі» — так назваў сваю карціну мастак М. Божы. Нібы выхаплены з тых незабыўных дзён кавалак жыцця ўваскрашае поўную рамантыкі і гераізму маладосць нашых бацькоў. На карціне асветлены полымем малады чырвонагвардзеец імчыць на сваёй тачанцы у бой. Яго вочы ўпэўнена глядзяць уперад, у яго паставе адчуваецца мужнасць. Яркі барвовы фон, асветленая чырванню постаць байца рэвалюцыі ствараюць незабыўнае ўражанне.

Так, мы выраслі ў полымі бітваў за савецкую ўладу, за сацыялізм.

— А чаму ж гэта ваша палавіна не прышла? Захварэла? Нашы настаўнікі ўсе тут, як салдаты...

Гэтае пытанне непрыемна ўразіла Петруся. У апошніх словах ён адчуў папрок. Учора Нэля сказала яму, што на нядзельнік не пойдзе. У яе сабралася многа хатніх спраў... Цяпер Петрусю было вельмі няёмка перад Радаценкам, і ён схлусіў:

— Занядужала нешта... Пасля бальніцы гэта ў яе.

Радаценка крочыў шырока, хутка. На плошчы вучні ўжо разносілі і раскладалі па квадратах маладыя бярозкі. Крыніца ўбачыў гэта і сказаў:

— Пойдзем і мы пасадзім па дрэўцу!..

Гледзячы, як упэўнена і спрытна Радаценка рыхтуе ямку для дрэва, Пятрусь падумаў, што той не ўпершыню ўзяў у рукі рыдлёўку. Быццам адказваючы на яго думкі, Радаценка заўважыў:

— Мой бацька вельмі любіў саджаць дрэвы. У вёсцы наша хата даўней была адметнай ад усіх: самая бяднейшая і ўся — у зяляніне. Гэтага хапала...

Пятрусь насыпаў ля слупка пагорак зямлі і паставіў дрэўца.

— Пачакайце, пачакайце, я дапамагу вам, — хударлявая, з вострым носікам дзяўчынка ўзялася дапамагаць яму і гаварыла павучальным тонам: — Трэба спачатку карэньчыкі расправіць. Вось гэтак...

Крыніца моўчкі паглядзеў на Радаценку, той на яго, і абодва ўсміхнуліся.

Дзяўчынка прысела і тонкімі, амаль празрыстымі пальчыкамі хутка і пяшчотна расправіла карэньчыкі дрэва.

— Вось, цяпер засыпайце.

Калі дрэўца было пасаджана, Пятрусь абтрос далонь і працягнуў руку дзяўчыны:

— Дзякуй за дапамогу. Цябе як завуць?

— Ніна Ластаўка. З першай школы...

Яна сказала гэта, ніколькі не бянтэжачыся, і маленькай рукой, запэцканай у зямлі, дакранулася да шырокай і таксама чорнай ад зямлі мужчынскай далоні.

## 20

Зіма настала рана.

У канцы верасня пачаліся моцныя замаразкі. З клёнаў, якія не паспелі яшчэ добра пажаўцець, пасыпалася прыхвачанае марозам лісце. Зусім зялёны, свежы ўбор скідалі ясені. У лесе і па садах зранку стаяла нязмоўклае, ціхае шапаценне ападаючага лісця. А потым на маляўнічы восеньскі дыван лёг снег. Яшчэ праз тыдзень падсыпала белай крупчаткі, і хутка ўсталяваўся добры санны шлях. Дні стаялі сонечныя, па начах ціснулі марозы.

З канторы, дзе адбываўся агульны сход рабочых зеленгаса, Пятрусь Крыніца выйшаў разам з Ціхонам Ластаўкай. На вуліцы яны пастаялі, з палёгкай дыхаючы халодным паветрам. Неба было яснае, зорнае, і было неяк дзіўна: адкуль бяруцца гэтыя маленькія рэдкія сняжынкі, якія павольна, нібы выбіраючы месца, куды зручней легчы, усё падаюць і падаюць на пульхны белы дыван. У промнях святла, пад вокнамі, яны свяціліся сваім зіхатлівым бляскам і ляцелі так павольна, што здавалася, ім проста шкада пакідаць святло, дзе прыгажосць іх відаць усім.



На душы ў Крыніцы было нядобра. На сходзе ён выступіў з крытыкай памылак у кіраўніцтве зеленгасам. Дырэкцыя хвалілася тым, што зеленгас выканаў план пасадкі дрэваў, але гэты план — фікцыя, бо палова тых дрэў паламана і на будучы год прыдзецца рабіць усё спачатку. Закладка гадавальнікаў фактычна праведзена толькі напалавіну супраць тых лічбаў, якія прыведзены ў дакладзе. Ён гаварыў і аб тым, што дырэкцыя забылася пра людзей, пра іх патрэбы. Ёй нават невядома, што адзін з лепшых работнікаў зеленгаса Ціхон Ластаўка жыве ў сутарэнні, што амаль ні ў кога з рабочых зеленгаса няма паліва на зіму, што ўсю восень няправільна налічвалася зарплата садаводам. Яшчэ да сходу Пятрусь не раз гаварыў пра гэта Фурсу, але той адмахваўся і раіў не ўмешвацца, куды не трэба. Цяпер пра гэта Крыніца сказаў на сходзе. «Адносіны паміж намі цяпер сапсуюцца яшчэ больш. Ён глядзеў на мяне з такой злосцю... І ліха з ім. Няхай не круціць...»

— А ты правільна зрабіў, што секанула дырэктару праўду,— перапыніў яго думкі Ціхон Ластаўка. — А то яго ўсе баяцца... Толькі глядзі, злосны ён дужа. Адпомсціць!

— А што ён мне зробіць? Думаеш, на яго ўправы не знойдзем?

— Яно то так,— пагадзіўся Ластаўка,— але напаскудзіць ён можа... Вось што, хлопча... Можа зойдзем да мяне? Пасядзім, пагаворым... Нешта мой барометр зранку свярбіць. Пачуў, мусіць, што госць будзе...

Ён пацёр пачырванелы ад марозу нос і ўжо сур'ёзна дадаў:

— А чаго?.. Зойдзем.

Пятрусь згадзіўся, разлічваючы, што ад Ластаўкі зойдзе ў школу па Нэлю. Яна казала, што педсавет зацягнецца і ісці адной са школы будзе боязна.

Пятрусь з Ціхонам Ластаўкай перайшлі рэчку па вузкай сцежцы, пратаптанай у глыбокім снезе. Адолеўшы касагор, выйшлі на нешырокі пустыр, мінулі кучу нейкага бярвення і апынуліся ля поўразбуранай сцяны, што засталася ад цаглянага будынка. Сцяна была чорная, задымленая, і таму снег наверсе не, здавалася, не ляжыць, а вісіць у паветры. Яна нагадвала нейкае вялікае страшыдла ў чорным адзенні, што насунула сабе на галаву вялікую белую кучомку.

— Вось мы і дома. Не ўпадзі, тут лесвічка ёсць,— папярэдзіў Ластаўка і знік у вузкай шчыліне, якую спачатку нельга было і заўважыць.

Намацаўшы нагой прыступкі, Крыніца зрабіў некалькі крокаў і апынуўся ў густой цемры. Злева выбліснуў агеньчык запалкі і глуха прагучаў голас Ластаўкі:

— Сюды! Асцярожней толькі...

Пятрусь вобмацкам дайшоў да яго. Ластаўка ўпоцемку намацаў клямку, яна забразгала глуха, быццам драўляная, і дзверы адчыніліся.

Пятрусь адным позіркам акінуў невялічкае сутарэнне, скупа асветленае газніцай. Дошкі, якія перагароджвалі сутарэнне надвая, былі абклееныя старымі шпалерамі і газетамі. Ля вялікага нязграбнага стала, таксама засланага газетамі, сядзела дзяўчынка, у якой Крыніца пазнаў тую, што дапамагала яму ўвосень саджаць дрэва на нядзельніку. У кутку стаяла печ, бляшаны комін яе выходзіў проста ў столь. З-за дашчатай перагародкі быў відзён край ложка. Адтуль выйшла маладая і прыгожая жанчына ў простым чорным адзенні і кухонным фартуху. Да фартуха прыліплі шматочкі белай тканіны і нітак — відаць, жанчына нешта

шыла. «Няўжо гэта яго жонка?» — міжвольна падумаў Пятрусь і паглядзеў на даволі нягзрабную і непрыкметную Ціхонаву постаць.

— Знаёмцеся. Мая жонка — Ганна,— гаспадарскім голасам сказаў Ціхон Ластаўка. — А гэта Пятрусь Крыніца. Я табе расказваў пра яго... Распранайся, Пятрусь, зараз нас Ганна вячэрай пачастуе... Дачушка! Ручнічок нясі!..

Дзяўчынка знікла за перагародкай і хутка вярнулася, несучы ў руках даматканы, але прыгожа вышыты і дужа белы ручнік.

Пакуль дзяўчынка прынесла ручнік, Пятрусь больш уважліва, чым спачатку, агледзеў сутарэнне. Сцены яго былі шэрыя, у кутках бялела намаразь, аднак холаду не адчувалася: ад печы патыхала гарачынёй. Здзівіла яго акно — маленькае, з кратамі, відаць, да вайны тут размяшчаўся склад. Пад акном былі прычэплены дзве бутэлькі, у якія па скручаных шнурком анучках буйнымі і частымі кроплямі сцякала вада, гучна плёскаючы: «цыб-цыб-цыб!»

Ціхонава жонка збірала на стол вячэру, і прыемны, меладычны голас яе ні на хвіліну не змаўкаў.

— ...Усё б нічога, каб хата была лепшая, а то ж бачыце... З нашых папялішчаў усе ў новыя дамы паперабіраліся, адны мы засталіся. А ўсё ён, Ціхон мой. Колькі назаляла яму, прасіла: схадзі ты ў выканком... Гаворыць: дойдзе да нас чарга — і мы вып'ем. А людзі ў лепшым жылі, і атрымалі. Таму, што ходзяць часцей і патрабуюць...

— Ганна! Можа б не назаляла! — са строгім дабрадушшам азваўся Ціхон, кіруючыся да стала: — Нас уключылі ў спіс. Чаго яшчэ? Гаворана табе: вясной атрымаем... Вазьмі ручнік...

Ганна ўзяла ў мужа ручнік і рукой разгладзіла яму каўнер кашулі. Вочы яе ласкава паглядзелі на яго, і святло іх нібы перадалося Ціхону: твар яго расцвіў і папрыгажэў.

— Давай будзем вячэраць....

Яна села не адразу. Зірнула на Ціхона і засмяялася:

— Зеллем сваім госця частаваць будзеш?

— А як жа? Хо! Ты не бойся, не абміну!

Ён узяў тоўстую бутэльку з чорнага шкла, пашкрабаную, пааббіваную, быццам нейкі звер глыдаў яе. Адкаркаваў, паставіў побач толькі дзве шклянкі.

— Мужчынскае пітво. Рабіна на самагонцы. Ягады дачка з лесу прынесла, а гэта — сваяк з вёскі прывёз. Па чарчыне яно не шкодзіць. З марозу асабліва...

Пітво сапраўды было мужчынскае. Яно як варам апякло ўсё ў роце, і Петрусю здалося, што ў жывот яму нехта стрэліў. Ганна дабрадушна падсмейвалася з мужчын, жартавала. Паступова яна зрабілася цэнтрам усёй гаворкі і павярнула яе гэтак, што было аб чым гаварыць нават малой Ніне.

Пятрусь не заседзеўся ў Ціхона. Хутка развітаўся з гасціннаю гаспадыняй, і Ціхон правёў яго да рэчкі. На развітанне сказаў Петрусю:

— А пра што я гаварыў — не забывай. Фурс чалавек нядобры. Розныя чуткі ходзяць: быццам ён ніякі там не інжынер... Але быў у нас брыгадзір. Выступіў супраць яго — зволіў. Так што асцерагайся...

— Нічога! У нас з табой адзіны кірунак: наперад! — весела сказаў Крыніца і стукнуў Ціхона па плячы.— Толькі наперад. Ну, бывай...

Зорак на небе ўжо не было, нацягнула хмары, мароз быццам па-





мякчэў, і на зямлю густа паваліў снег. У Петруся было вельмі хораша на душы. Чалавек так ужо створаны: усё прыгожае і сардэчнае, што пабачыць ён у адносінах паміж людзьмі, нараджае ў сэрцы цеплыню.

## 21

У суботу апоўдні, ідучы дахаты, Марфа ўбачыла на вуліцы сваццю. Сцепаніда ішла павольна, схіліўшыся пад цяжарам кошыка, які несла на плячах.

Сустракацца са сваццяй Марфе не хацелася. На яе думку, сваццяў апошні час стала вельмі ганарлівай: нічога не распытвае ніколі, нават у хату, пасля таго, як маладыя перабраліся да яе, зайшла толькі адзін раз. Марфа бачыла, што Сцепанідзе не падабаецца шмат чаго ў яе хаце, нават рамы без фортак. Добра ёй тыя форткі выдумляць, калі няма нічога добрага ў хаце. А ў Марфы, дзякуй богу, усяго ёсць. Пастаў раму з форткай, дык зладзеі адразу паналятаюць, цераз гэтую самую фортку адчыняць акно, і не агледзішся, як абкрадуць.

Гэтыя Марфіны довады Сцепаніда сустрэла моўчкі і паглядзела на яе ўсміхаючыся, а ў вачах бліснула пагарда і асуджэнне. Пасля тае гаворкі Марфа і не бачылася са сваёю сваццяю. Сустрэцца зараз, зноў адчуць Сцепанідзіну пагарду Марфа не хацела. Але ж куды дзенешся? Вуліца нешырокая, не размінешся....

Выратаванне прышло зусім неспадзявана. Марфа ўбачыла вузкі завулачак і подбегам кінулася туды. Ад хуткае хады моцна забілася сэрца,

і Марфа злосна сказала сама сабе: «Дажыла на старасці гадоў! Хавацца прыходзіцца!» Яна злавалася на сваю бездапаможнасць, на тое, што не можа так проста і асуджальна глядзець на сваю сваццю, і адчувала яе перавагу над сабою.

Нешта ўсё нядобра ішло ў той дзень. Новая бяда чакала Марфу ў хаце.

Калі яна пераступіла парог, Нэля сядзела на канапе і карміла Алеську. Марфа прысела побач і ўзялася выкладаць навіны, што прынесла з рынку.

Позірк яе спыніўся на дровах, што ляжалі каля печы. Папракнула:

— А печ няпаленая. На мяне ўсё спадзяешся... Вось, дасць бог, памру, тады пабачыш, як без маткі. Паба-ачыш!

— Ай, мама! Ты заўсёды так. Як жа я буду паліць, калі не ведаю, што варыць.

— Я ж казала, вазьмі мяса ў кладоўцы!

— Дык няма ж таго мяса, — весела сказала Нэля. — Каты з'елі!

— Ка-аты?

Марфа аслупянела, вейкі ў яе заміргалі часта-часта. Яна кінулася ў сенцы, і адтуль адразу ж пачуліся гнеўныя воклічы і лаянка.

Яна хутка вярнулася, несучы ў руках зашмальцаваную сумку ад працівагаза, у якой Пятрусь трымаў рыбацкія прылады. Папоркалася там і выцягнула перамёт, адрэзала чатыры кручкі на даўгіх шнурочках. На прынаду рашыла скарыстаць тое, што засталося ад бараніны. Мяса было зусім не відно, і нож слізгаў па жылах і косці. Гэта яшчэ больш раззлавала Марфу.

— Але ж во аб'елі, во аб'елі!.. Дармавое ж ім, не купленае. Нэлька! Нясі кілбасу з буфета... Мы іх на кілбасу возьмем!..

Матчына задума пакараць катоў надала Нэлі яшчэ больш весялосці. Яна хуценька прынесла кілбасу, адрэзвала ад яе кавалачкі і пырскала са смеху. Марфа бурчэла:

— Меншыя адрэзвай. А то абажруць, а кручок глытаць не будуць. Не-еее, праглынеш... За маё мясцо я вам кішкі павыдзіраю...

Яна шчэрыла рот у нядобрай усмешцы, і пальцы яе хутка і спрытна надзявалі маленькія колцы кілбасы на заіржавелыя рыбацкія кручкі. Скончыўшы гэты занятак, яна вынесла свае прылады ў сенцы і, добра прыкруціўшы шнур да цвіка, падвесіла кручкі ля сцяны. Пахвалілася дачцы, якая памагала:

— Скочыць ён гэта ўверх, схопіць кілбаску і — гатоў, даражэнькі... Ага, бачыш? Да мяне ў рукі трапіш — не сарвешся. Ну, хадзем!

Прышоўшы ў хату, Марфа ўзялася распакоўваць кошык і, адкрыўшы яго, пляснула далонямі.

— Дзе ж гэта я паклала яе? Памятаю, клала ў кошык. Ну, калі згубіла!.. Не, ёсць...

Яна выцягнула з кошыка трохі пакамечаную газету. Разгарнула яе і кінула на стол.

— На вось, чытай... Пра твайго напісана! Сорам які! Так люблю газету пачытаць, а цяпер і брацца не хочацца...

Марфа трохі крывіла душой, калі казала пра сваю любоў да газеты. Гэтая любоў паявілася ў яе не так даўно, пасля таго, як іх магазін наведаў карэспандэнт. З таго часу яна кожны дзень, не чакаючы, пакуль газету прынясуць дахаты, бегала ў кіёск і купляла свежы нумар. Але карэспандэнт загадкава маўчаў. Затое сёння Марфа была ўзнагароджана за сваю стараннасць: яна можа першай у горадзе прачытала маленькі допіс пра зеленгас. Крытыкавалі ў тым допісе зяця, у прыватнасці, гаварылася, што «... т. Крыніца, які выконвае абавязкі інжынера, занядбаў парніковую гаспадарку. Хутка вясна, а зеленгас нічога не робіць, каб да яе ўзорна падрыхтавацца. Звернемся да фактаў...»



Марфа не ўтрымалася і яшчэ раз, цераз Нэліна плячо, прачытала допіс. Паказала пальцам у куточак аркуша:

— Сюды глядзі! Бачыш, не «тав.», як ва ўсіх допісах, а толькі літара перад прозвішчам «т.». Не к дабру гэта... Памятаю, і на Кільштэйна, які ў піўным ларку працаваў, таксама ў газеце пісалі «т. Кільштэйн». А праз тыдзень звалілі з работы і нават судзілі. І ты дачакаешся, што ў турму перадачу панясеш... Ты чуеш: «Т. Крыніца нетактоўна трымае сябе не толькі з рабочымі, але і з наведвальнікамі. Так, ён груба аблаяў тав. Цвіковіча, які прышоў і запытаўся, ці будуць прадаваць саджанцы вясной...» Гэта не так сабе напісана...

Нэля з хваляваннем глядзела ў газету. Нейкі таямнічы чалавек хаваўся за кароткім подпісам унізе допіса. Ён усё ведаў, гэты чалавек, і таму быў загадкавым. Яна яшчэ раз востра адчула, што маці гаворыць праўду. І побач з гэтым жыло іншае пачуццё — пачуццё жаласлівасці і няведання, што ёй трэба рабіць...

Няўдала пачаўшыся, гэты дзень прынёс у сваім канцы новыя і яшчэ большыя турботы. Увечары да Марфы прыбегла Тэкля. Вочы ў яе гарэлі, буйныя кроплі поту віселі над брывамі, і хусцінка, што збілася на бок, адкрывала ўскудлачаныя валасы.

— Паліць! Будуць паліць! Суседка, даражэнькая! — выдыхнула яна і плюхнулася ў крэсла, якое Марфа ёй падсунула. — Ай-яй-яй! Што ж гэта будзе?!

— Што будуць паліць? Хто?

— Ты не ведаеш!? — Тэкля нахілілася да Марфы, шэптам паведаміла. — Грошы гэтыя будуць паліць. Медзяныя пойдуць. Ужо тры вагоны прывезлі. А замест картак — талоны пойдуць і спісы. Прышоў, атрымаў, а больш — ні-ні!..

— Брахня,— халаднеючы ад таго, што можа здарыцца, адсекла Марфа. — Нам у краме даўно было б вядома, калі што...

— Верныя людзі кажуць. Верныя!

Калі Тэкля пайшла, Марфа пабегла да Ласухі. Той сказаў, што калі што і будзе, дык грошы абмяняюць. Гісторыя ведае: пасля вайны бывае грашовая рэформа. Гэта не супакоіла Марфу. Яна прыбегла дахаты яшчэ больш узрушанай, дастала са схованкі грошы. Доўга разглядала тоўстыя пачкі. «Можа заплаціць Фурсу? І каб усё было чыста... А калі гэта мана? Не, грошыкі мае, я вас нікому не аддам... Хрыбтом нажывала... Калі што якое, усё ў сваёй краме закуплю, каб не прапалі...»

Яна пералічыла пачкі, зноў загарнула іх у анучку і запхнула ў сяннік.

**Заканчэнне будзе.**

*Размова аб майстэрстве*

**Н. ПАШКЕВІЧ**

# А. М. ГОРКІ АБ МАСТАЦКАЙ ТЫПІЗАЦЫІ

Класікі літаратуры побач з мастацкімі творамі пакінулі нам багатую тэарэтычную спадчыну, каштоўнасць якой памнажаецца тым, што яна ўзнікла не ў выніку абстрактных разважанняў, а на аснове ўдумлівага пранікнення ў жывы літаратурны працэс, у тым ліку і ва ўласны творчы вопыт.

Глыбокім і смелым тэарэтыкам мастацтва быў заснавальнік сацыялістычнага рэалізма Аляксей Максімавіч Горкі. Яго даклады, выступленні і спецыяльныя работы, прысвечаныя літаратуры, рэцэнзіі на асобныя творы, пісьмы партыйным і дзяржаўным дзеячам, літаратарам і чытачам, заўвагі на палях кніг і рукапісаў маладых аўтараў складаюць цэлыя тамы.

У мінулым годзе выйшаў у свет зборнік горкаўскіх пісем аб літаратуры. Хочацца звярнуць увагу маладых літаратараў на гэтую мудрую і ўсхваляваную кнігу, прасякнутую гарачымі клопатамі аб развіцці літаратуры, вартай нашай гераічнай эпохі.

Горкаўскія кнігі вучаць правільна ацэньваць ролю і задачы мастацкага слова, месца пісьменніка ў грамадскім жыцці; яны паказваюць шлях да сапраўднага майстэрства. І цяжка ўявіць сёння маладога літаратара, які мог бы абысціся без таго, каб не прыпасці да гэтай жыватворчай крыніцы.

У гэтым артыкуле нам хацелася закрануць некаторыя пытанні мастацкай тыпізацыі, якім вялікі тэарэтык і практык сацыялістычнага рэалізма аддаваў асаблівую ўвагу.

* * *

Калі б ні выступаў Горкі па літаратурных пытаннях, ён заўсёды падкрэсліваў, што сіла літаратуры — у тыповых вобразах, што іншых шляхоў выканаць сваё прызначэнне ў яе няма. Для ілюстрацыі гэтай думкі Горкі звяртаўся за прыкладамі да твораў класікаў мастацкай творчасці, да лепшых узораў маладой савецкай літаратуры і ўказваў, што яны застаюцца ў памяці народа і на яго духоўным узбраенні толькі дзякуючы шырокім абагульненням жыцця, паўнакроўным характарам герояў, насычанасці высокімі чалавечымі пачуццямі.

У гісторыі развіцця савецкага



мастацтва было нямала спроб падарваць аснову асноў рэалістычнай мастацкай творчасці — прынцып тыпізацыі. У дваццатыя гады, напрыклад, на літаратурна-тэарэтычным фронце з'явілася крыклівая група «Левы фронт мастацтва», якая праславілася катэгарычным адмаўленнем мастацкага вобраза як формы адлюстравання рэчаіснасці.

Тэарэтыкі Лефа зыходзілі быццам бы з добрых намераў. Яны заклікалі літаратуру і мастацтва стаць бліжэй да жыцця, да сацыялістычнага будаўніцтва. Аднак прапанаваны імі шлях вырашэння гэтай задачы быў няправільным і шкодным, Асноўная сутнасць патрабаванняў Лефа заключалася ў тым, каб замяніць вобразнае мастацтва мастацтвам голага факта, адмовіцца ад тыпізацыі, ад мастацкага вымыслу «Мы супраць літаратуры вымыслу, якая называецца белетрыстыкай, — пісаў адзін з галоўных тэарэтыкаў Лефа М. Чужак. — Мы за прымат літаратуры факта».

Будучыня літаратуры, на думку Лефа, павінна належаць такім жанрам, як дакументальная біяграфія, дзённік, рэпартаж, інтэрв'ю, фельетон, вытворчая газетная справаздача, судовая хроніка, строга навуковае апісанне вытворчых працэсаў і г. д. Лефаўцы высмейвалі імкненне стварыць манументальныя сучасныя творы. З будучага мастацтва. якім яго ўяўлялі лефаўцы, выключаўся тэатр, яго замяняла кіно, прычым не ўсякае, а толькі хроніка і рэпартаж. Месца жывапісу займала фатаграфія, таму што «здымак, фотарэпартаж больш дакладна, хутчэй і правільней перадае факт, чым самы вопытны рысавальшчык».

Тэарэтыкі Лефа спрабавалі вытлумачыць неабходнасць мастацкай літаратуры ў мінулым, папершае, беднасцю навуковага даследавання жыцця і няразвітасцю статыстыкі (недахоп навуковых матэрыялаў «штурхаў на вымысел»), па-другое, сацыяльна-палітычнымі ўмовамі. Убогасць рэальнага жыцця, гаварылі яны, вяла людзей да суцяшэння выдуманым жыццём, салодкімі ілюзіямі. Між тым, маўляў, час ідзе наперад і літаратура вымыслу перастае быць прагрэсіўнай з'явай. Рэвалюцыя поўнасцю ліквідавала тыя прадпасылкі, якія адганялі пісьменніка ад факта і штурхалі яго на вымысел. Адпала ўсякая патрэба ў вымысле і вырасла, наадварот, патрэба ў факце.

Старыя пісьменнікі, гаварыў лефавец С. Трацякоў у артыкуле «Новы Леў Талстой», бралі на сябе ролю настаўнікаў жыцця, прапаведавалі імі самімі адкрытыя ідэі. Цяпер жа выпрацоўкай сацыяльна-палітычных дырэктыў, чарговых лозунгаў і задач займаецца калектыўны ідэолаг — партыя. Адзіночцы-пісьменніку смешна і думаць аб сваёй філасофскай гегемоніі. «Што будзе рабіць зараз «Чырвоны Талстой» адзіночка побач з гэтым калектыўным настаўнікам? У лепшым выпадку яго ўключылі б у адпаведныя камісіі пры Наркам'юсце, Наркамземе, Наркамздраве, можа быць далі б зрабіць даклад у Комакадэміі, а затым, хутчэй за ўсё, адправілі б работнікам хаты-чытальні ў Ясную Паляну»...

Новая літаратура, на думку лефаўцаў, павінна быць рацыяналістычнай, адзіны шлях яе ўздзеяння на чытача — праз свядомасць. «Час аб'явіць вайну мастацкасці!» — усклікаў М. Чужак і з уласцівым яму імпэтам граміў тыя асновы, на якіх трымалася старая літаратура — вобраз, абагульненне, тыпізацыю, сюжэт, характар.

Літаратура без характараў, без

жывых пачуццяў, без эстэтычнага зместу — вось сутнасць праграмы Лефа. З гэтых пазіцый лефаўцы зусім не прызнавалі творчасць дарэвалюцыйных класікаў, а таксама Горкага і ўсе лепшыя творы маладой савецкай літаратуры.

Горкі назваў «літаратуру факта» самым грубым і няўдалым ухілам натуралізма і прыкладаў усе сілы, каб засцерагчы маладых пісьменнікаў ад захаплення ёю. Ён клікаў іх вучыцца ў класікаў, творы якіх даюць вобразную, мастацкую карціну рэчаіснасці, уздзейнічаюць на розум і сэрца чытача.

* * *

Праблема тыпізацыі — карэнная праблема мастацкай творчасці. Яе, безумоўна, нельга зводзіць да размовы аб сутнасці мастацкага вобраза, як увасаблення агульнага ў індывідуальнай, канкрэтна адчувальнай форме. Правільны падыход да яе вырашэння патрабуе разгляду цэлага шэрагу пытанняў, у тым ліку такіх, як сувязь і ўзаемазалежнасць тыповага ў жыцці і мастацтве, адрозненне мастацкага факта ад жыццёвага, роля светапогляду мастака ў творчым працэсе, пачуццё сучаснасці ў мастака, шляхі і сродкі ўвасаблення эстэтычнага ідэалу ў вобразах і г. д. Усім гэтым пытанням Горкі заўсёды аддаваў вялікую ўвагу.

Варта падкрэсліць, што Горкі заўсёды размаўляў пры гэтым з літаратарамі «па вялікаму рахунку». Гутарка ішла не толькі аб праўдзівасці асобных вобразаў і дэталей твора, а — аб прызванні літаратуры адлюстраваць глыбінныя працэсы жыцця, ахапіць рэчаіснасць адзіным поглядам, ускрыць яе вядучыя сілы і тэндэнцыі і стварыць шырокія палотны. Ён няспынна патрабаваў ад савецкіх літаратараў перш за ўсё глыбока зразумець і адчуць манументальнасць новай эпохі, яе небывалы і нечуваны пафас і толькі тады браць на сябе маральнае права гаварыць з чытачом, вучыць яго.

У артыкулах і пісьмах Горкі нярэдка перасцерагаў пісьменнікаў у тым, каб новы чытач не апынуўся вышэй за іх па адчуванню сучаснасці. Якім хваляваннем дыхаюць старонкі яго выступленняў, прысвечаныя нашай рэчаіснасці, гераічным справам рабочага класа. «Маладым людзям здасца смешным, — гаворыцца ў адным з яго артыкулаў, — калі я, стары, прызнаюся, што пішу зараз у тым настроі, які на ранняй зары культуры дазваляў людзям ствараць неўміручыя паэмы, легенды. Так, я пішу іменна ў такім настроі, і вельмі цяжка мне ўсведамляць, што ў мяне няма слоў такой сілы, якая была б роўнай сіле фактаў, што ўзбуджаюць у душы радасць і гордасць здзіўляючымі поспехамі ў працы пралетарыята-дыктатара».

Часта размову аб разуменні Горкім тыповага пачынаюць з вядомага прыклада аб дзесятках і сотнях крамнікаў і папоў, ад якіх трэба ўзяць характэрныя рысы, каб, абагуліўшы іх у адным чалавеку, стварыць вобраз. Прыклад гэты каштоўны і да свайго месца вельмі неабходны, але не з яго варта пачынаць, бо ў такім выпадку пытанне спрашчаецца.

Перш чым ствараць вобраз папа, пісьменніку варта падумаць, ці трэба яго ствараць. Інакш кажучы, гутарка ідзе аб уменні бачыць тое істотнае, што варта адлюстравання ў літаратуры, аб уменні адрозніць галоўнае ад другараднага. У свой час, напрыклад, перадавыя пісьменнікі рабілі вялікую справу ўжо тым, што з глыбокім і вялікім спачуваннем паказвалі гаротнае, беспрасветнае існаванне фабрычнага рабочага. У эпоху, калі тварыў Горкі, такая пазіцыя адлюстравання жыцця была калі не шкоднай, то надзвычай адсталай. І Горкі ў 1905 годзе піша аднаму аўтару апавядання, у якім былі паказаны толькі цяжкасці жыцця рабочага:

«...Дзе ж тыя рабочыя, якія аднойчы дружным націскам сваёй энергіі прымусілі даць рускаму грамадству вядомую рэформу, дзе тая сіла, якая адразу паставіла рускага рабочага наперадзе яго еўрапейскіх таварышаў па шляху да сацыяльнай барацьбы?

Вы чамусьці абыходзіце той тып рабочага, які найбольш ярка асвятляе душу новага чалавека, рэвалюцыянера-пралетарыя».

Гэтая ж думка выразна была выказана і ў пісьме С. Скітальцу (1908 г.), аповесць якога «Этапы» Горкі рэзка асудзіў у сувязі з тым, што ў поглядзе аўтара на рэчаіснасць, у атмасферы твору зусім не адчувалася тых змен, якія адбыліся ў краіне ў перыяд першай рускай рэвалюцыі. Горкі нават раіў аўтару «Этапаў», якога ён раней вельмі высока цаніў, кінуць пяро, калі той не бачыць новых з'яў жыцця. Вось як востра ставіў ён пытанне аб пачуцці сучаснага ў літаратуры.

Адно з асноўных палажэнняў марксісцка-ленінскай эстэтыкі заключаецца ў тым, каб разглядаць пытанне аб тыповасці характару неадрыўнай ад тыповасці акалічнасцей, ад жыццёвай важнасці ўзятых для твору падзей. Грамадская каштоўнасць мастацкай карціны залежыць ад таго, наколькі правільна вызначыў аўтар месца адлюстраваных ім фактаў у агульнай сістэме жыццёвых з'яў, у якой ступені яго погляд адпавядае прагрэсіўным поглядам часу.

* * *

Сапраўдны мастак не давярае мімалётным уражанням, якія нахлынулі на яго. Каб пранікнуць у сэнс жыцця, неабходна, вучыў Горкі, прапускаць праз сваю свядомасць як можна больш фактаў і з'яў і будаваць вобраз на аснове абагульнення, сінтэзавання ў адным характары або факце рысаў многіх аднатыпных характараў ці фактаў.

Добра аб гэтым сказаў англійскі літаратар Джэк Ліндсей у сваім артыкуле аб праблемах формы і зместу ў сацыялістычным рэалізме, апублікаваным у «Литературной газете» 18 лістапада 1954 года. Дапусцім, гаворыць ён, што пісьменнік выйшаў раніцай з дому і сустрэў камуніста, які быў у змрочным настроі. Потым перакінуўся словам з дырэктарам банка, дзе ён захоўвае свае зберажэнні. Дырэктар у гэты дзень быў у добрым настроі. Пазней разгаварыўся з адным рабочым, які захапляўся Гербертам Марысонам. (Герберт Марысон — адзін з лідэраў лейбарысцкай партыі.) І вось гэты пісьменнік садзіцца пісаць кнігу, у якой камуністы — ныцікі, дырэктары банкаў — жыццерадасныя хлопцы, рабочыя ва ўсім падтрымліваюць сацыял-дэмакратаў і інш. Ці праўдзівая такая карціна? Пісьменнік можа сказаць: «Іменна так і было. Я ўсіх гэтых людзей бачыў». Аднак у якасці адлюстравання жывой рэчаіснасці гэты «асколак жыцця», заключае Ліндсей, безнадзейна фальшывы, у ім адсутнічае тыповасць.

У апошні час у нашай літаратуры значна павялічылася колькасць твораў, у якіх аўтары смела ўскрываюць адмоўныя з'явы нашай рэчаіснасці, бічуюць бюракратызм, чыноўніцтва, зазнайства, асуджаюць няправільныя метады кіраўніцтва гаспадаркай, выступаюць супраць перажыткаў мінулага ў свядомасці і быце людзей. У гэтым няма нічога супрацьпаказанага сацыялістычнаму рэалізму, які закліканы праўдзіва

раскрываць жыццёвыя канфлікты, паказваць барацьбу новага са старым і дапамагаць перамозе новага.

Аднак дрэнна тое, што ўвага некаторых пісьменнікаў канцэнтруецца пры гэтым толькі на адмоўных з'явах, а станоўчыя сілы жыцця, якія ў нас з'яўляюцца пануючымі, затушоўваюцца. Атрымліваецца карціна, якая дае няправільнае ўяўленне аб савецкай рэчаіснасці.

Наша літаратурная крытыка гаварыла ўжо аб такога роду недахопах у творах «Не хлебам адзіным» В. Дудзінцава, «Рычагі» А. Яшына. «Уласная думка» Д. Граніна, «Дабрасельцы» А. Кулакоўскага і інш.

Вось, напрыклад, «Рычагі» А. Яшына — кароценькае апавяданне аб сельскай партарганізацыі, небагатае героямі і падзеямі. Некалькі сельскіх камуністаў у звычайных умовах бачаць буйныя недахопы ў сельскай гаспадарцы, глыбока перажываюць іх, а як сабраліся на партыйны сход — іх быццам бы падмянілі. Афіцыяльнасць атмасферы сходу прымушае іх гаварыць зусім не тое, што яны думаюць. Адным словам, замест людзей паяўляюцца маскі. Безумоўна, факт такі можна сустрэць у жыцці. Тады ў чым жа пагрэшыў пісьменнік супраць жыццёвай праўды?

Справа тут у тым, што гэтаму факту нададзены характар усеагульнасці. Кампазіцыя і ўся атмасфера апавядання такія, што не адчуваецца выключнасці паказанай аўтарам з'явы. Таму і атрымаўся паклёп на сельскіх камуністаў.

Горкі любіў напамінаць пісьменнікам аб «двух праўдах» рэчаіснасці. Ён патрабаваў адрозніваць знешняе аблічча факта ад схаванай за ім сутнасці. Успрыняць і паказаць з'яву ва ўсёй яе маляўнічасці, давесці вобраз да фізічнай адчувальнасці — гэта вялікае майстэрства. Але гэта не ўсё, што патрабуецца ад пісьменніка. Ён абавязаны пранікнуць сваім позіркам пад «кару з'яў» і ўвасобіць у адзіночным, канкрэтна адчувальным агульнае, заканамернае. «Мастацкая літаратура, — вучыць Горкі, — не падпарадкоўваецца прыватнаму факту, яна — вышэй за яго». Яе факт не адарван ад рэчаіснасці, але ён адрозніваецца ад жывога факта сваёй абагуленасцю, ён — «выцяжка з раду аднародных фактаў, ён — тыпізаваны...»

У жыццёвым працэсе трэба адрозніваць праўду сучаснага і праўду будучага, бачыць жыццё ў яго рэвалюцыйным развіцці. Натуралісты задавальняюцца «праўдай» сённяшняга дня, тым, што ў іх перад вачыма. Натуралізм, як прыём, гаворыць Горкі, не падыходзіць да адлюстравання нашай рэчаіснасці, ён скажае яе, не дазваляе бачыць і паказваць канфлікты новага са старым, сцвярджаючы сілу новага.

А. В. Луначарскі, у літаратурна-тэарэтычных працах якога пытанням тыпізацыі аддадзена вялікая ўвага, вобразна ілюстраваў розніцу паміж падыходам да жыццёвых з'яў з боку натураліста і пісьменніка, які валодае метадам сацыялістычнага рэалізма, наступным прыкладам. «Уявіце сабе, — гаварыў ён у дакладзе на II пленуме аргкамітэта Саюза савецкіх пісьменнікаў у 1933 годзе, — што будуецца дом, і калі ён будзе пабудаваны, — гэта будзе цудоўны палац. Але ён яшчэ не дабудаваны, і вы намалюеце яго ў гэтым выглядзе і скажаце: вось ваш сацыялізм, а даху якраз і няма. Вы будзеце, вядома, рэалістам. Вы скажаце праўду, але адразу кідаецца ў вочы, што гэта праўда на самой справе няпраўда». І далей А. В. Луначарскі падкрэслівае, што хаця мастак іншы раз, старанна паказваючы **толькі** адмоўныя з'явы нашай рэчаіснасці, упэўнены, што ён выказвае сумную праўду, «на самай справе гэта няпраўда, у ёй няма аналізу рэчаіснасці ў яе рэвалюцыйным развіцці, і таму ніякіх адносін да сацыялістычнага рэалізма такая «праўда» не мае».



Каб здолець разабрацца, куды і як развіваецца жыццё і ўсёй сілай свайго майстэрства садзейнічаць перамозе новага, пісьменнік павінен быць перадавым чалавекам свайго часу, нястомна авалодваць грамадскай навукай. Горкі прысвяціў нямала сваіх выказванняў светапогляду пісьменніка, яго грамадска-палітычнай пісьменнасці. Вялікі мастак першы сярод літаратараў глыбока зразумеў неабходнасць для пісьменнікаў нашага часу ўзбройвацца пралетарскай ідэалогіяй, марксісцка-ленінскім вучэннем аб развіцці грамадства. Трывала стаўшы на пазіцыі камуністычнай партыйнасці ў мастацкай творчасці, ён быў нястомным яе прапагандыстам, лічачы, што ў арганічным зліцці інтарэсаў мастака з інтарэсамі народа, які змагаецца за сацыялізм, заключаецца сёння неабходная ўмова стварэння высокамастацкіх твораў, якія адлюстроўваюць праўду жыцця. Аасблівую цікавасць сярод іншых выказванняў Горкага ўяўляе з гэтага пункту гледжання яго пісьмо Аляксею Суркову, напісанае ў 1935 годзе.

28 лістапада 1935 года Аляксей Суркоў паведаміў Горкаму асноўныя палажэнні свайго даклада аб савецкай паэзіі на маючым адбыцца III пленуме Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў і падзяліўся шэрагам хваляваўшых не толькі яго, а і многіх іншых савецкіх літаратараў думак. У прыватнасці Суркоў гаварыў аб цяжкасці «сумяшчэння прынцыпаў эстэтычных з момантамі палітычнай мэтазгоднасці». Горкі згаджаўся, што цяжкасць такая існуе, але абвінавачваў за гэта не эстэтыку, якая тут ні пры чым, а тых пісьменнікаў, якія яшчэ слаба звязалі сябе з рэвалюцыйнай справай савецкага народа, не адчулі ўсім сэрцам навізны эпохі. Цяжкасць «сумяшчэння прынцыпаў эстэтыкі з момантамі палітычнай мэтазгоднасці», гаворыць Горкі, «не мела б месца, калі б намі адчувалася цудоўная, абпальваючая душу прыгажосць жыцця, палымяны выбух жыццетворчасці ў нашым Саюзе, гнусны трагізм становішча буржуазіі на Захадзе і ва ўсім свеце»... А для гэтага пісьменнік абавязан клапаціцца аб пашырэнні свайго сацыяльнага вопыту, актыўна ўрывацца ў жыццё, каб бачыць, «што з чым судакранаецца на зямлі». Непасрэднае вывучэнне жыцця ў спалучэнні з настойлівым авалоданнем марксісцка-ленінскай тэорыяй і забяспечвае савецкім пісьменнікам узыходжанне на тое «найвышэйшае інтэлектуальнае плоскаўзвышша», з якога толькі і можна ўбачыць правільную карціну сучаснасці.

Прынцыпова важная яшчэ адна думка, якая ёсць у пісьме А. Суркову. Яна ж праходзіць чырвонай ніткай праз усю тэарэтычную спадчыну Горкага. Гутарка ідзе аб **эстэтычным успрыняцці**, а не толькі лагічным асэнсаванні новай рэчаіснасці. Горкі ніколі не забываўся аб спецыфіцы мастацтва, аб майстэрстве пісьменніка, ніколі не прыніжаў яго ва ўгоду «выйгрышнай» тэме. Ён усведамляў неабходнасць, асабліва ў першыя гады існавання савецкай літаратуры, многае дараваць маладым пісьменнікам, якія смела браліся за новы матэрыял, бо разумеў, што адразу «савецкія Талстыя» нарадзіцца не могуць. Але ён быў далёкі ад вульгарна-сацыялагічнага падыходу да мастацкага твору, пры якім цікавасць зводзіцца толькі да закладзенай у ім ідэі. А ў двац-

цатыя гады у выніку ўплыву на мастацтва вульгарнай сацыялогіі вялікім патокам ішлі творы, якія, па словах Луначарскага, уяўлялі сабою «ледзь-ледзь памазаную фарбамі публіцыстыку». Ідучы ад абстрактна прыдуманай схемы, ад заданай ідэі, многія пісьменнікі свядома стваралі ўмоўна-плакатныя фігуры рабочага, інтэлігента, кулака, буржуя і г. д.

Горкі аддаў вельмі многа сіл растлумачэнню маладым літаратарам элементарнага закона мастацтва, які патрабуе **мастацкай** тыпізацыі жыццёвых з'яў. Ён назваў літаратуру чалавеказнаўствам, падкрэсліўшы тым самым, што галоўны яе прадмет — чалавек, што галоўнае ў рабоце літаратара — стварэнне паўнакроўнага, жывога чалавечага характару. Працуючы над творам, гаварыў Горкі, неабходна шукаць найбольш устойлівыя рысы характару ў дадзеным чалавеку, адкрыць найбольш глыбокі сэнс яго дзеянняў і пісаць аб гэтым такімі дакладнымі, яркімі словамі, каб са старонак кнігі, з-за чорных радкоў яе, з сеткі слоў чытач бачыў жывы твар чалавека, каб сувязь пачуццяў і дзеянняў героя здавалася яму неаспрэчнай. Абагулены характар тыпу, яго сінтэтычнасць не азначае бязлікасці, абстрактнасці.

Абагульняючы ў адным характары рысы многіх людзей аднаго класа або сацыяльнай групы пісьменнік абавязаны паклапаціцца, каб у гэтым характары быў свой «індывідуальны стрыжань». «Класавую прыкмету», — гаворыць Горкі ў артыкуле «Аб п'есах» — не трэба наклейваць чалавеку звонку, на твар, як гэта робіцца ў нас; класавая прыкмета не бародаўка, гэта нешта ўнутранае, нервова-мозгавае, біялагічнае... Адна толькі «класавая прыкмета» не дае яшчэ жывога, цэласнага чалавека, мастацкі афармлены характар».

У пісьмах да маладых літаратараў і ў гутарках з імі Горкі не пераставаў напамінаць аб неабходнасці для пісьменніка эмацыянальнай граматнасці, высокаразвітага эстэтычнага пачуцця, «Плоць і кроў» мастацкага твора, гаварыў ён, складае эмацыянальная насычанасць яго, трапятанне жывога чалавечага сэрца. Горкі высока цаніў раман маладога тады пісьменніка Леаніда Лявонава «Барсукі», з якім ён пазнаёміўся летам 1925 года. Навізна падыходу да сялянства, адсутнасць салодзенькай і фальшывай выдумкі, з якой прынята было гаварыць аб вёсцы ў народніцкай літаратуры, спалучалася ў Лявонава з уменнем увасобіць рэвалюцыйную тэму ў жывыя карціны, насычаныя вялікім чалавечым пачуццём. У леонаўскіх герояў рэвалюцыя прайшла цераз сэрца, кожны з іх успрымае грамадскія падзеі не як пабочную справу, а як паваротны этап у асабістым лёсе. Думка аб непарыўнай сувязі асабістага і грамадскага закладзена і ў сюжэце рамана. Грамадскія падзеі тут уплываюць на асабістыя, нават інтымныя ўзаемаадносіны герояў, асабістыя пачуцці абумоўліваюць паводзіны герояў у грамадскіх падзеях. Раман якраз і з'яўляецца добрым прыкладам паказу класавага як «унутранага, нервова-мозгавага».

Схематызм — найбольш пашыраны недахоп у творах нашых маладых (ды і не толькі маладых) літаратараў. Іншы раз аўтар выяўляе і добрае веданне жыццёвага матэрыялу, і заўважае сур'ёзныя канфлікты, і дае правільную ацэнку падзеям, а ўсё ж чытач застаецца абыякавым да яго твору. Чаму? Таму, што ў творы нехапае жывога чалавечага пачуцця, няма людзей, за лёсам якіх можна было б сачыць з хваляваннем.

Асобныя старонкі аповесці Ул. Шыціка «Назаўсёды» («Полымя» 1958, № 3) сведчаць, што малады празаік не пазбаўлены назіральнасці, ён можа перадаць пэўны настрой чалавека, нават складаныя і супярэчлівыя перажыванні. Ёсць у аповесці рад добрых мясцін, дзе даюцца малюнкі працы ў заводскім цэху, апісваецца быт заводскай моладзі.



І ўсё ж, калі гаварыць увогуле, аповесць атрымалася мала мастацкая. Што, бадай, самае галоўнае — ёй нехапае высокай усхваляванасці, эмацыянальнай паўнаты.

Сказаць, што канфлікты, пакладзеныя ў аснову аповесці, не маюць сур'ёзнага грамадскага значэння, было б няправільным. Тут і сутыкненні людзей, думка якіх накіравана ўвесь час наперад, з кансерватарамі, і праблемы маралі, і выкрыццё абібокаў і «стыляг» і г. д. Аднак усё гэта ў аповесці выглядае здробненым, непераканаўчым, бо аўтар не загарэўся як след творчым жаданнем аднаго ўзвялічыць, другога асудзіць, грэцяга засцерагчы ад неабдуманага ўчынку.

Замест жывых людзей, якія б сышліся ў рашучай барацьбе за свае погляды, ён паказаў нам рад фігур з ярлыкамі — гэты перадавік, а гэты — кансерватар, гэты высокамаральны чалавек, а гэты — падлюга. Адкуль у людзей пэўныя рысы, чаму чалавек паводзіць сябе так, а не інакш, па аповесці меркаваць немагчыма.

Пісьменнік пашкодзіў сабе тым, што не прадумаў належным чынам кампазіцыі твору. У яго, бадай, усе героі аказаліся на першым плане. А іх даволі многа, і ні адзін не атрымаў больш-менш грунтоўнай характарыстыкі. У пачатку аповесці намячаўся сур'ёзны канфлікт паміж начальнікам цэха Галазецкім і старшым майстрам Савёлавым. Канфлікт не новы, трафарэтны, аднак мы хочам сказаць тут пра тое, што ён мог неяк арганізаваць усе падзеі, вызначыць кожнаму герою сваё месца. Але аўтар, як кажуць, спусціў, гэты канфлікт на тармазах, а ўзамен завязаў цэлы ланцуг новых канфліктаў, у пераважнай большасці інтымных, падаўшы ўсе іх першым планам і не справіўшыся ні з адным.

Карціна атрымалася прыземленая, паўнатуралістычная. Аўтар не ўзняўся над асобнымі фактамі жыцця заводскага калектыву, якія ён, відаць, назіраў, не выкарыстаў права пісьменніка на «домысел» і абавязку ствараць вобразы на аснове шырокіх абагульненняў.

У агульнай плыні жыцця, як вядома, істотныя, значныя факты і падзеі мяжуюць з нязначнымі, выпадковымі. Адны рысы прадмета з большай паўнатой выяўляюць яго сутнасць, другія — з меншай, трэція наогул лішнія ў гэтым сэнсе. Таксама і ў жыцці таго ці іншага чалавека ёсць многа такіх момантаў, якія не ўяўляюць цікавасці для таго, хто вывучае гэтае жыццё.

І адна з шчаслівых вартасцей чалавечай свядомасці заключаецца ў тым, што мы валодаем здольнасцю пранікаць у сутнасць рэчаў, праходзячы міма другараднага, спыняючыся толькі на істотных прыкметах.

Па гэтай простай прычыне, натуральна, няма неабходнасці адкрываць дарогу ўсім падрабязнасцям і выпадковасцям і ў мастацкі твор. Пісьменнік бярэ для вобраза і карціны толькі тыя рысы і дэталі, якія ствараюць жыццёвую паўнату, канкрэтна-адчувальную форму праяўлення той ці іншай думкі і дапамагаюць чытачу зразумець ідэю твора. Ясна, што такую ролю з поспехам выконвае толькі яркая, насычаная сэнсам дэталь.

Але адным адборам жыццёвых

фактаў справа, вядома, не можа абмежавацца. Пісьменнік пры дапамозе творчай фантазіі смела пераўтварае накоплены ім матэрыял і стварае стройную карціну, якая адлюстроўвае жыццё, але не капіруе яго. Імкненне натуралістаў да дакладнай фіксацыі фактаў (што па-сутнасці наогул немагчыма) вядзе да твораў, якія нічым не могуць узбагаціць чытача. Мастацкасць уключае ў сябе, як абавязковую ўмову, ацэначна-эстэтычны момант, а пры знясці дакладнай копіі яму няма месца. Сапраўдны мастак, гаворыць В. Г. Бялінскі, «перапрацоўвае ўзяты ім гатовы змест па свайму ідэалу, і ад гэтага ў яго атрымліваецца карціна, больш жывая, гаворачая і поўная, чым сапраўдны выпадак, які падаў яму повад напісаць гэтую карціну».

Працэс пераўтварэння жыццёвага матэрыялу ў мастацкую карціну лепш за ўсё прасачыць на творах, у аснову якіх пакладзены гістарычна праўдзівыя факты і біяграфіі рэальных людзей. Такіх твораў у савецкай літаратуры многа. Возьмем для прыкладу раман Міхася Лынькова «Векапомныя дні».

Раман «Векапомныя дні», як вядома, прысвечаны гераічнай барацьбе беларускага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у час Вялікай Айчыннай вайны. Прататыпамі раду яго герояў паслужылі вядомыя арганізатары і радавыя ўдзельнікі партызанскага руху. Пад сваім імем выведзены партызанскі герой Канстанцін Заслонаў. У вобразе Васіля Іванавіча Сакалова лёгка ўгадваюцца рысы другога буйнейшага кіраўніка партызанскага руху В. І. Казлова. Мірон Іванавіч мае шмат чаго агульнага з партызанскім камбрыгам Мінаем Шмыровым.

Маюць сваіх «прататыпаў» цэлыя сюжэтныя сітуацыі і эпізоды.

«Векапомныя дні» — хвалюючы летапіс жыцця беларускага народа ў самы складаны і цяжкі перыяд гісторыі савецкай краіны. Аднак у дадзеным выпадку слова «летапіс» нельга разумець літаральна. Грунтуючыся на гістарычна-праўдзівых фактах, пісьменнік стварыў іменна **мастацкую** карціну.

Ці варта гаварыць, якое багацце матэрыялу нахлынула на аўтара, калі ён пачаў вывучаць адлюстраваныя ў рамане падзеі. Трэба было разабрацца ў ім, вызначыць галоўныя факты, якія характарызуюць сутнасць падзей. А сутнасць заключалася ў тым, што, нягледзячы ні на якія цяжкасці, ні на якія нягоды, беларускі народ не толькі не скарыўся перад ворагам, а ўзняўся пад кіраўніцтвам партыі на свяшчэнную барацьбу і ўнёс у перамогу над фашызмам вялікі ўклад.

Услаўленне народнага гераізму, стойкасці і непераможнасці савецкага ладу і абумовіла асноўны пафас рамана. Натуральна, што галоўным канфліктам з'явілася сутыкненне двух класавапроцілеглых сіл, носьбітаў двух непрымірымых ідэалогій. Побач з гэтым у творы разгортваецца рад іншых канфліктаў — і ў стане ворага, і ў асяроддзі партызан, — аднак яны маюць падпарадкаваны характар.

Могуць сказаць, што ў такой кампазіцыі, у выбары такога асноўнага канфлікта эпапеі аб партызанскай барацьбе няма нічога асаблівага. Што ж можна было яшчэ высунуць на першы план у эпічным творы на такую тэму?

Правільна, тут няма нічога асаблівага. Гэта гістарычна праўдзівая карціна, якая адлюстравала рэальную расстаноўку сіл, бо яе пісаў савецкі пісьменнік. Аднак жа ёсць на свеце людзі, якія маюць іншы погляд на падзеі партызанскай барацьбы, даюць ім інакшую ацэнку.

Нядаўна ў выдавецтве замежнай літаратуры выйшла ў перакладзе з англійскай мовы кніжка «Камуністычныя партызанскія дзеянні». Аўтары гэтай кніжкі, напісанай далёка не ў дружалюбным нам духу, сцвярджаюць, напрыклад, што савецкія людзі ў тылу ворага ўзнімаліся на партызанскую вайну не па сваёй волі, а пад прымусам камуністаў.

Як бачым, гэта ўжо зусім процілеглае па зместу вызначэнне асноўнага грамадскага канфлікту таго часу, вызначэнне, узнікшае на абсалютным невуцтве, а хутчэй за ўсё ў выніку свядомага імкнення абняславіць савецкі народ. І калі б, скажам, у аўтараў памянёнай кніжкі ўзнікла жаданне напісаць аб нашай партызанскай вайне раман, можна ручацца, што на першым плане ў ім была б не барацьба народа з гітлераўскімі захопнікамі.

Правільнае разуменне пісьменнікам жыццёвага працэсу, расстаноўкі грамадскіх сіл, асноўных і другарадных канфліктаў часу, логікі іх развіцця і вырашэння з'яўляецца першачарговай умовай праўдзівасці мастацкага твору. Сваю ролю гэта адыгрывае ўжо ў поўнай меры на першай ступені творчага працэсу — пры адборы жыццёвага матэрыялу.

Не абмінаючы ні аднаго важнага факта, звязанага з падзеямі партызанскай барацьбы, аўтар «Векапомных дзён» у першую чаргу спыняў увагу на тым, што, з аднаго боку, характарызуе высокія маральныя якасці савецкіх людзей, з другога — чалавеканенавісніцтва, звярыную ідэалогію фашысцкіх вылюдкаў.

У выніку знаёмства з архіўнымі матэрыяламі, гутарак з удзельнікамі партызанскай барацьбы, наведвання мясцін партызанскіх баёў памяць і запісныя кніжкі пісьменніка напоўніліся безліччу жывых яркіх фактаў, якія прасіліся на мастацкае палатно.

Аднак жыццёвы матэрыял — гэта яшчэ толькі частка справы. Горкі гаварыў аб двух вывучках пісьменніка — «лыка драць і лапці плесці». «Лыка драць» — уменне назіраць жыццё, збіраць факты. «Лапці плесці» — уменне ператвараць жыццёвы матэрыял у мастацкія вобразы і перадаваць іх на паперы яснымі, дакладнымі словамі. На другой ступені ў поўнай сіле праяўляецца творчая фантазія, пры дапамозе якой пісьменнік, падпарадкоўваючыся законам сюжэта, кампазіцыі і іншых элементаў мастацкага твору, смела пераўтварае жыццёвы матэрыял у адпаведнасці са сваёй мастацкай задумай.

Асобныя, разрозненыя характары і сітуацыі, якія аўтар «Векапомных дзён» узяў з жыцця, трэба было звязаць у адно цэлае, згрупаваць вакол галоўнай ідэі, сцэментаваць адзіным сюжэтам.

І калі паспрабаваць «зверыць» раман з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, дык можна сказаць, што іменна так было ў жыцці і разам з тым, што так у жыцці не было. Не будзем баяцца апошніх слоў, спадзеючыся, што нас правільна зразумеюць. Праўдзівы мастацкі твор з'яўляецца не апісаннем пэўнай сумы фактаў, а плёнам творчай фантазіі мастака. Абапіраючыся на фактычны матэрыял, падпарадкоўваючыся логіцы жыцця, пісьменнік стварае самастойную карціну. Ён смела абагульняе аднатыпныя жыццёвыя факты ў адным факце, дамыслівае асобныя сітуацыі, неабходныя па логіцы дзеяння, узбагачае характары ўбачаных ім у жыцці людзей новымі рысамі, устанаўлівае паміж тымі ці іншымі фактамі і сітуа-

цыямі сувязі, якіх у жыцці ён неназіраў, аднак якія зусім верагодныя і ў дадзеным выпадку неабходныя для выяўлення ідэі твору. Усё гэта характэрна для рамана «Векапомныя дні».

Як мы ўжо сказалі, многія героі рамана маюць сваіх рэальных прататыпаў. Гэта не азначае, што аўтар толькі тое і зрабіў, што старанна скапіраваў рысы характараў і ўчынкі жывых людзей. Побач з гэтым пераважная большасць герояў рамана поўнасцю нарадзіліся ў творчай фантазіі пісьменніка. Хоць і гэта трэба разумець вельмі адносна. Фантазія пісьменніка, безумоўна, абапіралася на пэўныя запасы назіранняў над людзьмі. Часта сам пісьменнік не можа сказаць, адкуль узнік той ці іншы вобраз.

М. Лынькоў стварыў у рамане галерэю тыповых чалавечых характараў, у якіх увасоблены лепшыя рысы савецкіх людзей. З такой жа паўнатой і выразнасцю намаляваны многія вобразы фашыстаў і здраднікаў Радзімы.

* * *

Працэс тыпізацыі Горкі звязваў з правам пісьменніка на завастрэнне і «пераўвелічэнне» вобраза. «Мастацтва заўсёды «тыпізуе»,— гаварыў ён,— г. зн. яно пераўвялічвае, яно бярэ характэрныя рысы многіх, прыпісвае іх аднаму і дае нам тыпы, напрыклад, скупога: бацька Грандэ — Бальзака, Скупы рыцар — Пушкіна, Плюшкін — Гогаля... Мастацтва пераўвялічвае і «дабро» і «зло». Гэта яго сацыяльна-педагагічны «прыём» і яго права».

Чаму ж Горкаму спатрэбілася панящце «пераўвелічэнне»? Ці нельга было абысціся паняццем «тыпізацыя», тым больш, што ён ставіў паміж імі знак роўнасці? Відаць, нельга было і вось, нам здаецца, па якой прычыне. Тэрмін «тыповае», які ў жыццёвым ужытку абазначае характэрнае, нармальнае, найбольш верагоднае ў пэўных умовах, не заўсёды наводзіць на думку аб асаблівай сканцэнтраванасці рысаў пэўнага раду фактаў у адным мастацкім факце, аб «незвычайнасці» мастацкага тыпу ў параўнанні з яго прататыпамі ў тым сэнсе, што тут усё ўзбуйнена, узмоцнена для большай выразнасці і даходлівасці.

Каб зрабіць станоўчую з'яву ці загану больш нагляднымі, мастак «завастрае» іх. Формы і ступені такога завастрэння бываюць розныя — да гіпербалы і гратэску, гэта ўжо спецыфіка жанраў, але ніколі сапраўдны мастацкі вобраз не задавальняецца паўтарэннем рысаў аднаго прататыпу.

Многія пісьменнікі пішуць свае творы, абапіраючыся на рэальных прататыпаў. Тургенеў, напрыклад, прызнаваўся, што нічога не мог напісаць без апоры творчага ўяўлення на жывых людзей і рэальныя падзеі. З жывога чалавека быў «спісаны» ім і Базараў («Бацькі і дзеці»). Але гэтае «спісаны» мае далёка не літаральны сэнс. «Я надаў яму,— гаварыў Тургенеў,— рэзкасць і бесцырымоннасць тыпу... у выніку назіранняў над маім знаёмцам, доктарам Д. і падобнымі асобамі».

Можна смела сказаць, што пераважная большасць герояў Горкага мела ў жыцці рэальных прататыпаў. Але Горкі не ішоў па шляху простага ўзнаўлення партрэтаў бачаных ім людзей. Ён смела падкрэсліваў тыя ці іншыя рысы, аслабляў другія, надаваў новыя, узятыя ад іншых людзей або дадуманыя самім.

Гаворачы аб тым, што мастацтва пераўвялічвае добрае, каб яно стала яшчэ лепшым, і дрэннае, каб яно ўзбуджала агіду, запальвала волю знішчыць «ганебныя мярзотнасці жыцця», Горкі тлумачыць гэта тым, што «ў аснове сваёй мастацтва ёсць барацьба **за** або **супраць**, абыякавага мастацтва — няма і не можа быць, бо чалавек не фатаграфічны апарат...»



У артыкуле «Гутаркі аб рамястве» вялікі пісьменнік расказвае, як ствараўся вобраз Якава Маякіна («Фама Гардзееў»). Асновай паслужылі багатыя назіранні над «гаспадарамі жыцця». Асабліва многа далі Горкаму наведванні Усерасійскай прамысловай выстаўкі 1896 года. Тут для пісьменніка была галоўным чынам выстаўка не прадметаў, а людзей, «барадатых твараў гаспадароў пскоўскіх, вяцкіх, сібірскіх і ўсякіх іншых губерняў і абласцей». Сустракаліся вельмі каларытныя тыпы, накшталт аднаго філасофствуючага старога, «арганізатара мышлення і настрою «гаспадароў». Але для задуманай Горкім фігуры Якава Маякіна яны ўсё ж не давалі дастатковай колькасці матэрыялаў.

Дапамог прыём «дамыслівання» недастаючых рысаў задуманага характару. Грунтуючыся на праўдзе псіхалогіі пэўнай сацыяльнай катэгорыі людзей, Горкі прыпісаў свайму герою, узятаму з рускага жыцця, «тое-сёе ад сацыяльнай філасофіі Фрыдрыха Ніцшэ», і тып набыў «інтэрнацыянальнае» гучанне.

Тут праявіўся выключны талент Горкага не толькі бачыць глыбіню з'явы, але і прадбачыць яе далейшае развіццё. А гэта для мастака — самая неабходная якасць.

Рэвалюцыя 1905 года, эпоха рэакцыі, потым Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя былі тымі новымі грамадскімі ўмовамі, у якіх прататыпы Якава Маякіна не толькі адчувалі магчымасць, а і вымушаны былі паказаць сябе ўсяго. Жыццё, гаворыць Горкі, поўнасцю апраўдала «домысел» як прыём «мастацкага рамяства». «Якаў Маякін пасля першай рэвалюцыі 1905—6 гадоў стаў «акцябрыстам» і пасля Кастрычніка 17 года паказаў сябе цынічна адкрытым і бязлітасным ворагам працоўнага народа».

Можна прывесці многа яркіх прыкладаў з творчасці розных пісьменнікаў, якія сведчаць аб свядомым завастрэнні і пераўвелічэнні вобразаў і сітуацый як творчым прынцыпе. Звернемся зноўтакі да рамана «Векапомныя дні».

Партызанская вайна была багата такімі прыкладамі гераізму, такімі, здавалася б, неверагоднымі фактамі мужнасці і адвагі народных мсціўцаў, што пісьменніку, які ўзяўся паказваць яе, на першы погляд не было неабходнасці займацца «домысламі», «завастрэннем». Але гэта на першы погляд. Справа ў тым, што калектыўны гераізм народа мастак увасабляе не ў абстракцыях, а ў канкрэтных характарах людзей. А ў гэтым выпадку тое, што часам прыходзілася ў жыцці на многіх, аўтар аддае аднаму чалавеку. Гэта, безумоўна, і ёсць завастрэнне пераўвелічэнне характару. Можна з упэўненасцю сказаць, што калі б аўтар, апісваючы баявы шлях рэальных прататыпаў, строга прытрымліваўся дакументальнай асновы, паўнацэнная мастацкая карціны аб партызанскім руху не атрымалася б. Па-першае, таму, што ў жыцці было многа выпадковага, такога, што не адлюстроўвае сутнасці і характару партызанскай барацьбы, па-другое, некаторыя факты, якія мелі месца ў рэальнай біяграфіі герояў і аказваліся вельмі неабходнымі ў развіцці сюжэта рамана, былі ўсё ж слабымі для перадачы высокага накалу адлюстроўваемых падзей.

Узяць, скажам, адыход Заслонава з Оршы, дзе ён некалькі месяцаў вёў гераічную дыверсійную работу, будучы «начальнікам рус-

кіх паравозных брыгад». Адыход гэты адбыўся непрыкметна, ноччу, у час бамбёжкі станцыі савецкімі самалётамі (так склаліся абставіны). У рамане ж група Заслонава, пакідаючы станцыю, праводзіць вялікую аперацыю. Не паказаць адыходу Заслонава з Оршы аўтар не мог, бо атрымаўся б незразумелы разрыў у ланцугу падзей, звязаных з гэтым героем. А паказаць так, як было ў сапраўднасці, азначала б выкананне толькі інфармацыйнай задачы. Характарыстыка героя, які ў самых цяжкіх умовах умеў наносіць удар ворагу, не ўзбагацілася б. Выходзячы з гэтага, аўтар стварыў сілаю сваёй фантазіі такую карціну адыходу партызанскай групы з Оршы, якая больш адпавядае характару Заслонава і яго баявых сяброў. Разыходжанне з дакументам, але — мастацкая праўда, дасягнутая шляхам пераўвелічэння і завастрэння сітуацыі.

Аднак ёсць розныя пераўвелічэнні. Горкі рашуча змагаўся супраць такіх пераўвелічэнняў, якія адрываюць вобраз ад рэальнай глебы, скажаюць сэнс з'явы.

Горкаўскія палажэнні аб завастрэнні і пераўвелічэнні вобраза маюць прынцыповы сэнс для метаду сацыялістычнага рэалізма. Яны клічуць літаратуру і мастацтва да актыўнага адлюстравання жыцця, накіраваны супраць абыякавага бытаапісальніцтва, супраць натуралістычнай праўдападобнасці.

Між тым, некаторыя нашы тэарэтыкі не зразумелі глыбіні гэтых палажэнняў. Яны ўбачылі ў прынцыпе мастацкага завастрэння і пераўвелічэння небяспечную тэндэнцыю адрыву літаратуры ад жыцця і выступаюць за так званую праўдападобнасць мастацкага вобраза, называючы праўдападобнасць законам рэалістычнага мастацтва, а парушэнне яе — адступленнем ад закона.

Горкі трымаўся ў адносінах да праўдападобнасці зусім іншай думкі. На пытанне Ф. Гладкова, ці не з'яўляецца праўдападобнасць адной з рысаў мастацкасці, ён адказаў: «Праўдападобнасць» для мастака — справа небяспечная. Заля, Ганкуры, наш Пісемскі — праўдападобныя, гэта — так, але Дэфо — «Рабінзон Крузо» і Сервантэс — «Дон Кіхот» бліжэй да ісціны аб чалавеку, чым «натуралісты», «фатографы».

Прыхільнікі праўдападобнасці, «натуральнага выгляду рэчы», хочуць яны таго ці не хочуць, выкрэсліваюць з рэалізма такія творы, дзе не захаваны рэальныя памеры рэчаў і прадметаў, але затое ўскрыта іх сутнасць. Мы маем на ўвазе многія вобразы Шчадрына, байкі Крылова, п'есы Маякоўскага і г. д. і г. д.

Практычныя меркаванні, якія вымушаюць некаторых тэарэтыкаў выступаць супраць завастрэння і пераўвелічэння, варты падтрымкі. Гутарка ідзе аб тым, што літаратура не павінна паказваць толькі выключнае, толькі выдатных асоб. Аднак аргументы ў карысць гэтай правільнай думкі ўзяты не тыя. Яны пабудаваны на блытаніне тыповага ў жыцці і тыповага ў мастацтве, мастацкай праўды і праўдападобнасці, што, як вядома, не адно і тое ж. Тыповае ў мастацтве павінна быць яркім, выпуклым. Калі нават аўтар спыняе сваю ўвагу на катэгорыі людзей «ні рыба, ні мяса», то гэта не значыць, што і вобраз павінен быць «ні рыба, ні мяса». Горкі многа гаварыў аб адлюстраванні масавага, пашыранага, будзённага. Аднак ён не спыняўся на гэтым сцверджанні, а вучыў пісьменнікаў: бярыце малое і рабіце з яго вялікае, яркае.

Праціўнікі пераўвелічэння ў асноўным зыходзяць з таго, што гэтае паняцце ўспрымаецца, як упрыгожванне, і калі, маўляў, настойваць на ім, то будзеш садзейнічаць лакіроўцы жыцця. Клопаты гэтыя аб праўдзівасці мастацтва пахвальныя, але ці ў тым умова іх ажыццяўлення? Ці значыць, што калі хто-небудзь няправільна разумее тую або іншую тэорыю, то трэба гэтую тэорыю выкінуць? А ці не лепш растлумачыць яе сэнс, каб яна дайшла да свядомасці?

Пытанне аб пераўвелічэнні як прынцыпе тыпізацыі нельга блытаць з тым, ці паказваць ці не паказваць адмоўныя з'явы нашага жыцця. Горкі ж не патрабаваў «пераўвялічваць» адно і «памяншаць» другое. У яго былі асобныя моманты, калі ён, захапіўшыся размахам небывалых гістарычных пераўтварэнняў у савецкай краіне, схільны быў недаацэньваць самакрытыку, мяркуючы, што яна высоўвае на першы план нашы недахопы і дае ворагам матэрыял для паклёпу на нас.

У вядомым пісьме І. В. Сталіна да Горкага ад 17 студзеня 1930 года раскрываецца памылковасць такой думкі. Пасля гэтага пісьма Горкі змяніў свой погляд на крытыку і самакрытыку, аднак ад мастацкага прынцыпу пераўвелічэння і завастрэння вобраза не адмовіўся, наадварот, многа разоў растлумачваў яго правільнасць. Так, у прамове на адкрыцці другога пленума Праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў 2 сакавіка 1935 года ён гаварыў: «...Пытанне варта паставіць у такой плоскасці: ці прызнаем мы за мастацтвам права пераўвялічваць з'явы сацыяльныя — станоўчыя і адмоўныя? Спрачацца па гэтаму пытанню варта было б... Без гэтага мы не засвоім метаду сацыялістычнага рэалізма. Усе вялікія творы, усе тыя творы, якія з'яўляюцца ўзорамі высокамастацкай літаратуры, грунтуюцца іменна на пераўвелічэнні, на шырокай тыпізацыі з'яў. Ці не пара нам да гэтай справы прывучацца?»

Бытавізм заядае сёння многія творы нашай літаратуры. Замест таго, каб, як вучыў Горкі, укладваць быт у фундамент, многія ляпяць яго на фасад. І нярэдка — у выніку спрошчанага разумення мастацкай праўдзівасці. Між тым, нам неабходны моцныя, яркія вобразы, якія б ва ўсёй велічы паказвалі наша жыццё і запальвалі сэрцы жаданнем пераймаць станоўчы прыклад, якія б выхоўвалі гарачую нянавісць да ўсяго адмоўнага, вучылі змагацца з ім. Такія вобразы могуць узнікнуць толькі на аснове смелага пераўтварэння жыццёвага матэрыялу ў творчай фантазіі, пры выкарыстанні ўсіх форм мастацкага завастрэння і пераўвелічэння — да гратэску і гіпербалы.

**Насустрач чацвёртаму З'езду пісьменнікаў Беларусі**

Юлія КАНЭ

# МАЛАДАЯ СІЛА

### Некаторыя заўвагі аб маладой прозе

Той, хто ўважліва сочыць за рэспубліканскім друкам, ведае, як многа новых імён паявілася за апошнія два — тры гады ў беларускай прозе. Калі патрэбна лічба, то вось яна: добрыя два дзесяткі маладых празаікаў выступаюць цяпер на старонках нашых газет і часопісаў.

Маладая літаратура прадстаўляе сабой арганічную частку ўсёй савецкай літаратуры. Таму вернасць прынцыпам і традыцыям савецкай літаратуры — адзіная мерка, з якой можна падыходзіць да творчасці маладых. З другога боку, у літаратуры паняцце **маладыя** непарыўна звязана з паняццем **пакаленне.** Нездарма сказана: кожнаму часу — свае песні. Калі маладыя пісьменнікі перапяваюць старэйшых, калі творы іх не нясуць на сабе слядоў часу і не раскрываюць душу сучаснікаў — людзей новага пакалення — яны не маюць права называцца маладымі.

Асаблівасцю маладой беларускай прозы з'яўляецца тое, што ў ёй працуюць прадстаўнікі не аднага, а двух пакаленняў. Старэйшыя — гэта тыя, каму да пачатку Айчыннай вайны было 16—18 гадоў і хто яшчэ паспеў прыняць у ёй непасрэдны ўдзел, як Іван Науменка, Алесь Асіпенка, Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў. Маладшым да пачатку вайны было ўсяго толькі 8—10 год, і іх фарміраванне прыпадае ўжо цалкам на пасляваенныя гады. Гэта Іван Пташнікаў, Вечаслаў Адамчык, Яўген Каршукоў, Мікола Лапуста і іншыя. І само па сабе зразумела, што існуе не проста ўзроставая розніца паміж літаратурнымі равеснікамі. Гэта розніца лёсу пакаленняў, якая самым непасрэдным чынам адбілася ў творчасці — у выбары герояў, у тэматычнай накіраванасці, у агульным яе гучанні.

Аб пісьменніках старэйшай групы можна ўжо гаварыць, як аб склаўшыхся ў пэўнай меры творчых індывідуальнасцях. У гэтым пераконваюць зборнікі трох маладых празаікаў: І. Науменкі, А. Карпюка, А. Асіпенкі, якія выйшлі ў 1958 годзе.

Кніга Івана Науменкі «Хлопцы-равеснікі» была вельмі цёпла сустрэта і чытачамі і крытыкай.

...Раённы цэнтр акупіраваны немцамі, школа занята нямецкім камендантам, семнаццацігадовыя юнакі шукаюць шляхі барацьбы з ворагам... Ці не знаёма ўжо гэта нам па многіх кнігах? Знаёма. Адкуль жа тады ўражанне навізны і свежасці, якое пакідаюць апавяданні Науменкі? Пісьменнікі старэйшага пакалення пісалі аб тых, каго вайна насцігла на семнаццатым годзе жыцця, як аб **маладшых.** Науменка піша аб тым жа героі, як аб **роўным.** Ды і ці магло быць інакш, калі піша ён аб сабе, аб сваіх сябрах-равесніках, аб сваім пакаленні і ад яго імя? Іван Науменка першы ў беларускай прозе так ярка і з такім шчырым пачуццём расказаў аб юнацтве таго пакалення, якое сустрэла вайну на школьнай парце. Лёгка і свабодна ўводзіць пісьменнік чытача ў багаты ўнутраны свет семнаццацігадовых хлопцаў 1941 года. Яны жывыя — Цімох, ад імя якога вядзецца апавяданне, і яго сябры Цішка Дрозд і Мікола Біцюг («Семнаццатай вясной») з іх хлапцоўскай сур'ёзнасцю і хлапцоўскімі памылкамі, з іх спробамі адвярнуцца «ад прыманак маладосці», з іх першым каханнем — у такі суровы час. Яны розныя, але сходзяцца ў адным: «нельга сядзець, склаўшы рукі, трэба дзейнічаць», трэба змагацца з ворагам. Важна, можа быць, нават не тое, колькі шкоды фашыстам змаглі прынесці юныя патрыёты, — важна тое, што яны ўсімі сіламі імкнуцца змагацца. І тут яны па-даросламу смелыя і самаадданыя, гэтыя юныя савецкія грамадзяне, якія нарадзіліся пры савецкай уладзе і не ўяўляюць свайго жыцця без яе.

Цудоўна перададзеная атмасфера раённага цэнтра на Палессі — яшчэ не горада, але ўжо і не сяла — узмацняе тое адчуванне жыццёвай праўды, якое ўзнікае пры чытанні апавяданняў І. Науменкі.

Пісьменнік не пакідае сваіх герояў на парозе паўналецця. Яны сустракаюцца зноў у апавяданні «Хлопцы-равеснікі» ўжо дарослымі людзьмі. «Нам цяпер па трыццаць, а дружбе нашай, без усялякай хлусні, па дваццаць гадоў, — гаворыць лірычны герой апавядання. — Плялі мы некалі смелыя планы наконт будучага жыцця, нашага месца і ролі ў гэтым самым жыцці... Нам па трыццаць ужо, такім чынам, і можна падвесці сякія-такія рахункі зробленаму».

Цікава ведаць аб чым жа марылі сябры і якое месца занялі яны ў жыцці?.. «У юнацтве ўсе мы марым скончыць жыццё як Аляксандр Македонскі, а канчаем яго калежскімі асэсарамі...» Як часта яшчэ і ў наш час паўтараюць гэтыя вядомыя словы бяздзейныя няўдачнікі і сябелюбцы, лічачы іх бясспрэчным доказам абмежаванасці чалавечых магчымасцей. Героі Науменкі таксама марылі аб славе, але ў гэтых марах, цесна звязаных з родным краем, не было нічога карыслівага. А калі заляталі яны ў думках далёка ад родных мясцін, то для таго, каб дапамагчы і другім людзям пабудаваць новае жыццё. Мікола Біцюг, напрыклад, адзін час лічыў, што прысвеціць сваё жыццё збіранню народнай творчасці; потым падбіў свайго сябра разам пісаць гісторыю родных Бацькавіч — расказаць, як жылі тут людзі раней і як жывуць цяпер; потым марыў прабрацца ў Балгарыю і падняць яе народ на рэвалюцыю. «Паднялі яе там і без яго. Але ж важна другое — Мікола ўсё-такі адчуваў, што рэвалюцыя балгарам трэба, і аб гэтым можна ўспамінаць нават і ў трыццаць год». Калі хлапчукі ў 14—15 год марацьаб рэвалюцыі ў Балгарыі, натуральна, што ў 17 год яны, рызыкуючы жыццём, ідуць падрываць самаробнай мінай нямецкі поезд. Такое юнацтва ўзнімае чалавека, кладзе адбітак на ўсё яго жыццё. Вось чаму эпіграфам да апавядання «Хлопцы-равеснікі» ўзяў Науменка радкі Аркадзя Куляшова:

«Мяне ўзнялі юнацтва дні,
Майго адлёту крылы».

І яшчэ аб другім гаворыць гэты эпіграф: аб пераемнасці баявых, рэвалюцыйных традыцый беларускай савецкай літаратуры. Нічога, што юнацтва героя Куляшова аддзелена ад юнацтва герояў Науменкі дзесяццю гадамі, — яны адстойвалі адны і тыя ж ідэалы, змагаліся за перамогу вялікіх ідэй камунізма.

А ў тым, што Мікола Біцюг стаў бацькавіцкім настаўнікам, а Цішка Дрозд — бацькавіцкім лясічым, трэба бачыць не крушэнне, а здзяйсненне іх мар. Няхай сабе месца, якое сябры занялі ў жыцці,

скромнае, але адзін з іх сур'ёзна вывучае гісторыю роднага краю, а другі, «можа, і сам робіць гэтую гісторыю». Ён насадзіў не менш ста гектараў дубоў. Пройдзе час, і людзі скажуць: «Недарма пражыў на свеце той чалавек, які насадзіў гэтыя дубы».

Такі герой апавяданняў Науменкі аб равесніках. Гэта радавы савецкі чалавек, аблічча якога выражае аблічча і праўду яго пакалення. У гэтым супадзенні асабістага з гістарычным і тоіцца, на наш погляд, поспех лепшых апавяданняў Науменкі.

Для большасці апавяданняў Науменкі, такіх, як «Семнаццатай вясной», «Снежань», «Вераніка», «Настаўнік чарчэння» і іншыя, вельмі падыходзіць прынятая пісьменнікам форма вольнага апавядання, у якім так многа месца адведзена ўспамінам і шчыры лірызм натуральна пераплятаецца з мяккім гумарам.

Калі апавяданні аб равесніках пакідаюць такое ўражанне, быццам Науменка не мог не напісаць іх, то некаторыя яго апавяданні аб сённяшнім дні часам здаюцца выпадковымі, неабавязковымі. Тут пісьменніка можна папракнуць у нязначнасці тэм, у адсутнасці цікавых характараў і ў няўвазе да сюжэта. А талент жа павінен спалучацца з патрабавальнасцю да сябе.

Аляксей Карпюк выступіў з першай аповесцю «У адным інстытуце» ў 1953 годзе. Аповесць цікавая і сёння, як жывы, праўдзівы расказ аб жыцці заходнебеларускага студэнцтва першых пасляваенных год. Але, перачытваючы яе, ніяк не можаш пазбавіцца думкі, што яна магла быць значна глыбейшай і сур'ёзнейшай, што пісьменнік меў магчымасці для напісання твору з шырокім сацыяльна-гістарычным падтэкстам. Малады пісьменнік не здолеў ахапіць адзіным мэтанакіраваным сюжэтам гісторыю сем'яў Раманюкоў, Стоцкіх, біяграфію Косці Грушэўскага. Стрыжнявая сюжэтная лінія ў аповесці наогул адсутнічае, а тыя сюжэтныя лініі, якія ёсць, слаба звязаны паміж сабой. Аб сюжэтнай расслабленасці гэтага твора сведчыць той факт, што лепшыя яго раздзелы аўтар надрукаваў пазней як самастойную аповесць «Раманюкі» (альманах «Нёман», 1956 г.). Своеасаблівы побыт глухой палескай вёскі Масева, гісторыя росту ўлады Раманюкоў, вобраз нахабнага і хцівага ўласніка Марціна Раманюка, яго хітрае лавіраванне пасля 1939 года і ў часе вайны — усё гэта паказана ў «Раманюках» ярка і лаканічна. Але аповесці «Раманюкі», таксама як і папярэдняй — «У адным інстытуце» — нехапае вострага канфлікту, сутычак характараў і ідэалогій.

Нясмеласць, а часам нават і павярхоўнасць абагульненняў характэрны для творчасці А. Карпюка, пісьменніка, несумненна, здольнага і назіральнага. Гэта, на наш погляд, складае галоўны недахоп і аповесці «Дзяўчына з Ваўкавыска», напісанай на тэму аб месцы маладога чалавека ў жыцці. Калі следаваць логіцы аўтара, то выходзіць, што самы надзейны жыццёвы шлях для дзяўчыны — гэта выйсці замуж.

Аповесць «Дзяўчына з Ваўкавыска» правінцыяльная ў горшым сэнсе гэтага слова — і па вырашэнню тэмы, і па паказу жыцця, і па мове, шэрай, маламастацкай. Калі ў аповесці «У адным інстытуце» А. Карпюка выручылі ў нейкай ступені багаты жыццёвы матэрыял, сакавітая мова, то ў другой аповесці ён не меў такога матэрыялу, і адсутнасць чоткай і арыгінальнай думкі праявілася самым сумным чынам.

Алеся Асіпенку сярод іншых маладых празаікаў вызначае цікавасць да пытанняў асабістай грамадскай маралі. Ён імкнецца вырашаць гэтыя пытанні ў вострай сутычцы характараў, пры дапамозе дэталёва распрацаваных дынамічных сюжэтаў Апавяданні Асіпенкі



вызначаюцца культурай пісьма — умела пабудаваным сюжэтам, чоткай кампазіцыяй, яны лёгка і з цікавасцю чытаюцца. Усё гэта можна сказаць і аб першым зборніку пісьменніка «Лёд растае». У лепшых сваіх апавяданнях, такіх, як «На возеры Чырвоным», «Дзедава крыўда», «Дысертацыя», «Чужога поля ягада», малады празаік паказаў сваю здольнасць бачыць і адбіраць тыповыя з'явы і факты, тыповыя рысы чалавечых характараў, смела ўмешвацца ў жыццё. У гэтых апавяданнях адчуваецца хваляванне душы пісьменніка, яго гордасць за добрых савецкіх людзей — сумленных, самаадданых, смелых, яго гнеў супраць бюракратызму, ілжы, карыслівасці, эгаізму. Але часта апавяданні А. Асіпенкі выглядаюць як ілюстрацыя да пэўнага і даволі нескладанага тэзіса, напрыклад: дзяўчына павінна быць гордай («Аршанская полька»), пастух — прафесія не горшая за другія («Пастух»), сельскі інтэлігент не павінен адрывацца ад народа таму, што ў сувязі з ім ён знойдзе сваю сілу («Ледаход») і г. д. У гэтых апавяданнях так прыкметны швы аўтарскай задумы і так моцна гучыць яго павучальны голас, што разбураецца мастацкасць. У такіх апавяданнях і мова бяднейшая, бліжэйшая да газетнай. Шаблонна выкарыстаны ў большасці апавяданняў прыём пейзажнага пачатку.

Тая ж залішне адкрытая лагічная заданасць, нажаль, наглядаецца ў цікавай у цэлым аповесці Асіпенкі «Няроўнай дарогай». Гэта аповесць аб выхаванні. Яе герой Вадзім знаходзіцца ў тым цяжкім пераходным узросце, калі ў чалавека складваецца характар. Колькі выпрабаванняў выпадае на долю Вадзіма за некалькі месяцаў: пакідае дом бацька — распадаецца сям'я; Вадзім кідае школу і пачынае працаваць; да яго прыходзіць першае каханне, але не такое, аб якім, хоць было яно і няўдалае, успамінаюць ўсё жыццё з радасцю і ўдзячнасцю, а такое, аб якім Вадзім будзе ўспамінаць з горыччу, болем і сорамам. З-за гэтага кахання і пачаліся ўсе няшчасці Вадзіма.

Вялікая загана многіх кніг для юнацтва — умоўчванне або ханжаскі, непаэтычны паказ узнікнення сімпатыі паміж хлопчыкамі і дзяўчынкамі. Але ж каб раскрыць складаны ўнутраны свет падлетка, нельга ўмоўчваць аб перажываннях, звязаных з закаханасцю. Інакш будзе страчана магчымасць пры дапамозе літаратуры выхоўваць паэтычныя, беражлівыя адносіны да пачуцця кахання. Асіпенка смела пайшоў насустрач гэтай тэме. Яго Вадзім, прадастаўлены самому сабе, атрымаўшы доступ да «дарослых» кніг, стаў многа думаць аб каханні. Але закахаўся ён не ў сімпатычную дзяўчыну Маю, з якой яны з поўнай аднадушнасцю абмяркоўвалі «Героя нашага часу», а ў Зіну, дзяўчыну старэйшую за яго, якая «Героя нашага часу», напэўна, не чытала, але затое мела пэўны вопыт у сардэчных справах. Проста кажучы, Зіна закахала ў сябе гатовага да гэтага пачуцця Вадзіма. Пісьменнік добра паказвае, у якую залежнасць ад Зіны і яе сяброў пападае Вадзім, як заблытваецца ён з-за іх у жыцці.

Мы ўжо гаварылі вышэй, што аповесць псуе некаторы схематызм — залішне часта падзеі адбываюцца так, а не інакш толькі таму, што гэта патрэбна аўтару: недастаткова абгрунтаваны разрыў паміж бацькамі Вадзіма; незразумела, чаму маці не працівілася таму, што сын пакінуў школу; стары рабочы Цітыч, даўно здагадваючыся, што адбываецца з Вадзімам, не ўмешваецца да апошняга; Мая заўсёды аказваецца на месцы ў патрэбны момант.

Пяру А. Асіпенкі належыць прыгодніцкая аповесць аб дзейнасці міліцыі «Апошняя версія». Нам здаецца, што пісьменніка зацікавілі тыя магчымасці для разгортвання вострага, накіраванага сюжэта, якія прадстаўляе гэты жанр. Аповесць па-сапраўднаму цікавая. Але часам сюжэт у ёй усё ж развіваецца за кошт паказу характараў. Так, недастаткова рас-

крыты вобраз галоўнага героя аповесці маёра Мураўёва.

У пераадоленні пэўнага рацыяналізму, залішняй лагічнай заданасці бачыцца нам шлях А. Асіпенкі да твораў глыбокай жыццёвай і мастацкай праўды.

Першыя апавяданні гродзенскага журналіста Васіля Быкава сталі паяўляцца ў рэспубліканскім друку ў 1956 годзе. Ім не прысвечана яшчэ рэцэнзій, імя іх аўтара не ўпамінаецца пакуль у крытычных артыкулах. А між тым, у асобе Быкава мы маем ужо ў значнай меры сталага, таленавітага празаіка. Найбольш хвалюючыя апавяданні В. Быкава напісаны на матэрыяле вайны. Гэта звязана, відавочна, з біяграфіяй пісьменніка — з 1941 па 1955 год ён быў у арміі, — і тлумачыцца накіраванасцю яго таленту — выпрабаваць чалавека, паказаць яго душу.

У падзеях В. Быкаў бачыць перш за ўсё суму акалічнасцей, у якіх могуць праявіцца чалавечыя характары. І ён выбірае такія сітуацыі, такія акалічнасці, дзе людзі падвяргаюцца самым сур'ёзным выпрабаванням, дзе павінна выявіцца сутнасць душы чалавека. Высокая маральная патрабавальнасць да савецкага чалавека ідзе ў маладога пісьменніка побач з верай у яго. Уважлівы, паслядоўны, псіхалагічны аналіз спалучаецца ў Быкава з праўдзівым апісаннем знешняга свету, з вялікай зрокавай маляўнічасцю.

В. Быкаву блізкія моцныя характары. Мужнасць яго героя праяўляецца ў рашаючыя моманты жыцця. Летняй ноччу ў лесе два немцы нападаюць на пажылога абозніка і адбіраюць у яго фурманку і коней. («Уначы», ЛІМ, 15.I.1957 г.). Няшчасны і бездапаможны, застаецца Максім адзін у лесе. Але патрабавальнасць працоўнага чалавека да сябе і высокае, арганічнае паняцце абавязку дапамагаюць яму знайсці сілы для барацьбы: «Як было пасля такога здарэння ісці ў батальён, дзе кожны дзень паміраюць людзі, маладыя і больш вартыя, чым ён? Як было жыць, калі пасля гэтага ўжо нічога не заставалася ў жыцці, апрача вечнай агіды да сябе?» І Максім, перамагаючы страх і фізічную слабасць, даганяе немцаў, забівае іх, вяртае коней і фурманку.

У апавяданні «Смерць чалавека» і аповесці «Апошні баец», дзе чалавек выпрабоўваецца на рашаючым рубяжы жыцця і смерці, пісьменнік ужо не толькі вызначае яго маральную каштоўнасць, але і ставіць пытанне аб сэнсе і змесце жыцця. Многазначна ўжо назва апавядання — «Смерць чалавека», смерць сапраўднага чалавека. Не мае значэння ні імя яго, ні званне. Мае значэнне толькі адно: што дорага гэтаму чалавеку ў апошнія хвіліны жыцця, калі ён апынуўся адзін на адзін са смерцю. Апошняя гордасць яго — што ніхто з таварышаў не здрадзіў, апошняе гора: «Ён заплакаў. Не жыцця было шкада яму, а крушэння апошняй надзеі, якая мацней за слабыя сілы цела ўтрымлівала яго ў жыцці», — надзеі прадоўжыць барацьбу, апошняй гранатай знішчыць хоць бы адзін нямецкі танк... А танкі пайшлі, ён не паспеў. Сабраўшы апошнія сілы, чалавек выпаўзае на дарогу і памірае з гранатай у руцэ. На гэтай гранаце падрываюцца ворагі. І мёртвы чалавек працягваў змагацца. Вось ён, сэнс жыцця — барацьба да апошняга дыхання, подзвіг у імя Радзімы, нікім не бачаны і таму яшчэ больш велічны.

З амаль навуковай дакладнасцю прасочаны ў апавяданні фізічны і псіхалагічны стан смяртэльна раненага чалавека, яго паводзіны. Апавяданне гучыць сурова, як рэквіем героям.

Калі герой апавядання «Смерць чалавека» памёр апошнім, то герой аповесці «Апошні баец» Пятрусь Кляновіч быў апошнім жывым з усяго свайго палка. Ён насіць сцяг палка. Вядома, мы адразу ўспамінаем «Сцяг брыгады» Аркадзя Куляшова. Сапраўды, аповесць маладога празаіка і вядомая паэма Куляшова маюць агульнае патрыятычнае гучанне.



Васіль Быкаў зводзіць у сваёй аповесці два светапогляды, два паняцці сэнсу жыцця. Перамагае Петрусёў погляд на жыццё, як на служэнне свайму народу, у процівагу шкурніцкай, эгаістычнай філасофіі Агальцова.

Нельга не сказаць аб тым, што ў Быкава вельмі паслухмяная яму, багатая мова. Яе рытм, яе напоўненасць вельмі дакладна адпавядаюць таму, што ён апісвае. На матэрыяле сённяшняга дня малады пісьменнік стварыў некалькі цікавых, па-мастацку цэласных апавяданняў: «Патрулі», «Шчасце», «На возеры». У гэтых апавяданнях ён даказаў сваё ўменне і на будзённым матэрыяле паказаць складанасць жыцця і стварыць цікавыя характары.

* * *

Два апошнія гады былі вельмі ўраджайнымі для жанру аповесці. Мы ўжо гаварылі вышэй аб некалькіх аповесцях маладых празаікаў. Гэта творы, прысвечаныя пытанням выхавання, гераізму савецкіх людзей. Некалькі аповесцей маладых аўтараў прысвечана калгаснай і індустрыяльнай працы. Цікавую, свежую аповесць «Чачык» аб тых важных працэсах, якія адбываюцца зараз у калгаснай вёсцы, напісаў малады празаік Іван Пташнікаў. Герой яго аповесці — Чачык — балбатун, пляткар, аматар выпіць, дрэнны гаспадар, наогул лёгкадумны чалавек. На першы погляд ён даволі бяскрыўдны. Узнікае нават пытанне: ды ці небяспечны Чачык, ці варта яго выкрываць? Так, небяспечны, таму што ён не хоча працаваць. У пагоні за лёгкім хлебам ён пойдзе на любое злачынства. Пакуль у калгасе не было сапраўднага гаспадара і можна было лёгка ўварваць то тут, то там, Чачык задавальняўся тым, што за невялікую ўзнагароду запрагаў каня Платону, Антону, Чутачку і Каролю Курачыку, калі яны ехалі красці калгаснае дабро. Калі красці і ўхіляцца ад работы стала немагчыма, Чачык пачаў дзейнічаць на сваю рызыку, пайшоў на паклёп, на злачынства. Вобраз Чачыка вельмі каларытны. Ён напісаны і з гневам і з гумарам, часам нават з жаласлівасцю да неразумнага чалавека, які не можа ўцяміць, што на сумленных людзях, а не на зладзеях і лайдаках, трымаецца свет.

Прыгожыя ў аповесці пейзажы Барысаўшчыны, асветленыя любоўю пісьменніка да гэтага краю. Вельмі прывабна, што аповесць, у якой не спрошчаны жыццёвыя супярэчнасці, прасякнута аптымізмам.

Герой першай аповесці маладога празаіка Міколы Гроднева «Бацькава віна» («Маладосць» № 8, 1958 г.) пасланы ў вёску, галоўным інжынерам МТС. З ім едзе яго жонка — малады аграном. Становішча маладой сям'і ў вёсцы ўскладнёна тым, што бацька Паўла быў тут пры немцах старастам і па яго віне загінула шмат людзей. Многа што ў аповесці выглядае незакончаным — некаторыя вобразы, сюжэтныя сітуацыі, адносіны аўтара да асобных пытанняў. Напрыклад, навошта патрэбна была ў аповесці сяброўка Веры Зіна і чалавек з «Пабедай», за якога яна раптоўна выходзіць замуж? Каб проціпаставіць яе Веры? Але ж гэта не зроблена. Напавер прыходзіцца прымаць каханне маладых людзей у пачатку аповесці, недастаткова матывавана накіраванне Паўла менавіта ў Задуб'е, не да канца высветлены яго адносіны да бацькі і г. д. Акрамя Веры, у аповесці няма, бадай, па-мастацку распрацаваных вобразаў. М. Гродневу трэба многа працаваць над мовай.

Аб удачах пісаць куды больш прыемна, чым аб няўдачах. Але і няўдачы бываюць павучальнымі. Часцей за ўсё прычынамі літаратурных няўдач бывае дрэннае веданне жыцця і адсутнасць арыгінальнай і яснай думкі. Гэта цалкам адносіцца і да аповесці Ул. Шыці-

ка «Назаўсёды». Аповесць гэтая з'яўляецца спробай паказаць жыццё рабочай моладзі, сутыкненне людзей у барацьбе за вырашэнне вялікіх вытворчых праблем. Але не трэба суцяшаць сябе і маладога аўтара — аповесць яму не ўдалася. У ёй выкарыстана ўся вядомая літаратурная наменклатура: ёсць наватар, кансерватар і разумны парторг, мяшчанка, кар'ерыст, спакуснік, каханне шчаслівае і нешчаслівае (закаханы, дарэчы, амаль усе персанажы аповесці), няма толькі аднаго — жыцця, сапраўднага жывога жыцця з яго цяжкасцямі і радасцямі. Атрымалася так таму, што аўтар не ўклаў у аповесць свае, новыя назіранні, сваю, новую думку.

Нячоткасць аўтарскай пазіцыі абясцэньвае жыццёвыя назіранні. Мы маем на ўвазе аповесць А. Марціновіча «Надзея». («Полымя № 4, 1958 г.). Безумоўна, у аўтара былі нейкія назіранні, ён падмеціў у жыцці нейкія супярэчнасці, але, тым не менш, адказаць на пытанне, аб чым напісана аповесць «Надзея», супраць чаго і за што выступае яе аўтар — цяжка. Аркадзь Марціновіч паказвае людзей двух пакаленняў і як быццам хоча параўнаць або нават проціпаставіць іх. Навуковы супрацоўнік Андрэй Невяроўскі — чалавек, якому за трыццаць год, Надзя нядаўна скончыла тэхнікум. У тыя гады, калі Андрэй ваяваў, Надзя была дзяўчынкай. Невяроўскі вельмі недаверліва адносіцца да сучаснай моладзі, лічыць яе лёгкадумнай. І толькі на той падставе, што сённяшнія юнакі і дзяўчаты лепш апранаюцца, чым ён у сваёй маладосці.

І тым не менш гэты працаўнік лёгкадумнасці з першага позірку закахаўся ў Надзю, дзяўчыну таго самага пакалення, да якога ён такі недаверлівы.

Працаўнік пасіўнасці, Невяроўскі апускае руку перад першай цяжкасцю — нават не спрабуе абараняць сваю працу, калі яе адмаўляюцца друкаваць. Гэта за яго, сталага чалавека, робіць Надзя, што, дарэчы, неапраўдана псіхалагічна. Наогул лінія, звязаная з навуковай працай Невяроўскага, выглядае штучным дадаткам, які павінен надаць сур'ёзнасць даволі банальнай курортнай гісторыі.

Аповесць не мае канца. Дачытваеш яе з думкай аб тым, што няма патрэбы шукаць штучныя канфлікты, калі ў жыцці ёсць так многа сапраўдных.

Хочацца сказаць некалькі слоў аб таленавітай аповесці Алеся Бажко «Верасень» («Полымя» №4, 1957 г. )— першым творы маладога празаіка. А. Бажко ўдалося стварыць на параўнальна невялікай плошчы даволі шырокую карціну жыцця заходнебеларускай вёскі напярэдадні верасня 1939 года. Мы бачым у творы парабкоў і парабчанак, сялян і асаднікаў, паноў і падпанкаў, прадстаўнікоў дзяржаўнай улады і каталіцкай царквы, падпольшчыкаў-рэвалюцыянераў. З кожным раздзелам расце адчуванне трывогі і надыходу грозных падзей. Адвечная барацьба сялян вёскі Даўгінава з панамі за сваю зямлю набліжаецца да канца. Паны ўжо не ў сілах справіцца з сялянамі. Падзеі ў аповесці падаюцца праз успрыняцце пятнаццацігадовага Янака, у якога ўжо чатыры гады парабчанскага «стажу» і бацька якога арыштаваны, як бальшавік. Апавяданне ад імя Янака ўдала спалучаецца з аб'ектыўным паказам падзей. Бажко добра адчувае бытавыя, фальклорныя і моўныя асаблівасці таго асяроддзя, якое ён малюе. Недахопам аповесці з'яўляецца цяжкасць яе ўспрыняцця. Гэта тлумачыцца гушчынёй мастацкай тканіны. На невялікай плошчы аповесці адбываецца многа падзей, дзейнічае вялікая колькасць не заўсёды індывідуалізаваных персанажаў. Адчуваецца, што аўтар ведае намнога больш, чым нам расказвае. Такія ж заўвагі можна зрабіць адносна апавядання А. Бажко «Марскія хвалі», напісанага таксама на матэрыяле жыцця Заходняй Беларусі.



* * *

У жанры апавядання маладая проза, нажаль, не мае такіх дасягненняў, як у жанры аповесці. Перш за ўсё цікава, аб чым пішуць маладыя апавядальнікі? Пераважна аб каханні. А хіба гэта кепска — пісаць аб каханні і звязаных з ім перажываннях? Няма слоў, каханне займае ў жыцці маладога чалавека не апошняе месца. Засмучае, вядома, не тое, што маладыя апавядальнікі пішуць аб каханні, а тое, што аб усім іншым, чым багата жыццё, амаль не пішуць; засмучае неглыбокі падыход да тэмы і спрошчанасць думкі ў апавяданнях аб каханні.

Аб чым піша, напрыклад, у сваіх апавяданнях Мікола Гроднеў? У апавяданні «Акадэмія» (« Нарач» № 1, 1957 г.) — аб тым, як дзяўчына, застаўшыся пасля школы ў вёсцы, верна кахае свайго паступіўшага ў сельскагаспадарчую акадэмію сябра, дапамагае яму, а пераканаўшыся, што хлапец ёй здраджвае, адразу ж аддае сваю сімпатыю даўно закаханаму ў яе маладому аграному. У апавяданні «Чатыры двойкі» («Беларусь» № 8, 1956 г.) паказана саперніцтва завуча вячэрняй школы і вучня гэтай школы, механіка МТС, закаханых у адну дзяўчыну, піянерважатую. Вечарамі завуч і піянерважатая займаюцца з адстаючым механікам, дапамагаючы яму выправіць двойкі. Апавяданне канчаецца вяселлем механіка з піянерважатай, на якое запрошаны і завуч. Чытаеш і не верыш у гэтае каханне, таму што яно не паказана, а толькі названа. Ні сапраўднай радасці, ні сапраўднага гора героі Гроднева не перажываюць.

А. Дзялендзік у апавяданні «Энцыклапедычнае каханне» трацiць гумар на доказ самой па сабе зразумелай думкі, што дзяўчына, якая скончыла дзесяць класаў, — падыходзячая пара для студэнта, таму што ведае не менш, чым ён.

Нецікавыя апавяданні пра каханне В. Дайліды і А. Савіцкага. Не, яшчэ дрэнна паказваюць свет інтымных перажыванняў свайго равесніка маладыя апавядальнікі, прымітыўным выглядае ён у іх паказе. Нізкі і мастацкі ўзровень названых апавяданняў.

Сярод маладых празаікаў вызначаецца гамяльчанін Мікалай Лапуста. Ён апублікаваў некалькі цікавых апавяданняў, дзе праца паказана як галоўны змест і радасць чалавечага жыцця. Яго героі захоплены сваёй справай, адданы ёй і другіх людзей мераюць гэтай жа меркай — адносінамі да працы.

Вечаслаў Адамчык апублікаваў два цікавыя апавяданні з жыцця Заходняй Беларусі — «Даўняе, незабыўнае» («Маладосць» № 7, 1957 г.) аб нешчаслівай долі двух закаханых, разлучаных маёмаснай няроўнасцю, і «Свой чалавек» («ЛІМ», 30.III-51 г.), дзе з добрым, цёплым гумарам паказаў немінучасць для сумленнага чалавека прыняцця калгаснага ладу. Апавяданні Адамчыка прыкметна вызначаюцца сярод твораў яго равеснікаў больш высокім узроўнем майстэрства. Вобраз ён рысуе немнагаслоўна і трапна, выдатна валодае лаканічным, з вялікім падтэкстам дыялагам.

І напаследак аб адным маленькім, на дзве старонкі, апавяданні, аўтар якога Я. Каршукоў. Называецца яно — «Крыўда» і надрукавана ў № 2 «Полымя» за 1957 год. Гэтая маленькая навела прасякнута глыбокай і сапраўднай любоўю да чалавека. У аснову яе пакладзен нязначны, чыста бытавы выпадак: у старой сусед забіў гусяня, што забрыло ў яго агарод. Старая Фядора сядзіць за адзінокім абедам, задумалася аб нечым. Раптам з вуліцы крык: «Эй, Сымоніха! Мішка гусей тваіх у агародзе застаў. Бяжы хутчэй!» Лыжка валіцца ў бабкі з рук. За тыя некалькі хвілін, пакуль бабка бяжыць да агародаў, яна ўжо стала неабыякавай нам. Мы ўжо горача спачуваем адзінокаму старому чалавеку, таму, перш за ўсё, што

бачым, як Фядора прытрымлівае вышэй калена вывіхнутую калісьці нагу, як шэпча, як задыхаецца ад бегу. Мы бачым і Мішку. Гэта не зухаваты хлопец, як можна было б падумаць, а высокі, сутулы, з абстрыжанай прадаўгаватай галавой мужчына. Як знішчаюць Мішку ўспаміны бабкі Фядоры: суседскі Мішка быў таварышам яе Піліпкі. «Даўно ўжо няма сына. Забілі немцы за партызанства. А Мішка ўхаваўся». Старая плача над забітым гусянём. А Мішка падглядае праз шчыліну ў плоце і зларадна ўсміхаецца. Гнеў супраць хцівага ўласніцтва, супраць абыякавых адносін да чалавека, да чужой старасці і адзіноты выклікае гэты маленькі абразок. Хочацца перасцерагчы Я. Каршукова ад захаплення прыгажосцямі. Сляза, якая сцякае па дзюбе гусяняці, ружовыя кроплі пары над гаршком, якіх бабка не бачыць, гэта танныя ўпрыгожанні. Яны не патрэбны там, дзе прысутнічае сапраўднае пачуццё.

Такім чынам, час зрабіць вывады. Наогул гэта радасныя вывады. Няма сумнення, што маладыя празаікі не толькі колькасна папоўнілі рады беларускіх пісьменнікаў, з імі ўвайшлі ў беларускую літаратуру новыя тэмы, новыя думкі, новыя героі. Але калі пісьменнікі таго атрада маладых, які мы назвалі старэйшым, здолелі раскрыць ва ўсёй духоўнай прыгажосці воблік свайго пакалення, фарміраванне якога супала з гадамі цяжкіх ваенных выпрабаванняў, то пісьменнікі малодшага атрада да гэтай задачы яшчэ і не прыступілі. У іх актыве — цікавыя аповесці Пташнікава і Бажко, апавяданні Адамчыка і Лапусты. А дзе ж апавяданні і аповесці аб тых, хто нядаўна стаў або становіцца цяпер дарослым, дзе мары, імкненні і барацьба моладзі сённяшняга дня, маладых калгаснікаў, рабочых, маладых спецыялістаў, студэнцтва? У гэтых адносінах маладой прозе трэба раўняцца на маладую паэзію, якая ў цэлым стварыла вобраз нашага сучасніка, камсамольца 50-х гадоў, паказала яго душу і справы.

Можна радавацца новым талентам, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру. Гэтым талентам прадстаіць вырашаць адказнейшую задачу: напісаць такія творы, якія адлюстроўвалі б імклівы рух нашай краіны ўперад, стварыць такія вобразы, у якіх беспамылкова пазнаваліся б героі сённяшняга дня.






## Будаваць, будаваць!

Будучы дэлегатам XX з'езда ЛКСМБ і XIII з'езда ВЛКСМ, я з асаблівай увагай услухоўваўся ў выступленні юнакоў і дзяўчат — будаўнікоў. Я імкнуўся як мага больш даведацца аб жыцці камсамольцаў на будоўлях, каб пераняць у іх усё лепшае і перанесці ў свой калектыў маладых будаўнікоў Васілевіцкай ДРЭС. Так, раўняючыся на перадавікоў, мы пачалі рыхтавацца да 40-гадовага юбілею Ленінскага камсамола.

Комплексная камсамольска-маладзёжная брыгада арматуршчыкаў, якой я кірую, трывала ўтрымлівае званне перадавой. Яна ўзнагароджана граматай ЦК ЛКСМБ, а амаль усе нашы хлопцы і дзяўчаты — значком «Перадавіку новабудоўляў 6-й пяцігодкі». Я, акрамя гэтага, узнагароджаны яшчэ значком «Маладому перадавіку вытворчасці» і імянным гадзіннікам ад ЦК ЛКСМБ. У нашай брыгадзе ва ўсіх гарачае імкненне не толькі перавыконваць вытворчае заданне, але і няспынна ўдасканальваць свае веды. Толя Чыкалеў, Іра Ражкова і іншыя выконваюць зменную норму амаль удвая, паспяхова займаюцца ў школе рабочай моладзі. А Тося Шараеўская за высокія паказчыкі ў працы ўзнагароджана ордэнам Леніна.

Зараз асноўныя заказы на арматуру ад участкаў будаўніцтва ДРЭС выкананы, і мы заняты падрыхтоўкай да будаўніцтва цэнтральнай базы для іншых энергетычных будоўляў Беларусі. Новы буйны завод зборнага жалезабетону і металаканструкцый будзе размешчаны па суседству з ДРЭС. На ім мы будзем вырабляць дэталі, у прыватнасці для Бярозаўскай ДРЭС, якая па магутнасці пераўзыйдзе Васілевіцкую.

Бесперапынна забяспечваць арматурай усе ўчасткі будоўляў, выконваючы зменныя нормы не менш чым на 160 працэнтаў— такія нашы абавязацельствы ў гонар 40-й гадавіны Ленінскага камсамола.

**Мікалай АЛЯКСЕЙКАЎ,**
**брыгадзір маладзёжнай брыгады**
**Васілевіцкай ДРЭС.**



## Хвалюючыя мары

Калі рэдакцыя часопіса папрасіла, каб я расказаў чытачам аб сваёй працы, аб сваіх творчых планах, я, прызнацца, крыху збянтэжыўся. Аб чым мне расказваць?.. Нічога асаблівага я не паспеў яшчэ зрабіць...

Толькі ў гэтым годзе закончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. Мяне вельмі цікавіць жыццё і праца маіх аднагодкаў, хвалююць мары і планы нашай шчаслівай моладзі. Пра ўсё гэта мне хочацца расказаць у сваіх творах.

У сценах кансерваторыі я напісаў маладзёжнае скерца для сімфанічнага аркестра. А нядаўна закончыў фінал фартэп'яннага квінтэта, які таксама прысвяціў моладзі.

Цяпер я працую над чацвёртай часткай сімфоніі і пішу паэму для хору з аркестрам — «Курган».

**Ул. ЧАРАДНІЧЭНКА,**
**кампазітар.**



## Шырокі прастор

Вось і закончана сярэдняя школа. Я не задавала сабе пытання: куды ісці? Адразу пайшла працаваць у калгас, на поле. Летась паставілі мяне працаваць звеннявой па вырошчванню цукровых буракоў. Спачатку было цяжкавата: нехапала вопыту, практычных ведаў. Але на тое мяне і выхавау камсамол, каб не палохацца цяжкасцей. Наша звяно ўраджай буракоў атрымала добры. Сёлета, яшчэ зімой, мяне выклікалі ў праўленне.

— Думаем, Тамара, даручыць табе звяно па вырошчванню кукурузы.

Я згадзілася. Работы прыбавілася. Але дзяўчаты ў звяне дружныя, працавітыя, ведама камсамолкі. І вось мы выйшлі ў поле. Працавалі ад цямна да цямна. Затое зараз на нашым участку кукуруза буяе. А ўчастак не малы — 13 гектараў. Будзе добры корм жывёле.

Асабліва вызначыліся ў звяне камсамолкі Зіна Бязмен, Ліда Ляйко, Зіна Кружалевіч.

Пра свае планы скажу коратка: буду працаваць дбала, настойліва авалодваць ведамі, рыхтаваць сябе ў вялікую партыю камуністаў.

**Тамара ЛЯЙКО,**
**звеннявая калгаса «Новае жыццё» Карэліцкага раёна.**

## Да сонечных вышынь

Непадалёку ад Белавежы, сярод лясоў і балот раскіданы хутары вёскі Чаронка. Невялікая выспа поля, акружаная з трох бакоў багністым балотам. На самым узвышшы яе — хата з маленькімі, скасавуранымі вокнамі, побач — хлявушок са струхлелымі сценамі. Не трэба заходзіць і пытаць гаспадара хутара пра жыццё-быццё. Выгляд сядзібы гаворыць сам за сябе.

Вось на гэтым закінутым у глушы хутары і нарадзіўся я ў час панавання над Заходняй Беларуссю пілсудчыкаў. Цяжкі лёс чакаў мяне тады. Як толькі крыху падрос, быў вымушаны пасвіць панскі статак. Сямігадовым хлапчуком ужо хадзіў за бараной і спрабаваў араць. Найлепшае, чаго я мог чакаць пры панскім ладзе, — гэта быць парабкам у кулака. Аб атрымачні адукацыі я не мог і марыць, бо сялянам, якія не мелі адпаведнай колькасці зямлі, вучыцца забаранялася.

Але вось надышоў незабыўны верасень 1939 года. У гэтую восень вырашыўся мой лёс, як і лёс усіх працоўных Заходняй Беларусі. Я скончыў сярэднюю школу і паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна на фізіка-матэматычны





факультэт. Пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1955 годзе атрымаў спецыяльнасць фізіка-электрыка. Мяне накіравалі працаваць у Інстытут фізікі і матэматыкі Акадэміі навук БССР малодшым навуковым супрацоўнікам. Калектыў нашай лабараторыі, у якім мне пашчаслівілася працаваць пад кіраўніцтвам вядомага вучонага Івана Васільевіча Лебедзева, распрацоўвае хуткадзеючую электронную вылічальную машыну. Усякая навукова-даследчая праца, пошукі новага — справа вельмі цікавая і захапляючая. Удзел жа ў канструяванні і стварэнні электроннай вылічальнай машыны ўяўляе сабой нешта асаблівае таму, што гэтая машына не зусім звычайная. Яна замяняе не працу мускулаў рук і ног людзей, як гэта рабілі існуючыя да гэтага часу машыны, а працу мозгу чалавека. Як вядома, магчымасці электронных вылічальных машын невычарпальныя. Яны могуць не толькі імгненна рашаць самыя складаныя матэматычныя задачы і перакладаць тэксты з адной мовы на другую, але могуць кіраваць работай цэлага завода або іншага прадпрыемства. Таму такія машыны адкрываюць бязмежныя перспектывы ў справе поўнай аўтаматызацыі вытворчых працэсаў, у справе гіганцкага павышэння прадукцыйнасці працы. А гэта з'яўляецца адной з асноўных умоў будаўніцтва камуністычнага грамадства. У гэтым галоўнае значэнне электронных вылічальных машын, у гэтым іх будучыня.

Электронная вылічальная машына — гэта грандыёзнае збудаванне. У склад яе ўваходзяць, у асноўным, тыя ж дэталі, што і ў звычайнага лямпавага радыёпрыёмніка або тэлевізара. Толькі тут адных радыёлямп не дзесяць — пятнаццаць штук, як у радыёпрыёмніку, а ад двюх да дзесяці тысяч! Але не толькі ў вялікай колькасці дэталей складанасць гэтай машыны. Справа ў тым, што дэталі тут неабходна злучыць паміж сабой так, каб у выніку машына «ажыла», магла сама выконваць розныя складаныя матэматычныя і лагічныя дзеянні. Тым больш захапляе праца над канструяваннем гэтых складаных апаратаў. Здараецца часам, некалькі дзён і бяссонных начэй патрацііш на пошукі вырашэння канструкцыі якога-небудзь вузла машыны. Робіш складаныя разлікі, чарцяжы. Спісваш гару паперы, а здавальняючага рашэння ўсё не атрымоўваецца. Але дружнаму, зладжанаму калектыву па плячы самыя складаныя задачы. Затое ж колькі радасці, якое вялікае задавальненне прыносіць знойдзены станоўчы вынік! Не абыходзіцца без моцных, сардэчных поціскаў рук і сяброўскіх абдымкаў, калі ў час выпрабаванняў сканструяванага вузла машыны складаныя электронныя прыборы пераканаўча паказваюць, што разлікі зроблены правільна, што ўсе намаганні патрачаны не дарэмна.

Зараз, займаючыся навукова-даследчай працай, я маю ўсе магчымасці далей павышаць свой агульна-тэарэтычны і навукова-тэхнічны ўзровень. Мая асноўная мара — як мага больш укласці сваёй здольнасці ў справу распрацоўкі машыны, каб як найхутчэй закончыць яе. А потым — далей працаваць у галіне канструявання новых хуткадзеючых электронных вылічальных машын.

У гэтыя сапраўды святочныя дні, калі ўсе савецкія людзі адзначаюць слаўны 40-гадовы юбілей Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі, мне, як і кожнаму камсамольцу, ад усяго сэрца хочацца сказаць:

— Дзякуй нашай роднай партыі, якая адкрыла нам шлях да сонечных вышынь навукі, шлях да сапраўднага шчасця!

**В. ВАЛЯЎКА,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута фізікі і матэматыкі АН БССР.**

# Неўміручы твой подзвіг, юнацтва

# ЁН ЗМАГАЎСЯ У ГОМЕЛІ

У Гомелі, у былым палацы князя Паскевіча, размешчаны музей. Шмат цікавага расказваюць яго экспанаты.

На адным са стэндаў пад шклом захоўваюцца Грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні звання Героя Савецкага Саюза Аляксандру Лаўрэнцевічу Ісачанку і пісьмо ад М. І. Калініна яго бацькам.



Аляксандр Ісачанка.

Аляксандр Ісачанка — сакратар Гомельскага гаркома камсамола ў гады Айчыннай вайны, адзін з актыўных арганізатараў камсамольскага падполля на Гомельшчыне.

Перад вайной Ісачанка спачатку працаваў у Рэчыцы, у райкоме камсамола, а потым — у Гомельскім абкоме камсамола загадваў аддзелам сельскай моладзі. Быў ён добрым прапагандыстам і агітатарам. Часта бываючы сярод моладзі, ён умеў знайсці ключ да сэрца, словам, асабістым прыкладам мог узняць юнакоў і дзяўчат на вялікія працоўныя справы.

У чэрвені 1941 года пачалася вайна. Гомель у першыя дні вайны адчуў варварскія налёты гітлераўскай авіяцыі. Разам з іншымі актывістамі Аляксандр Ісачанка мабілізоўваў усіх на барацьбу з ворагам. У тыя дні гарком пераtварыўся ў баявы камсамольскі штаб, адсюль ішлі на фронт маладыя патрыёты.

Прыгадваецца адзін выпадак. Аднойчы ў пакой сакратара гаркома зайшлі двое хлопцаў у форме чыгуначнікаў.

— Прывітанне, таварышы, — Ісачанка ўзняўся ім насустрач. — Як справы на чыгунцы?

— Усе дні і ночы накіроўваем у тыл эшалоны з абсталяваннем. Затрымкі няма ні ў чым. — Хлопцы нерашуча памаўчалі, пераступаючы з нагі на нагу. — Але ў нас да вас просьба, таварыш сакратар... Накіруйце нас у тыл ворага.

— Вы камсамольцы?

— Я камсамолец, — адказаў малады чыгуначнік па прозвішчу Дзеньдобры.

— А мяне прашу прыняць у



камсамол, — сказаў яго таварыш Пашкоўскі.

У гэты час непадалёку пачуўся выбух — упала бомба. Задрыжэла шкло ў вокнах. Ісачанка пачакаў, пакуль сціх грукат, і сказаў, звяртаючыся да хлопцаў:

— Я вас разумею, таварышы. Вы жадаеце помсціць ворагу. Наша помста павінна быць бязлітаснай. Падавай, Пашкоўскі, заяву, прымем цябе ў камсамол, у бліжэйшыя дні абодвух накіруем у тыл!..

Такіх выпадкаў у тыя дні ў гаркоме было шмат. Гомельская моладзь разам са сваімі старэйшымі братамі і сёстрамі, з бацькамі ірвалася ў бой, каб адстаяць сваю Радзіму ад нападу фашыстаў.

...Артылерыйскія выбухі чуліся ўсё бліжэй і бліжэй. І вось гарматная кананада ўжо грыміць ля горада, не сціхаючы круглыя суткі. Гэта гомельскія апалчэнцы разам з нашымі войскамі ўтрымліваюць подступы да горада. Сотні маладых патрыётаў, такіх, як чыгуначнікі Дзеньдобры і Пашкоўскі — байцы атрада імя Бумажкова, бязлітасна білі ворага з тылу.

20 жніўня 1941 года фашысты ўварваліся ў Гомель. Дорага заплацілі яны за гэты горад. Яшчэ гітлераўцы не занялі прыгарад, як тут пачаў дзейнічаць партызанскі атрад «Бальшавік», створаны з камуністаў і камсамольцаў. Сярод яго бясстрашных байцоў быў і Аляксандр Ісачанка. Ён узначаліў гарком камсамола і ў падполлі. Былі створаны падпольныя камсамольскія арганізацыі. У першыя дні ў горадзе ўзляцелі ў паветра склад змазачных матэрыялаў, цыстэрны з гаручым, а потым — склад з боепрыпасамі, тэлефонная станцыя. На электрастанцыі ўзарвалася дынамамашына; на аэрадроме загарэўся самалёт; на адной з вуліц быў забіты нямецкі афіцэр; фашысцкая машына наскочыла на міну; у салдацкую казарму ноччу была кінута граната...

Гестапаўцы збіваліся з ног, але нічога не маглі зрабіць, каб спыніць дыверсіі ў горадзе. Хіба яны маглі пагасіць агонь народнай помсты? Яна кіпела ў душы кожнага савецкага чалавека.

Падпольны гарком на чале з Аляксандрам Ісачанкам, ці як яго называлі проста — Сашам, здолеў арганізаваць маладых падпольшчыкаў на барацьбу з ворагам.

Ісачанка быў важак, нястомны воін-падрыўнік.

— Неяк у брыгадзе «Бальшавік» нехапала толу, — расказваюць яго таварышы-партызаны. — І вось Саша прапанаваў: здабываць тол са снарадаў. У хуткім часе партызаны ўсе асвоілі гэты метад і заўсёды мелі патрэбны запас узрыўчаткі.

...Ужо шостая ноч у паходзе. Скончыліся апошнія сухары. Ісачанка задумаўся, прыгадваючы ўчарашнюю пераправу. Лодкі не знайшлі.

— Плывем! — скамандаваў ён і сам першы кінуўся ў ледзяную ваду. Тройчы ён пераходзіў раку, несучы каробкі толу над галавой. Байцы памерзлі, а агонь распаліць нельга. Давялося ісці ў мокрым адзенні.

Ісачанка ішоў першы, за ім дзяўчаты і хлопцы. Падрыўнікі спяшаліся. Ім нельга траціць ні мінуты: ноч — надзейны сябар падрыўніка. Вось адна з дзяўчат ад знямогі прылегла на дарозе. Вакол яе стоўпіліся таварышы. Ісачанка скамандаваў:

— Прывал! На пяць хвілін — больш нельга.

Потым зноў рушылі ў дарогу.

На сёмыя суткі ім удалося падысці да ўмоўленага месца. Бая-

вое задание было выканана — узарваны важны ўчастак чыгункі на перагоне Жлобін — Гомель.

Шмат гераічных спраў зрабіў Аляксандр Ісачанка. На яго рахунку к 1942 году было шэсць варожых эшалонаў. Усюды — у баі, і ў кароткі адпачынак ён быў душой партызан. Гэта быў сапраўдны камсамольскі важак. У кастрычніку 1943 года партызанская брыгада «Бальшавік» разам з часцямі Савецкай Арміі ўвайшла ў спалены Гомель. Многія з баявых патрыётаў не дажылі да шчаслівага дня вызвалення любімага горада. Ісачанка таксама. У верасні 1942 года паблізу вёскі Завадзь, пад Жлобінам, ён загінуў смерцю храбрых пры выкананні баявога задання.

Не забыта імя адважнага камсамольскага важака. У першыя дні пасля вызвалення адной з вуліц Гомеля было прысвоена імя Аляксандра Ісачанкі.

2 студзеня 1944 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР пасмяротна прысвоіў сакратару Гомельскага гаркома камсамола А. Л. Ісачанку высокае званне Героя Савецкага Саюза.

Цяпер у адным са сквераў аднОўленага зялёнага Гомеля ўзвышаецца фігура мужнага юнака — гэта помнік Ісачанку. Ля помніка — жывыя кветкі. Камсамольцы і піянеры горада штогод збіраюцца да гэтай магілы, запрашаюць на свае зборы бацьку героя і даюць клятву быць такімі, якім быў іх адважны зямляк.

**Л. ГАЛІНІН.**

# РАВЕСНІЦА СЛАВЫ КАЛГАСА

Аляксандра збіралася на вечарынку. Чэрпала конаўкай сцюдзёную ваду і плёскалася над цэбрам, намыльваючы то шыю, то шчокі. Потым доўга выцірала кужэльным ручніком расчырванелы твар, расчэсвала перад люстэркам валасы, збіраючы іх на патыліцы ў вялікую кукcу.



Сёстры Люба і Аляксандра Сакун.

Вось і ўвесь туалет. Ёй, не ў прыклад некаторым прыгажуням, не патрэбна касметыка. Шырока разбегліся, бы крылы ў стрыжа, аксамітныя бровы; ледзь прыпухлыя дзявочыя губы і без памады ірдзеюць вільготнай чырванню і свежасцю. А вочы... Ох і вочы! Як гляне Аляксандра, дык, здаецца, наскрозь бачыць чалавека, чытае яго думкі.

Расцягнуўшы за рагі хусцінку, Аляксандра дробным пераборам, з наска на пятку, прайшлася па адной масніцыне, крутнулася і зноў спынілася перад люстэркам.

Маці, перастаўляючы ў печы чыгуны, каторы ўжо раз азіралася на дачку і толькі галавой ківала. Нешта незвычайнае творыцца з дзяўчынай. Калі гэта яна круцілася перад люстэркам... Ці не закахалася? Нарэшце не вытрымала, запыталася:



— Куды гэта ты так збіраешся? Здаецца, не свята сёння...

— На вечарынку пайду. Не верыш? — заўважыўшы здзіўленне на твары маці, засмяялася Аляксандра. — Далібог, пайду. Не суткамі ж на ферме сядзець. Цяпер вальней будзе. Сваю групу кароў аддаю Любе, сабе бяру першацёлак...

Гэта ўразіла маці яшчэ больш, чым доччыны зборы на гулянку. Сеўшы на ўслон, яна склала на каленях цяжкія, напрацаваныя рукі.

— Смяешся...

— Не смяюся, а праўду кажу. Заўтра і перадаваць буду.

— Дык чаму ж так? — разгублена запытала старая. — Ці правінілася ў чым, Саня?

— Ні ў чым не правінілася, проста, так лепей будзе, — ужо з парога адказала Аляксандра і, адчыніўшы дзверы, ступіла ў сцюдзёную цемру зімовай ночы.

Маці так і засталася сядзець на ўслоне, толькі абапёрлася локцямі на край выскрабленага да жаўцізны стала. І не расказала толкам дачушка!.. Не можа быць, каб яна з лёгкім сэрцам рассталася з каровамі, якіх пеставала, гадавала столькі год, з якімі звязана яе слава перадавой даяркі.

Каму, як не маці, вядома ўсё гэта. Столькі цяжкасцей адолела яе дачка, столькі сілы паклала.

... Было гэта больш шасці гадоў таму назад. Зусім дзяўчынкай прышла на ферму Аляксандра Сакун. Пачала прыглядацца да працы старэйшых даярак. Здаецца, жанчыны стараюцца, а прадукцыйнасць статка нізкая. Пытаецца ў адной, другой:

— Па колькі надойваеце ў год ад каровы?

— Ды літраў па 600—700, — адказваюць жанчыны. — Ад нашай жывёлы больш і чакаць нечага. Гэта табе не калгас «Рассвет», дзе на фермах остфрызскія ды кастрамскія каровы.

Аляксандра рашыла даказаць, што даяркі памыляюцца. Гутарыла са старшынёй, заатэхнікам, іншымі спецыялістамі сельскай гаспадаркі, якія ўсё часцей і часцей пачалі прыязджаць у калгас. Кніжак заатэхнічных накупляла. Але якая тут заатэхніка, калі каровы худыя, знясіленыя!.. Села Аляксандра даіць адну і разгубілася. Вымя ў каровы — не больш кулака. У другой — тое ж самае. Многа цяжкасцей прышлося пераадолець дзяўчыне, якая неўзабаве пасля прыходу на ферму ўступіла ў рады ВЛКСМ. Спачатку атрымлівалася нават горш, чым у другіх.

А тут яшчэ даяркі кпяць:

— Во, хацела горы перавярнуць... Думала, што мы лыкам шыты, працаваць не ўмеем. Не, пры нашых умовах лепшага і не даб'ешся...

Хоць і былі няўдачы спачатку, але ахвота працаваць на ферме ў дзяўчыны не прападала.

Пачаліся дні ўпартай працы. Па-першае, быў устаноўлены строгі распарадак дня для кароў. Сена — у пэўны час, бульбу — таксама ў строга вызначаныя гадзіны. І прывыклі каровы. Як толькі падыходзіць пара кармлення, яны паглядаюць па баках, ласкава рыкаюць. У астатні ж час трымаюць сябе спакойна, не нервуюцца.

Тое ж і з вадапоем. Безумоўна, калі б каровы ўвесь час мелі перад сабой свежую ваду, было б лепш. Але тады на ферме аўтапаення не было, прыходзілася ваду цягаць з калодзежаў. А гэта не надта лёгка. Таму і з вадапоем Аляксандра ўстанавіла строгі рэжым, прывучыла кароў да пэўнага парадку.

Месяцы праз тры прыгадала Аляксандра словы маці, сказаныя перад тым, як яна першы раз пайшла на ферму: «Старайся, дачушка. Калі моцна пажадаеш чаго дабіцца, дык абавязкова даб'ешся. Толькі так трэба пажадаць, каб гара табе стала купінай, а мора — лужынай». І Аляксандра старалася. Яе каровы прыбавілі малака. Не адразу, праўда, а паступова. Паглядзела аднойчы кнігу запісаў надояў і пераканалася, што лічбы ідуць угору.

Аляксандра пачала перапісвацца з перадавымі даяркамі рэспублікі. Ёй параілі ў першую чаргу наладзіць раздой. Спачатку Аляксандра баялася нават прыступіцца да гэтага. Здавалася, што гэта верх майстэрства даяркі. А пачытала парады ў пісьмах — і супакоілася. Аказваецца, яе строгі распарадак дня — гэта ўжо частка комплексу. Справілася і з раздоем. Пачала перад даеннем рыхтаваць цёплую ваду, рабіць масаж вымя, абціраць яго чыстым ручніком. Даіць стала куды лягчэй, і цяпер пальцы не так балелі.

Неўзабаве ў калгасе настаў рашучы пералом. Прыехаў новы старшыня — аграном Віктар Віктаравіч Баляснікаў і па-сапраўднаму ўзяўся за жывёлагадоўлю. Увялі зялёны канвеер. Упарадкавалі лугі і пашы, пабудавалі новыя жывёлагадоўчыя двары. Для работы жывёлаводам былі створаны ўсе ўмовы — толькі старайся.

Год за годам Аляксандра Сакун дабівалася ўсё лепшых і лепшых вынікаў. Цікава супаставіць дзве лічбы надояў ад кароў, замацаваных за Аляксандрай:

1953—1954 гаспадарчы год— па 1.800 кілаграмаў малака;

1954—1955 гаспадарчы год— па 3.645 кілаграмаў.

Потым справы пайшлі яшчэ лепш. За 1955—1956 сельскагаспадарчы год дзяўчына надаіла больш чым па пяць тысяч кілаграмаў малака ад кожнай каровы, летась — амаль столькі ж.

Іншыя даяркі далёка адсталі ад Аляксандры Сакун. Праўда, і ў іх паказчыкі былі нядрэнныя. З дапамогай Аляксандры Люба Сакун, Марыя Самак, Надзя Мазурчык атрымалі больш чым па дзве тысячы кілаграмаў малака. Але ж гэта ў два з палавінай разы менней, чым у перадавой даяркі.

«Чаму так атрымліваецца?» — думала Аляксандра.

Гутарыла яна і з Любай Сакун і з Марыяй Самак. А тыя толькі адмахваюцца:

— Ды што ты, Саня, смяешся, ці што? Нашы каровы горшыя, чым твае. Ад іх і трох тысяч кілаграмаў не надоіш. Ды, відаць, і рукі твае...

— Во-во! — падхоплівала Аляксандра. — Уся справа ў руках...

Спрэчкі зацягваліся. Аднойчы Аляксандра не вытрымала і пры ўсіх сказала:

— Добра. Давайце зробім так: сваю групу кароў я перадам адной з вас...

— А як жа ты?..

Трэба зазначыць, к таму часу Аляксандра працавала ўжо брыгадзірам фермы і аднačасова — даяркай. І нічога дзіўнага не было б, калі б яна цяпер абмежавалася толькі пасадай брыгадзіра.

Але Саня здзівіла ўсіх:

— Я вазьму другую групу кароў. Ну, скажам, першацёлак, і пачну іх раздойваць.

— Не дазволіць табе праўленне, — адказала Люба Сакун. — Які старшыня не зацікаўлены, каб у яго калгасе працавала першая ў вобласці даярка. А з першацёлкамі таго не будзе.

— Дык ты возьмеш маіх кароў і будзеш першай. Ці не ўсёроўна старшыні, — адгукнулася Аляксандра.

Пакінуўшы разгубленых сябровак, Аляксандра пайшла да старшыні. Віктар Віктаравіч Баляснікаў, не перабіваючы, моўчкі слухаў дзяўчыну, і нельга было зразумець, ухваляе ці асуджае ён учынак даяркі. Так, карысць з такой задумы вялікая. Толькі ж самой Аляксандры будзе цяжэй. Трэба пачынаць усё спачатку. Ды прыдзецца згадзіцца: не для ўласнай славы стараецца дзяўчына, а дзеля карысці ўсёй гаспадаркі.

— А выцягнеш? — толькі і спытаў старшыня.

— Як не выцягнуць. Раней цяжэй было, і то справілася. Тады ж ні механізацыі, ні аўтапаення, ні падвесных дарог не было. Ды і з кармамі, самі ведаеце...



— Добра. Перадавай кароў, — рашыў Віктар Віктаравіч. — Няхай заатэхнік дапаможа адабраць першацёлак.

— Вазьму першых, якія трапяць пад руку.

У гэты ж вечар і адбылася памятная размова Аляксандры з маці. Зноў, як шэсць гадоў таму назад, Аляксандра ўволю пазесялілася з хлопцамі і дзяўчатамі, каб ужо назаўтра забыцца аб вячорках. Дзяўчына ўзялася за раздой першацёлак. Толькі на гэты раз з поўным веданнем справы.

Сёлетняй вясной у калгас «Перамога» прыйшла радасная вестка: Аляксандры Сакун прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Віншавалі дзяўчыну ўсім калгасам, сяброўкі-даяркі шчыра цалавалі сваю прыяцельку. А яна бянтэжылася і толькі плячыма паціскала:

— Сама не ведаю, завошта...

Як завошта? За працу, сумленную, шчырую, за подзвіг будзённы, упарты, які цягнецца вось ужо больш шасці год. Адмовілася Аляксандра ад славы лепшай даяркі, а яна, слава, сама прыйшла да яе. Так, гэта Люба Сакун надаіла да 1 жніўня ад кароў, перададзеных ёй Аляксандрай па 3.018 кілаграмаў малака. Але ці не большая заслуга ў гэтым Аляксандры? А ў самога брыгадзіра які поспех!.. Каму давводзілася надаіць ад першацёлак па 2.458 кілаграмаў малака! І гэта не за ўвесь год, уперадзе яшчэ шмат часу.

...У цэнтры Бабруйска ўзвышаецца Дошка гонару. Уверсе, на ганаровым месцы, на ёй запісана назва калгаса «Перамога», які за сем месяцаў атрымаў на 100 гектараў угоддзяў па 139,2 цэнтнера малака. Крыху ніжэй прымацавана таблічка з прозвішчам Героя Сацыялістычнай Працы Аляксандры Сакун. Суседства таблічак гаворыць само за сябе.

**Б. СТРАЛЬЦОЎ.**

# ЗВЫЧАЙНАЯ ПРАФЕСІЯ

Нядаўна быў надрукаваны ўказ аб тым, што за поспехі ў будаўніцтве чатыром лепшым будаўнікам рэспублікі прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Пра Дзяніса Рыгоравіча Булахава, славутага майстра цагельнай кладкі, я чуў і раней. Ведаў і пра маладзёжную брыгаду Марыі Макарэвіч. Імя Івана Магілеўцава з Крычаўскага цэментна-шыфернага камбіната, таксама добра вядома. Іх работа на відавоку, іх поспехі зразумелы кожнаму. Але вось ва Указе Прэзідыума Вярхоўнага Савета чацвёртым быў названы Сямён Місуноў, бульдазерыст трэста № 15.



Сямён Місуноў.

Бульдазерыст — Герой Сацыялістычнай Працы... Кажучы шчыра, гэта для мяне было нечакана. Што ёсць геройскае ў прафесіі бульдазерыста. Вось, скажам,

машыніст вежавага крана — іншая справа. І прафесія ў яго творчая, рамантычная. Тут трэба падумаць, як той ці іншы груз падняць, як лепш з кранам пад'ехаць, і дакладнасць вялікая неабходна. Працуе машыніст заўсёды ў вышыні, адтуль яму ўсё бачна. Словам, ніхто і спрачацца не будзе, што ў машыніста вежавага крана ці муляра — спецыяльнасць адказная. А вось бульдазерыст... Сядзіць ён на звычайным трактары, толькі што абсталяваным скрэпернай лапатай. Узяўся за рычаг — і трактар навальваецца ўсім корпусам на перашкоду, ці на грунт. Націснуў на другі — задні ход. Здаецца, нічога асаблівага тут няма. Але ж званне Героя не абы за што даецца. Хто ж такі Місуноў?

Сустрэліся мы з ім на плошчы Якуба Коласа. Бульдозер Сямёна Місунова закапваў траншэі ліўневай каналізацыі. Пазнаёміліся. І тут, з першых жа мінут нашага знаёмства, адчуў я, што паўтараецца той самы выпадак, які быў у мяне з токарам-скарасніком. Нічога геройчнага не кідаецца ў вочы. Перасоўвае Місуноў зямлю ў канаву і ўсё. Запытаўся я пра яго сакрэт. Але аб сабе ён расказваць не любіць, кожнае слова з яго хоць магнітам выцягвай.

І раптам, зусім нечакана, многае стала зразумелым. Місуноў працаваў на адным баку плошчы. А на другім, побач з інстытутам фізкультуры, незнаёмы бульдазерыст капаў катлаван для фундамента новага будынка. Я спыніўся, пачаў глядзець, як працуе гэты бульдозер. На першы погляд ён працаваў так, як і ў Місунова. Але чым далей наглядаў я за ім, тым больш зразумела станавілася мне, што той бульдазерыст — навічок. Вось да яго падышоў нехта ў брызентавым плашчы, паклікаў. Той адразу ж спыніў машыну, заглушыў матор, вылез з кабіны. Некалькі хвілін яны размаўлялі. Потым бульдазерыст сеў і пачаў перарабляць сваю работу. І мне зноў успомніўся токар, які ходзіць па цэху і ў той жа час за змену выконвае тры нормы. Вось ён, першы сакрэт Місунова: рабіць дакладна, без лішніх рухаў.

Місуноў не спыніў бульдозера, калі я прышоў да яго. Гутарка наша вялася ў кабіне, і мы не гаварылі, а крычалі, таму што бульдозер не стаяў ні мінуты. У руках Місунова бульдозер ператварыўся ў паслухмяную і вельмі дакладную машыну. Ні аднаго заезду без поўнай нагрузкі!

А назаўтра адкрыліся і астатнія сакрэты місуноўскага майстэрства. Былі яны куды больш значнымі, чым першы сакрэт. Таму што разам з імі адкрыліся душа, дапытлівы розум, кемлівасць лепшага ў рэспубліцы бульдазерыста.

На бульдозеры Сямён Місуноў з 1948 года. Яшчэ першую чаргу праспекта імя Сталіна будаваў. Цяпер зноў на цэнтральнай магістралі працаваць прышлося — завяршаць разам з іншымі яе рэканструкцыю. Бульдазерыстам стаў не выпадкова, усё жыццё вабіла да сябе тэхніка — ці быў гэта кулямёт у партызанскім атрадзе, ці слясарны варштат, ці трактар. Машыны, як ён сам прызнаўся, ніколі не давалі яму спакою. І раптам удача — пасылаюць на курсы бульдазерыстаў. Зусім не дзіўна, што скончыў іх Сямён на «выдатна».

Даверылі яму тады машыну, праўда не лепшую — нейкі амерыканскі трактар, які бульдозерам можна было назваць толькі з вялікай агаворкай. Але Місуноў не разгубіўся, з «амерыканца» выціскаў такое, што сябрам яго, якія працавалі на больш дасканалых машынах, і не снілася — 800 кубаметраў грунту замест 350 па норме перагортваў за змену.

Аднойчы ўпрасіў Місуноў прараба застацца на паўгадзіны пасля работы — абяцаў паказаць нешта незвычайнае. Той згадзіўся. А Сямён, нічога не гаворачы, сеў за рычагі, скрануў машыну з месца. Зрабіў адзін, другі заход на пляцоўцы, выкапаў траншэю. Толькі тут прараб здагадаўся:

— Ты што ж, хочаш канавакапальнік бульдозерам замяніць?



Місуноў толькі галавой кіўнуў: так. Праз якіх-небудзь паўгадзіны і прарабу, і тым, хто наглядаў за гэтым незвычайным для бульдозера *заняткам, стала зразумела: но*вы метад дасць вялікі эфект. Пры траншэйным спосабе страты грунту рэзка скарачаліся.

Хутка па новаму метаду пачалі працаваць многія бульдазерысты.

А Місуноў рашыў паспрабаваць *рэзаць грунт «грабёнкаю»:* скараціць даўжыню рэзання і па адным месцы прайсці тры разы. Бульдозерны нож, быццам грабёнка, прычэсвае грунт. Пры такім спосабе рыхласць перамяшчаемага грунту змяншаецца. Многія спа*чатку сцвярджалі, што прымяняць* гэты метад — дарэмная справа. Пры максімальным заглыбленні ўзнікае перагрузка трактара і машына можа выйсці са строю. Але ў Місунова перагрузак не бывае, трактар без капітальнага рамонту ходзіць больш чым належыць. А новы метад дазволіў узняць прадукцыйнасць бульдозера на 12 працэнтаў.

Працуе Місуноў цяпер на бульдозеры, змантыраваным на базе трактара «С-80». Машына выдат*ная, з амерыканскім трактарам* і ў параўнанне не ідзе. На ёй Сямён Мацвеевіч робіць сапраўдныя цуды. Прадукцыйнасць бульдозера Місунова часамі пераўзыходзіць прадукцыйнасць паўкубавога экскаватара. Пры гэтым кошт перамяшчэння аднаго кубічнага метра грунту значна ніжэйшы. За дзесяць год ён перамясціў каля мільё*на кубаметраў зямлі.* Вось чым заслужыў Сямён званне Героя Сацыялістычнай Працы. Хіба ж назавеш работу яго нецікавай? Вось вам і бульдазерыст!

Аднойчы я расказаў яму, як я здзівіўся, пачуўшы, што бульдазерысту прысвоена самае высокае званне ў нашай краіне. Місуноў засмяяўся.

— Заўсёды трэба ведаць, што робіш і для чаго робіш. Тады і не памылішся. Ты вось памылку зразумеў. А ці не робяць такую ж памылку тыя, хто выбірае дарогу ў жыцці, шукае рамантычных спецыяльнасцей? Мне, дарэчы, ніколі не прыходзілася сустракаць юнака ці дзяўчыну, якія марылі б стаць бульдазерыстамі. Мулярам — калі ласка. Машыністам вежавага крана — з вялікай ахвотай. А хіба ж, маўляў, спецыяльнасць бульдазерыст? Гэта ж усёроўна, што трактарыст. Толькі працуе не ў полі і рамантыкі куды менш, чым у рабоце вясковага трактарыста. *Хіба не так разважаюць многія?* А бывае гэта таму, што прафесію нашу з боку не разгледзіш, у яе трэба душу ўкласці.

**В. МІХАЙЛАЎ.**

С. КУХАРАЎ

# НАД ДЗВІНОЮ

**Нарыс**

Мал. Г. Паплаўскага.

## 1

Так, напэўна, некалі выглядалі неабжытыя лясныя прасторы па-над Амурам, калі сюды ступілі першыя пасланцы Ленінскага камсамола, каб закласці горад свайго юнацтва — Камсамольск-на-Амуры. Такім жа суровым і разам з тым непаўторна цудоўным выглядае цяпер таежнае ўзбярэжжа паўночнай прыгажуні Пячоры, стрэўшы зусім нядаўна новых адважных разведчыкаў нетраў — сённяшніх камсамольцаў, якія смела адгукнуліся на заклікі партыі асвоіць незлічоныя багацці далёкай Поўначы. Новы горад, які будуе моладзь сваімі нястомнымі рукамі ў паўночнай тайзе, яна вырашыла назваць у знак пашаны да сваіх няўрымслівых папярэднікаў Камсамольск-на-Пячоры — малодшы брат далёкаўсходняга камсамольскага першынца.

Сёння па-над Заходняй Дзвіною пад старажытным Полацкам раскінуліся такія ж палатняныя палаткі, якія некалі былі раскінуты на ўзбярэжжы Амура.

На высокі пясчаны бераг Заходняй Дзвіны цераз пераправу няспынна ідуць машыны з цэглай, цэментам, бетонам, бярвеннем. Грузы дастаўляюцца без перапынку — з раніцы да позняга вечара. Гэтыя ж машыны прывозяць і папаўненне рабочаму калектыву. Едзе пераважна моладзь — загарэлыя вясёлыя хлопцы і дзяўчаты з рукзакамі і торбачкамі за плячыма, са спартыўнымі чамаданчыкамі і самаробнымі скрыначкамі. Едуць адусюль — з Віцебшчыны, з суседняй Магілёўшчыны, з далёкага Палесся, з-пад Гродна. Едуць маладыя патрыёты з брацкіх рэспублік. Яны дачуліся, што на ўзбярэжжы Заходняй Дзвіны непадалёк ад Полацка разгортваецца гіганцкая новабудоўля, і спяшаюцца стаць яе ўдзельнікамі.

Людзей тут спатрэбіцца шмат. І яшчэ доўга над ляснымі прасторамі прырэчча, падхопленая бурлівымі хвалямі паўнаводнай Дзвіны, будзе гучаць хвалюючая песня, з якою не адзін ужо год наша моладзь выбіраецца ў дарогу:

«Едем мы, друзья,
В дальние края...»



А ў душы тых, хто абжыўся на новым месцы і ў каго крыху можа астыла адчуванне таго святочнага настрою, з якім ён нядаўна сам выбіраўся з дому, зноў ускалыхнулася тое ўсеабдымнае пачуццё гордасці і захаплення сваім рашэннем выбраць сабе сцежку ў жыцці.

У памяці ўсплываюць камсамольцы, што будавалі Магнітку, пракладвалі Турксіб, абжывалі Далёкі Усход, запальвалі агні новых электрастанцый на Дняпры... Якія яны былі смелыя і адважныя, як бліскуча яны справіліся з той работай, якую ім даручыла партыя!.. А цаліна! А новыя шахты, гідраэлектрастанцыі на Волзе, у Сібіры! А карагандзінскія новабудоўлі! Там, напэўна, цяжэй, чым тут, на маляўнічай лясной паляне, дзе сонца ўсходзіць гэтак жа, як і ў роднай вёсцы, і над галавой шумяць такія ж знаёмыя і задумлівыя сосны, нібы ты зусім недалёчка ад бацькоўскае хаты. У зарэчнай Ахотніцы, дзе размясціліся ў звычайных вясковых хатах першыя навасёлы, гэтак жа па вечарах збіраецца моладзь на прызбах, як і ў тваёй вёсцы. І ідзеш ты на працу ціхай роснай сцяжынкай мурожным надрэччам, якое якраз так пахне піжмаю і хвояй, як у роднай вёсцы.

«Ну, дзе тут праявіш гераізм?!.. — з сумам думаеш ты. — Усё звычайнае, нібы ў нашым Залессі ці Альхоўцы. Вунь дзе-небудзь на Пячоры, у тайзе — іншая справа! Там, напэўна, працуюць іншыя людзі — хлопцы-героі!»

Хто ведае, можа, сапраўды, тым хлопцам, што будуюць Камсамольск на рацэ Пячоры, або тым, што ўзводзяць новую Магнітку ў Карагандзе, цяжэй. Можа там спатрэбіцца больш мужнасці і вытрымкі. Але і ты, юны сябар, што прыехаў у Слабодку, на Дзвіну, можаш ганарыцца: ты знаходзішся якраз там, куды кліча цябе родная маці — Камуністычная партыя, куды прывяло цябе тваё гарачае камсамольскае сэрца.

Будаўніцтва, якое ўлетку разгарнулася на левым беразе Заходняй Дзвіны — важнейшая навабудоўля нашых дзён. Гэта будучы горад, дзе размесцяцца рабочыя новага ў Беларусі завода-гіганта па перапрацоўцы нафты — першынца нафтавай прамысловасці ў нашай рэспубліцы.

Над новай будоўляй на Дзвіне шэфствуе камсамол. Гэта ўдарная камсамольская будоўля.

Нафтагарадок пад Полацкам — гэта будзе горад камсамольскага юнацтва, выдатны помнік крылатай мары нашых маладых сучаснікаў.

## 2

Аднойчы парным жнівеньскім надвячоркам на будаўнічую пляцоўку «Нафтабуда» ў палатняную палатку з надпісам «Камітэт камсамола» зайшоў рослы, з строгім абветраным тварам паўнаваты мужчына. Кіўком галавы ён прывітаўся з людзьмі, што сядзелі пры хісткіх імправізаваных століках, а кучараваму хлопцу ў палінялай каўбойцы падаў руку. Хлопец аберуч сціснуў моцную, шурпатую руку мужчыны, цёпла ўсміхнуўся яму. Мужчына нетаропка зняў саламяны капялюш, зірнуў на плечы свайго гарнітура, які добра прыпудрыўся рудаватым, відаць, цагляным пылам. Усаджваючы го-



сця, кучаравы хлопец — сакратар камсамольскай арганізацыі УНР-121 Валянцін Лукша — радасна сказаў:

— Вось добра, Алег Аляксандравіч, што вы прышлі! У нас якраз камсамольскі сход. Вельмі хацелася б, каб вы расказалі нашым хлопцам пра завод. Заадно паслухайце, што нас, будаўнікоў, непакоіць.

Алег Аляксандравіч Ктатараў — дырэктар будучага нафтаперагоннага завода цёпла ўсміхнуўся і мякка сказаў:

— Я ўжо, здаецца, расказваў. Ну, ды што з вамі зробіш, камсамаляты... Так і быць, яшчэ раз выступлю.

Сакратар, як самую радасную сваю навіну, тут жа паведаміў:

— Да нас яшчэ прыехала шмат навічкоў. Выпускнікі сярэдніх школ. Ведаеце, як для іх цікава будзе ваша гутарка!

...Гэты сход, як і многія іншыя, быў на адкрытай пляцоўцы, дзе закладваюцца падмуркі жылога гарадка для будаўнікоў. На цэгле, на дошках, а то і проста на прыбітым мурагу расселіся чорныя ад сонца, перапэцканыя ў раствор муляры, бетоншчыкі, землякопы. Крыху пазней падышлі шафёры, электрыкі. Засталіся на сходзе і старэйшыя людзі: «Можа што новае скажа Ктатараў. Талковы, відаць, чалавек».

Канешне, многія з тых, што працуюць на будоўлі месяцы два—тры і ўжо лічацца ветэранамі, ведаюць пра тое, як зменіцца гэты сёння яшчэ пустэльны куток. Але для навічкоў гэта сапраўдная казка.

Гаварыў Алег Аляксандравіч коратка, але пераканаўча, і яго слухалі з цікавасцю. Перад будаўнікамі яскрава паўставаў велічны малюнак завода-гіганта па перапрацоўцы нафты.

— За ўсю шматвяковую гісторыю,— расказваў Алег Аляксандравіч, — старажытны Полацк не бачыў такіх пераўтварэнняў, якія будуць тут у сувязі з будаўніцтвам нафтагіганта. Гарадок нафтавікоў зойме плошчу дзвесце тысяч квадратных метраў. На левым беразе ракі, у суседстве з сасновым борам, пачынаючы ад цяперашняй вёскі Слабада ў кірунку Полацка вырастуць прыгожыя шматпавярховыя дамы з асфальтаванымі, зялёнымі вуліцамі і плошчамі. У цэнтры гарадка будзе Палац культуры, школа, кінатэатр, паліклініка, дзіцячы сад, яслі, магазіны, бібліятэка і іншыя ўстановы. У гарадок нафтавікоў будзе пракладзена чыгунка. Нафтавікі будуць мець сваю цеплаэлектрацэнтраль, што дасць магчымасць забяспечыць усе зручнасці ў кватэрах рабочых і служачых. Ужо цяпер разгортваецца работа па падрыхтоўцы кадраў беларускіх нафтавікоў. У Полацку ідзе аднаўленне будынка былога кадзецкага корпуса — тут размесціцца вучэбны камбінат. У будучым годзе адбудзецца першы набор вучняў розных вытворчых спецыяльнасцей — аператараў, іх памочнікаў, матарыстаў, наладчыкаў і г. д. Сюды будуць прымацца навучэнцы з атэстатам сталасці. Пасля двухгадовага навучання будучыя нафтавікі перад самастойнай працай пройдуць вытворчую практыку ў Куйбышаве, ва Уфе — на лепшых нафтавых прадпрыемствах краіны.

Не паспеў Алег Аляксандравіч перадыхнуць, выціраючы беласнежнай хусцінкай спацелы твар, як наперабой загаварыла моладзь.

— Раскажыце, калі ласка, пра завод. Які ён будзе? Адкуль будзе даставаляцца нафта?

— Калі завод пачне працаваць?

На гэта дырэктар адказаў жартам:

— А вось якраз пра гэта вы, будаўнікі, ведаеце лепш за мяне, — і ўжо сур'ёзна дадаў: — Згодна планавага разліку, першая чарга завода павінна ўступіць у строй у 1963 годзе. Але, думаю, што вы справіцеся крыху раней. Пасланцы камсамола заўсёды перавыконвалі дадзеныя партыяй заданні. Такі ўжо ваш камсамольскі характар—быць заўсёды ўперадзе, натхняць сваім прыкладам моладзь.



Нафтабудаўнікі з гонарам даведаліся з гутаркі Алега Аляксандравіча, што беларускі нафтаперапрацоўчы завод будзе адным з буйнейшых.

Гэта будзе завод-гігант, абсталяваны навейшымі складанымі машынамі і механізмамі, з шырокім прымяненнем аўтаматычных працэсаў. З нафты будуць выпрацоўвацца разнастайныя матэрыялы і сыравіна, вельмі неабходныя для прамысловасці. Тут і сыравіна для штучнага валакна, пластмас, замяняльнікаў скуры, некаторых каштоўных будматэрыялаў, і бензін, і газа, і змазачныя маслы, і дызельнае паліва — усе тыя матэрыялы, якія цяпер завозяцца ў Беларусь і Прыбалтыку.

Полацкі перапрацоўчы завод атрымае нафту з Башкірыі па нафтаправаду, які будзе даўжынёю 2 тысячы кіламетраў.

— Мы ўсё зробім, каб хутчэй пабудаваць завод, — не стрымалася круглагаловая, бялявая дзяўчына з тых, што сядзелі ўводдаль, шчыльна прытуліўшыся адна да другой, як задушэўныя сяброўкі. Гэта брыгадзір навічкоў, якія нядаўна прыбылі на будоўлю па камсамольскіх пуцёўках. Яе ўсе называюць проста — Ніна. Камсамолка Ніна Кузняцова, не задумваючыся, рашыла звязаць свой лёс з ударнай новабудоўляй. Як толькі атрымала дыплом тэхніка-будаўніка, адразу сказала:

— Якраз для мяне і будоўля новая, тут, у палатняным гарадку будаўнікоў, маё месца.

Ніне далі брыгаду леташніх дзесяцікласнікаў. Цудоўныя хлопцы і дзяўчаты! Праўда, яны не маюць яшчэ вопыту, не ўсе з іх умеюць як мае быць трымаць рыдлёўку, не кажучы пра такія важныя тут прылады, як кельма. Але нічога — навучацца. Затое ў іх ёсць шчырае жаданне стаць сапраўднымі будаўнікамі і энергія, невычарпальная энергія маладосці, і імкненне ўсё пазнаць, усяму навучыцца. А гэта — зарука поспеху.

— Будзем даваць па паўтары нормы! — у адзін голас крыкнулі Ніны сябры, як бы ў падтрымку слова свайго брыгадзіра.

— Ого, якія смелыя!.. Паўтары нормы?!.. — крыкнуў нехта з хлопцаў брыгады Леаніда Чудакова. — Мы ўжо не адну пару мазалёў знасілі, ды і то ніяк не можам даць кожны дзень па столькі. Ці не занадта вы порсткія, дзяўчаты?

— Нічога не порсткія, — спакойна адказала на гэтую рэпліку Ніна. — Але па паўтары нормы дадзім. — Нечакана для многіх прапанавала: — Згодны з намі спаборнічаць?

— А чаму ж не?.. Згодны, — заявілі яшчэ ўчарашнія перадавікі з брыгады Чудакова, хоць і моцна задумаліся. Дасюль гэтая брыгада трымала першае месца на капанні катлаванаў пад жылыя дамы піянерскага гарадка будаўнікоў. Гэта таксама дружная брыгада, якая прыбыла сюды ў сярэдзіне ліпеня,



таксама па пуцёўках райкомаў камсамола. Большасць яе — таксама ўчарашнія дзесяцікласнікі. Але ёсць тут і бывалыя людзі, хоць і маладыя, якія пабывалі ўжо на многіх будоўлях. Усім ім спадабаўся сталы, разважлівы Лёня Чудакоў — хлопец з кучаравым рыжаватым чубам і прыгожымі, моцнымі мускуламі пад матроскай цяльняшкай. Яшчэ калі пад'язджалі да парома, каб пераправіцца на левы бераг, дзе здалёк чырванеліся штабялі цэглы — першы прыпынак на самастойнай жыццёвай дарозе, усе згадзіліся: «Ты, Лёня, у нас будзеш за брыгадзіра. Ідзі гавары з начальствам, каб нас не разлучалі...»

Першыя дні Лёню даліся нялёгка, пакуль адзін другога добра ўведалі, пакуль спрацаваліся. На першым часе ў аднаго тое няладна, у другога іншае. Каця кінула працу дачасна і пайшла ў Баравуху на спатканне з новым знаёмым. А Маня засумавала — ужо каторы дзень, як прыехалі, а пісьма з дому няма. А ў некаторых выявілася знаёмая хвароба — ныццё: «Невядома яшчэ, як яно тут будзе, можа нічога не заробім...» Але ўсё гэта хутка ўляглося, прайшло. Перамагло здаровае жаданне — стрымаць слова, дадзенае сябрам-камсамольцам, быць вартымі камсамольскага давер'я. Ужо на другі месяц усе члены новай камсамольска-маладзёжнай брыгады Леаніда Чудакова значна перавыканалі вытворчае заданне. На гэтай нялёгкай земляной працы яны далі 120 працэнтаў. Гэта вялікая справа! І раптам знайшлася новая дзяўчына, якая можа яшчэ і рыдлёўкі не трымала як мае быць у руках, а бярэ смела паўтары нормы.

— Што ж, паспаборнічаем! — бліснуў сінімі вачыма Леанід Чудакоў, і не зразумела Ніна Кузняцова, што таілася ў тым бяздонным блакіце Лёневых вачэй: выклік ці кпіны?

...І начальніку УНР-121 Рыгору Васільевічу Сібко, і дырэктару будучага завода Алегу Аляксандравічу Ктатараву, які часта бывае ў будаўнікоў, было прыемна, што камсамольцы (а яны — асноўная, ударная сіла новабудоўлі) горача, з маладзёжным задорам і рашучасцю ўключаюцца ў справу, блізка да сэрца прымаюць усё, што перашкаджае, што стаіць на шляху працы па-новаму.

Камсамольцы рашылі стварыць «штаб лёгкай кавалерыі», які б дапамагаў камітэту камсамола выяўляць усе непаладкі на будоўлі, змагацца за высокую культуру працы, за эканомію і беражлівасць. У яго склад, апрача сакратара камсамольскага камітэта, увайшлі тры актывісты.

Неўзабаве пасля гэтага сходу на аб'ектах з'явілася «Калючка» — сатырычны лісток, дзе трапна крытыкаваліся тыя «ўхабы», якія яшчэ ёсць на шырокай будаўнічай пляцоўцы, дзе гаспадараць маладыя працаўнікі.

## 3

Аляксандр Варановіч — плячысты, смуглявы здаравяк — прыехаў з групай такіх жа, як і сам, маладых, бадзёрых хлопцаў на левы бераг Дзвіны яшчэ ў чэрвені месяцы, калі на месцы, дзе сёння ўжо свецяцца новымі сценамі першыя зборныя дамы (падарунак Віцебскага домакамбіната), стаўляліся першыя вешкі. Паглядзеў на камлюкаватую фігуру хлопца выпрабавальным вокам галоўны інжынер УНР-121 Рыгор Юр'евіч Аронаў, паказаў кіўком галавы на яго крыху палінялую хвацкую шапку-капітанку, з-пад якой выбіваліся непакорлівыя, хвалістыя валасы, і коратка спытаў:

— Дзе служыў?

— На Каспіі. Караванным механікам быў у Баку, у нафтапараходстве.

— Добра, — ухваліў галоўны інжынер і, скупа ўсміхнуўшыся, дадаў: — Пакуль што ў нас караванаў няма — будзеш брыгадзірам... Жыллё трэба хутчэй. Разумееш?..

— Разумею, — адрапартаваў Варановіч і сабраўся было ісці, але нешта ўспомніў, зычна гукнуў: — Што загадваеце рабіць, таварыш галоўны інжынер?..

— Бяры вунь чарцяжы, сваіх хлопцаў і рыхтуйце катлаваны. К восені мы павінны паставіць трыццаць два дамы-інтэрнаты. Для вас жа, будаўнікоў. Разумееш?

— Разумею, таварыш галоўны!..

Так Аляксандр Варановіч змяніў спецыяльнасць караваннага механіка на брыгадзіра-будаўніка. Аб нядаўняй яго марской службе напамінае хіба толькі шапка-капітанка, з якой хлопец не расстаецца ніколі. Аляксандр бадай што не сумуе па шумлівых хвалях мора, па залітых сонцам бакінскіх бульварах. Ён сам, дачуўшыся, што на радзіме, паблізу Полацка, разгортваецца такая будоўля, не вытрымаў і прыехаў, каб прыкласці свае працавітыя рукі.

У брыгадзе Варановіча людзі розных узростаў, з розных месц, але яны хутка здружыліся, і ў гэтым, напэўна, ёсць заслуга энергічнага і здольнага брыгадзіра.

Вядома, што знаёмства з людзьмі пачынаецца на рабоце, дзе бачны і здольнасці, і магчымасці кожнага. Варановіч заўважыў, што далёка не ўсе такія майстры, якія патрэбны тут, на будоўлі. Ён адразу паставіў пытанне перад кіраўніцтвам аб вучобе, але не чакаў, пакуль аднекуль яму прышлюць спрактыкаваных інструктараў. Яшчэ толькі пачалі капаць катлаваны, а ў Варановіча ўжо раяцца, як рабіць кладку сцен, як рыхтаваць апалубку.

— Будоўля наша маладая, — горача даводзіў сваім сябрам брыгадзір, — і мы спецыялісты таксама маладыя. Можна сказаць, навічкі ў гэтай справе...

— Ты канкрэтней, Саша. Што надумаў? — перабіваў Варановіча нецярплівы Васіль Бандарэнка.

— Я канкрэтна і кажу, — прадаўжаў спакойны, разважлівы Варановіч. — Нам трэба кожнаму асвоіць спецыяльнасць муляра, а потым і тынкоўшчыка. Сёння мы робім катлаваны, а заўтра трэба муравақь падмуркі, а потым спатрэбяцца і тынкоўшчыкі, і мантажнікі.

— От яшчэ не было клопату... — усміхнуўся Васіль.

— Табе, братка, першаму заданне — навучыць двух падсобнікаў цяслярству.

— Ёсць! — ужо зусім сур'ёзна, па-вайсковаму, выгукнуў Васіль, ведаючы, што брыгадзір любіць жарты датуль, покуль яны не шкодзяць справе.

Праз некаторы час у брыгадзе Аляксандра Варановіча з'явіліся свае цесляры, бетоншчыкі, электрыкі, муляры. Прайшлі добрую практычную загартоўку тыя, што прыбылі на будоўлю без спецыяльнасці. Калі гутарка заходзіць пра людзей брыгады, Варановіч перш за ўсё называе цесляроў Івана Вікса і таго ж Васіля Бандарэнку, але дадае, што не быць бы ім добрымі цеслярамі, каб яны не трапілі сюды, на ўдарную камсамольскую будоўлю. Праўда, брыгадзір замоўчвае, што хлопцы працуюць не абы з кім, а з былым караванным механікам.

Гэта добра, што замоўчвае — сціпласць упрыгожвае камсамольца!

— У нас жа ёсць і дзяўчаты. — непакоіцца Варановіч. — Яны працуюць выдатна. Асабліва сёстры Марыя і Кацярына Войчанкі. Аднымі з першых яны набылі будаўнічую спецыяльнасць і робяць не горш, як спрактыкаваныя муляры. Нам бы пабольш такіх дзяўчат...

... Побач з брыгадай Аляксандра Варановіча рыхтуюць падмуркі для зборных дамоў хлопцы брыгады Івана Іванова, таксама нядаўняга салдата. Баявыя, дружныя працаўнікі. Ні ў чым не ўступаюць сваім суседзям: ні ў працы, калі пачынаюць завіхацца, перагукнуўшыся: «А ну, хто хутчэй!», ні ў танцы, калі збяруцца ўвечары на пагорку і з прысвістам адбіваюць «цыганачку», да зморы даводзячы гарманіста. Адзін месяц Іваноў «пабіў» Варановіча, вышаўшы нават на першае месца сярод усіх брыгад. Здаецца, тады ён даў

152 працэнты месячнага задання. Але гэта не спалохала Варановіча. Як аб'яўлялі камсамольскую вахту ў гонар 40-годдзя ВЛКСМ, Варановіч выклікаў на сацыялістычнае спаборніцтва Іванова і паабяцаў разам з усімі сваімі сябрамі па працы:

— Дадзім 160 працэнтаў!

Калі пачаўся мантаж зборных дамоў, брыгаду Вараповіча перакінулі на гэты адказны ўчастак. І тут хлопцы не разгубіліся. Не дарэмна кажуць, што войска заўсёды мае баявы настрой, абы не страціў натхнення камандзір. А такі камандзір, як Вараповіч, не разгубіцца.

## 4

У жніўні, на зыходзе лета, на будоўлі было нешта чалавек каля пяцісот. Амаль што ўсе будаўнікі — людзі крылатага, камсамольскага ўзросту. Перад імі пастаўлена задача — у тэрмін пабудаваць нафтагігант. З кім ні пагутарыш на пляцоўках, на растворна-бетонным вузле — усе нафтабудаўцы жывуць гэтым высакародным жаданнем, гэтай вялікай марай.

Зусім невялікі час прайшоў, як ажыло, загаманіла левабярэжжа Дзвіны, а ўжо на будоўлі з'явіліся свае перадавікі, людзі, якія не ведаюць спакою ў працы, якія ў звычайнай, будзённай рабоце праяўляюць сапраўдны гераізм. Іх справы — гэта подзвіг, гэта тая ўзнёслая рамантыка, якая так захапляе сэрцы маладых.

Начальнікі будаўнічых участкаў, галоўны інжынер, брыгадзіры, майстры з гонарам расказваюць пра сваіх рабочых, прыводзячы ў прыклад то аднаго, то другога.

Брыгадзір той жа брыгады, якая першай адкрыла спіс перадавікоў на свежай, яшчэ пахнучай жывіцай дошцы паказчыкаў, Іван Іваноў, сціплы, нават залішне сарамлівы хлопец з мяккімі сінімі вачамі і мускуламі спартсмена, доўга перабіраў у памяці сваіх людзей. Пасля кожнага новага прозвішча, якое ён вымаўляў, на яго высокім чыстым ілбе серабрыліся новыя кропелькі поту. Нарэшце, брыгадзір не вытрымаў, бегма кінуўся ў палатку і вярнуўся са спісам. Пачаў чытаць:

— Сцяпан Сазонаў — цесляр... Пятро Капуста — муляр... Уладзімір Буланаў — цесляр... Ала Акасевіч, Галя Квачонак — падсобніцы...

Выцершы ўспацелы твар, Іван горача загаварыў, дапаўняючы словы выразнымі жэстамі рук:

— Вы ведаеце, як я магу аднаго назваць, а другога ўмаўчаць? Працуем жа разам... Усе на сваім участку забяспечваюць тэмп, стараюцца, каб брыгада была на ўзроўні!..

Гэта правільна — усе стараюцца. Нават тыя, што на першым часе крыху разгубіліся або паддаліся настрою вандроўнікаў-калымнікаў, якія, між іншым, з'явіліся былі і на гэтай толькі што народжанай будоўлі. А цяпер нават тыя нерашучыя хлопцы і дзяўчаты захапіліся агульным пафасам уздыму, які запанаваў на камсамольскай новабудоўлі напярэдадні слаўнага юбілею ВЛКСМ.

Хочацца спыніцца асобна на такім важным участку будоўлі, як пераправа, расказаць пра людзей, якія забяспечваюць належны рытм жыцця на левым беразе ракі. Нехта з нафтабудаўцаў вельмі трапна сказаў, што пераправа — галоўная артэрыя, якая жывіць увесь арганізм будоўлі.

На шляху, дзе ідуць усе будаўнічыя работы, — бурлівая, паўнаводная Заходняя Дзвіна. Маста тут, як вядома, пакуль што няма. Геолагі яшчэ толькі падбіраюць месца для яго, робяць патрэбныя вылічэнні.

З цямна да глыбокай ночы, ва ўсякае надвор'е, без спачыну туды-сюды праз раку ходзіць нястомны працаўнік-паром, перавозячы на левы бераг усё, што трэба на пляцоўках. Цераз раку штодзённа праходзяць больш пяцісот машын. На пароме ўмяшчаецца чатыры самазвалы. Вось і памяркуй, колькі



разоў трэба звярнуцца за змену! Тут не задрэмлеш, калі з двух бакоў нецярплівы народ-шафёры падбадзёрваюць. «Гэй, што заснулі, давай, варушыся!» Нельга з бетонам, які, нібы рошчына, ходзіць у кузаве, стаяць ні мінуты лішняй, бо зацвярдзее; нельга бавіцца і з цэглай — яе адразу ж з кузава ўвішныя муляры кладуць у сцяну. А там сталяры чакаюць дошкі, цвікі... Усё неабходна даставіць у час, на сваё месца — тады рытмічна будзе ісці праца на будоўлі. Няхай хоць на пяць хвілін спыніцца пераправа — і неапісальны затор стварaецца на дарогах, якія з процілеглых бакоў вядуць да ракі: парушыцца нармальнае жыццё на будоўлі.

Іх не многа, людзей, якія забяспечваюць бесперабойную, напружаную работу пераправы — чатыры паромшчыкі і два капітаны-матарысты. Апошнія бесперaпынку разразаюць мутна-жоўтыя вірлівыя хвалі Заходняй Дзвіны на чырвонабокім кацеры з гучнай назвай «Нафтабудавец», на сталёвым тросе цягаючы груваcткі паром. Чатыры чалавекі спраўляюцца на рацэ. Нездарма іх называюць героямі пераправы.

Капітан-матарыст Мікола Спінаў — плячысты, з бронзавым ад летняга загару, вясёлым тварам хлопец у цяльняшцы, пад якой ходзяць магутныя грудзі спраўнага рачніка, упэўнена трымае штурвал і арліным позіркам сочыць, як на сталёвым тросе плаўна рухаецца паром... Пад яркім сонцам прыгожа пераліваюцца хвалі ракі, мякка плюскочуць аб барты, пырскаючы ў твар свежасцю. Хораша, аж душа спявае!..

Але бывае інакш. Увечары неяк наляцеў з-за недалёкага бору сіберны вецер, прыгнаў злосныя чорныя хмары, узвіхрыў хвалі ракі, закруціў шалёнымі клубамі сыпучыя пяскі з берагоў. Разззлавалася капрызная Дзвіна, падкідвае кацер, як трэску. А з берага крыкі: «Гэй, варушыся, браток! Давай, каб цябе немач!..»

І раптам — парваўся буксірны канат. Што рабіць? На беразе —



**Уладзімір Іваноў.**

калона машын на паўкіламетра. Хтосьці з людзей, што сабраліся на пароме, раіў пачакаць да раніцы, бо вада халодная і ў цемені нічога не бачна. Але Мікола рашыў інакш... Ён скінуў з сябе цяльняшку і нырнуў у ваду, пад кацер, дзе знаходзілася мацаванне каната. Ён ныраў некалькі разоў, пакуль не ліквідаваў аварыю. Паром зноў пайшоў...

Той жа вытрымкай і бясстрашшам валодае і Міколаў напарнік — смуглявы здаравяк Уладзімір Іваноў, якога нафтабудаўцы клічуць «дзядзька Валодзя», хоць гэтаму дзядзьку яшчэ далёка да трыццаці год. У «дзядзькі Валодзі» паром ходзіць, як гадзіннік у добрага гаспадара. І Уладзімір Іваноў, і Мікола Спінаў — спрактыкаваныя майстры буксіравання, бясстрашныя матарысты. Абодва любяць і ведаюць сваю справу, маюць грунтоўны рабочы стаж. Мікола прайшоў добрую загартоўку на Каме, дзе буксіраваў транспарты. Уладзімір уздоўж і ўпоперак абкалясіў родную Дзвіну на кацерах, быў шафёрам. На «Нафтабудзе» сябры з натхненнем ня-

суць ударную вахту ў гонар 40-годдзя ВЛКСМ.

Расказваюць, як аднойчы Уладзімір Іваноў вадзіў паром у страшэнную навальніцу. Рака так разбушавалася, што хвалі шугалі цераз пераправу, сінія маланкі крышылі неба, дождж ліў, як з вядра. А тут падышла калона самазвалаў з бетонам. Паром гойдала, нібы човен. Зрабілася цёмна. Не відно, куды весці кацер — можна збіцца з дарогі і парваць трос. Але матарыст не разгубіўся — удала прывёў паром да прычала, і працаваў да таго часу, пакуль трэба было, пакуль ішлі машыны на левы бераг.

Хіба не заслугоўваюць такія людзі, каб іх называлі героямі! Яны і ёсць героі працы!

5

Пакуль пісаліся гэтыя радкі, на левым беразе Дзвіны, у Слабадзе (так называецца вёска, на загуменнях якой улетку разгарнулася вялікае будаўніцтва), адбыліся відавочныя перамены. У жніўні толькі пачалі зборку першых васьмі дамоў. Толькі пачалася кладка сцен кінатэатра, лазні, кацельнай. Рабочыя жылі на кватэрах у Слабадзе, Ахотніцы і ў іншых навакольных вёсках. У іх не было нават свайго чырвонага кутка, кіно прывозілі рэдка, не ўсё добра ладзілася часам і з харчаваннем — сталовая толькі што арганізавалася.

Сёння малюнак інакшы. Да юбілею камсамола першыя нафтабудаўцы спраўляюць наваселле. Неўзабаве ў іх будзе і свой клуб, і кінатэатр. Жыццё ў піянерскім гарадку нафтабудаўцаў наладжваецца. Камсамольцы ствараюць свой калектыў мастацкай самадзейнасці, які стане душой арганізацыі культурнага адпачынку моладзі. І канешне, ніхто, хто яшчэ толькі думае над тым, каб уліцца ў дружны гераічны калектыў, — не пашкадуе, калі паследуе прыкладу першых пасланцоў Ленінскага камсамола, якія заклалі падваліны новага горада беларускіх нафтавікоў.

Той, хто прагне знайсці сабе сапраўднае натхненне, хто не баіцца цяжкасцей, — той знойдзе на ўдарнай камсамольскай будоўлі шчырых паплечнікаў і сяброў. Яго тут чакае шырокі, неабмежаваны прастор для выяўлення невычэрпных сіл маладосці. Тут — сапраўдная школа жыцця.

Няхай гэта будоўля не за палярным кругам, не ў суровай тайзе. Над табой будзе такое ж, як у тваіх родных мясцінах дзе-небудзь ля Бесядзі ці над Сожам, з сінімі аблачынкамі неба, таксама, як і ў тваім ляску будзе пахнуць жывіцай і яварам, — не расчароўвайся: тут і ёсць твой пярэдні край, тыя запаветныя далячыні, якія адкрывае перад маладымі сучаснікамі наша родная Партыя.

Над Дзвіной, на ударнай камсамольскай будоўлі, ідзе вялікае, поўнае гераічнай рамантыкі працоўнае наступленне.



*Нас гартавала полымя, нас вырасціла праца*

# ЛЕТАПІС ПІШАЦЦА Ў НАШЫ ДНІ

Пры слове «летапіс» мы прывыклі думаць, што ствараюць яго людзі, так сказаць, не па свежых слядах падзей, а праз значны адрэзак часу, калі перажытае ўяўляецца ў крыху іншым святле. Між тым, работнікі Гомельскага абкома камсамола не сталі чакаць, пакуль прайшоўшае прыпыліцца мінуўшчынай: па гарачых слядах падзей яны рашылі напісаць гісторыю камсамола вобласці.

Цяжка сказаць, каму першаму прышла ў галаву думка стварыць такую кнігу. Магчыма, гэтая думка з'явілася адначасова ў многіх работнікаў абкома камсамола, бо хіба гэта не цікава — стварыць летапіс камсамольскага жыцця сваёй вобласці, расказаць у ім, як мужнеў, гартаваўся камсамол у агні грамадзянскай вайны, як з кельмамі ў руках узводзілі камсамольцы завод «Гомсельмаш» і шклозавод імя Сталіна.

— Мнагавата працы будзе, — гаварылі некаторыя.

— Канешне, нямала, — згадзіўся загадчык аддзела прапаганды і агітацыі абкома камсамола Леанід Лазараў. — Але затое, якую цікавую кнігу можна стварыць! Колькі цікавых фактаў можна знайсці!

У канцы студзеня гэтага года пастановай бюро абкома камсамола была створана камісія па збору і сістэматызацыі матэрыялаў. Трэба сказаць, што не ўсе таварышы, члены гэтай камісіі, у аднолькавай меры прынялі ўдзел у стварэнні камсамольскага летапісу. Чаго грахі таіць, некаторыя пасіўнічаюць і цяпер. Затое якую ініцыятыву праяўляюць інструктары абкома камсамола Міхаіл Пілюшэнка і Веніямін Бярэзін! Першы з іх ездзіў у Ленінград у Дзяржаўную публічную бібліятэку імя Салтыкова-Шчадрына, другі — у музеі і архівы Мінска. Па крупінках збіралі яны ўсё, што датычыцца гісторыі камсамола Гомельшчыны.

Разгарнулася работа і ў райкомах камсамола. І многа дзе ўжо сабраны цікавыя матэрыялы аб стварэнні і шляху камсамольскіх арганізацый Акцябрскага, Рагачоўскага, Добрушскага, Парыцкага, Буда-Кашалёўскага раёнаў.

Зборнік, па задуме яго стваральнікаў, павінен мець шэсць раздзелаў: «Арганізацыя камсамола Гомельшчыны і яго подзвігі ў гады грамадзянскай вайны», «Гомельскі камсамол у гады калектывізацыі і індустрыялізацыі краіны», «Камсамол Гомельскай вобласці ў гады першых пяцігодак», «Ратныя справы гомельскіх камсамольцаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» і другія.

Трэба адразу сказаць — работнікам абкома камсамола вялікую дапамогу аказала грамадскасць: камсамольцы, старыя члены партыі, былыя камандзіры партызанскіх злучэнняў. За напісанне матэрыялаў па гісторыі камсамола роднай Гомель-



шчыны ўзяліся студэнты мясцовага педагагічнага інстытута З. Майсак, В. Серыкаў, Л. Бандарэнка, Л. Жогла, І. Усціновіч. Цэлымі днямі праседжваў студэнт філалагічнага факультэта педінстытута Іван Усціновіч у пакоях, дзе змяшчаецца абласны архіў. Адзін з работнікаў архіва аднойчы, наглядаючы, як уважліва перапісвае Усціновіч нейкую невялічкую заметку са старога, пажаўцелага нумару «Палескай праўды», не вытрымаў:

— Ты, браток, імяніннікам сёння выглядаеш: бач, як свецяцца вочы!..

— А што ж, можа я і сапраўды імяніннік, — усміхнуўся Іван. — Гляньце вось сюды...

Перад студэнтам разам з нумарам газеты ляжалі дакументы аб стварэнні Гомельскага камуністычнага Саюза моладзі. Як відаць было з гэтых дакументаў, Саюз моладзі Гомельшчыны быў арганізаваны ў студзені 1919 года. Камсамольскія арганізацыі вялі вялікую выхаваўчую работу сярод моладзі. У справаздачы Гомельскага губернскага камітэта аб рабоце і стане губернскай арганізацыі РКСМ за 1922 год гаварылася:

«Сувязь РКСМ з рабочай моладдзю ў прамысловых раёнах умацавалася. Павелічэнне і ўмацаванне сувязі з рабочай моладдзю азнаменавалася масавым прытокам рабочай моладзі непасрэдна з фабрык і заводаў у Саюз...»

Чаму ж не цікава было Івану чытаць гэтыя словы! Перад юнаком узнікалі адна за другой старонкі гераічнага мінулага камсамола роднай вобласці. Вось здымак невялічкай, скромнай кніжачкі. На вокладцы напісана: «Юныя пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся! Расійскі Камуністычны Саюз Моладзі «Членскі білет № 1». Гэта — членскі білет першага камсамольца Рэчыцкай арганізацыі Пятра Патэюка. Тут жа запісана і дата яго ўступлення ў камсамол — 28 мая 1919 года.

І хіба не цікава было Івану Усціновічу даведацца аб тым, як Пётр Патэюк некалі стварaў першую камсамольскую арганізацыю?

... Павятовы камітэт РК КП(б) даручыў Пятру Патэюку, які ў 1919 годзе ўжо быў прыняты ў партыю, падабраць групу перадавой моладзі і стварыць у Рэчыцы камсамольскую арганізацыю. Спачатку Патэюк з таварышамі, што ўвайшлі ў ініцыятыўную групу, вырашылі падрыхтаваць спецыяльны зварот да працоўнай моладзі, у якім расказаць аб мэтах і задачах, што стаяць перад камсамолам. Зварот аддрукавалі ў друкарні. А назаўтра свежыя лісткі звароту расклеілі на сценах прадпрыемстваў і ўстаноў горада. Надрукавалі анкеты і членскія білеты. Папера, праўда, была дрэнная. Ды хіба справа ў паперы!

І вось 28 мая 1919 года моладзь горада Рэчыцы сабралася ў памяшканні кінатэатра Мольскага. Прадстаўнік павятовага камітэта РК КП(б) зрабіў даклад аб бягучым моманце і задачах камсамола. Затым выступілі некалькі юнакоў і дзяўчат.

Кожную кандыдатуру ўступаючага ў камсамол абмяркоўвалі асобна. Ці варты, скажам, вось гэты юнак з заліхвацкім віхрастым чубам быць членам слаўнага камсамола, ці вытрымае ён выпрабаванні і ці ніколі не падвядзе? Першымі ў камсамол тады прынялі Пятра Патэюка, Карпа Дворніка, Івана Мурашку, Барыса Пацеенку, Георгія Халасцякова, Мікалая Казла, Міхаіла Зубрыцкага і іншых — усяго 20 чалавек. Тут жа дэлегатамі на першы Гомельскі губернскі з'езд камсамола выбралі Пятра Патэюка і Карпа Дворніка. І вось ужо, падняўшыся, юнакі і дзяўчаты ў адзіным парыве спяваюць: «Смела, таварышы ў ногу!» А потым у зале кінатэатра Мольскага раздалася велічная мелодыя «Інтэрнацыянала»: — «Уставай, пракляццем катаваны...»

І здалося, што нізкая столь кінатэатра нейк непрыкметна знікла, рассунулася...

У таварышаў, што ўвайшлі ў ініцыятыўную групу па напісанню гісторыі камсамола Гомельшчыны, вельмі хутка пачалі папаўняцца матэрыяламі папкі.

— Многа чаго цікавага прывёз, — паведаміў сябрам Міхаіл Пілюшэнка, вярнуўшыся з Ленінграда.

І сапраўды, хіба не цікава было ведаць, што к канцу 1919 года камсамольскія арганізацыі ствараюцца ва ўсіх валасных цэнтрах павета! Асабліва моцнымі і баявымі былі яны ў Холмечах, Горвалі, Лоеве, Брагіне.

Старыя камсамольцы прыслалі свае ўспаміны. Прыслалі Барыс Фейгін з Масквы і Ігнат Усевіч з Ленінграда, Пётр Патэюк з Варонежа і Сямён Катэрлі з Масквы. Вось у папцы выцвілі ад часу лісток паперы. Гэта рэзалюцыя 1-га Гомельскага губернскага з'езда камсамола. Прыслаў яе даўні сябар гомельскіх камсамольцаў Пётр Патэюк. У рэзалюцыі паведамляецца, што з'езд працягваўся тры дні — 2—4 чэрвеня 1919 года. «Заслухаўшы даклад т. Хатаевіча па бягучаму моманту, — гаворыцца ў рэзалюцыі, — І-ы Гомельскі губернскі з'езд РКСМ прызнае неабходным прыцягненне адсталай да гэтага часу рабоча-сялянскай моладзі да актыўнай барацьбы з ворагамі рэвалюцыі... Стройнымі магутнымі радамі павінна прысці рабоча-сялянская моладзь на змену змучанаму, стомленаму пралетарыяту РСФСР у яго гераічнай барацьбе. Няхай жыве пралетарская моладзь, згуртаваная вакол чырвонага сцяга камунізма!»

... Перагортваеш матэрыялы ў папках, нібы чытаеш старонкі гераічных, непаўторных у сваёй рамантыцы дзён нашага камсамола. За некалькі кіламетраў ад Гомеля, каля імшарыстых балот, у адзін з летніх дзён была пакладзена першая цагліна ў падмурак будучага гіганта шкляной прамысловасці — шклозавода імя Сталіна. А потым пачаліся халады, камсамольцы дрыжэлі, укрыўшыся ўдваіх адной ватоўкай. У шчыліны баракаў дзьмуў вецер, пад раніцу на сценах вырастаў пушысты іней. Ды толькі камсамольцы не адступалі. Шклозавод быў аб'яўлен ударнай камсамольскай будоўляй. Экзамен, пастаўлены перад гомельскімі камсамольцамі ў тыя суровыя гады партыяй, з гонарам быў вытрыманы. Краіна атрымала шкло, якое тады было так патрэбна ўсюды.

А вось быццам нябачаны цень упаў на лісты, што ляжаць у адной з папак. Паведамленні тут кароткія, як рапарты. У адным з іх расказваецца пра добрушскую партызанку Кацю. Той, хто бачыў дакументальны фільм пра вызваленне Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, не мог не звярнуць увагу на хутка прамільгнуўшыя кадры:

Добруш... Дымяцца руіны. Але сваіх вызваліцеляў з радасцю сустракае насельніцтва. Вясёлая дзяўчына з аўтаматам на грудзях абдымае белагаловую дзяўчыну. Каля дома, дзе яна стаіць, на шыльдзе пад арлом, што ўчапіўся кіпцюрамі ў свастыку, напісана аб'ява па-нямецку: «За спайманага бандыта Кацю нямецкае камандаванне выдасць узнагароду — 3 тысячы рэйхсмарак, пяць пудоў солі, 25 гектараў зямельнага надзелу. Камендант Добрушскага раёна Брокмат». Камендант Брокмат атрымаў свой надзел — два аршыны зямлі, а партызанка Каця — вось яна, абдымае худзенькую дзяўчынку. Дзе ты зараз, слаўная партызанка Вара Вырвіч, бясстрашная Каця, галаву якой так высока цанілі ворагі? Ты абавязкова павінна заняць пачэснае месца ў сённяшнім летапісу камсамола Гомельшчыны.

Зноў — невялічкі лісток. Гэта выпіска з пастановы бюро абкома камсамола за подпісам першага сакратара т. Адамовіча. «Прасіць ЦК ЛКСМБ выкарыстаць грошы, сабраныя школьнікамі ў перыяд рэспубліканскай эстафеты, на пабудову ў Гомелі помніка героям-піянерам Мішу Падабедаву і Валодзю Іванову...»

Яму, Мішу Падабедаву, было 11 год, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна і над беларускай зямлёю пачалі лётаць фашысцкія сцярвятнікі. І адразу ж Міша пайшоў у партызанскі атрад імя Калініна. Нямала спраў, вартых дарослага, адважнага партызана, зрабіў гэты хлопчык у атрадзе. У чэрвені 1943 года Міша Падабедаў і старшына партызанскай брыгады Мікалай Барысенка выконвалі баявое заданне на тэрыторыі Рудня-Барталамееўскага сельсавета. Там яны па-геройску загінулі ад рук ворага і былі пахаваны ў Рудня-Барталамееўскім лесе. Нядаўна прах Мішы Падабедава быў перанесены ў гарадскі пасёлак Чачэрск і пахаваны на Замкавай гары ў брацкай магіле.

Геройскім разведчыкам зарэкамендаваў сябе піянер Акцябрскай сярэдняй школы Валодзя Іваноў, які знаходзіўся ў партызанскім атрадзе Паўлоўскага. Партызаны любоўна называлі маленькага разведчыка «Тайчонкам».

— Тайчонак вярнуўся з Бабруйска, — гаварылі яны. — Зноў немцаў за нос правёў і прынёс каштоўныя звесткі.

Валодзя Іваноў загінуў у 1943 годзе. Вяртаючыся з адной аперацыі, ён з шасцю партызанамі трапіў на засаду. Шэсць Валодзевых сяброў былі забіты, яго параніла. Хлопчык кінуўся ў лес. Усё бліжэй і бліжэй высокія, роўныя, як верацёны, сосны. Ды ворагі акружылі маленькага, сцякаючага крывёй разведчыка. Апошні патрон у пісталеце Валодзя пакінуў сабе.

— Ведайце, гады, што партызаны жывымі не здаюцца! — такія былі яго апошнія словы.

...Пішацца летапіс слаўных спраў Гомельскіх камсамольцаў. Пішацца ў кіпучыя гераічныя нашы дні.

**М. ДАНІЛЕНКА.**



# НА ЗАРЫ КАЛГАСНАГА ЖЫЦЦЯ

Час быў цяжкі. Кулакі ўсяляк імкнуліся перашкодзіць наладжванню калектыўнага жыцця. То адтуль, то адсюль у райцэнтр паступалі трывожныя весткі: там стралялі па старшыні калгаса, там падпалілі сцірты хлеба, наладзілі пагалоўны забой жывёлы. І трэба было разабрацца ў кожным здарэнні, знайсці вінаватых.

Выклікаў мяне аднойчы сакратар райкома камсамола таварыш Каронік і дае заданне:

— Едзь у Глебаўку. Ведаеш, невялікі пасёлак за Бацэвічамі. Улічы: старшыню калгаса мясцовыя ўлады прыцягваюць да крымінальнай адказнасці за кражу. А чалавек ён наш, партызан, усю грамадзянскую вайну прайшоў. Як член райкома камсамола, разбярыся ва ўсёй гэтай складанай абстаноўцы і прымі меры.

І паехаў я ў тую вёску.

Старшыню якраз застаў дома. Лаецца чалавек на чым свет стаіць і збірае торбу з харчамі. Пазнаёміўся я з ім.

— Фёдар Кніга, — кажу, — з Клічава да вас спецыяльна прыехаў. А вы куды збіраецеся?

— У турму, — адказвае. — А прозвішча маё Ілья Лызо. Калі па маёй справе турбуецеся, дык дарэмна... Сам еду...

Бачу, злосны старшыня. Як і падысці да яго, не ведаю. На ўсялякі выпадак супакойваю чалавека:

— А я, наадварот, хачу, каб вы засталіся тут, у вёсцы. Можа што разам прыдумаем.

Сеў Ілья Лызо ў кут, кінуў пад лаву торбу і пытае:

— А ці ведаеш ты, чалавеча, што мяне сам следчы Баранкевіч і міліцыянер Ждановіч пастанавілі арыштаваць?.. Я ж злодзей, грамадскі ўраджай пакраў...

І расказаў тут Лызо сумную гісторыю. Вёска іх маленькая, вакол лясы. Толькі што стварылі калгас, адзінаццаць сем'яў уступіла. Кулакі пасмейваюцца з калгаснікаў. Кажуць: куча злыдняў за адну лыжку ўзялася, чакаюць, пакуль ім хто крупніку паднясе. Тады і вырашыў Ілья Лызо аб'яднацца з бацэвіцкім калгасам імя Леніна. Там беднаты больш, партыйная, камсамольская ячэйкі разгарнулі работу. Можна сумесна адолець кулакоў. Ды не тут то было. Спачатку калгаснікі згадзіліся, а потым нечакана перадумалі і ўпёрліся.

— Не хочам аб'ядноўвацца,—заявіла большасць.

Нашто ўжо рахманы і разважлівы хлебароб быў Павел Талан, а і той запярэчыў:

— Я супраць. Будзеце настойваць, дык выйду з арцелі.

Але Ілья Лызо не хацеў здавацца. Паехаў у Бацэвічы, у Клічаў, гаварыў, даказваў і дабіўся згоды ў раённага начальства. Пакуль ён ездзіў, кулакі пусцілі па вёсцы чутку, што старшыня калгаса абмалаціў збажыну, што сабралі ў агульнае гумно, пустыя снапы склаў назад, прыкрыў іх неабмалочанымі і цяпер ездзіць, прадае сялянскі здабытак за чырвонцы. Захваляваліся ўсе. Неўзабаве ў Глебаўку прыехалі следчы з міліцыянерам. Дапрасіўшы першых, хто трапіў ім пад рукі, яны вынеслі рашэнне: арыштаваць Ілью Лызо.

— А снапы дзе?—пытаю ў старшыні.

— Дзе ж ім дзецца! Ляжаць у гумне...

— Дык чаму ж вы не даказалі?..

— Спрабаваў даказваць, ды ніхто не паслухаў, — махнуў рукой Ілья Лызо. — А следчы нават аблаяў манюкай.

Я пацікавіўся, ці ёсць камсамольцы на вёсцы.

— Двое, — адказвае Лызо. — Мой сын Міхась ды яшчэ Аркадзь Манькоў. — Старанныя хлопцы. Яны насценную газету выпускаюць, вясковую моладзь згуртоўваюць, супраць падкулачнікаў выступаюць.



Пазнаёміўся я з імі.

— Дык што ж, — пытаю, — рабіць будзем? Абараняць старшыню трэба. Давайце камісію створым і праверым, хто ўкраў збожжа.

Хлопцы ўзрадаваліся. Хутка пабеглі па дварах, запрашаючы ўсіх да гумна. І старшыня туды прыйшоў. Знялі замок, і пачалі праверку. Вынеслі амаль усю збажыну.

— Дык дзе ж, таварышы грамада, — гавару я ўсім, — абмалочаныя снапы? Усё цэлае. Значыць, вораг знарок пусціў гэтую брудную плётку, а вы яму дапамагаеце...

Маўчаць сяляне.

Сабраліся пасля гэтага мы ўчацвярых: старшыня, абодва калгасныя камсамольцы і я. Пачалі абмяркоўваць становішча. Хто шкодзіць? Здаецца, адкрыта ніхто не выступае. Прыйшлі да вываду, што трэба па чарзе пагутарыць з усімі членамі арцелі. Відаць, здарэнне з снапамі дапамагло. Спачатку адзін, потым другі расказаў, што Амяльян Ільінчык і Карп Пірожнік падбухторвалі сялян не ўступаць у калгас, а потым не аб'ядноўвацца з бацэвіцкімі хлебаробамі.

Мы зацікавіліся, хто такія Ільінчык і Пірожнік. Праверылі іх. Першы аказаўся былым пісарам паліцэйскага ўпраўлення, другі — кулаком, якому ўдалося замаскавацца. Ну, вядома, прынялі да іх патрэбныя меры, перадалі справу следчым органам.

Неўзабаве ўсе жыхары Глебаўкі ўступілі ў калгас і аб'ядналіся з сельгасарцеллю імя Леніна. Я ўвесь час заставаўся ў вёсцы. Думаў, скончу тут справы і вярнуся да ранейшай работы. Але камсамольцы аб'яднанага калгаса, а іх было тады каля дваццаці чалавек, выбралі мяне сваім сакратаром. Так і застаўся я ў Бацэвічах.

Многае зрабілі камсамольцы для ўмацавання калгаса. Насценную газету выпускалі Міхась Лызо і Аркадзь Манькоў. Селькораў было дастаткова. Крытыкавалі гультаёў, абібокаў, усіх, хто не паважаў грамадскай працы. Гэта вельмі дапамагло ва ўмацаванні працоўнай дысцыпліны.

Мы тады ўзялі за правіла, што кожны член камсамольскай ячэйкі павінен быць агітатарам. Непісьменных было шмат, многія не разумелі міжнароднага становішча і становішча ўнутры краіны. Камсамольцы растлумачвалі хлеборобам асновы калектыўнага жыцця, чыталі ім газеты. У абедзенны перапынак у кожнай брыгадзе, на кожным участку работ паяўляўся агітатар.

А яшчэ на першых кроках сваёй дзейнасці камсамольская арганізацыя стварыла пажарную дружыну. Усё было арганізавана па армейскіх парадках. Дзяжурылі па чарзе, да свірнаў, гумнаў і стагоў выстаўлялі сакрэты, вучыліся ваеннай справе.

Мастацкую самадзейнасць наладзілі. Паўнакроўным жыццём стала жыць камсамольская арганізацыя.

Цяпер нас, камсамольцаў таго часу, засталося ў калгасе вельмі мала. Ілья Лызо, Іван Харлап, я ды яшчэ два—тры чалавекі. Многія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскіх атрадах.

Я ўспомніў толькі адзін эпізод. А іх было многа ў дзейнасці камсамольскай арганізацыі раёна. Вельмі радасна, што сучасныя камсамольцы цікавяцца мінулым, работай камсамоліі старэйшага пакалення. Тады мы дзейнічалі, як на фронце.

**Фёдар КНІГА,**
**член рэвізійнай камісіі калгаса імя Леніна Клічаўскага раёна.**



# МУЖНАСЦЬ

Даўно адгрымелі апошнія стрэлы вайны. Заараны плугамі акопы, дажджамі размыты партызанскія зямлянкі... І ўсё ж, калі пачынаеш прыгадваць грозныя падзеі тых дзён, яны паўстаюць перад вачамі, як жывыя.

Мне хочацца расказаць у гэтым артыкуле аб гераічным подзвігу партызанкі-камсамолкі, Героя Савецкага Саюза Лены Колесавай.

У суровыя і цяжкія для Радзімы дні, калі полчышчы фашысцкіх войск ірваліся да сэрца нашай Радзімы, піянерважатая 47-ай сярэдняй школы Фрунзенскага раёна Масквы Лена Колесава, а таксама яе равесніцы студэнткі Ніна Шынкарэнка, Зіна Марозава і Тоня Лапіна, работніцы маскоўскіх прадпрыемстваў Надзея Бялова, Тоня і Аня Аляксеевы, школьніца Тамара Махотка ўжо не адзін раз спрачаліся з сакратаром райкома камсамола, даказваючы, што іх месца толькі на фронце — там, дзе вырашаецца лёс краіны. Настойлівасць юных добраахвотніц узяла сваё. Іх спачатку залічылі ў брыгаду па будаўніцтву абарančных рубяжоў на подступах да сталіцы, а неўзабаве гарком камсамола накіраваў дзяўчат у спецыяльную школу, дзе яны праходзілі падрыхтоўку для барацьбы ў тыле ворага. Тут яны шчыра пасябравалі. Тут і сфармавалася баявая група на чале з Ленай Колесавай.

Пад Старой Русай, на Валакаламскай шашы, у лясах пад Смаленскам у асеннюю бездарожжа маладыя партызанкі рабілі нечаканыя і смелыя напады на варожыя штабы, ірвалі камунікацыі і сувязь ворага. Ужо тут Лена Колесава — дзяўчына са строгім, крыху скуластым тварам, з вялікімі блакітнымі вачамі, з рухавай, амаль што дзіцячай постаццю,—стала прызнаным «атаманам» групы.

У маі 1942 года група Лены атрымала заданне ўстанавіць сувязь з беларускімі партызанамі. У дажджлівую цёмную ноч дзяўчаты на парашутах былі спушчаны з самалёта ў раёне Барысаў — Крупкі. У час прызямлення разбіліся Аня Аляксеева, Тамара Махотка і Тоня Вашчук. Цяжка пакалечылася Зіна Марозава. Гэта былі першыя ахвяры.

Больш двух тыдняў блукалі дзяўчаты па навакольных узлесках, пакуль знайшлі адна другую. І вось калі ўжо, здавалася, мінулі ўсе нягоды, здарылася яшчэ адно няшчасце — у час разведкі ў рукі да гітлераўцаў трапілі Тоня Лапіна і Аня Аляксеева. Неўзабаве пасля гэтага адбылася і наша сустрэча з групай Лены. Нават бывалыя партызаны, якія ўжо не раз глядзелі ў вочы смерці, захапляліся мужнасцю гэтых дзяўчат. Смерць сяброўак, страта амаль усяго запасу боепрыпасаў, безнадзейнае становішча Зіны Марозавай — усе нягоды, якія ім давялося зведаць на пачатку свайго баявога шляху, згуртавалі іх у адзіную баявую сям'ю, загартавалі іх волю, узмацнілі ўпартасць у барацьбе і веру ў перамогу.

Над партызанскім лагерам, змяняючы адна другую, гучалі бадзёрыя песні:

«Вот они, дороги, в зареве тревоги.
Нас зовет на подвиги борьба.
Лучше смерть на поле, чем позор в неволе,
Лучше злая пуля, чем клеймо раба...»

Гэта спявала Зіна, у якой былі перабіты ногі і зламаны пазваночнік. Яна ведала, што ёй ужо не падняцца. Якія нечалавечыя сілы, якая ўпартасць і мужнасць патрэбны былі, каб пераносіць гэтыя пакуты! І дзяўчына знаходзіла ў сабе гэтыя сілы. Сваёю вытрымкаю, сваёй нянавісцю да смерці яна натхняла на барацьбу з ворагам сваіх баявых паплечніц. Гэта быў подзвіг чалавека вялікай душы, мужнага сэрца.

Наш атрад атрымаў сувязь з групай Барыса Вакуловіча, у якога была рацыя. Па ёй перадаваліся на Вялікую зямлю ўсе нашы навіны. Кожную ноч над Барысавам, над Крупкамі грымелі выбухі, якія абвяшчалі аб тым, што яшчэ адзін варожы эшалон узляцеў у паветра. Гэта былі адчувальныя ўдары па ворагу. Аднак Лена Колесава лічыла, што яе група можа рабіць больш: трэба не даваць фашыстам спакою не толькі ноччу, але і днём.

Першую дзённую дыверсію на чыгунцы яна вырашыла правесці адна.

Я сустрэў яе на лясной сцяжыне, калі яна адыходзіла з лагеру.

— Вы куды гэта?

Яна прыпынілася, неяк загадкава ўсміхнулася і спакойна, быццам нікуды і не збіраецца, кінула:

— Так... на агляд партызанскіх уладанняў.

Але сялянская вопратка, пісталет, схаваны за галяніішчам бота, ды звязаныя ў вузялках міны выдавалі яе. Мы спрабавалі пераканаць дзяўчыну, што камандзіру нельга рызыкаваць. Але дарэмна. Спачатку яна пасмейвалася з нашай асцярожнасці, а потым сур'ёзна сказала:

— Усё будзе добра! Раз я іду, значыць, абдумала кожны крок.

Яна нахмурыла бровы, крыху прыгнулася і, узяўшы вузялок з мінамі, паволі патупала. Але тут жа спынілася. У вачах яе зноў засвяціўся гарэзлівы агеньчык, і яна загаварыла:

— «Куды, бабка ідзеш?— запытае вартавы. — Да нявесткі, сынок. Вунь у тую вёску...» «А гэта што?» «Гасцінец унучкам... Вось паглядзіце...» — І яна паклала перад сабой вузялок:— Хай толькі паспрабуе панюхаць...

План Лены быў рызыкоўны. Аднак мы адчулі, што затрымліваць яе — марная трата часу.

Пачалося напружанае чаканне. Днём і ноччу ўсе, хто заставаўся ў лагеры, прыслухоўваліся да кожнага гуку.

Мінулі суткі. Але нічога не было чуваць. Мы ўжо не на жарт занепакоіліся і пачалі рабіць розныя здагадкі. Я і камісар атрада не маглі глядзець адзін аднаму ў вочы: адчувалі сябе вінаватымі, што пусцілі Лену.

Толькі к канцу другога дня сяляне з суседняй вёскі паведамілі, што на чыгунцы адбылася буйная дыверсія. Пад адхон паляцела адзінаццаць платформ з нямецкімі танкамі, якія накіроўваліся на фронт.

— А можа гэта не Лена? Ці ж мала тут партызан,—сумняваліся мы.— Калі б гэта была яна, дык бы ўжо даўно вярнулася.

Але сяляне сцвярджалі, што дыверсію зрабіла жанчына, прычым сярод белага дня.

На трэція суткі Лена прышла ў лагер. Яе акружылі і засыпалі пытаннямі. Стомленая і радасная, яна жартам запэўняла, што ад голаду не можа гаварыць. Крыху пазней мы даведаліся аб падрабязнасцях дыверсіі.

Дзейнічала Колесава па намечанаму плану. У вёсцы яна зайшла да сваёй знаёмай. Але здабыць патрэбныя звесткі аб чыгунцы не ўдалося. Увесь наступны дзень яна праляжала на ўзлеску, назіраючы за палатном. Пажаўцелая хвоя, свежыя пні, пакрытыя саломай, сведчылі аб тым, што ў гэтым месцы нядаўна быў спілаваны лес, які падступаў да самай чыгункі. Захопнікі знішчылі лес, каб партызаны не маглі непрыкметна падысці да чыгункі. Недзе ў баку чуліся паравозныя гудкі ды зрэдку паказвалася воблачка пылу. Там знаходзілася станцыя Крупкі. На ўзгорку ўвесь час маячылі вартавыя. Лена прышла ў адчай. Падумала нават аб начной аперацыі. Але ж у цемрадзі можна было нарвацца на патруль — і тады правал непазбежны. І Лена вымушана была заначаваць у лесе.

Раніцай падышла бліжэй да станцыі і тут вырашыла зрабіць дыверсію. Разлік аказаўся правільны: каля станцыі немцы адчувалі сябе ў бяспецы, і гэты ўчастак ахоўвалі слабей. За паваротам між дрэў віднелася пуцявая будка, а ў баку працавала група рабочых.

Лена выйшла на палатно. Калі воддаль пачуўся шум цягніка, яна кінулася да рэек. Але раптам на другім баку палатна ўбачыла вартаўніка. Спіць, а вінтоўку ў руках трымае. Дзяўчына не разгубілася. Яна хутка ўстанавіла міну і бегом кінулася ў лес. Эшалон з танкамі быў узарваны.

Па дарозе ў лагер Лена зайшла ў вёску да знаёмай калгасніцы. Легла спаць на печы. Вечарам у хату ўваліўся паліцай, потым яшчэ двое. Загаманілі.

— Няма ратунку. Відаць, прышлёпнуць нас немцы за гэтую бабу. Сёння зноў міну паставіла...

А Лена ляжала на печы і слухала.

Гэта толькі адзін маленькі эпізод з баявой дзейнасці маскоўскай камсамолкі, беларускай партызанкі Лены Колесавай. Яна загінула смерцю героя ў барацьбе з ворагам. Няма яе зараз між нас. Але светлае імя юнай гераіні жыве ў нашых сэрцах, як сімвал вернасці і адданасці Радзіме.

**В. І. ЛІВЕНЦАЎ,**
**Герой Савецкага Саюза.**



# СПРАВЫ БАЯВЫЯ, КАМСАМОЛЬСКІЯ

Дванаццаць год назад на ўскраіну Мінска, там, дзе калісьці шумеў дрымучы бор, прыйшлі будаўнікі, юнакі і дзяўчаты — пасланцы камсамола Беларусі. З Віцебшчыны і Міншчыны, Полаччыны і Брэстчыны, Маладзечна і Гродна, Бабруйска і Мазыра — з усіх канцоў рэспублікі прыехалі яны ў сталіцу па закліку камсамола будаваць гігант сацыялістычнай індустрыі — Мінскі трактарны завод.

На велізарнай будаўнічай пляцоўцы раскінуліся палаткі, сям-там паявіліся зямлянкі. У суровых умовах, пераадольваючы цяжкасці, працавалі маладыя патрыёты. Яны будавалі і вучыліся, каб потым з будаўнічых пляцовак пайсці ў новыя цэхі. Сотні беларускіх юнакоў і дзяўчат паехалі ў Харкаў і Сталінград, на Алтай і ў Чалябінск. Там з дапамогай і пад кіраўніцтвам вопытных інжынераў і майстроў авалодвалі яны складанымі прафесіямі трактарабудаўнікоў.

XV з'езд камсамола Беларусі аб'явіў будаўніцтва Мінскага трактарнага завода падшэфнай і ўдарнай будоўляй камсамола. У пісьме да Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі дэлегаты з'езда пісалі:

«...Будуюцца карпусы аўтамабільнага і трактарнага заводаў. Камсамольцы і камсамолкі Беларусі ўзялі шэфства над буйнейшымі навабудоўлямі рэспублікі. Разам з усім беларускім народам яны будуюць гэтыя гіганты...»

Завод будавала не толькі ўся Беларусь. З Масквы і Ленінграда, з Урала і Казахстана, з Украіны і Прыбалтыкі няспынна ішлі эшалоны са складанымі станкамі і абсталяваннем, будаўнічымі матэрыяламі і металам. У Мінск прыехала на пастаянную работу вялікая група канструктараў, тэхнолагаў, майстроў трактарабудавання.

Прайшло некалькі год. І вырас завод-гігант з першакласнай айчыннай тэхнікай. Побач з ім узняўся цудоўны рабочы пасёлак трактаразаводцаў з шматпавярховымі жылымі дамамі, школамі, магазінамі, Палацам культуры. Усё гэта — вынік самаадданай творчай, сапраўды гераічнай працы моладзі, намаганняў усяго беларускага народа, вынік брацкай дапамогі народаў нашай неабсяжнай Радзімы.

Сёння трактарны завод працуе на поўную магутнасць. Сярод тых, хто стварае новую тэхніку, нястомна змагаецца за павышэнне прадукцыйнасці працы, за тэхнічны прагрэс — большасць камсамольцаў і моладзі. Пачынальнікамі, ініцыятарамі многіх выдатных спраў зарэкамендавалі сябе камсамольцы. Яны з'яўляюцца самымі актыўнымі ўдзельнікамі ўсенароднага сацыялістычнага спаборніцтва за хутчэйшае асваенне і ўкараненне новай тэхнікі і перадавой тэхналогіі, за павелічэнне выпуску трактараў, за паляпшэнне іх якасці і зніжэнне сабекошту.

5 мая 1958 года — адна з слаўных старонак у гісторыі трактарнага завода.

...Трактаразборачны цэх № 2. Павольна рухаецца канвеер. Адзін за другім выходзяць з варот новенькія машыны, радуючы вока сваёй прыгожай блакітнай афарбоўкай. Але вось на галоўным канвееры паказалася машына, афарбаваная ў яркі вішнёвы колер. Яшчэ здалёк бачна таблічка з вялікімі лічбамі «100.000». У гэты дзень з галоўнага канвеера сышоў стотысячны трактар.

Сто тысяч беларускіх трактараў! Удумваешся ў гэтыя лічбы, і міжволі прыпамінаюцца іншыя. Мне давялося прачытаць у адным з дарэвалюцыйных зборнікаў, што ў 1910 годзе ў Мінскай губерні было дзве касілкі. 6 сеялак і 18 жняярак. Затое на



«ўзбраенні» сельскай гаспадаркі было каля 60 тысяч сох, звыш 41 тысячы драўляных плугоў і каля 200 тысяч драўляных барон. І ніводнага трактара!

На мітынгу, прысвечаным выпуску стотысячнага трактара, выступіла камсамолка Ева Маркава. Яна сказала:

— Гэта выдатнае дасягненне ўсяго нашага працоўнага калектыву. За параўнальна кароткі тэрмін толькі адзін наш завод даў краіне такую колькасць трактараў, аб якіх на зары савецкай улады марыў вялікі Ленін. Ад імя камсамольцаў і моладзі завода я заяўляю — мы не пашкадуем сваіх сіл, ведаў і здольнасцей, каб дабіцца новых поспехаў у барацьбе за стварэнне яшчэ больш дасканалых трактараў, за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XX з'езда КПСС.

Два гады таму назад Ева Маркава прыйшла на завод з атэстатам сталасці. Гарачая любоў да выбранай прафесіі, паўсядзённыя клопаты таварышаў дапамаглі камсамолцы Маркавай за кароткі тэрмін авалодаць спецыяльнасцю фрэзероўшчыцы. Цяпер дзяўчына працуе на 8 станках, штодзённа выконвае па паўтары — дзве нормы за змену.

Ды ці адна такая камсамолка на заводзе! Аляксандра Малышава, Марыя Жлановіч, Уладзімір Гатальскі, Іван Кісялёў, Віктар Арцюх, Фёдар Самусеў і тысячы іншых маладых патрыётаў з'яўляюцца наватарамі вытворчасці, нястомнымі прапагандыстамі новага, перадавога, прагрэсіўнага.

Нядаўна радасная вестка абляцела ўсе цэхі і ўчасткі. У сувязі са святкаваннем Дня металурга Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга сталявара завода, камсамольца Івана Кісялёва.

...Дыхае гарачынёю сталеплавільная печ. Патрэскваюць электроды, дакранаючыся да шыхты, з кожнай мінутай тэмпература павышаецца. Сталявар Іван Кісялёў са сваім падручным Леанідам Бондарам уважліва сочаць за полымем у печы. Сталявар паглядзеў на гадзіннік, яшчэ раз зазірнуў у печ і даў знак падручнаму:

— Гатова!

І ў тую ж хвіліну да печы пад'язджае велізарны коўш. Падручны выпускае чарговую плаўку. Заструменіла, заіскрылася навокал. Сталь ідзе!

Пройдзе нямнога часу, і ўмелыя рукіператвораць яе ў тысячы самых разнастайных вялікіх і малых, складаных і простых дэталей.

А ў канцы змены на дошцы паказчыкаў супраць прозвішча Івана Кісялёва паяўляецца лічба — 22. Гэта значыць, што ён выплавіў 22 тоны сталі — 11,5 тоны звыш плана. Кожны месяц разам са сваім падручным Леанідам Бондарам сталявар Іван Кісялёў выдае звыш плана больш за сто тон сталі.

Майстэрству сталявара Іван вучыўся на трактарным у Харкаве. Потым быў падручным у лепшага сталявара Івана Радзюкевіча на сваім заводзе. А праз год пасля прыезду з Харкава маладому рабочаму даверылі самастойна кіраваць складаным агрэгатам.

Камсамольцы сталеліцейнага цэха ведаюць: чым больш сталі яны выплавяць, тым больш выдатных трактараў пабяжыць па неабсяжных прасторах нашай Радзімы. Вось чаму яны працуюць самаадданa, творча.

Не адны сталявары праславілі сябе на заводзе. Токары і слесары, кавалі і фрэзероўшчыкі, канструктары і тэхнолагі, тысячы людзей розных прафесій удзельнічаюць у стварэнні цудоўнай машыны — трактара. І калі з заводскіх варот выходзяць новенькія машыны, радасцю і гордасцю напаўняюцца сэрцы іх стваральнікаў.

Беларускія трактары можна цяпер сустрэць не толькі ва ўсіх кутках нашай неабсяжнай Радзімы, але і больш чым у 20 краінах чатырох кантынентаў. Яны заваявалі добрую славу ў Індыі і Афганістане, Грэцыі і Аб'яднанай Арабскай Рэспубліцы, у Бірме і ў іншых краінах. Новыя мадэлі трактараў, створаных заводскімі канструктарамі, пераўзыходзяць адпаведныя ўзоры машын, якія выпрабляюць у Злучаных Штатах Амерыкі і Заходняй Германіі.

Толькі за апошнія гады канструктары завода, сярод якіх нямала камсамольцаў і выхаванцаў Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі, стварылі мадэлі больш дасканалых і эканамічных трактараў. Выраблены вопытныя ўзоры трактараў павышанай праходнасці МТЗ-7.

1958 год азнаменаваўся новым поспехам. Калектыў завода вырабіў вопытныя ўзоры перспектыўных колавых трактараў «Беларусь», МТЗ-50. Новая машына абсталявана больш магутным дызельным рухавіком, які таксама створаны на заводзе. Трактар «МТЗ-50» на 400 кілаграмаў лягчэйшы за цяперашні. У трактары ёсць рад новых вузлоў, такіх, як гідраўзмацняльнік руля, сінхронны вал адбору магутнасці, спецыяльнае буксірнае прыстасаванне і рад іншых; ён

значна больш прадукцыйны, чым трактар МТЗ-5М.

У ліпені ў эксперыментальным цэху зроблены ўзоры новай машыны — самаходнага шасі «СШ-45». Яна спраектавана групай канструктараў завода пад кіраўніцтвам маладога інжынера В. Лямешкі ў садружнасці з навуковымі супрацоўнікамі Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута сельскагаспадарчага машынабудавання.

Самаходнае шасі—гэта спецыяльная машына з чатырма вядучымі коламі. На ёй устаноўлен рухавік магутнасцю 45 конскіх сіл. На самаходнае шасі можна навешваць такія ўборачныя машыны, як зерневы праматочны камбайн, сіласаўборачны і кукурузаўборачны камбайн, бульбаўборачную машыну, ільноцерабілку, жняярку і рад іншых. Машына можа рухацца з хуткасцю ад 1,7 да 20,3 кіламетра ў гадзіну.

У стварэнні новай тэхнікі самы актыўны ўдзел прымаюць камсамольцы і моладзь. Камітэт камсамола, цэхавыя бюро ўзялі пад камсамольскі кантроль стварэнне новых машын, укараненне іх у серыйную вытворчасць. Так было пры асваенні трактараў «Беларусь» і тралёвачных трактараў. Камсамольцы аддзела галоўнага канструктара і эксперыментальнага цэха кантралявалі выраб вопытных узораў машын. На заводзе створан і працуе камсамольскі штаб. Самыя разнастайныя пытанні, звязаныя з вытворчасцю, прыходзіцца вырашаць членам штаба. Барацьба за культуру на вытворчасці, за эканомію і беражлівасць, рытмічную работу галоўнага канвеера і іншыя — толькі просты пералік гэтых пытанняў сведчыць аб тым, што камсамольцы трактарнага ідуць у авангардзе барацьбы за тэхнічны прагрэс, няспыннае павышэнне прадукцыйнасці працы.

Два гады таму назад па прыкладу масквічоў камсамольцы выступілі ініцыятарамі барацьбы за высокую культуру на вытворчасці. Былі створаны рэйдавыя брыгады, кантрольныя камсамольскія пасты. Шматлікія плакаты заклікалі маладых трактаразаводцаў не мірыцца з бескультур'ем, не праходзіць міма бруду. Былі зроблены спецыяльныя графікі, у якіх адзначалася, як кожны малады рабочы доглядае свой станок, захоўвае культуру на сваім рабочым месцы. Вынікі відаць былі адразу. На тэрыторыі завода пры актыўным удзеле камсамольцаў наведзен парадак, пасаджаны кветкі, маладыя дрэўцы. Расчышчаны праходы ў цэху, сабраны металічны лом і г. д.

А ў ліпені 1958 года камсамольскі штаб узяў пад кантроль асваенне серыйнага выпуску трактараў «МТЗ-5Л». Пад кіраўніцтвам нашых актывістаў, членаў камітэта, сакратароў цэхавых камсамольскіх арганізацый В. Кажарскага, П. Гамезы, В. Жорава і іншых праведзены рэйды. Па сігналах камсамольцаў кіраўнікі цэхаў, заводскіх служб і дырэкцыі прымаюць дзейсныя меры.

Асаблівую ўвагу звяртаюць камсамольцы на барацьбу за эканомію і беражлівасць. Ініцыятарам гэтай важнай справы выступілі члены ВЛКСМ рамна-прэсавага цэха. На іх рахунку — сотні тысяч сэканомленых сродкаў. Усяго камсамольцы завода паклалі ў камсамольскую скарбонку каля трох мільёнаў рублёў.

Гаворачы аб баявых, сапраўды камсамольскіх справах маладых трактаразаводцаў, нельга не расказаць хоць коратка аб нястомных рацыяналізатарах і вынаходніках. Іх на заводзе — сотні. У пятай пяцігодцы трактаразаводцы ўнеслі каля 10 тысяч рацыяналізатарскіх прапаноў. А за адзін толькі мінулы год — звыш трох тысяч. Ад іх укаранення краіна атрымала звыш 8 мільёнаў рублёў эканоміі. У маладзёжным конкурсе, які быў праведзен у мінулым годзе, удзельнічала 546 маладых рацыяналізатараў. Яны ўнеслі 1 111 прапаноў, з якіх 343 было ўкаранёна ў вытворчасць. Гэта дало звыш 2 500 тысяч рублёў гадавой эканоміі. Першая прэмія прысуджана групе маладых рацыяналізатараў аддзела галоўнага канструктара ў складзе тт. Агафонава, Меліхава і Рубінштэйна. Яны прапанавалі змяніць канструкцыю цэнтрабежнага фільтра па ачыстцы картэрнага масла ў рухавіках унутранага згарання. Першую прэмію атрымаў камсамолец т. Оргіш за ўдасканаленне аплётачнага станка электраправадоў. Прэміі атрымалі маладыя рацыяналізатары і вынаходнікі Юхновіч і Ляшоў са сталеліцейнага цэха, Конюх з маторнага цэха і многія іншыя.

* * *

Многа выдатных спраў запісалі камсамольцы Мінскага трактарнага завода ў слаўную гісторыю Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі. Сустракаючы 40-годдзе ВЛКСМ, яны памнажаюць свае намаганні ў барацьбе за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XX з'езда КПСС, за пабудову камунізма ў нашай краіне.

**В. ТАМАШЧУК,**
**сакратар камітэта камсамола Мінскага трактарнага завода.**



# НА ПАРОЗЕ ЖЫЦЦЯ

Часам глядзіш на сваіх аднагодкаў і здзіўляешся, што ў некаторых з іх занадта абмежаванае кола інтарэсаў і заняткаў у жыцці. Займаецца юнак у школе і апрача вучобы нічога іншага не ведае, нічым іншым не цікавіцца. Дый вучыцца яшчэ так сабе. І гэта ў той час, калі яму прадастаўлена шырокае поле дзейнасці, спрыяльныя ўмовы для вучобы і працы.

Узяць хоць бы нашу школу.

У канцы мінулага навучальнага года мы перайшлі ў новае прасторнае памяшканне, са светлымі класамі, добра абсталяванымі кабінетамі, актавым і спартыўным заламі. Хіба ж тут можна абы-як вучыцца?.. Ну як тут у вольны час не заняцца спортам!.. Нашы камсамольцы не толькі добра вучацца, але і актыўна ўдзельнічаюць у школьным жыцці, праходзяць вытворчую практыку на прадпрыемствах, займаюцца спортам. На камсамольскіх сходах у нас часта абмяркоўваліся магчымасці павышэння паспяховасці і палепшання дысцыпліны. У школе створаны камсамольскія камісіі, якія наведвалі дома адстаючых вучняў, знаёміліся з іх хатнімі ўмовамі, дапамагалі таварышам у вучобе. Многія камсамольцы працавалі піянерважатымі ў малодшых класах, прымалі актыўны ўдзел у спартыўным жыцці.

У мінулым годзе дырэкцыя школы дамовілася з адміністрацыяй фабрыкі імя Куйбышава аб тым, каб некаторыя вучні старэйшых класаў прайшлі на гэтым прадпрыемстве вытворчую практыку.

Добра помню, як пасля заняткаў у школе нас упершыню прывялі ў механічны цэх фабрыкі. Усім тады вельмі спадабаўся новы такарны станок. Кожнаму хацелася, каб яго паставілі працаваць за гэты станок. Праўда, шчаслўцамі аказаліся дзве дзяўчыны — Ліда Баешка і Валя Арэшнікава. Мяне начальнік цэха паставіў каля суседняга станка да рабочага Д. Рубіна, за наступным станком стаяў вучань дзесятага класа Леанід Стуканаў. Рабочыя азнаёмілі нас з будовай станкоў, а на наступны дзень даручылі выточваць болцікі. З такім заданнем я справіўся лёгка, таму што да гэтага цэлы год працаваў на аўтабазе, дзе мне даводзілася выконваць падобную працу.

Іншы раз нам даручалі больш складаную справу, у залежнасці ад таго, над чым працавалі рабочыя, нашы настаўнікі. Мы працавалі на фабрыцы ўсю зіму і вясну. Аднойчы ў маі нас папярэдзілі, што ў наступны раз мы будзем выконваць працу на разрад. Кожны з нас вельмі хваляваўся, бо не ведаў, якое заданне нам даручаць.

Калі назаўтра мы прышлі ў цэх, нам далі чарцяжы, паводле якіх трэба было рабіць дэталь.

У мяне ў школе па чарчэнню заўсёды былі добрыя адзнакі. Таму мне няцяжка было разабрацца ў чарцяжы. Я павінен быў вытачыць вал для канвеера. Такое ж заданне атрымаў і Л. Стуканаў. Мы прыступілі да працы і мінут праз трыццаць ужо закончылі яе. Астатнія вучні таксама добра справіліся з заданнем. З хваляваннем здалі мы свае дэталі і хутка даведаліся, што нам будуць прысвоены разрады. Дадому вярталіся вясёлымі: нарэшце здзейсніліся нашы жаданні.

У гэтым годзе мы таксама будзем праходзіць вытворчую практыку на фабрыцы, каб павысіць сваю кваліфікацыю.

У нашай школе шмат добрых спартсменаў. Некаторыя хлопцы і дзяўчаты займаюцца ў спартыўных таварыствах.

Каманды баскетбалістак школы занялі першае месца ў раёне і атрымалі пераходныя кубкі. На спартакіядзе школьнікаў вясной гэтага года нека-

торыя вучні выступалі вельмі добра і занялі прызавыя месцы.

Я і мае аднакласнікі Аляксандр Мітраковіч і Міхаіл Зыль ужо два гады займаемся лыжным спортам. За гэты час, асабліва ў мінулым зімовым спартыўным сезоне, мы часта ўдзельнічалі ў спаборніцтвах. У пачатку года на гарадскіх спаборніцтвах на дыстанцыю ў пяць кіламетраў А. Мітраковіч заняў першае месца, а на дыстанцыю ў дзесяць кіламетраў на гэтых жа спаборніцтвах я заняў трэцяе месца.

На раённых спаборніцтвах па лыжах каманда школы заваявала першае месца і атрымала кубак раённага камітэта фізкультуры. Мы спадзяемся, што каманда школы ў гэтым годзе зойме першае месца не толькі ў раёне, але і ў горадзе.

Акрамя лыжнага спорту, я ўжо каля пяці год займаюся ў авіямадэльным гуртку Палаца піянераў. За гэты час пабудаваў нямала мадэлей.

Для таго, каб пабудаваць добрую мадэль, трэба зрабіць правільныя разлікі і дакладныя чарцяжы, трэба ўмець апрацоўваць дрэва, карыстацца сталярным і слясарным інструментам.

На працягу пяці год мне тройчы даводзілася выступаць на абласных і рэспубліканскіх спаборніцтвах авіямадэлістаў-школьнікаў. На абласных спаборніцтвах каманда Палаца піянераў, у складзе якой мне давялося выступаць, двойчы заваёўвала кубак абласнога камітэта ДТСААФ.

На мадэлі, з якой я выступаў у мінулым годзе, я скарыстаў профіль, які яшчэ нікім не выкарыстоўваўся. Гэта тонкі профіль з крута загнутым заднім кантам; падабраў добры вінт. На мінулагодніх рэспубліканскіх спаборніцтвах заняў першае месца.

Пасля школы мне не давядзецца стаяць на раздарожжы, бо ўжо цяпер рыхтую сябе да самастойнай працы.

**Ул. ЛЯПАРСКІ,**
**вучань 51 школы г. Мінска.**

Яўхім ЦЫБУК

# НЕСПАКОЙНЫЯ СЭРЦЫ

## ПА ДАРОГАХ БРАГІНШЧЫНЫ

Хто праедзе па дарогах Брагіншчыны днямі ранняй восені, міжволі залюбуецца тутэйшымі краявідамі.

Наміткай сінявататай смугі ахутан бяскрайні палявы прастор, недзе ўдалечыні, ля самага гарызонту, віднеецца зубчык лесу, здрэдку прамільгне ціхая балотная рачулка, атуленая задумлівымі лазнякамі.

Вёскі на гэтай палявой роўнядзі ўяўляюцца здалёк зялёнымі астраўкамі: яны проста тонуць у зеляніне садоў. І куды ні кінеш вокам — сцірты, стагі, зноў сцірты. Высокія, разложыстыя, яны то стаяць дружным гуртам вакол гумнаў і токоў, то рассыпаюцца па полі. У стагах і сціртах салома і яшчэ неабмалочаная збажына, і, мяркуючы па колькасці іх, восень на Брагіншчыне сёлета багатая.

Ёсць нешта адметнае ў краявідах Брагіншчыны, нешта такое, чаго не ўбачыш дзе-небудзь у Бягомльскім ці Асіповіцкім раёнах. І гэтае адметнае бадай у выразных кантрастах, якіх нельга не заўважыць. Тут поўдзень рэспублікі, і на гэтым кавалку зямлі нібы прызначылі сваё першае спатканне лясная Беларусь са стэпавай Украінай. Бяскрайнюю палявую даль сапраўды хочацца назваць стэпам: тут і вятрак відзён за дзесяць кіламетраў, і сланечнікі растуць цэлымі гектарамі, і нейкая птушка, якая здалёк нагадвае арла, кружыцца пад аблокамі. Прастор і шырыня!

Але праедзеш з паўгадзіны на віхлястым «газіку», і карціна рэзка мяняецца. Перад вачамі ўжо самае звычайнае балотца з лазой і парудзелай асакой, трохі далей вясёлы бярэзнічак, а там, наперадзе, лес, шумлівы і густы, і толькі вузкая палоска неба відаць з-пад разложыстых лясных шатаў.

Многа новага можна ўбачыць на дарогах Брагіншчыны. Прыедзьце з Вуглоў на Астрагляды, з Сабалёў на Буркі. Звычайная прасёлкавая дарога, каляіна, пракладзеная коламі аўтамашын. Узбоч яе маладыя дрэўцы. Нічога, на першы погляд, асаблівага. Дрэў на ўзбочыне дарог у нас садзіцца нямала. Але прыгледзьцеся ўважлівей. Перад вамі ўжо не традыцыйныя бярозкі і таполі, а яблыні, грушы, вішні. Яны клапатліва дагледжаны, убіраюцца ў сілу. Не паламалі іх паганыя рукі, як гэта ў нас часамі здараецца, не стапталі быдлячыя ногі.

На прасёлкавых дарогах няма, як вядома, майстроў-рамонтнікаў, якія ставяць кіламетровыя слупкі і акуратна выкошваюць узбочыны на корм уласнай карове. Дык хто ж пасадзіў гэтыя яблыні і вішні, хто іх даглядае? І ці давядуць

тую пачатую справу да канца? Бо справа, скажам шчыра, цудоўная. Пройдзе якіх-небудзь чатыры — пяць год, і зашумяць ля брагінскіх дарог маладыя сады. Але могуць і не зашумець. Ці мала ў нас было «тыдняў» і «днёў» саду, лесу, але яшчэ не вельмі многа такіх дарог, над якімі б навісалі сваімі шатамі бярозы і клёны, а тым болей яблыні і грушы.

Хто дасць гарантыю, што брагінскія дарогі стануць дарогамі садоў?

## ЖЫЦЦЁ ПАВІННА ПРЫГАЖЭЦЬ

Гарантыю далі ў Брагінскім райкоме камсамола. Далі яе першы сакратар Надзя Алейнікава і другі сакратар Валодзя Рак. Надзя Алейнікава — рухавая, энергічная дзяўчына, адна з тых натур, якія звычайна называюць моцнымі. Яе камсамольскі ўзрост яшчэ далёка не скончыўся, але ў сённяшняга сакратара даволі багатая біяграфія. Скончыла сельскагаспадарчую школу. Аграном. Працавала ўчастковым аграномам МТС. Завочна скончыла педвучылішча. Настаўніца. Працавала піянерважатай, настаўніцай. Выбралі на камсамольскую работу. Цяпер займаецца завочна на трэцім курсе біялагічнага факультэта Гомельскага педінстытута. Спрабуе спалучаць агранамію з педагогікай.

Скажам наперад: спалучэнне вельмі добрае. Брагінскім камсамольцам у гэтым сэнсе пашанцавала. Гэта ж проста цудоўна, калі сакратар райкома разбіраецца і ў зямлі і ў чалавечых душах'

Бывалы чалавек і другі сакратар райкома камсамола Валодзя Рак. Гэты невысокі юнак з адкрытым тварам і ясным позіркам вачэй усім сэрцам закаханы ў сваю Брагіншчыну. Ён можа расказваць пра яе цэлымі гадзінамі. Любоў гэтая зразумелая. На Брагіншчыне Валодзя нарадзіўся, тут ён канчаў сваю ціхую дзесяцігодку, марыў пра тыя неабсяжныя далі, якія адкрывала жыццё. Пабачыў і далі. Тры гады служыў у арміі, пабываў у многіх гарадах і, як ён сам прызнаецца, прыйшоў да цвёрдага перакanання, што няма лепшага кутка на зямлі, чым родная Брагіншчына. Тут і сонца свеціць ясней, і зоркі ўночы весялейшыя, і круглы месяц заўсёды вісіць на сваім звычайным месцы.

Наконт зорак і месяца ўсё стала ясна сёлетняй вясной. Валодзя ажаніўся. Але, мабыць, не толькі гэтым вытлумачыш любоў і павагу камсамольскага сакратара да родных мясцін. Працаваў Валодзя ў калгасе, таму ведае, што такое салёны пот у касавіцу і жніво і сумленна заслужаныя тры кілаграмы збожжа на кожны працадзень. Ведае, што азначае клуб для сельскай моладзі, аднаактовая п'еса і вясёлыя прыпеўкі на сцэне пасля нялёгкага працоўнага дня. Бо сам будаваў такі клуб і сам быў яго загадчыкам. Дарэчы, яшчэ адным талентам валодае Валодзя Рак. Ён любіць тэхніку. Сённяшняму сакратару райкома камсамола прыйшлося служыць у мотамехчасцях. Дзесяцігодка плюс вайсковая школа — і ўчарашні малодшы лейтэнант без хістанняў сядзе за руль трактара, аўтамашыны, за штурвал камбайна. Шкада толькі, што ў райкоме камсамола няма пакуль што асаблівай тэхнікі. На шэсць работнікаў, якія пяць дзён у тыдзень ездзяць па калгасах, маецца адзін веласіпед. Гэтым жа веласіпедам на правах таварыскай узаемавыручкі карыстаюцца і супрацоўнікі раённай газеты, рэдакцыя якой знаходзіцца ў адным калідоры з райкомам камсамола.

Дык вось Надзя Алейнікава і Валодзя Рак кіруюць раённай камсамольскай арганізацыяй, у якой налічваецца 2 600 хлебаробаў, жывёлаводаў, трактарыстаў, вучняў сярэдніх школ, настаўнікаў. Яны даюць гарантыю, што праз некалькі год дарогі Брагіншчыны зашумяць маладымі садамі, а раён стане яшчэ багацейшым і прыгажэйшым.

— Улічыце, які цяпер час і кім з'яўляюцца сённяшнія камсамольцы, — гаворыць Надзя Алейнікава. — Сёння пытанне аб хлебе ўжо не стаіць на парадку дня, яно паспяхова вырашана. Вага працадня па раёну ў сярэднім наблізілася да двух кілаграмаў. Сёння рэдка сустрэнеш камсамольца з адукацыяй ніжэй сямі класаў. Калгаснік, трактарыст, жывёлавод — гэта ўчарашні сямікласнік або дзесяцікласнік. Падумайце аб духоўных запатрабаваннях гэтых людзей. Яны не могуць жыць без Пушкіна і Горкага, без клуба і кіно. Яны хочуць бачыць прыгажэйшым навакольнае жыццё. Вось чаму ў калгасах апошнія два гады ідзе ўзмоцненае будаўніцтва клубаў, стадыёнаў, спартыўных пляцовак. Павялічваюцца плошчы садоў і паркаў, абсаджваюцца дарогі. Камсамольцы — немалая ў раёне сіла і да іх голасу прыслухоўваюцца і праўленні калгасаў, і раённыя арганізацыі. На парадку дня цяпер — культура, прыгажэйшае жыццё.

Так, сапраўды на Брагіншчыне будуюць у гэтыя дні вельмі многа. На першым плане ўжо не толькі жывёлагадоўчыя памяшканні, збожжасховішчы, кузні, а і клубы, бані, спартыўныя пляцоўкі. Нехапае лесу, цэглы, цвікоў, цэменту, але будуюць. Многае ўзведзена камсамольскімі рукамі. Каб не бракавала будаўнічых матэрыялаў, то ўся Брагіншчына, кожная самая малая вёсачка, мела б ужо і клуб, і баню, і спартыўную пляцоўку. Такая вырасла на вёсцы сіла, і такія яе неадкладныя патрэбы.

У гэты дзень Надзі Алейнікавай, Валодзю Раку дый наогул усяму невялічкаму калектыву райкома камсамола прыйшлося адказаць яшчэ на адно пытанне.

— Ці многа тых, што скончылі сярэднія школы і нідзе не працуюць?

Пытанне балючае, яно вырашаецца на старонках газет і часопісаў, на гэтую тэму пішуцца кнігі, праводзяцца дыспуты. Думалася, што райкомаўцы загавораць пра «Бокс», у якім яны крытыкуюць маладых лодараў, пра калючыя прыпеўкі, што складаюцца мясцовымі паэтамі і распяваюцца са сцэны пад акампанемент гармоніка. Была думка і аб тым, што зараз пачуеш папрокі і ў адрас школы. Яна, моў, адарвана ад жыцця, педагогі не прывіваюць працоўных навыкаў...

Замест усяго гэтага пачуўся кароткі адказ:

— У нас такіх няма...

Надзя Алейнікава растлумачыла:

— Мы гатовы да такога пытання, нават давалі звесткі абкому. Вось, калі ласка, дзесяцігодкі. Іх у нас 9, сёлета скончыла 297 чалавек, 202 засталіся працаваць у калгасах, астатнія паступілі вучыцца або паехалі працаваць на вытворчасць. Лічбы дакладныя, мы ўсё праверылі і, — дзяўчына хітравата ўсміхнулася, — сёе-тое, вядома, рабілі дзеля гэтага...

## НОВЫЯ СІЛЫ

Камсамольскі ўзрост... Шаснаццаць, васемнаццаць, дваццаць, ды няхай сабе апошнія дваццаць шэсць гадоў. Гады рамантыкі, светлых планаў, мар і летуценняў. Гады вучобы і кахання. Гады, калі атрымліваеш пашпарт і цябе пачынаюць называць грамадзянінам...

Даваенныя камсамольцы, якія займаліся ў дзесяцігодках, любілі спяваць песню «Любімы горад». Яна імпанавала іх настрою і жаданням. Моладзь ішла вучыцца ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, у вайсковыя школы, заканчвала кароткатэрміновыя курсы. Яна імкнулася да героікі і крыху звысака глядзела на будні жыцця.

Краіне патрэбны былі кадры: настаўнікі, урачы, інжынеры, аграномы, вайсковыя камандзіры, і амаль ніхто з тых, хто скончыў дзесяцігодкі, не заставаўся за парогам ВНУ або якіх-небудзь курсаў.

Да вайны на Брагіншчыне дзесяцігодак было ў тры разы менш. Канчала іх штогод якіх-небудзь

60—70 чалавек. Сёння паток выпускнікоў сярэдніх школ у пяць разоў большы за даваенны. І сёння краіне патрэбны ўрачы, інжынеры, настаўнікі, аграномы, вайсковыя камандзіры. Калі гаварыць пра студэнтаў, то іх з Брагіншчыны ўдвая больш, чым было да вайны. Але ўсе паступіць у ВНУ і тэхнікумы не могуць.

Камсамольцы, моладзь, скончыўшы дзесяцігодкі, застаюцца ў калгасах, у сваіх родных вёсках. Застаюцца ў сваёй пераважнай большасці. Працуюць на жывёлагадоўчых фермах, у паляводчых брыгадах, у кукурузаводчых звеннях, у канцылярыях калгасаў, у клубах, на трактарах і камбайнах.

Якія песні спяваюць сённяшнія камсамольцы, што маюць атэстаты сталасці і штодня ходзяць на працу ў паляводчыя брыгады? Якія ў іх планы і жаданні? Не сакрэт жа, што ў людзей гэтых высокія культурныя і эстэтычныя запатрабаванні, якія іншы раз не можа задаволіць вёска, дзе толькі яшчэ збіраюцца пабудаваць клуб, а ў крамах можна знайсці толькі тоненькія брашуркі, выданыя гадоў дзесяць назад.

Што азначае для гэтай моладзі праца ў калгасе, у роднай вёсцы? Неабходны для паступлення ва ВНУ двухгадовы працоўны стаж ці жыццёвае прызванне? Адказаць на ўсе гэтыя пытанні нялёгка. Пройдзе год—два, і карціна набудзе выразнейшыя абрысы. Усё ж праедзем па раёну, паглядзім, паслухаем...

Вёска з паэтычнай назвай «Ясені», калгас «Ленінец». Многа садоў, зяляніны, пад бокам ціхая Брагінка. Мясціны прыгожыя. Пра поспехі калгаса нельга не гаварыць, не сказаўшы пра вясковы камсамол. Ён тут вялікая сіла. Жывёлагадоўчая ферма цалкам камсамольская. Камсамольцы вырошчваюць добрыя ўраджаі збожжавых, бульбы, кукурузы. На ўсіх раённых нарадах, калі гаворка заходзіць пра жывёлагадоўлю, называюць прозвішча Цяцеры Анны, даяркі з гэтага калгаса. Яна не так даўно закончыла дзесяцігодку і без ніякіх ваганняў пайшла на ферму. Сумленна заслужыла сваю працоўную славу. Сённяшняя даярка завочна вучыцца ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

Аб тым, каб вучыцца, павышаць сваю кваліфікацыю, набываць новыя веды, марыць пераважная большасць школьнікаў моладзі, што сёння працуе ў калгасе. Важак вясковых камсамольцаў Пятро Мартыненка, які з раніцы да вечара на арцельным полі, яшчэ не мае сярэдняй адукацыі. Але ён будзе яе мець. Пяць разоў у тыдзень ходзіць Пятро ў Брагін, у школу рабочай моладзі. Адлегласць не малая—восем кіламетраў. Але юнака не палохае асенняя непагадзь, зімовыя віхуры. Прага да вучобы мацней за стому. У поўнач, калі ўсе ўжо спяць, Пятро яшчэ сядзіць над геаметрыяй і трыганаметрыяй, над вылічэннем плошчы якога-небудзь усечанага конуса. Як далёка адышоў вясковы камсамол ад памятных дзён лікбезу, ад дваццатых гадоў, калі табліца множання і чатыры дзеянні арыфметыкі лічыліся неблагімі паказчыкамі для вясковага камсамольца!

Пятро не адзін такі ў Ясенях. За ім, камсамольскім важаком, ідуць многія. Моладзь працуе, вучыцца, цягнецца да культуры. І вось тое новае, чаго нельга ўбачыць. Як перамяніліся Ясені з таго часу, калі адукаваны школьны камсамол уліўся ў калгасную сям'ю! Па вечарах тут не пяюць ужо брыдкіх прыпевак, адышлі ў нябыт п'яныя бойкі і ігрышчы пад сіплы гармонік у хаце якой-небудзь бабылкі Тэклі.

У Ясенях камсамольцы будуюць клуб. Яны так націснулі, што праўленне дало-такі лесу. А сіл моладзі не пазычаць! Увесь культурны фронт цяпер у руках камсамольцаў. Загадчык клуба Міша Іваненка — камсамолец. Ён жа адначасова і мастак. Родныя пейзажы, намаляваныя гэтым таленавітым юнаком, нічым не горшыя за тых, што вісяць дзе-небудзь на гарадскіх выстаўках. Загадчыца бібліятэкі Соня Цяцера таксама камсамолка. Яна ж кіруе хорам. І хор гэты славіцца па ўсім раёне.

Ёсць у Ясенях стадыён, спартыўныя пляцоўкі, не навіна тут футбол і валейбол. Калгаснік з сярэдняй адукацыяй не хоча жыць у вёсцы, якая кладзецца спаць у восем гадзін вечара і дбае толькі пра хлеб і да хлеба. Ён дамагаецца, каб вёска стала не толькі багатай, але і культурнай, вясёлай, каб у ёй магла ва ўсю шырыню разгарнуцца маладая камсамольская душа.

І так па ўсім раёне. Свінаркай у калгасе імя Калініна працуе былая дзесяцікласніца Каця Ялчык, даяркай у арцелі імя Куйбышава Святлана Мартыненка. Многія з гэтых маладых людзей ужо здолелі сябе праславіць у працы, многія яшчэ робяць толькі першыя крокі.

І ўжо нават сёння можна рабіць сякія-такія вывады наконт далейшага лёсу школьнай моладзі, якая ўлілася ў калгасы. Частка яе, адпрацаваўшы два—тры гады, пойдзе вучыцца далей. Другая, бадай большая частка застанецца ў родных вёсках. Пройдзе які-небудзь дзесятак год і яна, гэтая сённяшняя моладзь, будзе несці галоўную службу ў калгаснай вытворчасці. І новыя маладыя сілы хутчэй і лягчэй замацуюцца ў тых вёсках і калгасах, дзе больш культуры, прасторы, разгарнення для юнацкіх душ, якія сапраўды не могуць жыць без Пушкіна і Горкага, без музыкі, кіно, без усяго таго, што называецца культурай. Ёсць над чым падумаць савецкім і партыйным органам, камсамолу, школе, праўленням калгасаў.

У Брагіне пра гэта пачынаюць думаць. Ва ўсякім выпадку, робяцца пэўныя захады, каб аблегчыць школьнай моладзі шлях ад парты да калгаснага поля. Вучнёўскае звяно з Брагінскай сярэдняй школы пастаянна працуе ў калгасе імя Гастэлы. Кіруе ім выпускніца дзесяцігодкі Каця Ціханчук. Рукамі вучняў выконваецца ўся работа па вырошчванню ўраджаю на даволі значнай плошчы. І ўраджаі школьнікі атрымліваюць выдатныя.

Дзівіцца не прыходзіцца, чаму на Брагіншчыне дзесяцікласнікі смялей і ахвотней працуюць у калгасах.

## ПЛЯЧО СУСЕДА

Пра ўсё не раскажаш. У брагінскіх калгасах добрая кукуруза і высокія надоі малака. Тут многа камсамольскіх звенняў, што расцяць кукурузу, у якой схаваецца з галавой самы высокі на свеце чалавек. У Брагіне ўмеюць працаваць і святкаваць. Пра святы хацелася б сказаць некалькі слоў асобна.

Высокія ўраджаі, надоі малака, паказчыкі ў жывёлагадоўлі, дасягнутыя камсамольцамі, робяць, вядома, чэсць райкому камсамола. Але не адзін ён падымае гэтую справу. Дый яна яму і не па плячы, калі гаварыць шчыра. І, мабыць, трошкі пакрыўдзяцца тыя таварышы, якія па адных ураджаях, атрыманых у калгасах, мяркуюць аб рабоце райкома камсамола.

Хацелася ведаць, ці шырокая сцежка ў райком, ці ходзіць сюды моладзь за парадай, за цёплым словам падтрымкі? Высветлілася — ходзіць. Перад многімі маладымі людзьмі паўстае ў гэтыя дні вострае жыццёвае пытанне: які шлях выбраць, кім стаць? І яны ідуць у свой райком. І ў тым, што сотні ўчарашніх школьнікаў працуюць сёння ў калгасах і на прадпрыемствах раёна, што многія з іх паехалі на цалінныя землі, на будоўлі Сібіры, вялікая заслуга невялічкага райкомаўскага калектыву і шматлікіх яго актывістаў. Бываюць тут сустрэчы старшакласнікаў са сваімі старэйшымі сябрамі, якія працуюць у калгасах, арганізоўваюцца новыя вытворчыя брыгады і звенні, якія без адрыву ад вучобы гаспадараць на арцельных палях і фермах, наладжваюцца святы моладзі — ва ўсім гэтым галоўная заслуга належыць райкому камсамола.

Прыходзяць у райком лісты са штампамі далёкіх гарадоў і населе-

ных пунктаў, што не нанесены яшчэ на самыя падрабязныя карты. Пішуць брагінцы — хлопцы і дзяўчаты, сённяшнія цаліннікі, сібіракі. Паведамляюць аб сваім жыцці, аб поспехах. Вось літаральна ў гэтыя дні прынёс у райком паштальён адзін такі ліст з Омска. Пішуць Дуся Цярэшчанка і яе сяброўкі, смелыя дзяўчаткі, нядаўнія вучаніцы Ільіцкай сярэдняй школы. Дзякуюць за падтрымку, за тое, што камсамол дапамог ім знайсці жыццёвую дарогу. Якая ж можа быць лепшая ўзнагарода райкому камсамола!

І яшчэ святы моладзі. Іх было нямала ў сёлетнім годзе, яны праведзены амаль у кожным калгасе. Адно такое свята ніколі не забудуць тыя, хто на ім пабываў. На ўкраінскі бераг Дняпра, у маляўнічыя мясціны непадалёк ад горада Любеча пераехала амаль уся маладая Брагіншчына, дзве з паловай тысячы юнакоў і дзяўчат. Украінцы гасцінна сустракалі. Быў цёплы, светлы дзень, і госці і гаспадары спявалі, танцавалі, паказвалі свае дасягненні ў спорце. Дарэчы, у зводным раённым хоры, які спяваў беларускія народныя песні, гучаў і голас Надзі Алейнікавай, першага сакратара райкома.

Раптам пайшоў дождж. Гэта быў нават не дождж, а сапраўдны лівень. Але ніхто не хацеў разыходзіцца. Кожны, хто быў на гэтым вялікім свяце моладзі, мабыць, адчуваў прыгажосць і веліч яднання маладых здаровых сіл, іх імкненне пераадолець самыя цяжкія перашкоды. Кожны адчуваў плячо суседа, а суседам быў шматтысячны камсамольскі калектыў.

Яны і сёння заўсёды разам з моладдзю, былыя райкомаўцы Надзя Алейнікава, Валодзя Рак, Іван Андрэенка, Марыя Гаўрыленка, Раіса Стрыгун. Пяць дзён у тыдзень кожны павінен бываць у камсамольскіх арганізацыях — такі няпісаны закон работы райкома камсамола. І сёння Надзя Алейнікава спявае на сцэне ў хоры, а інструктар Іван Андрэенка — нязменны артыст драматычнага калектыву Дома культуры. Няхай не рвуць гэтай жывой і моцнай сувязі з моладдзю сціплыя райкомаўцы. Бо ў гэтым зарука поспеху.



Петрапаўлаўск-Камчацкі.

Людміла ЗАРЭЦКАЯ

# НА АДНОЙ ПАРАЛЕЛІ

Камчатка — цудоўны край. Самабытная, з мноствам толькі ёй уласцівых рысаў, яна здзіўляе сваімі кантрастамі.

Патрэбны гады, каб вывучыць гэты край. Але палюбіць яго можна за некалькі дзён. Хто аднойчы пабываў на Камчатцы, той захоча вярнуцца сюды.

Уяўленне аб тым, што Камчатка далёка ад Беларусі, здаецца цяпер наіўным. Тры гады назад з Мінска на Камчатку давялося падарожнічаць тры тыдні. А цяпер — калі ласка: на самалёце «ТУ-104» за пятнаццаць гадзін вы з Масквы трапляеце ў Петрапаўлаўск-Камчацкі.

«Краінай вогненных гор», «краінай вулканаў» называлі Камчатку яе першыя даследчыкі. На паўвостраве — 129 вулканаў, з іх 20 дзеючых. Часцей за іншых праяўляюць сваю актыўнасць Ключаўская сопка, якая дасягае 5 тысяч метраў, і Авачынская, што размешчана ў 30 кіламетрах ад Петрапаўлаўска.

На поўначы паўвострава, у раёне Кронацкага заліва, б'юць гейзеры — надзвычайная па прыгажосці з'ява. Гэта велізарныя фантаны гарачай вады, ахутаныя смугой вадзяного пылу і пырскаў. У кожнага гейзера свая назва, свой дакладны рэжым работы. «Фантан» б'е праз 22 мінуты, «Жамчужны» — праз 5 гадзін 25 мінут! «Велікан» падымае гарачую ваду на 50 метраў праз кожныя 3 гадзіны 25 мінут.

Своеасаблівы і прыродны свет Камчаткі. Калі ў далінах расце трохметровая трава — шаламайнік і стракатым дыванам цвітуць пышныя альпійскія лугі, у гэты час на вяршынях сопак ляжыць вечны снег. У зімовую сцюжу, калі моцныя марозы прымушаюць трэскацца базальт, у гарачых крыніцах тэмпература вады даходзіць да 100 градусаў.

Прыпамінаецца такі выпадак.

Аднойчы, разам са студэнтамі Петрапаўлаўскага мараходнага вучылішча мы адправіліся за горад

на лыжную прагулку. Прайшлі кіламетраў пятнаццаць і ўзбоч лыжні заўважылі пару. Там была рэчка з цёплай вадою. А што калі пакупацца ў гэтай незвычайнай рэчцы? Распрануліся — і ў ваду. Рэчка неглыбокая, але купацца можна. Уволю накупаўшыся, пачалі апранацца, і тут зразумелі нашу памылку. У спешцы мы пакінулі чаравікі і адзенне проста на снезе. Мароз умомант скаваў усё. З цяжкасцю ўдалося нацягнуць абледзянелыя курткі, чаравікі. Сталі на лыжы — і хутчэй у дарогу. Неяк дабраліся да сяла Малкі. У каго вушы, у каго нос, у каго кончыкі пальцаў падмарожаны. Але не бяда! Назаўтра зноў пайшлі да рэчкі. Цяпер мы сталі разумнейшымі: адзенне пакінулі бліжэй да берагу, на цёплых валунах.

* * *

Камчатку называюць яшчэ буйнейшым рыбным цэхам краіны. У морах, што абмываюць паўвостраў, на велізарных сініх прасторах Ціхага акіяна ловяцца ласосі, гарбуша, кета, чырвоная чавыча, селядцы, траска, камбала, навага. А славутыя Камчацкія крабавыя палі! Яны адзіныя ў свеце па прамысловай канцэнтрацыі. У паўночных раёнах здабываюць кітоў вагой да 6—7 тысяч пудоў.



Гарачы ключ не замярзае і зімой.

Да 20 відаў салёнай рыбы, вэнджаных прадуктаў і марынадаў, 11 разнавіднасцей рыбных і крабавых кансерваў, зярністую ласасёвую ікру, медыцынскі і тэхнічны рыбін жыр даюць краіне рыбапрамысловыя прадпрыемствы паўвострава. Вылаў рыбы вымяраецца сотнямі тысяч цэнтнераў. Не толькі рыбай славіцца Камчатка. Яе людзі з гордасцю раскажуць вам, што за два апошнія гады тут былі вырашчаны выдатныя ўраджаі, якія далі магчымасць поўнасцю забяспечыць працоўных гароднінай і бульбай. На паўвостраве вырашаецца важная праблема выкарыстання мясцовых гарачых крыніц для круглагадовага вырошчвання свежай гародніны.

Геалагічныя экспедыцыі складаюць карты карысных выкапняў паўвострава. Сярод мноства маладых савецкіх людзей, якія абуджаюць да жыцця гэтую суровую, але багатую зямлю, ёсць і нашы землякі, камсамольцы, якія ў гэтыя слаўныя дні саракагоддзя ВЛКСМ памнажаюць славу ленінскага камсамола. Аб некаторых з іх мне і хочацца расказаць.

Ішла канферэнцыя прыхільнікаў міру. На трыбуну ўзышла высокая, бялявая дзяўчына. Першыя яе словы, яе манера вымаўляць іх дыхнулі на мяне нечым блізкім, знаёмым. Зямлячка! Уявіце, як гэта цікава за трыдзевяць зямель сустрэць зямлячку! «Хто яна?» — запыталася я. І мне расказалі пра дзяўчыну шмат цікавага.

Ля берагоў ракі Быстрай сярод маляўнічых сопак раскінулася сяло Эса — цэнтр Быстрынскага нацыянальнага раёна.

Тры гады назад пасля заканчэння медыцынскага інстытута прыехала сюды камсамолка-мінчанка Марыя Ламака. Да маладога ўрача звярталіся за дапамогай пастухі-аленяводы; маці-эвенкі прыносілі лячыць сваіх дзяцей. Людзі ўважліва слухалі дзяўчыну. Марыя не толькі лячыла, але і вучыла людзей. Яна паказвала, як трэба купаць і спавіваць дзяцей. Нялёгка было пераканаць маладых маці, што малому ў чыстых пялёнках куды лепш, чым у футравым камбінезоне, з якога яго не вымалі пакуль дзіця не падрасце.



Як вядома, у ярангах няма печаў, таму эвенкі гатавалі заўсёды адно і тое ж блюда: варылі ў вялікім чыгуне аленіну і елі. Як прыгатаваць катлеты, пельмені і іншыя стравы, жанчыны не ведалі.

Марыя Ламака арганізавала кулінарны гурток. Вучыла жанчын кухарнічаць у новых кухнях, якія эвенкі атрымліваюць разам з новымі дамамі.

Так ішлі працоўныя будні.

Аднаго разу з далёкага сяла Лаучан прышло хвалюючае паведамленне: настаўніца Валянціна Стрэха цяжка захварэла. Ёй патрэбна кваліфікаваная медыцынская дапамога.

Ад Эса да Лаучан — 170 кіламетраў. Дабрацца туды можна толькі на нартах, абмінаючы шматлікія перавалы, рэкі, схілы суровага вулкана Алнея, які часта сустракае падарожнага калючым марозным ветрам, снегавымі абваламі.

Марыя Ламака наважыла ехаць. Але дзе ўзяць праваднiка? Каюр Тылкамаў быў хворы. Марыя абзваніла ўсе арганізацыі. Але, як на ліха, людзі, што ведалі дарогу на Лаучан, былі ў раз'ездзе.

Дзяўчына пайшла да хворага эвенка-каюра.

— Усё залежыць ад вас. Выручайце. У дарозе я вас буду лячыць. Ехаць трэба зараз жа.

Тылкамаў згадзіўся.

... На сотні кіламетраў раскінула тундра свае прасторы. Яна расцілаецца белым дыванам і недзе там, ля самага гарызонта, зліваецца з небам. Удалечыні снег здаецца светла-шэрым. Такое ж і неба над тундрай. Цяжка сказаць, дзе канчаецца зямля і пачынаецца неба. Дымяцца сівымі галовамі сопкі-веліканы і суровыя горныя хрыбты. Куды ні глянь — усюды снег, снег, снег...

Неўзабаве надвор'е сапсавалася. Пранізлівы вецер закружыў пазёмку. Паваліў густы снег. Трэба было праехаць раку Улукаўчан. Каюр добра ведаў капрызы ракі,



У часе фестывалю.

яе абманліва спакойны выгляд. Напружваючы зрок, ён выбіраў дарогу, выкрыкваючы незразумелыя для Марыі словы. Сабакі паслухмяна цягнулі нарты, зварочваючы то налева, то направа.

Раптам на роўным месцы, там, дзе, здавалася, не пагражала ніякая небяспека, нарты нахіліліся, і Марыя апынулася па пояс у ледзяной вадзе.

— Трымайся за нарты, — крыкнуў каюр.

Сабакі выскачылі на бераг.

— Назад трэба ехаць. Замерзнеш дарогай, — заківаў галавой каюр.

Але Марыя і слухаць не хацела.

Праваднік расклаў агонь. Дзяўчына падсушыла адзежу. І яны зноў паехалі. Праз некалькі сутак яны дабраліся да Лаучана. Пяць дзён і начэй праседзела малады ўрач ля хворай, а калі небяспека мінула, пачала збірацца ў зваротны шлях.

Народ умее цаніць энергічных, высакародных людзей. Жыхары Эса выбралі нашу зямлячку дэпутатам у раённы Савет, яны аказалі ёй вялікае давер'е выступаць ад іх імя на канферэнцыі ў абарону міру.

* * *

Прыгожы Петрапаўлаўск-Камчацкі. Ззяе зеленавата-сіняя роўнядзь Авачынскай бухты, высяцца

снегавыя вяршыні вулканаў, а сопкі, што акружаюць горад, здаюцца ружовымі: там цвіце шыпшына. Ні на хвіліну не змаўкае жыццё вялікага партовага горада.

Рыбалавецкія траўлеры, грузавыя, пасажырскія параходы, цеплаходы, дызельэлектраходы запаўняюць заліў Ціхага акіяна — Авачынскую губу. Сярод дзесяткаў розных суднаў, якія носяць імёны многіх гарадоў нашай краіны, быццам прывітанне з Беларусі, надпіс на адным з параходаў «Пінск», а на цеплаходзе — «Гомель». «Пінск» — гэта лепшае судна параходства. Ужо тры гады экіпаж парахода датэрмінова выконвае план перавозак, эканоміць шмат гаручага. Экіпаж судна некалькі разоў прадстаўляўся да ўзнагароды. Старшы памочнік капітана, сакратар камсамольскай арганізацыі судна віцяблянін Андрэй Пасконны расказаў нам шмат цікавага аб працоўных буднях парахода «Пінск».

Неяк у час асенніх рэйсаў нечакана падняўся моцны вецер. Судна ўздрыгвала ад частых udaраў хваляў. Боцман Аляксей Шаткоў выйшаў з каюты. «Балаў дзесяць ёсць», — падумаў марак. Яго вельмі хваляваў гэты шторм. На палубе ляжаў груз. Праўда, яго ўтрымлівалі сталёвыя мацаванні, але маглі і яны не вытрымаць.

Вецер мацнеў. Хвалі злосна навальваліся на карабель. І груз папоўз...

На аўральныя работы выйшлі ўсе маракі. У надзвычай цяжкіх умовах адсеклі мацаванні, якія парваліся, і завязалі новыя. Самааддана працаваў увесь экіпаж судна, і груз быў выратаваны.

— Мы стараемся, — сказаў камсамольскі важак, — высока трымаць гонар беларускага народа, імя якога носіць наш параход. 40-годдзе БССР — гэта і наша свята. У дзень знамянальнай гадавіны мы будзем рапартаваць вам аб працоўных падарунках вашых землякоў — маракоў-ціхаакіянцаў.

На Камчатцы пачынаецца новы дзень у той час, калі ў Мінску гадзіннік адлічвае апошніх дванаццаць udaраў.

Над прыціхлымі вуліцамі самага ўсходняга горада краіны, над партовым горадам, над пасёлкамі паўвострава раздаюцца пазыўныя Камчацкага радыё і ўслед нясуцца словы: «Добрай раніцы!»

Апошнія паведамленні і перадачы «Для народаў Поўначы», канцэрты мясцовых выканаўцаў, рэпартажы, перадачы для тых, хто ў моры, інсцэніроўкі спектакляў слухаюць жыхары вобласці.

Самы аператыўны аддзел абласных паведамленняў Камчацкага радыё рэдагуе выпускніца Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна Арыадна Летнікава.

Дзяўчына некалькі год назад нясмела пераступіла парог радыёкамітэта. Прадстаяла работа ў нязвыклых умовах над перадачамі, якія былі новыя не толькі па зместу, але і па форме. Яе чакалі цяжкія і разам з тым цікавыя камандзіроўкі ў аддаленыя куткі паўвострава.

... Славутыя Камандорскія астравы — лежышча марскога коціка. Палана — цэнтр Каракскага нацыянальнага раёна. Народ, што зрабіў гіганцкі гістарычны скачок ад родавага ладу да сацыялізма. Даліна ракі Камчаткі, дзе клімат такі ж, як і на поўдні Беларусі. На палях растуць жыта, ячмень, пшаніца. У адкрытым грунце паспяваюць гуркі, памідоры, клубніка.

І ўсюды цудоўныя савецкія людзі, што пераўтвараюць гэты край.

У запісной кніжцы з'яўляюцца кароткія запісы, на плёнку запісваюцца выступленні лепшых працаўнікоў вобласці. Радыёслухачы знаёмяцца з перадачамі, што арганізаваны карэспандэнтам Арыаднай Летнікавай. Ада палюбіла гэты цудоўны край, яго людзей, сваю работу.

Уся Камчацкая вобласць — у рыштаваннях новабудоўляў. Многа тут ужо зроблена і шмат чаго прадугледжана пабудаваць да канца шостай пяцігодкі.



Для таго, каб будаваць, патрэбны сталяры, цесляры, муляры — людзі розных спецыяльнасцей. Яны накіроўваюцца сюды з усіх куткоў краіны. Сярод іх ёсць і беларусы.

Пётр Казакоў — цясляр базы Мохавая. Ён не вельмі даўно закончыў Магілёўскае рамеснае вучылішча, працаваў на трактарным заводзе, а потым па закліку камсамола паехаў на Усход. У трэсце «Камчатморбуд» працуе камсамолка-беларуска Раіса Янукова. Сюды яна прыехала з вёскі Гапоны Багушэвіцкага раёна.

— Не сумна? — спыталіся мы ў яе.

— Не. Мы ж на адной паралелі, — пажартавала яна.

* * *

Штогод тысячы людзей прыязджаюць на Камчатку. Яны знаёмяцца з гэтым далёкім краем, слухаюць расказы старажылаў аб рыбных багаццях, аб статках аленяў, аб вулканах і гейзерах, лячэбных гарачых крыніцах санаторыяў Начыкі і Паратунка, якія не ўступаюць лепшым горным курортам краіны, і аб многім іншым.



**У піянерскім лагеры.**

Вялікі, незнаёмы свет паўстае ў гэтых расказах. Сапраўды, самабытны цудоўны паўвостраў, цэнтр якога Петрапаўлаўск-Камчацкі знаходзіцца на адной паралелі з Мінскам.

Гэта частка нашай вялікай зямлі. І людзі, што прыязджаюць сюды, жывуць творчым, цікавым жыццём, поўным рамантыкі.

# *Юнацкімі рукамі залатымі...*

## Шукальнікі новага

Цяпер, бадай, цяжка і прыгадаць, хто першы падаў думку стварыць у кавальска-рысорным цэху комплексную брыгаду рацыяналізатараў. Неяк у абедзенны перапынак сабраліся «на перакур» кавалі, штампоўшчыкі, майстры. Падышоў канструктар камсамолец Раман Матусевіч, тэхнолаг Мікалай Паўлавец. Размова зайшла аб новых машынах. Перад вачыма кожнага яшчэ стаяў аўтамабіль-гігант, грузапад'ёмнасцю ў 40 тон, толькі што зроблены ў цэху доследнай вытворчасці.

— Радасна на душы становіцца, калі глядзіш на нашы новенькія МАЗы, — загаварыў малады каваль Андрэй Сівак.— Дзе толькі не сустрэнеш цяпер аўтамабіляў з эмблемай зубра! І на будаўніцтве магутных электрастанцый, і на вывазцы цаліннага хлеба, і на лясных дзялянках. Далёка за межамі нашай краіны ідзе добрая слава аб беларускіх аўтамабілях...

— Усё гэта правільна, — умяшаўся ў гутарку камсамолец каваль Міхаіл Караткевіч. — Трывалыя, надзейныя нашы машыны, і славай карыстаюцца заслужанай. А ці задумваўся хто-небудзь з вас, колькі лішняе вагі мае кожны аўтамабіль? Як, Раман, правільна я кажу? — звярнуўся Міхаіл да стаяўшага побач канструктара камсамольца Рамана Матусевіча.

— Правільна, — падтрымаў Міхаіла Раман. — На «МАЗ-525» можна перавозіць 25 тон грузу, а сама машына важыць амаль столькі ж — 23 тоны. А 40-тонны самазвал важыць больш за 30 тон. Уявіце, колькі можна было б зрабіць новых машын, калі б зменшыць уласную вагу машыны, выдаткаванне каштоўнага металу.

— Ёсць у мяне думка, — працягваў Міхаіл Караткевіч. — Давайце ўсе разам думаць над тым, як знізіць вагу машыны, сэканоміць як мага больш металу. Карацей кажучы, хоць у нас і не сход, а ўношу прапанову — стварыць комплексную брыгаду рацыяналізатараў. Праўда, Мікалай? — звярнуўся ён раптам да Мікалая Паўлаўца.

Мікалай Паўлавец стаяў побач і з вялікай цікавасцю прыслухоўваўся да размовы таварышаў. Усе выказвалі тое, аб чым ён думаў не раз...

Так у канцы 1956 года ў кавальска-рысорным цэху Мінскага аўтамабільнага завода была створана комплексная брыгада рацыяналізатараў. Узначаліў яе тэхнолаг камсамолец Мікалай Паўлавец.

Шукальнікі новага — так па праву называюць наватараў на заводзе. І гэта сапраўды так. Дастаткова сказаць, што толькі ў мінулым годзе члены комплекснай брыгады ўнеслі звыш 60 рацыяналізатарскіх прапаноў і тэхнічных удасканаленняў. Больш палова з іх укаранёна ў вытворчасць, а гэта дало звыш 100 000 рублёў гадавой эканоміі.

За кошт чаго дасягнута такая вялікая эканомія? Яшчэ не так даўно такая дэталь, як паваротная цапфа, штампавалася на молатавым штампе звычайнай канструкцыі. Пры гэтым трацілася многа каштоўнага металу дарэмна, бо былі вельмі вялікія прыпускі на механічную апрацоўку. Мікалай Паўлавец і Раман Матусевіч распрацавалі новую канструкцыю молатавага штампа, прапанавалі вырабляць дэталь з пракату іншага профілю. Укараненне ў вытворчасць гэтай прапановы дало выдатныя вынікі — на кожную машыну пачалі эканоміць 18 кілаграмаў сталёвага пракату. Па прапанове Рамана Матусевіча зменена таксама канструкцыя задняга буксірнага крука. А гэта дало магчымасць эканоміць на кожнай дэталі паўтара кілаграма металу.

Многа цікавых новаўвядзенняў ажыццявілі маладыя наватары ў гэтым годзе. Так, напрыклад, зменена канструкцыя вілкі карданнага вала,



пакоўкі, абоймы дыферэнцыяла. Асабліва вялікі эканамічны эфект дае пераход многіх дэталей з свабоднай коўкі на штампоўку.

Поспеху членаў брыгады садзейнічае тое, што яны ніколі не супакойваюцца на дасягнутым, нястомна шукаюць новае. А знайсці гэтае новае можа толькі чалавек, які вучыцца, пераймае вопыт лепшых наватараў не толькі свайго прадпрыемства або эканамічнага раёна, але і наватараў перадавых прадпрыемстваў краіны.

Можна без перавелічэння сказаць, што ўсе члены брыгады вучацца — адны ў завочных і вячэрніх інстытутах і тэхнікумах, другія — у вячэрняй школе рабочай моладзі, трэція — у гуртках тэхмінімуму і на курсах. Вось, напрыклад, Мікалай Паўлавец. Без адрыву ад вытворчасці ён паспяхова закончыў завочнае аддзяленне Ленінградскага політэхнічнага інстытута. Шэсць год працаваць і адначасова вучыцца — гэта пад сілу толькі людзям моцнай волі, настойлівым у дасягненні пастаўленай мэты. Да іх адносіцца не толькі камсамолец Паўлавец. На пятым курсе вячэрняга аддзялення Беларускага політэхнічнага інстытута вучыцца Раман Матусевіч. Каваль Міхаіл Караткевіч заканчвае ў гэтым навучальным годзе аўтамеханічны тэхнікум.

Члены брыгады выступілі ініцыятарамі сацыялістычнага спаборніцтва за эканомію металу на прадпрыемствах рэспублікі. У гонар 40-годдзя Беларускай ССР і 40-й гадавіны ВЛКСМ яны ўзялі новыя павышаныя абавязацельствы — сэканоміць на кожным 25-тонным самазвале яшчэ 100 кілаграмаў металу, па 10 кілаграмаў на кожным лесавозным аўтамабілі і па 5 кілаграмаў на 6-тонных машынах.

«Мы звяртаемся да рабочых, майстроў, тэхнолагаў, канструктараў, да ўсіх работнікаў прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі з заклікам — шырока разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва за эканомію металу ў прамысловасці», — пісалі члены брыгады ў сваім звароце.

Пачын мінскіх аўтазаводцаў горача падтрымалі трактаразаводцы і абутнікі, швейнікі і металургі, машынабудаўнікі, тысячы камсамольцаў і маладых рабочых.

Комплексная брыгада Мікалая Паўлаўца — адна з многіх на мінскім аўтазаводзе. Сотні камсамольцаў і маладых рабочых з'яўляюцца рацыяналізатарамі і вынаходцамі, нястомнымі шукальнікамі новага. Сваё слаўнае свята — 40-годдзе Ленінскага камсамола — яны сустракаюць новымі працоўнымі перамогамі.

**Я. ДУБРОВІН.**

## Жывыя помняць

У ноч з 6 на 7 лістапада 1943 года на перагоне паміж станцыямі Прыяміна і Крупкі пачуўся аглушальны выбух. Ні платформы з пяском уперадзе паравоза, ні ахова чыгункі не дапамаглі нямецка-фашысцкім захопнікам: эшалон, гружаны ваеннай тэхнікай, знайшоў сабе магілу на беларускай зямлі. Так камсамольцы і моладзь Барысава з партызанскай брыгады «Дзядзі Колі» паставілі свой першы помнік баявой сяброўцы Люсі Чалоўскай.

У першыя ж дні вайны 17-гадовая камсамолка Люся Чалоўская стала сувязной партызан. Яна выконвала нямала важных даручэнняў.

Неяк партызанскаму камандаванню спатрэбіліся нямецкія пашпарты. Дастаць іх узялася Люся. Праз некалькі дзён пасля сустрэчы з партызанамі невысокая зграбная дзяўчына ўжо была ў кабінеце начальніка пашпартнага стала.

— Цырымоніцца з вамі не буду. Мне патрэбны пашпарты для партызан, — заявіла Люся.

— Як ты адважылася? Я цябе згнаю ў турме! — гнеўна выгукнуў нямецкі служака.

— Паспрабуй, дык і сам трапіш туды разам са мной. Я ж скажу, што



**Помнік Люсі Чалоўскай.**

ты і раней даваў іх мне, — спакойна адказала Люся.

У гэты ж дзень з дзесяткамі пашпартоў Люся была ў партызанскім атрадзе. Адтуль яна вярталася не з пустымі рукамі. Кожны раз, калі яна прыходзіла з лесу, у жыхароў горада паяўляліся сотні савецкіх лістовак і экземпляраў газеты падпольнага райкома партыі. Праз рукі маладой патрыёткі партызанам перапраўляліся тысячы патронаў, гранаты і іншая зброя.

Люсі не ўдалося выканаць толькі аднаго задання партызан. Летам 1943 года, пабываўшы ў атрадзе, яна вярталася ў горад. Не падазраючы, што за ёю сочыць здраднік, партызанка зайшла на рынадчную плошчу і тут была схоплена фашыстамі. Але дарма спадзяваліся гестапаўцы атрымаць патрэбныя ім звесткі. Ні страшныя катаванні, ні абяцанні захаваць жыццё за здрадніцтва не дапамаглі ім. Люся так і памерла, не сказаўшы ні слова пра планы таварышаў па зброі. Толькі на сцяне цёмнай вільготнай камеры ў ноч з 6 на 7 лістапада, перад расстрэлам, камсамолка-партызанка ледзь прыкметна нечым цвёрдым, хутчэй за ўсё абломкам грабеньчыка, напісала: «Мама, сёння мяне павядуць на расстрэл. Помсціце за маю Радзіму, таварышы! Ваша Люся».

Фашысцкі эшалон, спушчаны пад адхон у тую ноч на перагоне Прыяміна — Крупкі, быў першым адказам на Люсіна завяшчанне.

Гады сцёрлі перадсмяротны надпіс Люсі на былой турэмнай сцяне. Але ў памяці савецкіх людзей не сціраюцца слаўныя імёны патрыётак, якія не пашкадавалі жыцця ў імя сваёй Радзімы. Не забылі аб Люсі Чалоўскай камсамольцы і моладзь горада, для якіх жыццё камсамолкі-партызанкі з'яўляецца прыкладам служэння свайму народу.

Ініцыятыва ўвекавечання памяці Люсі Чалоўскай узнікла ў юных піянераў 2-й сярэдняй школы горада. На адным са сваіх збораў юныя ленінцы школы слухалі расказ піянерважатай аб слаўных справах камсамолкі Люсі Чалоўскай. І вось тут было вырашана сіламі піянераў пасадзіць сквер на вуліцы Земляробчай і назваць яго імем патрыёткі. Сквер пасаджаны. І носіць ён імя Люсі Чалоўскай.

Амаль аднначасова з закладкай сквера ў камсамольцаў і моладзі горада зарадзілася думка пабудаваць помнік Люсі. Але на гэта патрэбны сродкі, а дзе іх узяць?

— Грошы будуць, — заявілі маладыя барысаўчане.

І яны знайшліся.

Моладзь горада абавязалася адпрацаваць звыштэрмінова сотні гадзін і запрацаваныя грошы аддаць на будаўніцтва помніка. Варты ўклад у гэтую высакародную справу ўнеслі маладыя рабочыя фанера-запалкавага камбіната. Разам з сваім важаком сакратаром камсамольскай арганізацыі Фёдарам Свірскім іх можна было бачыць на будаўніцтве гарадскога стадыёна, у цэхах камбіната пасля рабочага дня. Камсамольцы і моладзь камбіната аднымі з першых унеслі ў фонд будаўніцтва помніка Людміле Чалоўскай дзве тысячы рублёў. Не адстала ад іх і моладзь фабрыкі піяніна, завода «Чырвоны металіст» і іншых прадпрыемстваў.

Не захацелі быць убаку і школьнікі. У тыя дні можна было бачыць, як вучні 3-й, 6-й, 16-й, 10-й, 19-й школ збіралі металалом, макулатуру. За кароткі час камсамольцы і піянеры горада сабралі каля 200 тон металічнага лому, 20 тон макулатуры. Грошы, атрыманыя за гэтую каштоўную сыравіну, таксама былі ўнесены на будаўніцтва помніка.

...Цэнтральная вуліца горада — праспект Рэвалюцыі — бадай толькі ў дні першамайскіх і кастрычніцкіх свят бачыла столькі народу, як гэта было 29 чэрвеня, у Дзень савецкай моладзі. У гэтую знамянальную для маладых будаўнікоў камунізма дату адбылося адкрыццё помніка камсамолцы-партызанцы Людміле Чалоўскай. Надыходзяць урачыстыя хвіліны. Пад гукі гімна Савецкага Саюза з помніка ападае белае пакрывала, і позірку прысутных адкрываецца фігура маладой дзяўчыны з аўтаматам на плячы. На гранітным п'едэстале надпіс:

«Партызанцы Людміле Чалоўскай
Ад камсамольцаў і моладзі Барысава.»

Так камсамольцы і моладзь Барысава ўвекавечылі памяць сваёй Люсі.

**М. ЧЫРКУН.**



**У Карэліцкай дзіцячай раённай бібліятэцы.**

# Радавыя вялікага паходу

Гэты камсамольскі сход надоўга застаўся ў памяці Серафіма Аляксандравіча Бычко, старшыні калгаса імя Жданава. На сходзе стаяла пытанне аб будаўніцтве клубаў у кожнай вёсцы, а іх у калгасе — 7.

— Калгас-мільянер, а клуба свайго не мае, бібліятэка таксама ў прыватным памяшканні туліцца, — абураліся камсамольцы.

Гарачыя, настойлівыя, неадступныя, яны прапракалі праўленне за тое, што яно безуважліва ставіцца да культурных запатрабаванняў моладзі. Вострая на язык Іра Драчылоўская з характэрным ёй запалам сыпала ў адрас старшыні калгаса:

— Не хоча разумець нас Серафім Аляксандравіч. Абяцаў у свой час заняцца клубамі, і адразу забыў аб гэтым. Нават у «Вожыку» напісалі пра яго, але ён на крытыку рукой махнуў.

Словы камсамолкі закранулі за жывое старшыню праўлення. Не даўшы дагаварыць Іры, ён узняўся з крэсла.

— Лес будзе, неабходны матэрыял таксама, нават выдзялім спецыялістаў, а астатнія работы — за вамі.

— Добра, — хорам адказалі з залы. — Мы згодны.

Неўзабаве ва ўсіх паляводчых брыгадах калгаса закіпела работа. Паміж моладдзю калгасных вёсак разгарэлася спаборніцтва пад дэвізам: хутчэй пабудаваць клуб сваімі сіламі. Сярод юнакоў і дзяўчат знайшліся і цесляры, і муляры, і маляры. Любая работа гарэла ў іх руках. Яны самі нарыхтоўвалі лес, распілоўвалі яго, закладвалі фундамент, узводзілі сцены, дах. Праўда, усё гэта рабілі пад кіраўніцтвам вопытных будаўнікоў.

... Вёска Ярэмічы. У цэнтры яе



**Кнiганоша камсамолка Л. Чычкан.**



**У Карэліцкай музычнай школе.**

стаіць прыгожае памяшканне з надпісам: «Калгасны клуб».

— Гэта справа рук маладых, — з гонарам заўважаюць калгаснікі. Яны ў нас малайчыны. Задумалі клуб пабудаваць і пабудавалі.

Не горшыя клубы цяпер і ў астатніх вёсках калгаса імя Жданава.

Неўзабаве ўсюды была арганізавана і мастацкая самадзейнасць. Будынкі клубаў — зручныя і прасторныя. Кожны тут можа знайсці занятак па душы. Хочаш спяваць—ідзі ў харавы. вабіць сцэна—калі ласка, у драматычны...

А ў Ярэміцкім клубе ёсць і струнны гурток, нядаўна стаў працаваць гурток фотааматараў. Не ўбачыш цяпер тут юнака п'яным, не пачуеш брыдкага слова.

І не толькі клуб цягне калгасных юнакоў і дзяўчат. З наступленнем вечара яны ідуць на спартыўныя пляцоўкі, якія, дарэчы заўважыць, ёсць ва ўсіх брыгадах. Тут маладыя хлебаробы мераюцца сваімі сіламі ў бегу, правяраюць свой спрыт на баскетбольных і валейбольных пляцоўках.

Любіць моладзь гуляць і ў футбол. Але да апошняга часу ў калгасе не было стадыёна. Моладзь рашыла пабудаваць яго сваімі сіламі: з футбольным полем, з сектарамі для прыжкоў, бегавой дарожкай... Многія маладыя хлебаробы калгаса захапляюцца стралковым спортам, і камсамольская арганізацыя прышла да думкі: пабудаваць сёлета, да 40-й гадавіны ВЛКСМ, калгасны стралковы цір.

.. На дарозе Мір — Турэц незвычайнае ажыўленне. З рыдлёўкамі, сякерамі сюды прышла моладзь азеляняць дарогу. Адна за другой машыны падвозяць саджанцы, юнакі і дзяўчаты любоўна саджаюць іх паабапал дарогі.

У вёсцы Перабостынь, што ўваходзіць у калгас імя Кірава, камсамольска-маладзёжны нядзельнік. Камітэт камсамола напярэдадні размеркаваў: каму ехаць у лес па бярвенне, каму па цэглу на цагельны завод, каму па каменне і пясок. Усе працуюць старанна. Інакш і быць не можа — для сябе ж узводзяць брыгадны клуб.

Толькі ў бягучым годзе ў раёне рукамі моладзі пабудавана 16 клубаў. Зараз яны ёсць ва ўсіх вёсках сельгасарцелей імя Жданава, імя Чарняхоўскага, імя Кірава. Звыш 50 спа тыўных пляцовак прыбавілася ў ра не, у 8 вёсках паявіліся танцпляцоўі на азеляненні клубных пляцовак родных вёсак высаджана каля 10.0( дрэў.

Вялікія планы, добрыя задумы карэліцких культармейцаў. Уключ



**Клуб калгаса «Новае жыцц»**